


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**10** (1032)

КАСТРЫЧНІК

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# ЗМЕСТ



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# АВАНТУРЫ ПРАНЦІША ВЫРВІЧА, ЗДРАДНІКА І КАНФЕДЭРАТА

*Раман прыгодніцкі і фантасмагарычны**

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ

### Тое-сёе пра вар'яцтвы Гіменея

У самы страшны момант бойкі паміж войскамі Кромвеля і ангельскага караля, пад посвіст ядраў і куль, ля дрэва, мо сасны, мо якога ясеня, сядзеў і ў чаканні пацыентаў чытаў кнігу лейб-медык Уільям Гарвей, які адкрыў асаблівасці кровазвароту.

А чаго баяцца чалавеку, які першым у свеце зразумеў, як працуе сэрца?

Хіба што невукаў, якія разграмілі дом «раяліста», заадно знішчыўшы ягоныя калекцыі і рукапіс паталагічнай анатоміі.

Як бы шляхцюк з Падняводдзя Пранціш Вырвіч хацеў часам мець гэткую самаўладу! Вакол цябе б'юцца, віюцца, ірвуцца, а ты чытаеш навуковы трактат... Найчасцей жа Вырвіча адразу зацягвала ў вір, і ягоная шабля зацята абараняла справядлівасць...

Ну, тое, што на той момант падавалася справядлівасцю.

З другога боку, ён жа шляхціц, а не клісцірнік, як згаданы Гарвей ці Баўтрамей Лёднік, і не птушка-воран-падлаед... Вырвіч не раз за такімі птахамі назіраў: крыкі, стрэлы, кроў хлешча, а чорны ды дзюбаты «нігрэда» сочыць сабе спакойненька з дрэва, калі ж для яго справа знойдзецца. Гэта толькі ў казках ды замовах воран — лекар. Нянька Агата Пранцішавыя дзіцячыя раненні лячыла замовай: «Гэх ты, воран-арлам, дзюбкаю выбівай, гэты боль кіпцямі выдзірай...»

У казцы воран мог прынесці жывой ды мёртвай вады, а то і косці памерлага брата героя, якія кідаў у чароўны калодзеж, і нябожчык ажываў... Далібог, такі птах заслугоўвае чорнай доктарскай мантыі! Да таго ж дакладна лепей за двухногіх прафесараў ведае, як зладжанае чалавечае сэрца ды мазгі, і ў дадатак — якія яны на смак...

Вырвіч адвёў позірк ад злавеснай птушкі, якая вось ужо хвілінаў дзесяць вывучала яго то адным, то другі вокам, седзячы на голай ліпе прысады перад маёнткам аднаго з прыдворных князя Багінскага. Нібыта і падобная да тых варонаў, што жылі ў далёкім Ліёне, дзе іх лічылі дзецьмі бога Луга, але ўсё, што трапляе сюды, на Беларусь, як прадметы, упушчаныя на дно

* Заканчэнне. Пачатак у № 8—9, 2015 г.

лужыны, мяняе абрысы і колеры, прыстасоўваецца да тутэйшай змрочнай рэчаіснасці.

Белыя калоны маёнтка былі занадта вялікія для сціплага аднапавярховага будынка, крытага пазелянелай чарапіцай. Гэтыя калоны з мармуровым ганкам і балюстрадай выглядалі навюткімі, нядаўна дабудаванымі да старасвецкай сумленнай хаціны. Ясна, з тых самых прычын, па якіх два бедныя шляхцюкі, скінуўшыся, купілі на дваіх адну пару самых дарагіх ботаў, і цяпер, едучы на возе, звешваюць з яго кожны паназе, а босыя ногі падкурчваюць пад сябе.

Пранціш скасавурыўся на Лёдніка: той, як і ягоны калега Гарвей, захоўваў ільдзяны спакой адпаведна прозвішчу. Гартаў сабе свой нататнік, апусціўшы нос, дакладна падобны да дзюбы ворана...

А Вырвіч ніяк не мог змусіць сябе ўдаваць абыякавасць, так яго злавала ўсё, што адбывалася ў апошнія дні. Гэты падлючы Ватман, наваяўлены граф Пянткоўскі, выслухаўшы падрабязны даклад пра вадзянога змея, заявіў, што князь Багінскі павінен чуць асабіста! І звёз шпегаў з Турава пад водбліскі ладнага пажару, які ўчыніўся ўсё-ткі ў карчме «Лёндан». Хутчэй за ўсё, з дапамогай людзей Ватмана, якія паспрыялі бойцы паміж жаўнерамі. Калі ў мястэчку пажар, тут не да таго, каб сачыць за пастаяльцамі карчмы.

Хаця б удалося выспацца, пакуль да раніцы трэсліся ў возе, прыкрытыя саломай ды анучамі...

І вось — зноў невядомасць. Кінулі, як жабракоў, пад дзвярыма... Вакол блытаюцца жаўнеры Багінскага. У князя ўласнае войска на тысячы тры, і тут, мусіць, цэлы полк... Воран на ліпе зыркае насмешна і не думае ляцець па жывую ваду.

— Яснавяльможны князь ласкава запрашае вашамосцяў у дом!

Прынамсі, звяртаюцца згодна палітэсу... Па чырвоным дыване і ў печку не ганебна зайсці.

У доме было тлумна, як і належыць падчас пастою войска. Калі Багінскі не адсыпле гаспадару будынка залатых, давядзецца небараку ў пазыкі ісці, каб пасля такога гасцявання радавае гняздо аднавіць.

Вырвіча і Лёдніка прывялі ў залу, аздобленую паляўнічымі трафеямі некалькіх пакаленняў уладальнікаў маёнтка. Тыя карысталіся гербам «Анцута» — часта паўтараліся ў дэкоры страла, скіраваная ўверх, і дзве гарматы, адна страляла на ўсход, другая — на захад. Галовы зуброў, ласёў, дзікоў шчэрылі пашчы, пабліскваlі шклянымі вачыма і касавурыліся няўхвальна на неяк патрапіўшую ў іх шэрагі тыгрыную пысу. Куды толькі ліцвіна са стрэльбай не заносіць...

Князь Багінскі ўтульна рассеўся на канапе, пакрытай персіянскім дываном, і на ласкава запрошаных гасцей чамусьці не глядзеў, адварочваў сыты твар. Але не пагардліва, а нібыта з нейкай няёмкасцю, і рабіў выгляд, што паглынуты чытаннем лістоў. Затое палюбоўніца князя д’Асэ ахвотна паказвала бялюткія дробныя зубкі, і яе нафарбаваныя сардэчкам вусны здаваліся выпацканымі ў кроў.

— А што гэта, доктар, у вас у сумцы за скрынка? Кажуць, нейкі адмысловы апарат для лячэння?

Лёднік адказаў холадна і ветліва:

— Для дыягностыкі, вашамосць. Ён не адладжаны.

Вочы ў фаварыткі задаволена бліснулі, Пранціш насцярожыўся... Але ў пакой праз бакавыя дзверы зайшоў медзведзяваты Ватман, кіўнуў гаспадару, нібы падаючы знак аб удалым сканчэнні справы. Багінскі павесялеў і нарэшце, хоць і спадылба, зірнуў на сваіх шпегаў:

— Што ж, панове, вы добра папрацавалі, вашы правіны забытыя. Атрымаеце належную ўзнагароду. Адпачывайце, заслужылі... А вас, доктар Лёднік, хачу бачыць заўтра раніцай дзеля важнай медыцынскай кансультацыі.

І зноў адвярнуўся... Д'Асэ адразу ж на выцягнутых руках урачыста паднесла вялікаму гетману кларнет, як рыцарскі меч перад турнірам. Значыць, пачнецца музіцыраванне, якое яснавяльможны Міхал Казімір Багінскі ўважаў важнейшым за палітыку. Ватман не стаў далікатнічаць і жэстам паказаў шпегамісці за ім і не адцягваць увагу важнай персоны. Вырвіч ледзь стрымаўся: яго, нашчадка Палямона, выстаўляюць, як надакучлівага менестрэля!

У калідоры Вырвіч і Лёднік атрымалі па цяжкім мяшэчку, у якім былі зусім не медзякі.

— Вось бачыце, вас ніхто не падманвае! — шырока ўсміхнуўся Ватман. — Паны цалкам вольныя! І пры грашах. Адно толькі трэба з вашай дапамогай удакладніць... Мы плануем выменяць у князя Гагарына Жалезнага Змея на штосьці, дастаткова яму цікавае.

Лёднік грэбліва падціснуў вусны.

— Ватман, патлумач свайму гаспадару, што гэты план — абсалютовая бязглуздзіца! Усё роўна што спадзявацца, быццам воўк выпусціць ягня дзеля шматка сена. Аніколі князь Гагарын не пойдзе на тое, з-за чаго трапіць у няміласць, а то яшчэ і ў Сібір... Як ён можа не выканаць загад імператрыцы?

Пранціш быў з гэтым цалкам згодны. Але граф Пянткоўскі толькі пакрывіў рот, ягоны шырокі бледны твар, спаласаваны шнарамі, нагадваў пра антычных гігантаў, скандынаўскіх вікінгаў і непазбежную смерць:

— Не лічыце нас за дурняў, панове. Усё, што мы папросім у князя — спыніцца па дарозе ў Санкт-Пецярбург у пэўным мястэчку, а воз з падводным караблём паставіць у пэўнай адрыне. Ну і замяніць людзей на варце... Забяром з машыны такія-сякія дэталькі... Ніхто пра гэта не даведаецца, ніхто не заўважыць.

Вырвіч моцна падазраваў, што «дэталькамі» справа не абмяжуецца. Лёднік выразна хмыкнуў...

— І чым жа вы можаце спакусіць князя пусціць вас да Жалезнага Змея?

Ватман цяжка ўздыхнуў.

— Я думаў, ёсць чым... Але нешта засумняваўся. І тут патрэбная ваша дапамога. Зараз пакажу адну асобу, вы павінны яе пазнаць. А то я памятаю выпадак з сястрой ягамосці князя Багінскага, паннай Паланэяй... Я тады ледзь з глузду не з'ехаў.

Пранціш выдатна памятаў, з-за чаго Ватману давялося пахваляваццa. Паланэйка Багінская замест таго, каб па загадзе брата сядзець да свайго вяселля ў манастыры, пакінула там сваю камерыстку Ганульку Макавецкую, а сама адправілася з Вырвічам і Лёднікам у мужчынскім касцюме ажно ў Ангельшчыну. Ватман прыехаў правяраць, як у кляштары ягоная падапечная — а там пад яе імем прыслуга! Бедная ціхмяная Ганулька...

У калідоры, сцены якога прыкрасілі недарагім зялёным паркалём, бадзяліся п'яныя гаманлівыя жаўнеры, шукаючы хто бутэльку віна, хто прыгожанькую пакаёўку, хто — кампаніі перакінуцца ў карты. Шпегі ў суправаджэнні графа Пянткоўскага падышлі да апошніх дзвярэй. Ля іх, седзячы ў плеценым крэсле, вартавала санлівая таўсманая цётухна ў каптуры і капоце, падобная да аканомкі. Кабеце дапамагаў жаўнер з рудымі вусамі, чыя роля была адганяць цікаўных, якія могуць не паслухацца цёткі.

— Адчыняй!

Кабета абыякава і паслухмяна забразгала ключамі.

Пасярэдзіне невялікага пакойчыка, паміж вузкім ложкам пад балдахінам з таннага, заседжанага мухамі, цюлю і маленькім столікам на адзінай вітой ножцы, ганарыста выпрастаўшыся, стаяла паненка Дамініка Гараўская. І пагардай, што выпраменьвалі яе цёмныя вочы, можна было атруціць усіх вадзяных цмокаў у беларускіх азёрах.

Пранціш азірнуўся на белавалосага найміта з гневам, які пачаў разгарацца ад страшнай здагадкі.

— О, бачу, вы пазнаеце гэтую чароўную персону! — выскаліўся Ватман. — Гэта паненка Гараўская, у якой вы гасцявалі, ці не так?

Пранціш запозна падумаў, асабліва гледзячы, як прыкусіла губу паненка, што, магчыма, варта было прыкінуцца, што яны яе не пазнаюць.

— Герман, мярзотнік, звык браць жанчын у закладнікі? — скрозь зубы прагаварыў Лёднік.

Найміт міла ўсміхаўся:

— А што тут такога? На вайне як на вайне, хіба не ведаеце, вашамосці? Паненцы ніякай шкоды, утрымліваем з усімі выгодамі, аберагаем ад зносінаў з мужчынскім полам — яе жаніх, ягамосць Гагарын, яшчэ і ўдзячны нам павінен быць, што дапільнавалі цноты нявесты ад спакусаў.

— Ён мне не жаніх! Колькі разоў я вам гэта гаварыла! Вы мяне з кімсьці блытаеце! — тонкім ад напружання, але ўпартым голасам прамовіла панна Дамініка. Дзяўчына трымалася, як і ў Капанічах, упэўнена, спіна яшчэ больш выпрастаная, напятая... Але вочы пачырванелыя, абведзеныя цёмнымі кругамі, рукі сціснутыя, каб схаваць, што пальцы дрыжаць... Аблічча схуднела... Вырвіч упершыню адчуў, што перад ім — не вострая на язык арыстакратка, а юнае дзяўчо, далікатнае і пяшчотнае, хоць і трымаецца з апошніх сілаў. І будзе трымацца. І будзе бараніць да канца гонар і годнасць, бо іначай не можа. Колькі ёй год? Сямнаццаць? Васямнаццаць? Як доўга яе тут трымаюць?

Востры жаль ударыў пад сэрца, і вострай была шабля, якую выхапіў Вырвіч. А Лёднік ужо стаяў з аголенай зброяй, скіраванай да горла найміта. І гнеўна сычэў:

— Я больш не дазволю табе здзекавацца з безабаронных кабетаў!

Што ж, у Лёдніка былі свае прычыны для гневу: калісьці ягоная жонка, чароўная Саламея Рэніч, гэтаксама была ў закладніцах у Ватмана. Бутрым, каб выручыць яе, пусціўся ў смяротна небяспечныя прыгоды. Вось толькі князь Гагарын дзеля навязанай яму нявесты пальцам не варухне. Гэта разумелі абодва шпегі, гэта выдатна разумела паненка Дамініка. Але Ватман упарта не верыў.

— Не зацярушвайце мне вочы, вашымосці!

Нават сваю шаблю-серпанціну не выхапіў, пэўны, што ўсё роўна апярэдзіць любога забойцу. Затое некалькі жаўнераў падбеглі ды скіравалі на нечаканых бунтаўнікоў хто аголенае лязо, хто рулю пісталета.

— Ватман, прыйдзі да розуму! Адпусціце паненку, не рабіце ганьбы ні ёй, ні сабе!

Лёднік з усяе моцы змушаў сябе гаварыць спакойна.

— Павер, Гагарыну яна не патрэбная.

— Я ведаю вашыя хітрыкі, — задаволена ўсміхаўся Ватман. — Цяпер, пасля вашага пацверджання, у мяне сумніваў няма, а то думаў — зноў якую бедную сваячку замест паненкі падсунулі... Мы ж яе не з дому, а з кляштара забралі, вось і не было пэўнасці. «Вы мяне з кімсьці блытаеце», «Гэта непаразуменне»... Ліст Гагарыну наадрэз пісаць адмовілася: «Ён мне ніхто». А татулька Дамінікі Гараўскай доўга распісваў, якія яны з дачкой уплывовыя

асобы дзякуючы вяльможнаму жаніху, як ягамосць Пятро Іванавіч Гагарын без памяці кахае ягоную красуню-дачушку, і гатовы дзеля яе на ўсё... І прыслуга пацвердзіла: Гагарын гасцяваў як жаніх! Да калядаў меркавалі вяселле зладзіць.

— Тата перабольшваў, — умяшалася панна Дамініка, намагаючыся гаварыць цвёрда, каб не западозрылі, што баіцца — а яна і праўда баялася, але сорам за свой страх быў большы за сам страх. — Ён марыць, каб князь зрабіў мяне вяльможнай. Але ягамосць Гагарын ніколі не згодзіцца на такі шлюб, я яму — не роўня. І сваякі не дазволяць яму ажаніцца з простай шляхцянкай, ды яшчэ ліцвінкай. Пятро Іванавіч рады ніколі мяне не бачыць.

— Не паверу! — расплыўся ва ўсмешцы Ватман. — Я б і сам з такой панечкай, гожанькай ды смелай, не супраць завесці блізкае знаёмства...

На гэтую гнюсную, абразлівую рэпліку былі яму адказам дзве сталёвыя маланкі, што ўзмахнулі перад ягоным тварам. Ватман з прыкрасцю паморшчыўся:

— Добра, добра, прашу прабачэння ў высакароднай паненкі... Раз у яе з’явіліся такія рыцары-абаронцы, вось хай яны яе і ахоўваюць, і перададуць па дамове шчасліваму жаніху. Можа, пан Вырвіч возьме на сябе яшчэ і ролю перагаворшчыка? Думаю, пан будзе вельмі пераканаўчы! Хутчэй дагаворыцца — хутчэй дзеўка атрымае волю.

І каб была хоць найменшая магчымасць, што Гагарын на штось пагодзіцца — хаця б на нейкі хітры план, каб і змея не аддаць, і паненку выручыць, — Пранціш не пярэчыў бы. Але Гагарын найбольш што зробіць — абурыцца ды паведаміць уладам, абвесціць пра чарговае беззаконне бунтаўнікоў на ўсю краіну, знясламіць патэнцыйную нявесту... Пры гэтым сябе абавязкова адмажа: Дамініку нявестай нізавошта не назаве, так, дачка прыхільніка, бязвінная ахвяра... Прыклад бязбожных учынкаў бунтаўнікоў, што апраўдвае любыя дзеянні па іхнім уціхамірванні.

Лёднік трымаў шаблю ўяўна расслаблена... Пранціш ведаў, што гэта значыць: ягоны старэйшы напарнік вось-вось кінецца ў бойку, абараняючы годнасць малазнаёмай дзяўчыны... Так, Ватман па-свойму сказаў праўду: цнатлівасці паненкі нічога не пагражала, гвалтаваць шляхцянку — гэтага злачынства не пацярпеў бы самы ап’янелы шляхціц сярод канфедэратаў. Але самое знаходжанне незамужняй паненкі адной, без апекуна ці хаця б камерысткі, сярод жаўнераў... Вырвіч памятаў расповед бацькі, як скаланула ўсіх калісьці страшная гісторыя... Пане Каханку па маладосці ўтрэскаўся ў дачку аднаго войскага, дзяўчыну незвычайнай прыгажосці і цнотаў. Так закахаўся, што, нягледзячы на тое, што ў паненкі быў жаніх, і самая яна вызначалася высокай маральнасцю, па п’янцы загадаў яе скрасці і прывезці ў свой дом. Нават Міхал Валадковіч, неўтаймавальны канфідэнт магната, таго адгаворваў. Але Караль Станіслаў быў такі напіты, што ўпёрся, як вол... Яму здавалася, што варта любой, самай ганарыстай, паненцы пабыць з ім сам-насам, пагаварыць па душах — і растане ад такога разумніка ды прыгажуна, у чым пана ўвесь час пераконвалі прыдворныя лізунчыкі. Дзяўчына прабыла ў доме свайго выкрадальніка ўсяго адну ноч, і тое ў слязах ды малітвах. Пане Каханку яе нават пальцам не зачапнуў. Калі ж пабачыў, што дама не паддаецца на ягоныя чары, а толькі плача-заліваецца, ды трохі працверазеў, і сам жахнуўся свайго ўчынку і адправіў яе дахаты. А потым яшчэ адкупнога прыслаў, гатовы засыпаць і пана войскага, небагатага шляхцюка, і саму панну любымі дарункамі. Дарэмна. Панна сышла ў кляштар, бацька ад гора памёр, жаніх адправіўся на вайну і ў першай жа бойцы даў сябе забіць...

А для Гараўскіх шляхецкі гонар, наколькі паспеў зразумець Пранціш, шмат значыў. Калі пасля адмовы Гагарына панну Дамініку мірна адправяць дадому — што яе чакае? Увесь павет костачкі перамые... Хто пасля з такой ажэніцца?

Вырвіч яшчэ раз азірнуўся на паненку, на яе ганарыстую постаць, цёмныя разумныя вочы, якія гарэлі ад непралітых слёзаў, на сціснутыя маленькія рукі, якія ўмелі ператвараць палатно ў карціну і не грэбавалі зашываць раны — і зрабіў адзіна магчымае:

— Вы змушаеце мяне, граф Пянткоўскі, адкрыць таямніцу, якую мы хацелі захаваць. Панна Гараўская — мая нявеста!

Шляхціцы, якія сузіралі сцэну, здзіўлена загулі. Ватман не стрымаў шчырага рогату:

— Я ўжо лічыць аблічыўся, колькі ў цябе нявест, Вырвіч. Апошні раз, здаецца, ты з нейкай баявітай акторкай збіраўся пабрацца, якая мяне ў руку, зараза, параніла. Што, уцякла?

— Раіна памерла, — сурова сказаў Вырвіч. — А панна Гараўская зрабіла мне гонар, назваўшы жаніхом. Ці не так?

Пранціш кінуў погляд цераз плячо ў пакой. Паненка на хвілю апусціла вочы, але амаль не вагалася:

— Так. Я пры сведках і ў прысутнасці майго пана бацькі назвала пана Пранціша Вырвіча з Падняводдзя сваім жаніхом, слова гонару.

І не салгала ж ні на каліўца! Лёднік таксама пацвердзіў:

— Я сведка. Пан Гараўскі быў супраць, але пан Вырвіч і панна Дамініка аб'явілі сябе жаніхом і нявестай.

А Пранціш яшчэ і з'едліва дадаў:

— Падумайце, пан Ватман, з чаго б панна Гараўская выкрыла мне, куды яе ўяўны жаніх вядзе сваё войска, і пра яго таемную місію?

Ватман трохі разгублена наморшчыў лоб, спрабуючы асэнсаваць новую сітуацыю, і колькі ў ёй праўды. А Вырвіч сеў на ўсіх коней Нептуна адразу, аж завіравала, схапіў паненку Дамініку за руку — яна была не халодная, як чакалася, а цёплая, пяшчотная, але не кволая:

— Мы зараз жа пойдзем да князя Багінскага! Я ўпаду ў ногі ягамосці князя і буду прасіць выправіць непаразуменне і дазволіць мне з маёй каханай нявестай пакінуць гэты дом! Патрабую суда вялікага гетмана!

Шляхціцы, якія з цікавасцю назіралі ўвесь гэты драматычны спектакль, дружна падхапілі патрабаванне пана-брата. Тым больш Ватмана, чужынца, тут дужа не любілі і рады былі чарговы раз торкнуць белавалосага носам у няведанне сармацкіх звычаяў.

— Да гетмана! Няхай рассудзіць! Пан харужы мае права абараняць сваю нявесту! Няма чаго нашых кабетаў расейцам аддаваць! Да гетмана!

Цёплая рука панны Дамінікі трохі ўздрыгвала ў руцэ Вырвіча, але сама паненка, здаецца, з радасцю бегла па калідорах маёнтка за сваім выпадковым жаніхом — відаць, нацярпелася дзяўчо ў палоне, прыслухоўваючыся гадзінамі да гучных п'яных выкрыкаў ды грукатаў. Толькі паспела прашаптаць па дарозе:

— Яны пана-бацьку ў Полацак звезлі, у вежу пасадзілі, за тое, што маскоўцам дапамагаў... Папрасіце, пан Вырвіч, каб тату выпусцілі!

Бач, не пра сябе думае, пра бацьку!

А Ватман ішоў за натоўпам, які збіраўся як бы сам па сабе, бо сведкі радасна дзяліліся цікавай сітуацыяй з сустрэчнымі, і ціха, але выразна лаяўся па-нямецку.

Князь Міхал Казімір Багінскі напачатку зрабіў выгляд, што нічога пра выкрадзеную дзяўчыну не ведае. Ясна, збіраўся, калі што, гнюснае злачынства зваліць на свавольства Ватмана. Потым разышоўся, як Ігналя на вечарынцы.

— Такога нахабнага шалберства я не пацярплю! Яшчэ гадзіну таму ў пана ніякіх нявестаў не мелася, а цяпер на табе! Здрайцы! Колькі вам Гагарын заплаціў?

Князя насмеліўся абарваць доктар Баўтрамей Лёднік.

— Згадзіцеся, ваша княская мосць, выкраданне ды гвалтоўнае ўтрыманне пад замком шляхцянкі шкодзяць гонару вашае княскае мосці. Затое калі вы дапаможаце з'яднацца закаханым, гэта праславіць вас, як высакароднага уладара...

— З'яднацца?! — злосна перабіў доктара князь і абвёў вачыма зацікаўленых слухачоў — нават прыслуга павысоўвалася ў залу, каб паглядзець развязку. З кута з мілай усмешкай цікаваў святар, у якім Вырвіч беспамылкова пазнаў езуіта. Д'Асэ стала каля левага пляча князя і абмервала зайздрослівым поглядам постаць нявесты: у жанчыны заўсёды абуджаецца гэтая мімавольная зайздрасць, калі іншую хочуць весці да алтара, няхай той жаніх куды бяднейшы і менш цікавы, чым твой каханак.

— Вы што, верыце ва ўсе гэтыя сантыменты?

Князь Багінскі пачаў усведамляць, што пасля з'яўлення столькіх сведкаў яму будзе цяжка адправіць чужую нявесту да князя Гагарына.

— І ты, Вырвіч, гатовы хоць сёння ажаніцца з гэтай паненкай?

— Нам трэба блаславенне яе бацькі, пана Валянціна Гараўскага, — цвёрда прамовіў Пранціш, адчуўшы ўдзячны поціск рукі панны Дамінікі. — Ці нельга прывезці яго сюды?

— Зноў хітрыкі? — Багінскі раз'юшана махнуў рукой, ажно белыя карункі манжэтаў затрапяталі ў паветры, як матылі. — Ваша шчасце, што я слова даваў, не рабіць вам шкоды. Блаславенне вам трэба? Я — вялікі гетман, магу і шляхецтва надаць, і на шлюб блаславіць. Што, пойдзеце зараз жа пад вянец, калі вы так ужо адзін аднаго кахаеце? Не? Так я і думаў...

— Я згодная! Калі ягамосць князь Багінскі таго хоча — хай так і станецца!

Цёмныя вочы паненкі гарэлі выклікам і адчаем. Вырвіч трохі разгубіўся. Лёднік, на якога ён зірнуў у пошуку парады, толькі прыўзняў бровы: вырашаць табе, хлопец.

Але ён ужо даўно не хлопец. Ён — мужчына, ваяр, і павінен абараніць даму, якая яму даверылася, нават калі для гэтага трэба лізаць распаленыя патэльні альбо... ісці пад вянец.

— Палічу за гонар і за шчасце!

Невядома, як вырашыў бы князь, які слаба верыў у раптоўнае жаніхоўства драгуна, але шляхта загула: «Віват жаніху і нявесце!», адчуўшы падставу для слаўнага застолля. А д'Асэ ажно пляснула ад захаплення ў ладкі:

— Ах, як гэта рамантычна! Я падбяру для нявесты сукенку са свайго гардэроба! Мадэмуазэль, вядома, не такая таненькая, як я... — на гэтую з'едлівую заўвагу францужанкі панна Гараўская нават броўкай не варухнула. — Але замацуем шпількамі, і атрымаецца выдатна! Якая інтрыга! Гэта ж гатовая п'еса для вашага Слонімскага тэатра, мой князь!

— Шлюб — сакральнае таемства, а не п'еса, ваша княская мосць, — умяшаўся езуіт, усмешка больш не прыкрашала ягоны твар з мяккімі рысамі, а светлыя вочы з прыпухлымі павекамі пазіралі з праведным асуджэннем. — Да шлюбу трэба рыхтавацца, атрымаць бласлаўленне бацькоў...

— А яны абое схізматыкі, ойча, таму іх вянчанне — не ваш клопат, — адказаў князь, відавочна пакрыўджаны ўмяшальніцтвам. Раздражнёна наблізіўся да Вырвіча з паннай Дамінікай і злосна прашаптаў:

— Я не дазволю з сябе насміхацца. Або сёння шлюбуецеся па ўсіх правілах — альбо я пасылаю да князя Гагарына перагаворшчыка.

Вырвіч вытрымаў раз’юшаны позірк магната.

— Тут няма падману, вашамосць.

Багінскі крыва пасміхнуўся.

— Што ж, мяне будзе цешыць хаця б тое, што, так сказаць, фармальна ты адбіваеш нявесту ў князя Гагарына.

І гучна выкрыкнуў загад:

— Знайдзіце зараз жа якога-небудзь папа!

Не так, не так уяўляў пан Пранціш Вырвіч сваё вяселле... Хаця ў іншых было й горай: нярэдка жаніх бачыў нявесту першы раз толькі перад алтаром. А калі меў шчасце сузіраць да гэтага — дык у прысутнасці сватоў ды бацькоў, дзе кандыдатка на ролю жонкі маўчала, як намалёваная, сціпла апусціўшы вочы. І тое, што ажаніўся з мегерай, з якой пагаварыць няма аб чым, высвятлялася толькі калі нічога не выправіць.

Але хаця Пранціш і шанаваў сармацкія звычаі продкаў, марыў пра жарсці ў духу рыцарскіх раманаў. Можа, таму дасюль не ажаніўся. Адразу пакутаваў па недасяжнай княжне Паланэйцы Багінскай, якая то дарыла пацалункі, то адпраўляла на смерць. Потым ягоным сэрцам завалодала Раіна Міхалішыўна, якая ззяла на сцэне і прыдворных балах, танчыла на вуголлях у абліччы егіпецкай прынцэсы і якую трэба было адбіваць у авантурыста-мага Батысты. А ад закаханай у яго Ганулькі Макавецкай Вырвіч сам сышоў — і багатая, і кахае, і сціплая, а няма п’янкой радасці, не круціцца галава, не абрыньваешся, як у вір... Лёднік, вядома, дакараў маладзейшага сябра за вецер у галаве, але хіба можна змусіць сябе быць шчаслівым і закаханым?

А што ён адчуваў цяпер, стоячы на парозе закінутай капліцы маёнтка і трымаючы за руку Дамініку Гараўскую, апранутую ў белую сукенку з гардэроба княскай фаварыткі?

Жаданне абараніць?

Так...

Усведамленне, што наперадзе — прыгоды, адкрыцці і ўсё, што заўгодна, акрамя нуды?

О так...

Ну а разгубленасць ды некаторую агаломшанасць адчувалі абое. Вырвіч толькі-толькі з чэрава Жалезнага Змея выбраўся, пад вадой суткі праседзеўшы. Панну гвалтам звезлі, пад замком трымалі... І раптам — пад вянец! Гэтак маланкава, мусіць, толькі Пане Каханку жанілі. Ягоная маці, асоба ўладная ды разумная, пані Уршуля Радзівіл, занепакоілася, што сын занадта спешчаны-разбэшчаны, ды захапіўся дачкой уніяцкага святара, так, што нават прасіўся ў маці з той дзеўкай пабрацца. Пані Уршуля нагледзела сярод сваіх прыдворных дам сціплую радавітую сірату, загадала ёй добра апрануцца на ранішнюю службу ў палацавай капліцы, бо там будзе нейкая ўрачыстасць. Сыну сказала на імшу абавязкова з’явіцца. А калі той прыйшоў, аказалася, што прысутнічае на ўласным вяселлі з той сіроткай, якая да апошняга пра сваё шчасце не падазравала. І нічога, павянчалі... Праўда, і добрага з гэтага не выйшла, урэшце недабраная пара развялася.

Панна Дамініка глядзела на жаніха цёмнымі разумнымі вачыма, старалася не дрыжэць і зрабіць голас як мага больш цвёрдым і нават насмешным.

— Вы, пан Вырвіч, сачыненні іспанскага паэта Кальдэрона чыталі? У яго п'еса такая: «Жыццё ёсць сон». Можа, і мне варта прачнуцца, і я пабачу сябе ў Капанічах?

Пранціш лёгка пацснуў яе руку:

— А яшчэ ў яго ёсць п'еса «Каханне пасля смерці», дзе гераіня выходзіць замуж за чалавека, якога не любіць, толькі для таго, каб ён абараніў гонар яе і яе бацькі...

— Дзе вы вучыліся, пан Вырвіч? — зацікаўлена папыталася панна Дамініка.

— У Віленскай акадэміі, маю дыплом доктара вольных навук, потым — у Манпелье, слухаў лекцыі па рыторыцы... У перапынку паміж вучобай служыў у конным рэгіменце, у званні харужага... Настаўнікам фехтавання падпрацоўваў у Францыі, у дваранскім пансіёне... А дзе вашамосць вучылася маляваць?

Гэта было падобна, як бы ў адведзеныя лёсам хвіліны яны ліхаманкава спрабавалі змясціць гады знаёмства, распавесці адно аднаму як мага больш пра сябе.

— У нас жыў італьянскі мастак, бедны, як пацук, слабы на выпіўку, не самы таленавіты, але школа ў яго была добрая. Ён са мной займаўся, хваліў... А васпана, значыць, непакоіць, што я яго не люблю?

Панна Дамініка выпрабавальна паглядзела на жаніха. Вырвіч не адвёў вачэй.

— А вашу мосць не непакоіць, раптам жаніх — загонны шляхцюк, шалбер, што карыстаецца вашым бядотным станам, каб здабыць багатую нявесту, якую за яго ніколі б іначай не аддалі?

Сказаў — і адчуў холад у грудзях, бо гэта было надта падобна да праўды... Сапраўды, калі для Гагарына парадніцца з Гараўскімі — мезальянс, для яго, Вырвіча — вельмі нават выгадны шлюб. Але панна ўсміхнулася куточкам рота:

— Не баюся, пан Вырвіч.

І ганарыста закінула галаву:

— У нашым родзе жанчыны ўмеюць абараніць сябе!

Пранціш мімаволі залюбаваўся: высокі белы лоб, нос, як вытачаны, з невялікай гарбінкай, смелыя бліскучыя вочы, на гладка зачасаных цёмных валасах — карункавы вэлюм, прыстасаваны з нейкай накідкі... Гэх, каб раней сустрэцца, ды не ў такіх абставінах... Магчыма, Пранціш усё-ткі насмеліўся б пазаляцацца. Хаця ён неяк пазбягаў падыходзіць да дзяўчын з гэткімі разумнымі вачыма, без грану звычнага жаночага какецтва, затое з капою годнасці. Аж страшна штосьці не так учыніць, каб не высмеяла...

Падышоў з-за спіны Лёднік, схапіў былога гаспадара за плячо, шапнуў на вуха:

— Спадзяюся, ты ўсведамляеш, што робіш. Гэта сур'ёзна.

Куды ўжо сур'ёзней... Сцены закінутай капліцы, пабудаванай, яшчэ калі гаспадары маёнтка былі праваслаўнымі, злавесна цёмныя, у разводах. Вунь як старыя абразы са сценаў паглядаюць — дакорліва і ўрачыста, проста ў душу... Праўда, малявалі іх майстры мясцовыя, і за натуршчыкаў служылі мясцовыя ж мяшчукі ды сяляне.. Таму й пазіраў гэтак абнадзейваюча на землякоў святы Баўтрамей, рудавалосы, рудабароды, румяны...

Свечкі мігцяць, нагадваючы пра эфемернасць зямнога жыцця. Дзе ж там той святар?

— Галоўнае — вывесці Дамініку адсюль... — прашаптаў Баўтрамею Вырвіч. — Я прыму любое яе рашэнне — далей...

— Ёлуп! — Лёднік пацямнеў ад гневу. — Менавіта ты зараз павінен браць на сябе ўсе рашэнні. А ты падумаў, што гэты самадур Багінскі можа запатрабаваць, каб пацверджанне шлюбу дэ факта адбылося пры сведках? Тады не аб'явіш шлюб фіктыўным...

Такое сапраўды было ў звычаі. Адзін з Радзівілаў, яшчэ сватаючыся да дачкі менскага ваяводы Завішы, запатрабаваў проста на заручынах даць яму «прыемную зведаць пасцель» з нарачонай. І дазволілі, што паробіш, як пан Завіша сваю дачку ні шкадаваў, ні аберагаў... І прасціну з доказамі цнатлівасці нявесты гасцям паказалі.

— Не хвалюйцеся, пан Лёднік, — ціха прагаварыла панна Гараўская. — Я веру ў Госпада і ягоную волю. Я так малілася, каб за Гагарына не выходзіць, вось жа Гасподзь і пачуў... А далей Ён таксама ўправіць.

— Амін... — прамовіў Баўтрамей і перахрысціўся.

А вось і святар... Даволі малады і, па ўсім відаць, баявіты — звык ваяваць за свой прыход, каб ва ўніяцтва не змушалі пераходзіць, не зачынілі. Святару не вельмі падабалася, што яго прывезлі здзейсніць абрад шлюбавання ў вельмі падазронай кампаніі. Але ўжо тое добра, што храм, які пуставаў пасля таго, як гаспадар стаў каталіком, ажыў, і тут узносіцца маленне да Госпада...

Лёднік трымаў вянец над Вырвічам, над паннай Дамінікай — нейкая мясцовая дзяўчына, светленькая, сарамлівая, добра, што не княская фаварытка. Словы абраду гучалі ў маленькім храме нечакана гулка.

А потым да маладых са здзеклівай усмешкай на прыгожым сытым твары падышоў князь Багінскі, які, падобна, усё яшчэ лічыў, што змог хітра пакараць падманшчыкаў, змусіўшы ўсур'ёз ажаніцца.

— Ну што, віншую маладажонаў!

А былая панна Гараўская, ад сёння — пані Дамініка Вырвіч, адказала гучна і насмешна:

— Дзякую, дзядзечка!

Багінскі лыпнуў вачыма, не ведаючы, ці правільна расчуў, а калі правільна, як прыняць недарэчны жарт нявесты? А Дамініка працягвала гэтак жа ветліва-насмешна:

— Вы, вельмішаноўны дзядзечка, не ведалі, што мая маці — Антаніна Багінская, ваша старэйшая сястра, якая насуперак волі сям'і выйшла замуж за пана Валенты Гараўскага?

Твар князя пайшоў плямамі, як ад марозу.

— Не можа быць... Ну так, я чуў пра скандал у нашым родзе... Антаніну памятаю слаба — можа, некалькі разоў і бачыў, яшчэ ў дзяцінстве, яна нарадзілася ад першага шлюбу бацькі... А потым збегла з нейкім бедным шляхціцам, ды яшчэ праваслаўным, і сама веру змяніла. У сям' і пра яе не гаварылі ніколі. Ну, так, здаецца, Гараўскі прозвішча...

Князь правёў рукой па твары, нібыта каб стрэсці морак.

— А чаму... ты... адразу мне не сказала?

Нядаўняя Гараўская ганарліва стаяла побач з агаломшаным мужам.

— А мы, вашамосць, ніколі і нічога ад Багінскіх не прасілі і прасіць не будзем! Яны нават калі мая пані-маці памерла, слова спачування не прыслалі. Так што, дзядзечка, і ад вас мне нічога не трэба, — голас нявесты ўтрымліваў такую дозу атруты, што доктар Лёднік лепей бы не намяшаў. Але азваўся і ён:

— Затое віншую, вашамосць князь Багінскі, вы па ўласнае волі і нават з зайздроснай настойлівасцю парадніліся з панам Пранцішам Вырвічам, які цяпер ёсць законным мужам вашай роднай пляменніцы!

І праўда... Вырвіч з цяжкасцю збіраў думкі, якія мітусіліся, як мурашы ў раскіданым мурашніку. Ён усё-ткі парадніўся з Багінскімі! Калісьці марыў дабіцца сястры князя, Паланэі, але мара так і засталася марай... І ажаніўся з яе... пляменніцай, выходзіць! Та-ак, цяпер ясна, у каго ў панны Дамінікі такі ўладны характар. Усе сёстры князя Міхала Казіміра былі амазонкамі.

Багінскі схапіўся за галаву, ажно ад парыка паляцела воблака пудры. Павярнуўся да свайго канфідэнта.

— Ватман, каб цябе халера! Чаму не папярэдзіў?

Разгубленае аблічча белавалосага волата сузіраць было надзвычай прыемна.

— Ваша княская мосць, каб жа я ведаў! А жаніцьбу вы самі прыдумалі.

Князь Багінскі разгублена таптаўся перад маладажонамі: вестка пра выяўленае сваяцтва магната з нявестай, якую перадавалі шэптам, ужо абляцела ўвесь маёнтак. А для шляхцюкоў гэта значыла, што выпіўка на вясельным піры будзе яшчэ пышнейшай.

— Дзядзечка, дазвольце нагадаць, што мой пан-бацька Валенты Гараўскі, ваш швагер, — Багінскі ледзь не падскочыў ад гэтага вызначэння, — зняволены ў Полацку ягамосцю гетманам польным Аляксандрам Сапегам. А нам блаславенне атрымаць трэба...

— Няёмка неяк, вашамосць, што ваш швагер і на вяселлі дачкі не пабыў, і ў вязніцы зараз сядзіць, — дадаў сваё Лёднік.

Князь разгублена азірнуўся яшчэ раз на Ватмана, той мог толькі пацісnуць плячыма. Вядома, магнат — сам сабе закон, але Багінскі, на шчасце, не быў ні Геранімам Радзівілам, які быў здатны ўласнага брата на ланцугу трымаць, ні Пане Каханку, што ў п’яным шале мог давесці жорсткім жартам да смерці нават блізкага сябра. У гневе князь Багінскі доўга трываць не мог і астываў, як кінуты ў халодную ваду выкаваны цвік, з жаласным шыпеннем. І вельмі даражыўся славай прасветленага, прагрэсіўнага ўладара, шчодрага мецэната, апекуна музаў.

— Добра, добра... Я дару сваёй пляменніцы ў гонар яе вяселля тысячу залатых, карэту з коньмі і куфэрак перлінаў ружовых, які дастаўся мне ад бацькі майго. Пану Вырвічу... — падумаў, перабіраючы ў галаве, чаго не шкада,— маёнтак Гаруны і лес пры ім. А таксама даю ліст на вызваленне з вежы пана Валенты Гараўскага.

Апошнія словы князя патанулі ў віватах: цяпер ніхто не сумняваўся, што ягамосць Багінскі не паскупіцца на вясельнае застолле для сваёй пляменніцы нават у такіх паходных умовах... Бедныя, бедныя ўладары гэтага маёнтка і герба Анцута!

— Вашамосць, мы зацікаўленыя як найхутчэй паехаць да нашага шаноўнага пана-бацькі! — Пранціш не збіраўся радавацца раней часу.

— Што, нават на ўласнае вяселле не застанецеся? — здзекліва папытаўся Ватман. — І на шлюбную ноч?

Панна Дамініка прыжмурыла злосна вочы:

— Для мяне зараз самае важнае — вызваліць бацьку!

На дзіва, князь, пашаптаўшыся з Ватманам, не стаў пярэчыць.

— Што ж, чаркніцеся з гасцямі, пацалуйцеся — і можаце ехаць, «сваячкі»...

Багінскага ажно перасмыкнула, калі вымаўляў апошняе слова.

— А доктар яшчэ ў нас пагасцюе трошкі! — мадэмуазэль д’Асэ разнявалена кранула кончыкам складзенага веера плячо Лёдніка, які, мяркуючы па адсланёным твары, думкамі панёсся ўжо ў родны Полацак, да Саламеі ды дзетак...

— Гэта яшчэ чаму? — падазрона папытаўся Вырвіч.

— А таму! — насмешна ўлез у размову Ватман. — Князь Багінскі ясна ж сказаў: заўтра важная медычная кансультацыя! Да таго ж вы са сваёй жаніцьбай, пан Вырвіч, нам усе планы паламалі. А падводны карабель па-ранейшаму ў расейцаў. Таму давядзецца выкарыстоўваць іншыя шляхі, а хто ў нас галоўны знаўца вадзянога змея? Вось ён!

Найміт тыцнуў пальцам у Лёдніка.

— Я не пакіну яго... — пачаў Вырвіч, але Бутрым схапіў драгуна за грудкі, нахіліўся блізка і зашаптаў:

— Ты зараз не павінен пакідаць сваю маладую жонку! Пакуль выпускаюць — звозь яе!

І дадаў, ужо адхіліўшыся, з прыхаванай тугою:

— Перадай Саламеі, што я яе кахаю! І пацалуй за мяне Сафійку і Алеся...

Вырвіч і сам выдатна разумеў, што ягоны доўг — выратаваць дзяўчыну, што яму даверылася... Але невыносна было пакідаць тут Бутрыма, Адысея, які праз пару дзён мог бы абняць сваю Пенелопу. Адразу ўспаміналася, як тады, у Манпелье, у доме дэ Варда, Бутрым сам зашчоўкнуў на сабе рабскі ашыйнік узамен за волю свайго малодшага сябра...

Дзесьці каля дома пачалася страляніна і крыкі «Віват маладым!», «Віват князю Багінскаму!». Хутка тут загудзе застолле, а нехта абавязкова счэпіцца ў двубоі.... Што ж за шляхецкая бяседа без двубоя? Пэўна, крумкач са старой ліпы даўно кудысь зляцеў... А можа, у прадчуванні хуткай здабычы, затаіўся ў пераплеценым голлі ды вычыквае?

— Не пераймайцеся, пан Вырвіч, за свайго доктара! — паблажліва кінуў Багінскі. — Хіба вы забыліся — я слова даў, што захаваю вашыя жыцці і здароўе? Вы што, маё слова падвяргаеце сумніву?

Засталося толькі кланяцца ды дзякаваць дзядзечку за міласць...

Так, Раіна і пасля смерці дапамагала, ахоўвала. Апякалі праўдзівасцю яе словы пра новы персанаж, якога аўтар п’есы выведзе на сцэну замест яе. А вось наконт княскага слова — сумнівы былі... Не так лёгка аказалася захаваць жыццё ды здароўе, выконваючы апошняе заданне князя Багінскага.

Але заставацца было нельга. Дамініка і так нацярпелася, калі ім давялося ўсё-ткі прысутнічаць на банкеце і цалавацца пад цікаўнымі ды юрлівымі позіркамі чужых людзей. Нішто сабе першы пацалунак — вусны дзяўчыны дрыжаць ад страху і агіды... Вырвіч толькі спадзяваўся, што агіды не да яго.

На развітанне Бутрым моцна абняў і ўсунуў у руку цыдулку — ліст да сямейных. Пацалаваў руку нявесты...

Ад’ехалі, калі ўжо добра вечарэла. У карэце, падоранай князем, як вялікія паны. Калісьці Вырвіч марыў мець уласную карэту з гербам ды лёкаямі. У прыцемку экіпажа Пранціш бачыў толькі бляск вачэй і чуў перарывістае дыханне спадарожніцы... Ёй зноў страшна. Ягонай адважнай разумніцы... Хаця — ці ягонай, калі сэрца яе яму не належыць?

— Не бойцеся, Дамініка... Я не збіраюся скарыстоўваць вашу бяду... ніякім чынам.

Здаецца, правільныя словы выбраў? Таму што нявеста, захутаная ў падоранае дзядзечкам футра, нібыта з палёгкай выдыхнула, але зараз жа прамовіла ўдавана абыякава, але з дамешкам мімавольнай крыўды:

— Што ж, я рада, што ў пана не ўзнікаюць у адносінах да мяне ніякія куртуазныя намеры.

— Ну чаму ж вы лічыце, што я не магу ацаніць вашай прыгажосці і вартасцяў? — Пранціш стараўся гаварыць ветліва-паважна, каб не напалохаць зноў. — Проста ў нас з вамі, Дамініка, амурная гісторыя развіваецца неяк няправільна, з таго, чым іншыя заканчваюць. Калі вы захочаце, мы можам дамагчыся, каб наш шлюб прызналі нядзейсным. А можам паспрабаваць прайсці нашу гісторыю спачатку.

— Як гэта? — словы гучалі так разгублена, што Пранціш замілаваўся.

— А так... Пачнём са знаёмства.

Кароткі ўздых у цемры, недаверлівае хмыканне...

— Ну... Давайце пачнём. А то адчуваю сябе коткай у мяху, якую купілі на кірмашы, прынеслі ў хату, ды яшчэ не выпусцілі.

Здаецца, павесялела, зацікавілася.

— Хутчэй, я — кот у мяху, які вам уручылі... Дазвольце прадставіцца — пан Пранціш Вырвіч з Падняводдзя, герб Гіпацэнтаўр. Застаўся старэйшым у родзе, які вядзецца ад Палямона. У Падняводдзі маю двор... Астатняе бацька спляжыў, пасек, папаліў і раздаў падчас высакароднага шляхецкага спаборніцтва з суседзямі, хто менш даражыцца багаццем. У дзяцінстве мяне будзілі стрэлам з пісталета ў столь. А яшчэ я навучыўся з бацькам араць поле — бо нам не было за што наняць сялянаў. Праўда, мы рабілі гэта толькі ў ботах і пры шаблі на баку, а значыць, урону шляхецкаму гонару не ўтваралася.

Пранціш гаварыў з іроніяй, даўно перарос юначыя перайманні за беднасць ды востры сорам ад мянушкі Гнаявік, якой яго шчыкалі ў Менскім езуіцкім калегіуме. І быў пэўны, што Дамініка з Гараўскіх, хаця й магла быць з’едлівай ды насмешнай, не будзе ім за беднасць пагарджаць. Гэтак жа, як быў упэўнены, што велягурыстасць ды вензеля, якімі ён прыкрашаў свае куртуазныя размовы з рознымі панечкамі, тут абсалютова недарэчы. З Дамінікай Гараўскай можна альбо шчыра, альбо ніяк. Любое пазёрства заўважыць ды высмее.

— А першы слуга ў мяне з’явіўся ў васямнаццаць гадоў, калі аднойчы па дарозе з Менска да Валожына каля мяне спынілася карэта, захляпаная гразёю... І важны пан, запытаўшы, колькі ў мяне з сабою грошай, прадаў мне за мой апошні медны шэлег свайго непакорлівага раба, доктара, зорказведа і алхіміка...

— Няўжо пана Лёдніка?

— Яго самага...

А за доктара як трывожна... Але нічога, ён не з такіх сітуацый выбіраўся, ён жывучы, дый Раіна недарэмна карону святога Альфрэда ахвяравала...

Дамініка слухала расповеды спадарожніка пра ягоныя з Лёднікам прыгоды, як чароўную казку... Альбо раман. І Вырвіч, адчуваючы яе зацікаўленне, гаварыў, як Гамер, і раскручваўся світак прыгод. Незаўважна дайшло і да таго, што Вырвіч пачаў дэкламаваць уласныя паэтычныя сачыненні...

...Каралі, што чакаць навучыліся ў бронзавых снах,
Не раздзеляць з табою віно з дзьмухаўцоў і самоту.
Дождж змывае чырвоныя кроплі з абрусаў і плах,
Насалода і боль за труной ператворацца ў воцат...

І рука панны сама сабой апынулася ў руцэ яе нечаканага мужа.

Так жа смялей — калі ў цемры і невядомасці трымаешся за кагосьці надзейнага і вартага...

Полацак сустрэў сонейкам.

Шчырым такім, веснавым сонейкам, якое люстравалася ў водах Дзвіны, рассыпаючыся ў хвалях міглівым золатам... І спалі змрочным сном сутарэнні пад храмам Святой Сафіі, і маўчалі зняволеныя там кнігі, і дзіда Святога Маўрыкія ахоўвала горад...

А рукі ў Саламеі Лёднік дрыжэлі так, што не магла адразу разгарнуць цыдулку ад мужа. Паніч Аляксандр, як старэйшы мужчына ў сям'і пасля ад'езду бацькі, рашуча ўзяў пасланне і зачытаў.

Хто б сумняваўся наконт зместу. «Кахаю, люблю, малюся аб сустрэчы, не перайма́йцеся, са мной усё добра...» Словы, за якімі Чорны Доктар мог схаваць любыя няшчасці.

Можа, перажыванні з-за свайго Адысея не далі пані Саламеі надта здзівіцца ад з'яўлення Пранціша пад руку з законнай жонкай... Выслухаўшы неверагодную гісторыю іх шлюбу, Саламея, аднак, перанялася. Адразу ж зладзіла для панны Дамінікі гарачай вады дый іншых неабходных жанчыне рэчаў, угаварыла трохі адпачыць — бо судовыя ў Полацку раней, чым апоўдні, не прачынаюцца, а паненка змучаная зусім...

А калі засталася з Вырвічам сам-насам, цвёрда заявіла:

— Не рабі глупстваў, не буры гэты шлюб! Не заўсёды тое, што даецца выпадкова, з'яўляецца часовым. Дастаўся дыямент — беражы!

І нават пан Гараўскі, вызвалены з вежы, не надта трос кулакамі на адрас самазванага жаніха. Галоўнае — ягоная красачка, дачушка ў бяспецы... Падумаць толькі — зрабілі закладніцай, трымалі ў палоне! Нават за сталом у доме Рэнічаў пан больш глядзеў на сваю крывіначку, чым спажываў ежу...

Падарункі ад Багінскага змусілі пана скрывіцца: каб ягоная воля, нічога ад фанабэрыстых магнатаў, якія ім пагарджалі, не ўзяў бы. Але што ж, зяць дастаўся небагаты, такі пасаг маладым дарэчы. Маёнтак Гаруны, канешне, і блізка не Нясвіж, дзесь у Налібоцкай глухамані вёсачка... І добра яшчэ, калі ў князя ў хуткім часе не сканфіскуюць маёмасць, і ягоны падарунак не выявіцца пшыкам.

Найбольш у доме Лёднікаў пану Гараўскаму спадабаліся турэцкія шаблі... Гаспадар, вядомы фехтавальшчык, меў цэлую калекцыю добрай зброі. А вось саркафаг з муміяй у кабінеце доктара, хоць і самы што ні на ёсць усходні прадмет, пана не ўсцешыў. Толькі перахрысціўся пан Валенты гідліва. Трымаць у доме нябожчыка, ды яшчэ паганца! Вось ужо сапраўды — Полацкі Фаўст... Праўда, абразы кругом праваслаўныя... Пан Валенты мог ухваліць хаця б тое, што дачка выйшла замуж за адзінаверца.

Вядома, погляды, якія пан Валенты Гараўскі кідаў на нежаданага зяця, былі дастаткова непрыязныя — як на апошняга госця, што надакучыў, як горкая рэдзька, а не выганіш. Каб не саромеўся пані Саламеі — а яе велічная прыгажосць утаймоўвала і не такіх, дык і пасварыцца мог з зяцем.

Пранціш разумеў, калі панна Дамініка скажа, што яны не супраць абвесціць шлюб несапраўдным, пан Гараўскі кінецца ў гэтую справу з усім імпэтам — і даб'ецца... Бо князь Багінскі — бунтаўнік, канфедэрат, і кароль ахвотна дапаможа ахвярам свайго ворага.

Пранціш пазіраў на тонкі профіль дзяўчыны, якая чамусьці лічыцца ягонай жонкай, і чакаў выбуху... І халодная змяя круцілася ў грудзях. Магчыма,

яму самому варта прапанаваць ёй такое выйсце? Але Дамініка, заўважыўшы крывыя пагляды бацькі на драгуна, заявіла:

— Татусю, гэта мой вянчаны муж, ён мяне выратаваў, гонар мой абараніў, а я адно толькі слова вернасці маю. І перад Госпадам ужо дала яго гэтаму пану.

Гараўскі трохі вінавата ўтаропіўся ў талерку. А Пранціш адчуў, як на душы пацяплела. Дамініка не збіраецца ад яго пазбаўляцца! І, здаецца, патроху ачуньвае ад сваіх страшных прыгодаў. Вочы пачынаюць блішчаць весела і троху іранічна, знікае трывожная напятасць... Вунь як з малой Сафійкай забаўляецца!

З чарнавокай Лёдневічанкай былая панна Гараўская адразу пасябравала, і цяпер яны ўдзвюх разглядалі... Не, не цудоўную парцалянавую ляльку, якая сядзела ў куточку ды лупілася пакрыўджана намаляванымі блакітнымі вачыма. А сапраўдны мікраскоп, які быў паненцы Сафійцы цікавейшы за любыя цацкі. Мікраскоп, бліскучанькі, пакрыты гравіроўкай у выглядзе пераплеценых галінак і кветак, ёй аддаў старэйшы брат, які займеў больш моцную прыладу. А яшчэ той брат калекцыянаваў казюрак і матылёў, каменьчыкі і чарвячкоў... І такіх агідных істотаў, на якіх далікатным людзям глядзець брыдка.

Але, відаць, далікатных асобаў тут не было, ну, можа, за выключэннем пана Гараўскага, які абурана адварочваўся ад заспіртаваных у слоіках брыдотаў. А вось Дамініка нават дагістарычны чэрап, якім яе спадзяваўся, відаць, напалохаць паніч Аляксандр, успрыняла са спакойнай цікаўнасцю. Патлумачыла, што мастаку, каб правільна маляваць, абавязкова трэба, як і доктару, ведаць зладжанне арганізму знутры. Таму яна ў свой час адлюстравала чарапоў ды шкілетаў дастаткова.

І праз нейкі час госця ўжо замалёўвала для практычнага паніча вынікі ягоных доследаў, якія поўзалі альбо плавалі ў шкляных скрынках.

— Дыямент! — яшчэ раз выразна паўтарыла пані Саламея Пранцішу.

Пан Гараўскі, якому Хвэлька з вялікім задавальненнем падліваў віна — нарэшце ў доме з'явіўся сапраўдны шляхціц, які шануе Бахуса, задрамаў у фатэлі, змучаны апошнімі падзеямі. Саламея і Вырвіч змаглі пагаварыць. Было пра што.

Князь Багінскі абяцаў, што Лёдніка затрымае не больш чым на дзень. Але як насамрэч апынецца?

Былі і іншыя тэмы... Месяц таму вярнуўся з Францыі Давыд Ляйбовіч, у модным сурдуце, трохкутовым капелюшы са страўсавым пёркам ды ў кашулі з карункамі, пышнымі, як крэм безэ. У аптэцы ягонай адразу прыбавілася пакупнікоў, а Давыд яшчэ й кансультаваў полацкіх дзяўчатаў наконт апошніх павеваў парыжскай моды.

Пасля скандальнага прыёму ў доме дэ Варда Таварыства прагрэсіўнай медыцыны распалася, бо ягоныя стваральнікі з'ехалі ў Парыж. Там справу развярнулі шырока, прыёмы з лекцыямі ўчыняюць. І за ўсе іхнія зверствылютаванні нічогенька ім не было. Ну, зрабілі бадзягу лішнюю дзірку ў галаве — дык яшчэ і лепей, горад ачысцілі ад усялякага зброду. У Ліёне зноў ткачы бунтуюцца, у параўнанні з гэтым эксперыменты ў сутарэннях нікога не хвалююць. Толькі бедны скалечаны волат Гарганцюа застаўся ў Манпелье — гаспадар ягоны дужа хутка ўцякаў, а слуга чамусьці не спяшаўся яго даганяць. Пан Жылібер прыстроіў ва ўніверсітэце, прыслужваць. Гэткі медыцынскі казус... Студэнты-медыкі вельмі цікавяцца.

І раптам, пакуль французскія навіны абмяркоўвалі, прыйшоў і сам Давыд. Уляцеў у дом, нязграбны, вясёлы... Маўляў, пабачыў карэту перад домам, вось

і зразумеў, што гаспадары прыехалі! Парадваўся за Вырвіча, што той ажаніўся, пацалаваў ручку адной пані, другой, паненцы Сафійцы.

— Вы, галоўнае, пану Лёдніку перадайце... Ягамосць Жылібер ліст даслаў, папярэджвае, каб ён з князем Багінскім не звязваўся. Гетман просіць у французаў грошай, тыя абяцанкамі-цацанкамі кормяць. А цяпер знайшоўся прайдзісвет, які паабяцаў Багінскаму згоду французаў. А ўзамен — невялічкая паслуга... Каб прыслалі яму такога вось наскрозь вучонага доктара па прозвішчы Лёднік, са скрадзенай тым у Францыі старажытнай прыладай у дадатак. Як вы здагадваецеся, дабрадзей гетмана — барон дэ Вард, які зараз прысмактаўся да самога герцага Эгільёна, новага міністра замежных спраў Францыі. Жылібер піша, доктар Бяскоўскі ўжо адправіўся сюды перагаворшчыкам. А пры Багінскім нейкі чалавек ёсць, які з дэ Вардам звязаны...

— Д'Асэ! — скрозь зубы прагаварыў Пранціш. — Шпіёнка клятая! Паведаміла пра доктара, угаварыла Багінскага...

Давыд збялеў:

— Толькі не кажыце мне, што пан Лёднік у князя!

— За гэты час, думаю, ужо і прададзены, і перадададзены!

Саламея ўскрыкнула, заціснуўшы рот кулаком. Вырвіч сціснуў зубы, каб не зараўці ад адчаю. Ну адчуваў жа, не трэба Бутрыма пакідаць! Цяпер не да таго, каб у Капанічы з маладой жонкай ехаць... Але куды кінуцца, дзе шукаць Бутрыма? Калі ён яшчэ ў князя — ёсць шанец... А калі звезлі? Дамініка, якая прыслухоўвалася да размовы здалёк, асцярожна спусціла з рук Сафійку, падышла да Пранціша, кранула за плячо.

— Супакойцеся, вашамосць! Доктар Лёднік — не іголка, прынамсі, некалькі чалавек ведаюць, дзе ён зараз. Думайце, Пранціш! Хто гэтыя людзі?

Вырвіч з удзячнасцю сустрэўся позіркам з разумнымі вачыма жонкі...

— Вядома, князь Багінскі... Але наўрад ён захоча з намі шчыра гаварыць. Герман Ватман... Зылжэ, не паморшчыцца. Пасля — д'Асэ... Відаць, трэба ўсё-ткі ехаць у той маёнтак з бязглуздымі калонамі і распытваць, куды атрад князя скіраваўся...

— А чаму б табе не распытаць напачатку рамізніка, якога князь да карэты даў?

Дапыталі рамізніка Ігнацыя, меланхалічнага маладзёна з чорнымі абвіслымі вусамі, які не дужа быў рады адправіцца з княскае службы вазіць нейкага харужага, і лічыў сваё знаходжанне тут часовым. Аказваецца, пакуль ладзіўся вясельны баль, прыслуга пагаворвала, што Багінскі збіраўся на паляванне. Чаму? А адзін машталер пачуў гаворку пра вадзянога цмока, якога князь збіраецца ў хуткім часе займець. Паколькі Слонімскі звярынец Багінскага ўтрымліваў безліч жывых цудаў-юдаў, паляванне на вадзянога цмока людзей не здзівіла. Магнат, ён усё можа... Птушку Рох купіць, слана, Вавілонскую вежу для ўласнаручнага разбурэння...

— Ясна, што князь адправіць людзей за палком Гагарына, якія вязуць падводны карабель, — нервова зазначыў Вырвіч.

— І выходзіць, пан Лёднік пакуль самому князю патрэбны, — сцвердзіла Дамініка. — Хто лепш распавядзе, як зладжаны карабель?

— Праўда... — Пранціш трохі супакоіўся, і пані Саламея справілася з адчаем.

— Значыць, Лёдніка возьмуць на паляванне за вадзяным змеем... Даведацца б яшчэ, як Гагарын плануе ехаць у Санкт-Пецярбург! Вайна ж, з-за сутычак мяняюць маршруты...

— Ну, паспрабуем даведацца!

Дамініка пабудзіла бацьку, які салодка драмаў у віры чужой драмы.

— Пакуль сядзеў на гаўптвахце — чуў, як радуюцца ахоўнікі, што Дзюмур'е ўзяў Кракаў. І казалі, што князя Багінскага ён папрасіў выпраўляцца на Смаленск. А што тычыць маскоўцаў, дык Пятро Іванавіч дакладна абяцаў заехаць у Капанічы на зваротным шляху! — упэўнена адказаў пан Валенты і прыўзняўся. — Дарэчы, час і нам туды адпраўляцца... Што бунтаўнікі там нарабілі — падумаць страшна...

І абсёкся, кінуў тужлівы погляд на дачку: яна ж цяпер ад яго не залежыць, а мусіць ісці за мужам-канфедэратам... Але нежаданы зяць супакоіў:

— Едзьце заўтра з Дамінікай, толькі найміце, дзеля Бога, слуг, ахову — князь Багінскі дастаткова грошай даў. А я паскачу цяпер — мне трэба сябра ратаваць...

Паніч Алесь прыбег з картай і цвёрдым жаданнем далучыцца да пошукаў бацькі. Толькі маленькая Сафійка ўсё гэтак жа гулялася са сваім мікраскопам, пакручваючы ягоныя колцы і спрабуючы разглядзець праз хітрыя шкельцы той казачны свет, дзе ні ў воднай дзяўчынкі не знікаюць бацькі...

У паўцёмнай вітальні, калі Пранціш застаўся сам-насам з жонкай, яна спыталася ціха:

— Вы адзін. Што вы можаце зрабіць? Гэта ж вельмі небяспечна... Ідзе вайна...

— Вох, мая пані, каб вы ведалі, як шмат можа зрабіць адзін чалавек! — белазуба ўсміхнуўся Пранціш. — Пачытайце хаця б Плутарха...

Дзесь у пакоях то згасаў, то разгараўся звонкі смех Сафійкі. А на вуліцы, за дзвярыма, жыло звычайным жыццём беларускае места васямнаццатага стагоддзя. Гарлалі, прапаноўваючы тавар, булачнікі, малочнікі, галантарэйшчыкі, рыбары і гарбары... Стукаў малаток збройніка, лаяўся балагол, вадзіў па бясконцых пакутах Дароту лірнік. Грукаталі па брукаванцы колы вазоў, таратаек і карэтаў. Сярдзіліся сабакі, абвяшчалі перамогу над цемрай пеўні, зноў білі званы на Святой Сафіі, абпаленай пажарам...

— Пастарайцеся вярнуцца... Мы ж яшчэ не прайшлі да канца нашу куртуазную гісторыю!

Дзяўчына глядзела без ценю насмешкі. Вырвіч пацалаваў тонкую цёплую руку.

— Для вас працей будзе, калі мяне заб'юць, Дамініка. Выйдзеце тады замуж, за каго захочаце.

— Ну вось, кажуць, што гэта жанчынам уласціва цану сабе набіваць! — угневалася Гараўская. — Магу прысягнуць, вашамосць зараз хацеў пачуць мае запэўніванні, як баюся вашай гібелі, ды як вы мне дарагі ў жывым стане... А я не катрынка, каб граць тое, што замовяць! У мяне ўласнае меркаванне ёсць. Паміраць ён сабраўся...

Панна схапіла мужа за каўнер, прыцягнула да сябе...

Цалавацца Гараўская, вядома, не ўмела... Затое Пранціш умеў.

— Падобна, наш раман паспяхова развіваецца? — прашаптаў ён праз незлічоны час.

— Я не дарую вам, калі ён не дойдзе да шчаслівага фіналу, — шапнула ў адказ задыханая, пачырванелая Дамініка. І дадала вельмі сур'ёзна:

— Я буду вас чакаць.

Так Пенелопаў у гэтым бурлівым свеце стала больш.

Хаця Адысеі ў ім сустракаюцца куды часцей, і Пенелопаў на ўсіх іх ніколі не хапала.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

## Двубоі Чорнага Доктара

Леанарда да Вінчы сцвярджаў, што існуе такі звер катаблепас. Ягоны пагляд забівае чалавека дакладней гарматнага ядра ў лоб. Вось толькі зрабіцца ахвярай катаблепаса трэба яшчэ схітрыцца, бо яго галава настолькі цяжкая, што небарака не можа яе прыўзняць ад зямлі.

Пранціш Вырвіч гэтай сонечнай веснавой раніцай адчуваў сябе гэткім няўклюдным катаблепасам — галава трашчыць ад недасыпу, хіліцца долу, цяжкая, як цабэрак, пры гэтым злосць у душы так і віруе, так бы і спапяліў каго паглядам... Начавалі ў нейкай адрыне, на гарышчы, мерзлі. І Вырвіч, ледзь-ледзь прадраўшы вочы, спрасоння так ляснуўся лбом аб нізкую бэльку, што цяпер мімаволі рука цягнулася памацаць гузак.

Абранец са знакам у лбе, разумееш... Толькі і камандаваць такім атрадам, які ў яго зараз: аж два ваяры ў падначаленні, падлетак ды аптэкар.

Вырвіч тужліва азірнуўся. Давыд, у насунутым на самыя вочы чорным мятым капелюшы, не вельмі зграбна сядзеў на бела-плямістым паслухмяным кані ды нешта сабе напяваў пад нос на французскай мове... Аптэкар нечакана далучыўся да драгуна на выедзе з Полацка. Маўляў, пасля бурлівага жыцця Францыі засумаваў, дык чаму б не пашукаць дзядзьку Бутрыма? Жаўнер з нядаўняга студэнта-фармацэўта наўрад быў важнецкі, хіба для кампаніі...

Але Давыд хаця б дарослы. А вось малодшы Лёднік — лічы, дзіця... Хаця такіх, здаралася, у магнацкіх сем’ях ужо й жанілі дзеля патрэбаў палітычных.

Алесь Баўтрамееў Лёднік учыніў мудра: з Вырвічам адразу не выправіўся — бо ясна, дзядзька Пранціш адправіў бы дадому ды яшчэ загадаў бы замкнуць увішнага паніча. Цягнуўся на кані следам, як Борах па дворах, хаваючыся так, што Пранціш заўважыў пераслед толькі на другі дзень. Хлопец быў упарты, увесь у татачку, і Вырвіч ледзь зубы ад злосці не скрышыў — але мусіў узяць з сабою. Ну як з такімі спадарожнікамі ў небяспечнай вандроўцы? Як з дудою на паляванні.

Між тым вайна шчэрылася паўсюль. Там спаленая хата, там — паранены жаўнер у карчме... Распытвалі, каго маглі, спрабуючы зразумець, у якім баку войска вялікага гетмана, і ці не чулі пра атрад расейцаў з вялізным падазроным абозам. Па ўсім выходзіла, што едуць правільна, маскоўцы рушылі ў бок Капанічаў. Пранціш зноў пакруціў на пальцы заручальны пярсцёнак, і цяплей ды спакайней неяк сталася, нібыта пярсцёнак зачараваны.

Кволыя галінкі ўзлеску выпроствалі першыя зялёныя лісткі так нясмела, нібыта чакалі, што іх вось-вось зблоціць сівер, вярнуўшыся, як злы настаўнік у клас, дзе дзеці пачалі без яго сваволіць. Па дарозе, трохі падсохлай, гайдалася на ўсіх калюжынах павозка, падобная да распісанай зялёнай фарбай скрыні. Яе цягнулі два цярплівыя рудыя кані, чыя маладосць прамінула, як нядаўняя зіма. І быццам яблыкі ў скрыні, у павозцы шчыльненька сядзелі дзіўныя людцы — не зразумець, ці шляхта, ці валацугі... Дзве пані ў пудраных парыках мелі такія натынкаваныя, намаляваныя фізіяноміі, што немагчыма вызначыць узрост. Фізіяноміі пераляканыя. Уборы з неверагодна пышнымі карункамі пашыты з вельмі таннай тканіны. Ясна, вандроўныя артысты.

Спадар з высакародным тварам, неадменна ўсе ролі каралёў былі ягонымі, адказаў падарожным паважна, але спалох да канца схаваць не змог. Непадалёк вялікая бойка ідзе... Б’юцца маскоўцы і войска вялікага гетмана. Ледзь уцяклі няшчасныя камедыянты...

І па ўсіх канонах прыгодніцкага жанру зараз Вырвіч са спадарожнікамі мусілі папрасіцца ў трупу, замаскавацца пад артыстаў, каб далей шпегаваць... Але Пранціш Вырвіч быў самавітым шляхціцам, і яму ў галаву не прыйшло ганьбіць сябе, звязваючыся з балаганшчыкамі. Дый тым з якой радасці рызыкаваць, здадуць пры першай магчымасці шпегаў...

Таму павозка правінцыйнай Мельпамены ад’ехала ў туманістыя далечы веснавой Беларусі, а каманда, створаная ў імя выратавання Чорнага Доктара, рушыла ў другі бок, самы небяспечны.

Вырвіч не вельмі хацеў везці малога Лёдніка туды, дзе свішчуць кулі ды сякуць шаблі... Але старэйшы Лёднік з вялікай верагоднасцю быў менавіта там. Добра хоць, Алесь на кані добра трымаецца — сам Вырвіч вучыў... І не скардзіцца ніколі, як бы ні стаміўся, толькі вусны ганарыста падціскае ды дзюбаты нос задзірае, бацькавіч...

— Пан Вырвіч, нам, падобна, туды!

Давыд паказваў худым пальцам у поле, дзе на пажухлай леташняй траве ляжаў ніцма чалавек у сінім мундзіры. А вось яшчэ адзін... А там, ля паламаных кустоўяў, хтось у белай куртцы, заляпанай крывёй. Самотны конь з пустым сядлом скубе сухія сцяблінкі. Крумкач няспешна кружляе над полем нядаўняй бойкі, завяршаючы сумотную карціну чорным насмешным штрыхом.

— Можа, яшчэ хто жывы? Трэба дапамагчы?

Малодшы Лёднік успадчынніў і гэта...

Але параненых, відаць, забралі адразу, толькі па памерлых яшчэ не вярнуліся.

— Мусіць, падводны карабель адбівалі... — прамармытаў Пранціш. І ўпершыню прыйшло ў галаву, што ў дзеяннях Ватмана была свая, няхай і вычварная, логіка. Ціхенька абмяняць закладніцу на патрэбнае. Бо іншы спосаб адабраць вадзянога змея быў вось такі, сумленны, шляхецкі, так бы мовіць... І крывавы. Колькі чалавек загінула з-за ліцвінскай прыўкраснай Алены, скрадзенай Вырвічам, амаль што Парысам? А расплачваецца зноў хітрамудры Адысей-Бутрым...

Пранціш адагнаў здрадлівыя думкі. Усё адно Гагарын не згадзіўся б на абмен, і скончылася б той самай крывёй. Але зламаўся б лёс Дамінікі, а ў Пранціша зараз не паблісквала б на пальцы гэтага пярсцёнка са смарагдам, знойдзенага ў куфэрках Багінскіх... Сам ён надзеў на палец нявесты свой уласны, фамільны, з гербам «Гіпацэнтаўр», з якім не расставаўся. Пярсцёнак для пальчыка мастачкі быў завялікі, боўтаўся... Трэба замовіць, каб звузілі... Калі, вядома, уладальніца захоча і надалей насіць сціплае старажытнае ўпрыгожванне, якое саграваді пальцы пакаленняў Вырвічаў.

Раптам удалечыні пачуўся выбух.

Ды не слабенькі, а так, што зямля страсянулася, быццам там прызямліўся цэлы статак адкормленых цмокаў.

Дзе выбух, там Полацкі Фаўст. Чамусь ва ўсіх трох адразу ўзнікла менавіта такая сэнсавая сувязь.

Што, вядома, пэўным чынам характарызавала найперш доктара Баўтрамея Лёдніка.

Калі наперадзе пачуліся далёкія галасы, і замітусіліся, бы мурашы ў разварушаным мурашніку, чалавечыя фігуркі на тле чорнага дыму, Давыд Ляйбовіч прытрымаў каня.

— Пан Вырвіч, стойце... Не варта вам туды лезці, ды яшчэ паніча валачы. Давайце я на выведку адпраўлюся — у мяне з сабой сумка з лекамі, прапаную

свае паслугі. Там, мусіць, параненыя ёсць... Я, канешне, не доктар Лёднік, але ва ўніверсітэце дзякуючы яму павучыўся.

І, як ні карцела Пранцішу адправіцца самому, давялося пагадзіцца ды яшчэ ўтрымаць Алеся, які ірваўся шукаць татку. Спыніліся пад бярозкамі, на сонейку, на палянцы, якую абсыпалі белыя кветачкі — каб не ляжалі побач скрываўленыя трупы, дык можна было азірацца ў пошуках райскага дрэва і херувімчыкаў.

Але гэта быў не рай, а астравок зацішша пасярод крывавай беларускай вясны. На сонейку грэўся вялізны шэры з ружовымі прожылкамі валун, за ім можна было зручна схавацца. Магчыма, быў гэта каменны цмок-шавец, якіх шмат у беларускіх вёсках. У такіх камянях ёсць нібыта акенца, куды можна шаўцу падаваць скуру, а пасля забіраць гатовыя боты. Галоўнае, у царкву ў абноўцы не заходзіць — разваліцца. А магчыма, гэта быў камень-следавік, на які аднойчы наступіла сама Маці Божая, назаўсёды пакінуўшы адбітак па форме нагі. Але паверхня валуна была роўнай, шурпатай, як спіна скамянелай жывёлы, зубра альбо вала... І, мусіць, менавіта такая легенда і існавала.

Вырвіча ж і малодшага Лёдніка зараз цікавілі не легенды, а эпапеі. Па выніках выведкі Давыда можна было напісаць эпічную п’есу і прадаць сустрэтым вандроўным камедыянтам... Шэкспір плакаў бы ў баку ад зайздрасці і выціраўся манжэтай.

Калі аптэкар пад’ехаў бліжэй да месца выбуху, пабачыў карціну без рамачкі. Невялічкі маёнтак, хутчэй — хутар, патрапіў пад капыты аднаго з вершнікаў Апакаліпсісу па імені Вайна. На месцы адрыны ці вялікай пуні зеўрала яміна, з якой ішоў чорны дым. Наўкруг валяліся дошкі і металічныя дэталі. Давыд, якому пан Вырвіч распавёў пра вадзянога цмока, здагадаўся, што гэта парэшткі пачвары. Тым больш перад тымі парэшткамі траянскага каня.... пардон, ліцвінскага цмока стаяў доктар Баўтрамей Лёднік, патрапаны так, нібыта ім стралялі з гарматы. Адзін рукаў вісеў на нітках, на шчацэ чорны пісяг. А насупраць Лёдніка драў горла пачырванелы князь Багінскі, які, здавалася, гатовы быў і праўда таго Лёдніка ў гармату запхнуць ды стрэліць у бок вострава Ява.

— Мярзотнік! Табе паверылі, цябе пусцілі з механізмамі разабрацца... Колькі князь Гагарын заплаціў, каб ты карабель узарваў?

— Вашамосць, гэта няшчасны выпадак! — хрыпла апраўдваўся Лёднік, стрэсваючы са скураной курткі наліплыя камякі гразі і попел. — У караблі, у прыладзе для ачышчэння паветра знаходзілася салетра. Падчас пераезду яна змяшалася з іншымі рэчывамі... Пачалася рэакцыя. Калі б я гэта не заўважыў, ды не папярэдзіў усіх, каб разбягаліся — маглі б быць і ахвяры!

Багінскі ледзь не пляваўся ад злосці.

— Не плявузгай! Гэта ты спецыяльна штосьць там намяшаў. Вырашыў вярнуць сабе міласць яе вялікасці, паспрабаваць зноў да яе ў давер увайсці. Дарэмна! Паглядзі на сябе! Бязродны, здохлы галадранец!

— Вашамосць, дазвольце, мы яго павесім! — раўнуў рослы шляхцюк, на лбе якога крывавіла драпіна — відаць, жалезная костка змея патрапіла. Натоўп вакол ахвотна падхапіў:

— У пятлю чарнакніжніка!

— Ці-ха! — закрычаў князь і паморшчыўся — гарлаць ды раўці было не па ягонай натуры, нягжэчна. І ад таго, што апусціўся да плябейскага крыку, Багінскі яшчэ больш злаваўся на вінаваўцу.

— На вялікі жаль, Лёднік, я даў слова, што захаваю табе жыццё і здароўе. Але не думай, што рэшту гэтага жыцця ты правядзеш, радуючыся, як мяне падмануў.

Князь рэзка развярнуўся, загадаўшы вартаваць вязня, як найвялікшы скарб, і сышоў, бы не заўважыўшы развітальныя словы доктара:

— Бедная Раіна Міхалішыўна, яна забылася акрамя жыцця і здароўя для нас згадаць пра свабоду...

Веснавы ветрык насіў чорныя сняжынкі попелу.

Далей на нейкі час увага Давыда была адцягнутая ягонымі першымі пацыентамі — не толькі шляхціц з падрапаным ілбом пацярпеў ад выбуху ў адрыне ды ў бойцы з маскоўцамі. Доктару ж Лёдніку, які таксама прапанаваў свае паслугі, вельмі груба параілі маўчаць ды не торкацца.

Давыд, які мазаў раны бальзамам, сшываў ды перавязваў, толькі краем вока бачыў цёмную высокую постаць у коле злых да зубнога болю ахоўнікаў. Бутрым стаяў, выпрастаўшы спіну, як за кафедрай, і засяроджана чытаў свой нататнік. Зразумела, калі і заўважыў ды пазнаў Ляйбовіча, выгляду не паказваў. Аптэкар жа наслухаўся столькі лаянкі ды кляцьбы ў бок Чорнага Доктара, што ўсур'ёз занепакоіўся. Шляхцюкі шчыра лічылі, што гетман учыняе несправядліва, не даючы ім пакараць здрадніка, які столькі шкоды нарабіў, і падазрона перашэпталіся, сабраўшыся кампаніямі.

А потым да Лёдніка падышла расфуфыраная пані ў парыку, падобным да ўзбітых вяршкоў з цукатамі. Паколькі міленькая, як херувімчык, пані трымалася ўладна, а ахоўнікі паслухмяна яе прапусцілі, Давыд здагадаўся, што гэта фаварытка князя мадам д'Асэ. Тут круглая шкляніца вельмі зручненька выслізнула з рук аптэкара і пакацілася бліжэй да Чорнага Доктара. Давыд кінуўся за ёю, нязграбны, смешны, злавіў, але выкуліў, вельмі ў час спатыкнуўшыся, змесціва ўсёй сваёй сумкі на зямлю... Давай збіраць, няспешна, абтрэсваючы. А заадно слухаючы размову на французскай мове, якой ён, як меркавалі прысутныя, наўрад валодаў.

— А вы адчайны чалавек, месье Лёднік!

Француженка пазірала какетліва, але з насцярогай, як на дужа модную сукенку, якая, магчыма, акажацца не па памеры.

Бутрым, аднак, паводзіўся вельмі нешляхетна, таму што толькі на імгненне адарваў пагляд ад свайго нататніка, прагаварыў ветлівае прывітанне і зноў чытае... Д'Асэ міла ўсміхнулася сакаўнымі вуснамі, падмаляванымі сардэчкам:

— Вас не бянтэжыць, месье доктар, што вы ператварыліся ў нейкі інструмент, добра загартаваны меч, які ўсе зацята адзін у аднаго адбіраюць, каб скарыстаць супраць ворага? Любы інструмент, вы ж ведаеце, урэшце ламаецца... Асабліва ад частага выкарыстання.

На гэты раз Бутрым выявіў больш увагі, апусціў нататнік і кінуў пільны позірк на настойлівую госцю.

— Як бачыце, мая пакорлівасць мае межы, мадам. Я заўсёды намагаюся быць у згодзе з уласным сумленнем. Мною не вельмі зручна карыстацца.

Красунька іранічна пакланілася — маўляў, ацаніла вашу цвёрдасць, і нечакана тыцнула складзеным веерам у грудзі суразмоўцу.

— Падман, месье! Вы самі сябе ашукваеце. У адсутнасці волі — а яе ў вас не будзе ў бліжэйшы час, запэўніваю, — чалавек сам не заўважае, як саступае па дзюйму прастору свайго сумлення. Пакуль не саступіць апошняе. У вашым выпадку можа выратаваць толькі адно: выбраць сабе саюзніка, які з вас скарыстаецца, але дасць найбольш волі.

— І што мадам прапаноўвае? — голас Лёдніка быў халодна-ветлівы. Француженка абмерыла яго паглядам бліскучых, як вішні пад дажджом, вачэй. Скасавурылася на маладога няўклюду, які поўзаў непадалёк па траве

і збіраў рассыпаныя шкляніцы, нешта мармычучы сабе пад нос, упэўнілася, што небарака не разумее ні слова з яе размовы, і працягвала.

— Вы чалавек гонару, месье Лёднік. Таму, спадзяюся, сказанае мною толькі са шчырай сімпатыі да вас застанецца між намі.

Бутрым пакрывіў рот, паказваючы сваю веру ў гэтыя сімпатыі, але моўчкі пакланіўся. Д'Асэ працягвала ціха:

— Я магу вас вывезці адсюль. Паверце, іначай вам падрыхтаваны страшны лёс — не без майго пасрэдніцтва, каюся. Але ў мяне заўсёды ёсць уласныя планы і меркаванні. Як вы ставіцеся да аўстрыйскага двара?

Лёднік не змог схаваць здзіўлення.

— Няўжо мадам плануе перабрацца туды?

— А чаму не? — белазуба ўсміхнулася д'Асэ. — Тое, што я для іх зраблю, дасць мне там трывалае становішча... Грэх не скарыстацца. Тут усё роўна нічога добрага не чакаецца, — француженка з прыкрасцю ўздыхнула. — Канфедэраты прайграюць, гэта ўжо і Дзюмур'е зразумеў. Так, ён узяў Кракаў, але генерал Веймарн вызваў Суворава, да таго зараз далучаюцца новыя людзі... Як канфедэраты ваююць — самі бачыце. Афіцэры п'юць-балююць, на варту пасылаюць сялянаў, якія ціхенька збягаюць... Дзюмур'е сам мне казаў, што пасля наступнай жа канфузіі вернецца ў Парыж, абрыдла яму тутэйшае бязладдзе. Князь Багінскі ўвогуле не вайскаводца. А пасля паразы ў яго сканфіскуюць усё, ён паедзе ў эміграцыю... А такіх паноў-эмігрантаў я магу перабіраць дзясяткамі. Сумна. Гэты карабель тоне, і час перасядаць на іншы. Паедземце са мной!

Лёднік не зварухнуўся.

— Навошта я вам? Ува мне няма нічога, што б магло быць для вас каштоўным.

Фаварытка прымружыла вочы, якія сталі вельмі сур'ёзнымі.

— А я і не кажу, што разгледзела ў вас Адоніса. Але скіньце свае маскі. Прызнайцеся, месье Лёднік, вы тае ж пароды, што Каліёстра, Сен-Жэрмен, граф Батыста — разумныя, жорсткія і прагныя да прыгодаў людзі, якім дадзена трохі больш, чым належыць мець чалавеку. Вы не можаце абысціся без рызыкі і таемных ведаў. Хто кліча такіх шалберамі, хто авантурыстамі, але іх ахвотна слухаюць і ідуць за імі. Мне патрэбны такі чалавек, як вы, со змрочнай, пагрознай славай і шлейфам плётак пра ўсемагутнасць. Вось-вось будзе вольным месца асабістага лекара імператрыцы-маці Марыі Тэрэзіі. Можна паспрабаваць яго заняць.

Лёднік раздражнёна ўздыхнуў.

— Мой сумны жыццёвы досвед даказвае, што за кожнай смачнай прапановай хаваецца сталёвы кручок. Магу прысягнуць — вы, спадарыня, й паловы не распавялі пра свае планы. І якімі яны б ні былі — здзяйсняйце без мяне. У мяне жонка, двое дзяцей і радзіма, якую я люблю.

— Я і не прапаноўваю вам адмовіцца ад сям'і, — паціснула плячыма д'Асэ. — Высылайце ім грошы, пасля, як усё ўладкуецца, забярыце да сябе... Ад вас мне спатрэбіцца толькі ўдзячнасць...

— Гэта значыць, рабіць, што скажаце, і абараняць вашы інтарэсы, — нудна прагаварыў Лёднік і зноў уторкнуўся ў нататнік, працэдзіўшы скрозь зубы:

— Не цікавіць.

Д'Асэ, аднак, зусім не пакрыўдзілася, толькі лёгка засмяялася і яшчэ раз дакранулася да доктара веерам.

— У мяне ёсць усе падставы думаць, што вельмі хутка вы пераменіце сваё меркаванне, месье доктар. Мы не развітваемся!

І сышла, жорстка кінуўшы ахоўнікам:

— Паводле загаду ягамосці князя Багінскага вы пасадзіце злачынцу ў карэту, якая неўзабаве прыйдзе. Я асабіста прасачу, каб гэты чалавек у ёй адправіўся, куды трэба.

— І куды ён адправіцца? — насцярожана папытаўся адзін з жаўнераў, не вельмі прыязна паглядаючы на фаварытку. — Спадзяюся, у турму?

Француженка пагардліва зморшчыла нос.

— Гэта, вашамосць, вас не тычыцца.

Да красуні амаль пагрозна наблізіўся яшчэ адзін шляхцюк, малады, рудавусы, апрануты не ў канфедэрацкую форму, а ў кунтуш з дарагога серабрыстага саету з сабалямі і жупан з пералівістай зялёнай парчы. Дыяментавы гуз ззяў на шапцы, як зорка Венера. Відаць, багаты пан са сваім аддзелам.

— А я чуў, што яснавяльможны князь вылучае атрад, які мусіць суправадзіць карэту з гэтым здрайцам да мяжы з Прусіяй. Каб, значыць, схаваўся ад пакарання!

Вочы маладога пана гарэлі гневам. Некалькі шляхцюкоў за ягонай спінай гнеўна загулі.

— Нагадваю вашамосцям, што рашэнні тут прымае толькі вялікі гетман, якому вы прысягалі на вернасць!

Каля мадам д'Асэ, як дуб ля асіны, з'явіўся белавалосы волат у нямецкім строі з чорнага аксаміту, вышытага срэбрам. Абвёў светлымі, амаль белымі вачыма шляхцюкоў, і тыя незадаволена змоўклі. Доктар Лёднік схаваў нататнік і сустрэўся паглядам з Германам Ватманам, ён жа граф Пянткоўскі.

— Ну што, Бутрым, збірайся ў дарогу! — выскаліўся волат. — Ты ж не хочаш, каб цябе павесілі альбо засеклі панове-брацця? Яснавяльможны князь Багінскі знайшоў найлепшае выйсце — адправіць цябе як мага далей, у бяспечнае месца. Вось і рэчы твае падрыхтавалі...

Пахолак нёс Бутрымаву скураную сумку з Альбукасісавым шлемам. Шаблю Чорнаму Доктару вяртаць не збіраліся.

Мадам д'Асэ распарадзілася, каб за ёй заехалі да скрайняга намёту, яна пойдзе пераапранацца ў дарожнае.

На сонца наплылі нахабныя хмаркі, нагадваючы, што вясна не абавязаная ўвесь час быць у адным настроі. А вось і карэта... Запрэжаная чацвёркай коней, дыхтоўная, з закратаванымі вокнамі.

Лішніх сведкаў адагналі далей. Дзверцы карэты, якая спынілася перад Чорным Доктарам, адчыніліся нібыта самі па сабе.

— Ну, Бутрым, давай, сядай! Паедзеш з усімі выгодамі!

Насмешны голас Ватмана нібыта падштурхнуў Лёдніка ў спіну. Доктар паставіў ужо нагу на падножку.

— Чакай, васпан... Штось я забыўся, — граф Пянткоўскі затрымаў Лёдніка за парваны рукаў.

— Разумееш, доктар, — голас Ватмана быў салодкі, як пераспелая чаромха. — Ты зараз знерваваны, злосны... Твае спадарожнікі трохі баяцца, каб ты чаго не ўтварыў дарогай. Таму — дзеля тваёй жа бяспекі... — Ватман выбачаўся так прыніжана, што нават вельмі наіўны чалавек западозрыў бы здзек. — Ты ўжо прабач... Гэта ненадоўга... Выцягні рукі.

Тут жа падскочыла двое здаровых жаўнераў, і запясці Лёдніка апляла вяроўка.

— Вось цяпер нішто не перашкодзіць цёплай сустрэчы старых сяброў!

Герман Ватман быў радасны, як дзяк на масленіцу. І гэткім жа радасным выглядаў даўгалыгі пан з вадзяніста-зеленкаватымі вачыма, які, пяшчотна

прыціскаючы да сябе атрыманую толькі што скрыню са старажытнай прыладай арабскага хірурга, высунуўся з карэты:

— Заходзь, Скарамуш! Не бойся, я прысягнуў князю Багінскаму, што будзеш ты ў нас жывы і здаровы.

— Бяскоўскі... — скрозь зубы прасіпеў Лёднік і адкаснуўся, але яго адразу ж запхнулі ў экіпаж і пасадзілі ў адмысловы закуток, агароджаны кратамі.

Пад’ехала і абяцанае князем суправаджэнне — з дзясятак канфедэратаў, сярод якіх апынуўся і рудавалосы шляхцюк. Але Давыд Ляйбовіч гэта ўжо не разглядаў, бо кулём нёсся да таварышаў, што чакалі ля валуна пад бярозкамі.

Што ж, гэта быў шанец... Адбіць доктара ў невялічкага атрада — зусім не тое, што ў цэлай арміі...

Драгун, аптэкар ды шкаляр, седзячы на конях, напружана ўзіраліся ў дарогу з-за дрэў.

— Цікава, для чаго з імі едзе гэтая гнюсная фаварытка? — прагаварыў Вырвіч, якому дужа не спадабалася спроба красунькі залучыць Лёдніка да аўстрыякаў.

— Раз яна дамаўлялася з землякамі-французамі, дык князь і адправіў яе прасачыць за выкананнем дамовы... Магчыма, грошы яму прывезці, — меланхалічна адказаў Давыд. — Знайшла спосаб з’ехаць... Сысці, пардон, з ненадзейнага карабля.

Ружова-шэрая паверхня валуна была цёплай, быццам нагрэтая не яшчэ кволым веснавым сонцам, а летнім, спякотным. Кажуць, камяні калісь на Беларусі раслі, пакуль Маці Божая, якая хадзіла па грэшнай зямлі басанож, не пабіла аб камень нагу.

— Едуць!

Алесь ледзь утрымаўся, каб не паслаць каня ў намёт.

Рушылі следам, каб толькі не выпускаць з вачэй. Пранціш планаваў дачакацца, пакуль атрад, які перавозіць Лёдніка, спыніцца на начлег. А там Бог бацька, не першы раз уцёкі ладзяць...

Згадалася легенда, якую Вырвіч чуў ва ўніверсітэце Манпелье. Пра паўночнага караля, магутнага прыгажуна, непераможнага, ганарыстага... Ягонае войска разбілі ў жорсткай сечы, скарыстаўшыся здрадай.

На радзіме караля барды і менестрэлі наперабой сачынялі ўрачыстыя песні пра яго, героя, які мужна загінуў, забраўшы з сабою мноства ворагаў. А праз шмат гадоў адзін з ваяроў, які шчыра захапляўся ўладаром і тужыў па ім, патрапіў у горад ворагаў. І там, у гнілой канаве, сярод рабоў пабачыў свайго караля. Адразу пазнаў яго па рудых валасах... Але кароль быў пачарнелы ад голаду і пакутаў, стары, скалечаны, схвастаны бізунамі, у ланцугах, і пакорліва капаў вільготную зямлю, не падымаючы вачэй...

І тады ваяр зрабіў выгляд, што не пазнаў свайго ўладара. Праехаў паўз яго, вярнуўся дадому і нікому не расказаў пра пабачанае.

Таму што хацеў, каб народ памятаў іншага караля, які не пабываў у рабстве. Таму што кароль, той, якім быў раней, таксама не хацеў бы, каб ведалі пра ягоную ганьбу.

Гісторыя здавалася занадта жорсткай для таго, каб быць выдумкай.

Праз сасновы лес, стромы, хоць зараз на кожнае дрэва прыладкоўвай ветразь, дарога віхляла згодна волі маленькай рачулкі, якая за стагоддзі вымыла імклівым сваім струменем ладныя адхоны. Карэты даўно ўжо не было бачна, і Вырвіч баяўся, што яны зусім з ёю размінуцца на нейкім скрыжаванні. Але раптам за адным з паваротаў давялося рэзка спыніцца: там, наперадзе, карэта стаяла, яе абкружалі шляхцюкі з аховы... Што такое?

Вырвіч саскочыў з каня, пакінуў яго на спадарожнікаў і, хаваючыся за кустамі і дрэвамі, падабраўся бліжэй. Канфедэраты ўжо адчынілі карэту і вывалаклі адтуль Лёдніка. Рамізнік ды лёкай Бяскоўскага, атрымаўшы кухталёў і абяззброеныя ваяўнічымі ліцвінамі, сціпла прыселі на запяткі карэты. Сам Бяскоўскі сунуўся быў з пратэстам, але яго хуценька супакоілі, і прагрэсіўны доктар зашыўся ў выратавальнае чэрава экіпажу, як смоўж.

— Ягамосць князь Багінскі загадаў перадаць доктара месье Бяскоўскаму! — між тым гучна, аж рэха гуляла ў соснах, абвяшчала, стоячы на прыступцы карэты, як на п'едэстале, абураная д'Асэ. А кабета не з палахлівых, аднак. — Вялікі гетман даў слова, што не ўчыніць шкоды жыццю і здароўю пана Лёдніка! Вы што, хочаце нанесці абразу вялікаму гетману? Парушыць ягоную прысягу?

Красунька ваяўніча ўпёрла руку ў бок, абцягнуты брунатным аксамітам дарожнай сукенкі.

Шляхцюкі, аднак, счараванню не паддаваліся, ад душы штурхаючы Лёдніка, у якога па-ранейшаму былі звязаныя рукі, у бок ад дарогі, на прыветную роўненькую палянку з жоўтымі кветачкамі мацярдушкі... Вырвіч напружыўся і дастаў пісталет. Калі Лёдніка ўзнамерыліся забіць, трапная куля можа змяніць расклад... А тады і самому кінуцца, адцягваючы ўвагу. Гэх, каб яшчэ Лёдніку рукі вызваліць, ды ўзброіць!

Раптам, як быццам жаданне драгуна было пачутае, адзін са шляхцюкоў разрэзаў кінжалам вяроўкі на руках доктара.

— А мы ніякім чынам не абразім ягамосць князя. І слова ягонае не парушым! — са зласлівай радасцю абвесціў рудавалосы шляхціц у серабрыстым кунтушы з сабалямі. — Лёднік — шляхціц, хоць і но-овы!

Апошняе слова было прамоўлена з сапраўдным здзекам. Да тых, хто атрымаў шляхецтва не па крыві, стаўленне было пагардлівае.

— Таму, як шляхціц, ён павінен абараняць свой гонар, ці не так? — працягваў рудавалосы. — І ягамосць Багінскі ніякай адказнасці не нясе, калі пан Баўтрамей Лёднік прыме выклік на двубой.

Паны-браты ўхвальна загулі, і сэрца Пранціша сціснула трывога. Раптам адзін са шляхцюкоў, плячысты, як млынар, хуценька падскочыў і са смакам плюнуў на доктара...

— Ну што, будзеш біцца, альбо нам пляваць на цябе, пакуль у сліне не захлынешся?

Лёднік прамаўчаў, толькі працягнуў руку па шаблю.

Рудавалосы выглядаў вельмі незадаволеным, што выклік першым кінуў не ён. Шляхта ўтварыла кола. З акна карэты з адчаем пазіраў Бяскоўскі, д'Асэ стаяла на прыступцы, ухапіўшыся за дзверы, яе вочы блішчэлі ад цікаўнасці. Што ж, гульня са смерцю — калі гуляешся не ты — самае заманлівае ў свеце відовішча.

Пранціш апусціў пісталет. Двубой — сапраўды справа гонару, тут аніяк не ўмяшаешся. Застаецца спадзявацца, што Лёднік у дастаткова добрым стане.

Плячысты шляхцюк зняў шапку з дыяментавым гузам і цяжкую чугу і пагрозна падняў шаблю, топчучыся на месцы, як бычок, што нацэліўся рогамі на суперніка. Лёднік скінуў сваю падраную куртку, застаўшыся ў падранай кашулі. Пацёр запясці, бо рукі, відаць, сцерхлі ад вяроўкі, крутануў шабляй у паветры, выпісаўшы срабрыстае кола, і застыў у расслабленай паставе, апусціўшы лязо, нібыта проста выйшаў падыхаць свежым паветрам. Вырвіч трывожна ўглядаўся ў ягоную высокую постаць, ацэньваючы шансы. Прамінулыя гады не змусілі спіну доктара сагнуцца, а цела пацяжэць. Хударлявы,

па-ранейшаму жылісты, падцягнуты, толькі чорныя валасы, што неахайна падаюць на плечы, з сівізною.

— Татка адаб’ецца, — упэўнена прашаптаў побач голас. Алесь Лёднік, нягледзячы на загад, ціхенька прабраўся да дзядзькі Франтасія і цяпер назіраў за двубоем з-за кустоў. — Ніхто яго не пераможа!

Словы паніча пацвердзіла тая імклівасць, з якой доктар нечакана сустрэў удар, змусіў суперніка перакруціцца і выбіў у яго шаблю хітрым адмысловым рухам. Шляхцюк схапіўся за знямелую руку і аж завыў ад злосці.

— Двубой не скончаны! Біцца, пакуль супернік не зможа ўстаць!

Гледачы пацвердзілі правіла, і Бутрым незадаволена адышоўся, чакаючы, пакуль шляхцюк не падыме сваю зброю. Пранціш ведаў, як Лёднік не любіць раніць і забіваць, дзеля чаго гадамі адпрацоўваў дасканалыя спосабы абяззбройваць ды аглушаць. Вось і цяпер — не паспеў супернік як след памахаць шабляй, атрымаў плазам ляза каля вуха і зваліўся капою на маладую траўку...

— Панства задаволенае?

Голас доктара гучаў так спакойна, што не раз’юшыцца было немагчыма.

— Яшчэ чаго! — рудаволасы шляхціц радасна вылез наперад, расштурхаўшы таварышаў. — Будзеш біцца па чарзе з усімі намі, пакуль не атрымаеш свой прысуд, мярзотнік!

Пранціш схаладнеў: значыць, канфедэраты задумалі суд гонару, як страту для здрадніка, якім лічылі доктара. Такое было прынята, напрыклад, у альбанчыкаў — прыбліжаных князя Караля Радзівіла, што стварылі нешта накшталт рыцарскага ордэна, у які ўвайшлі найперш сябры юнацтва князя з прадмесця Нясвіжа Альба. У іх існаваў свой унутраны суд. Той з альбанчыкаў, хто правінаваціўся недаравальна, мусіў біцца па чарзе з кожным з брацтва, пакуль не загіне. Падобнае павінна было адбыцца і тут.

— Гэй, пане браце, пры ўсёй павазе — чарга не твая! — рашуча адсунуў рудавалосага ўбок высокі светлавалосы шляхцюк у канфедэрацкай белай світцы. — Мы яшчэ перад тым, як сюды ехаць, чаргу вызначылі, вашамосць!

Рудавалосы абурыўся:

— Я маю права спагнаць з яго жыццё першым! У мяне да гэтага нягодніка асабісты рахунак!

— У нас ва ўсіх да яго асабістыя рахункі! — злосна ўсміхнуўся светлавалосы шляхцюк. — Для таго і паехалі за ім. Гэты паганы доктар майго брата, параненага пад Капанічамі, маскавітам здаў, і тыя яго замардавалі!

Бутрым ускінуў галаву, пачуўшы рэпліку.

— Запэўніваю вашумосць, што спрабаваў дапамагчы вашаму брату. На жаль, рана была занадта цяжкая, пашкоджаны мозг, а я тады не меў дастатковых ведаў... Мне вельмі шкада...

— А мне шкадоба вашамосці патрэбная, як ачоскі кудзельныя!

Шляхцюк, адсунуўшы рудавалосага, плюнуў на Лёдніка і кінуўся на яго. Той ашчаджаў суперніка, як мог. Ухіляўся, круціўся, нібыта выконваючы складаны танец, усё хутчэй, хутчэй... Урэшце брат загінулага пад Капанічамі канфедэрата змакрэў, як мыш, і ледзь дыхаў, і нават не заўважыў, як упаў, аглушаны плазам шаблі. Бутрым, відаць, спецыяльна не стаў прыніжаць яго, абяззбройваючы.

Мадэмуазэль д’Асэ гучна запляскала ў ладкі, выказваючы захапленне фехтавальнаму майстэрству Чорнага Доктара. Ад чаго злосці ў прэтэндэнтаў на ягонае забойства не паменела. Адзін за адным супраць Бутрыма выходзілі паны-браты, не забыўшыся рытуальна плюнуць на нягодніка. Ятрыліся, кідаліся на яго, лаяліся і валіліся снапамі на палянку, часам заліўшыся крывёй ад

неглыбокай раны на галаве. Доктар спрабаваў было прасіць наступнага суперніка даць яму час на перавязку папярэдняй ахвяры, але шляхцюкі вырашылі, што гэтак ён хоча здабыць сабе перадых. Біся, здрайца!

І Лёднік біўся. Змушаючы гледачоў забыцца, што ён усяго толькі чалавек, патрапаны жыццём і змораны апошнімі падзеямі. Шабля свістала, як крыло срэбнага стрыжа, і гледачы ўсё часцей з нянавісцю шапталі: «Вядзьмак!»

Але самае горшае, што тыя, каго ён аглушыў, пачалі ачуньваць. Стогнучы, лаючыся... І зноў ірвучыся ў бойку. Недарэмна гадоў дзвесце таму ўчынак Лёдніка са шкадаваннем супернікаў палічылі б вар'яцтвам і баязлівасцю. У 1559 годзе пляменнік маршала Францыі Ашон Мурон счапіўся з капітанам Матасам. Стары вайсковец хуценька выбіў шпагу ў смаркача, параіў навучыцца фехтаванню і хацеў сысці... Ды ўгневаны юнак ударыў яго ў спіну. І што, хтось асудзіў паскудніка? Наадварот, здзіўляліся, як гэта вопытны Матас так здурыў. Перамог ворага — дабівай, альбо той ударыць у спіну. І ніхто яго не асудзіць. Бо прыняць шкадаванне ад ворага — ганьба на ўсё жыццё! Доктар, відаць, зразумеў пагрозу, таму што цяперашняга свайго суперніка параніў у абедзве рукі, каб не мог трымаць шаблю, і толькі тады аглушыў.

Кусты зашаргаталі, змусіўшы Пранціша насцярожыцца.

— Пан Лёднік доўга не вытрымае, — пачуўся злева шэпт. Давыд Ляйбовіч, які прыпоўз сюды, кінуўшы недзе коней, нервова грыз нейкую сцяблінку, углядаючыся ў сцэну. — Ён жа не жалезны. Прагоняць яго яшчэ па адным коле — і прыкончаць.

Доктар і праўда быў задыханы, чорна-сівыя валасы зліпліся ад поту, кашуля парэзаная, у чырвоных плямах, дзе падрапала лязо ворага...

— Чаго мы чакаем, пан Вырвіч? — нецярпліва прашаптаў справа ад Пранціша Алесь. — Іх ужо мала засталося — кінемся нечакана, і вікторыя!

Вырвіч прытрымаў паніча за рукаў.

— Я ж тлумачыў вам, пан Аляксандр Лёднік, двубой — справа гонару. Ваш бацька прыняў выклік. Яму апошні бой застаўся, з тым рудым задзіракам. А па другім коле мы ім біцца з Бутрымам не дамо. Гэта ўжо супраць правіл. Ён абразу змыў.

Давыд скептычна хмыкнуў, выказваючы сваё стаўленне да шляхецкага балету вакол гонару. Як можна спакойна назіраць, як твайго сябра забіваюць, і не ўмяшацца?

А Вырвіч і блізка спакойны не быў.

Ён разумеў, што Лёднік учыніў бы іначай, і не стаў бы вычэкваць у кустах, пакуль пан Вырвіч абеліць свой гонар.

Але гэта было мацней за Пранціша. Ён быў так выхаваны. Усведамленне, што гонар каштоўней за жыццё, цякло ў ягонай крыві, і ніякія вальнадумныя філасофіі гэтага не перабілі. Калі б Лёднік, які падняўся да высокага статусу шляхты, адмовіўся зараз біцца з тым, хто на яго плюнуў, Вырвіч нічога б не сказаў і дапамог бы выратавацца. Але нейкі прыкры асадак застаўся б, пацверджанне таму, што прасталюдзец, мяшчук не можа падзяляць высокія сармацкія ідэалы.

Шабля рудавалосага, да якога нарэшце дайшла чарга, паляцела на траўку, хоць на яе ўладальніку былі адмысловыя гусарскія пальчаткі, а дзяржальна шаблі абцягнутае галюшой — шурпатай скурай акулы. Шляхцюк, які скінуў толькі кунтуш, а біўся ў расшпіленым жупане, ганарыста задраў галаву і запрашальна раскінуў рукі:

— Давай, забівай, чарадзей! Яшчэ адзін Агалінскі будзе на тваім чорным сумленні!

Баўтрамей апусціў шаблю, ягоныя вусны ўздрыгнулі:

— Вашамосць пан Андрусь Агалінскі, калі не памыляюся?

— Што, пазнаў мяне, доктар? А можа, памятаеш і майго бацьку, пана Цыпрыяна Агалінскага, і маю маці, пані Галену з Агарэнічаў, і брата майго загінулага Аляксандра? Мне распавялі, вядзьмак, што з-за твайго чараўніцтва нашу сям'ю няшчасці спасціглі!

Твар рудавалосага стаў чырвоны ад гневу, ноздры раздзімаліся, ледзь парай не пыхкаў, як казачны цмок.

Лёднік збялеў. Менавіта Цыпрыян Агалінскі пазычыў яму грошай на здабыццё філасофскага каменю, менавіта яму няўдалы алхімік быў прададзены за даўгі... І менавіта там, у акрутным рабстве, доктар сустрэўся з пані Галенай Агалінскай, якая яго пашкадавала і не дала замучыць. І пасля, вызвалены, доўга не ведаў, што ў чужой сям'і расце ягоны сын. Брат пана Цыпрыяна Гервасій, з якім Лёднік і Пранціш ездзілі ў Ангельшчыну, напачатку збіраўся забіць доктара, які спакусіў ягоную сваячніцу. Але столькі разам у падарожжы пражылі, столькі разоў доктар яму жыццё ратаваў, што пан Гервасій ацаніў. Усё вырашыў выпадак. Дзіця ледзь не патанула разам з карэтай. Пан Гервасій пляменніка выцягнуў, але пра гэта нікому не сказаў... І аддаў хлопчыка сапраўднаму бацьку.

І вось цяпер перад Лёднікам стаяў старэйшы сын пані Галены Агалінскай Андрусь. Дзяцюк ладны, руды ў бацьку, і нянавісць да доктара ўспадчынніў.

— Ваша маці, светлай памяці пані Галена, не хацела б, каб я з вамі біўся, пан Андрусь.

Лёднік дэманстратыўна ўторкнуў у зямлю шаблю і скрыжаваў рукі на грудзях. Пранціш ведаў, наколькі доктар лічыць сябе абавязаным перад пані Галенай.

Вырвіч чакаў, што пан Андрусь Агалінскі пачне ўгаворваць суперніка падняць зброю, працягнуць двубой... Але рудавалосы толькі жорстка і задаволена ўсміхнуўся.

— Што ж, так і лепей. Спіна ў цябе зажыла, доктар?

У голасе пана Агалінскага гучала пагардлівая насмешка.

— Я ж колькі разоў бачыў, як цябе на нашай стайні лупілі, скуру дзёрлі. Як пан бацька нос твой крывы ламаў, у каршэнь цябе тоўк. Мала, на жаль, тоўк! Ты — халоп, хоць увесь патэнтамі на набілітацыю абвешайся. Які тут можа быць двубой? Ганьба — з такім шаблю скрыжоўваць... Чуеце, паны-браты? Дарэмна вы сармацкі кодэкс тут захоўвалі. Тут вось так... Як з сабакам.

І наставіў на бяззбройнага Лёдніка пісталет, які быў прыхаваны дзесь за поясам, прыкрыты расшпіленым жупанам. Няўжо загадзя прадугледжваў такі сыход? Паны-браты, якія заставаліся пры памяці, злосліва маўчалі, не падтрымліваючы, але й не перашкаджаючы прыстрэліць ведзьмака, што іх так зганьбіў. Мадам д'Асэ коратка ўскрыкнула, у голасе звінела расчараванне.

Гэта было ўжо занадта, і Вырвіч кінуўся наперад з пісталетам у адной руцэ і шабляй у другой. Але Аляксандр Лёднік аказаўся спрытнейшы, і ўжо стаяў каля бацькі, скіроўваючы на ягонага суперніка пісталет.

— Васпан учыняе ганебна! — голас малодшага Лёдніка трымцеў ад гневу. — Мой пан бацька перамог вас сумленна! Я не дам вам здзейсніць нявартае шляхціца злачынства!

Пан Агалінскі агаломшана ўтаропіўся ў высокага хударлявага хлапчука з цёмнымі вачыма. Доктар імгненна засланіў сына сабою, выхапіўшы з зямлі ўторкнутую шаблю, і цвёрда патлумачыў:

— Гэта мой сын, вашамосць. Аляксандр Баўтрамееў Лёднік. Спадзяюся, у васпана хопіць сумлення не ўцягваць у бойку дзіця?

— Я не дзіця, я шляхціц! — тут жа абурана выкрыкнуў Аляксандр. — Мой пан бацька на полі бойкі шляхецтва здабыў, выратаваўшы ягамосць вялікага гетмана Радзівіла! Вы не мусіце абыходзіцца з намі, як з мужыкамі!

Рудавалосы пан Андрусь разгублена апусціў пісталет і ўглядаўся ў паніча, як жабрак у сваю торбу, не верачы, што там штосьці ёсць. Потым у ягоных вачах бліснула сапраўднае шаленства.

— Не хачу нават думкі дапускаць, якая зараз у галаву прыйшла...

Вырвіч стаў каля доктара, насцярожна азіраючыся вакол, каб не прапусціць нападу збоку. Лёднік толькі скасавурыўся на драгуна і лёгка кіўнуў — здзіўляцца з'яўленню выратавальнай каманды і сварыцца будзе потым. Цяпер і Пранцішу, і Бутрыму вельмі не падабалася, што Андрусь Агалінскі не адрываў позірку ад Алеся, бо, падобна, узрушыўся падабенствам доктарава сына і свайго загінулага брата. Час прамінуў, але малодшы Лёднік і ў тры гадзікі надта ж быў падобны да свайго сапраўднага таткі, а значыць, знешнасць меў запамінальную. Дый ад пані Галены, па сцверджанні Лёдніка, штось успадчынніў. А калі Агалінскі палічыць гады... Ды ён якраз і лічыць. Здавалася, так і чуваць у галаве рудога шчоўканне абакі — адмысловай прылады для арыфметыкі.

— Вашамосць павінен разумець, што не кожная нашая думка, якая прыходзіць у галаву, мусіць быць агучаная, — як мага больш шляхетна, адпаведна палітэсу прамовіў да пана Андруся Пранціш. — Бо нават Госпад нас вучыў, не тое ганьбіць, што ўваходзіць, а тое, што выходзіць з нашых вуснаў!

Ну няўжо дурны Агалінскі не зразумее, на што намякае драгун! Зараз пры сведках штось ляпне, як шротам у качыны хвост — і будзе загубленае добрае імя пані Галены, дый усяе сям'і, не кажучы пра лёс незаконнанароджанага Алеся. З-за меншага жыцці кроіліся! Вырвіч памятаў, як яшчэ ў Варшаве, калі ён служыў у конным рэгіменце, падчас сваркі адзін бязвусы шляхцюк кінуў другому, што той «нячыстага ложа сын». І бацька абражанага мусіў прыязджаць, і ў суд падаваць, і сведчыць, што сын ягонай «пачсцівай малжонкай» народжаны, і шляхецтва пацверджваць усімі клейнодамі... Калі ідуць чуткі пра пералюбства ў сям'і — нараджэнне кожнага дзіцяці пад падазрэннем, так што і пан Андрусь свой кубак дзёгцю атрымае. Мусіць, Агалінскі гэта зразумеў, таму што пачырванеў, як бурак, сунуў пісталет за пояс і прагаварыў скрозь зубы:

— Нам трэба пагаварыць сам-насам, пан Лёднік.

Доктар з Агалінскім шапталіся хвілінаў дзесяць, стаўшы пад стромай сасной, на якой гайдаліся вясёлыя рудыя свечкі, унутры якіх, калі абадраць луску, хаваецца белая мякаць з ёлкім прысмакам. Яе так прыемна жаваць, не думаючы, што з мяккай пупышкі вырасла б шышка — цвёрдая, няўежная... Як змяняецца само жыццё пад старасць.

— Дык што, пане-браце, хто зараз з доктарам б'ецца? — нарэшце не вытрымаў адзін са шляхцюкоў, трымаючыся за галаву, якая ўсё яшчэ, відаць, гула ад удару, адмеранага прафесарскай рукою.

— Мушу расчараваць панства, з доктарам больш ніхто не б'ецца, — шырока ўсміхаючыся, патлумачыў Вырвіч. — І ў карэце нікуды не едзе пан доктар. У яго свой шлях, панове.

Выцягнуты белы твар Бяскоўскага ў акне карэты яшчэ больш выцягнуўся. Д'Асэ таксама залезла ў карэту, мусіць, каб не паказваць злосці, і стаілася, як рысь у густым голлі.

Скончылася ясна чым — панове, хто яшчэ мог біцца, кінуліся на новага ворага, блакітнавокага русачубага драгуна... І як той ні штурхаў Алеся ў бок з палянкі, хлапчук таксама замахаў шабляй.

Лёднік, пабачыўшы пагрозу для сына, спыніў размовы пад соснамі ды абрынуўся на супернікаў...

А пан Агалінскі паводзіўся дзіўна. Пастаяў, скрыжаваўшы рукі на грудзях, адзін раз толькі ўмяшаўся, адагнаў ад Алеся свайго ж таварыша, раз'ятранага, што нейкая драбяза на яго лезе з шабляй. «Мы з дзецьмі не ваюем!..» Потым неяк непрыкметна знік. Праўда, паспеў ад усяе душы гучна пажадаць доктару ў бліжэйшы час здохнуць ад сумленнай шаблі шляхціца, бо так будзе для ўсіх лепей. Мусібыць, даведаўшыся, што брат жывы, не ведаў, як учыняць. Забіць бы паскудніка, што спакусіў матку — але ж не на вачах брата, хай і зводнага...

Лёднік круціўся віхорам, не даючы нікому наблізіцца да сына. Пранціш не адставаў... І бойка скончылася раней, чым добры хрысціянін вып'е збан зваранага братамі дамініканамі піва. На палянцы ў атачэнні соснаў, залітыя веснавым сонцам, у аздабленні жоўтых кветачак мацярдушкі ціхенька ляжалі непрытомныя ваякі. Як запэўніў Лёднік, праверыўшы кожнага — жывыя.

Першае, што зрабіў доктар — моцна абняў сына. Другое — моцна выгаварыў: на каго кінуў маці з малой сястрычкай? Нашто ў бойку палез, як верабей у крумкачова вяселле?

Падышоў з коньмі Давыд, насцярожана абводзячы вачыма палянку.

— Ну што, рушылі? Здаецца мне, пагоня едзе...

— Чакайце...

Лёднік імкліва наблізіўся да карэты, шабля пагрозна блішчэла ў ягонай руцэ.

— Бяскоўскі, скрынку аддай!

Не, ну каму што — а гандляру ўкрасці... Альбукасісаў шлем Бутрыму падавай! А між тым сюды сапраўды набліжаўся вялікі атрад. Яго было добра відаць унізе, на адрэзку дарогі, што праглядаў паміж соснаў на адхоне.

Лёднік тузануў дзверцы карэты і замёр.

— Гэтая прылада належыць не табе, Скарамуш!

Бяскоўскі цэліўся ў Лёдніка з пісталета, ягоны перакрыўлены твар ажно зелянеў ад злосці, як у якога мясцовага балотніка...

Невядома, ці выстраліў бы ён, але мадам д'Асэ аказалася хутчэйшай, і Бяскоўскі абсунуўся на лаўку. Ніхто нават не зразумеў, чым ваяўнічая дама яго прыклала.

— Месье, зараз жа з'язджаем! Мая прапанова ў сіле!

Француженка выскачыла з карэты і ўчапілася за кашулю доктара. Той акуратна вызваліўся.

— Не цікавіць, — адрывіста паўтарыў Лёднік, нават не падзякваў за выратаванне. Не гледзячы на расчараваны твар мадам, сунуўся ў карэту, хапануў з-пад боку непрытомнага Бяскоўскага запаветную сумку і сышоў.

— Па конях!

Да здзіўлення драгуна, і д'Асэ не збіралася заставацца і сустракаць пасланцоў палюбоўніка. Па ўсім выглядала, яна не менш, чым Вырвіч і Лёднік, прагла тае сустрэчы пазбегнуць. Карэта рванула з месца.

Раз'ехацца ў розныя бакі не выпадала, бо дарога праз лес вяла адна, а з другога боку набліжалася пагоня.

Вецер свістаў у вушах, як малады пастушок. Вырвіч з камандай абагналі карэту, якая зносіла непрытомнага Бяскоўскага і фаварытку Багінскага. Яе злосны тварык бялеў у акне. Чаго яна ўцякае?

А ў каманды Вырвіча шансы ёсць... Коні свяжэйшыя, чым у пагоні. Карэту ўжо абагналі. Толькі б да якога скрыжавання дабрацца, збочыць з дарогі, што віхлялася, абмежаваная злева адхонам ракі, на якім ледзь трымаліся вывернутымі каранямі сосны, а справа — зарослым лесам пагоркам.

Пранціш зыркнуў цераз плячо, скрозь сосны было відаць, што людзі Багінскага даганялі карэту. Наперадзе прышпорваў каня белавалосы волат, за ім скакаў руды шляхцюк... Пан Агалінскі да пераследнікаў далучыўся! Значыць, не спагнаў яшчэ злосці на доктары...

— Спыні карэту, сучка! Аддавай карону, або, як жабоцьку, раздзяру!

Гучны крык Германа Ватмана, здавалася, страсянуў галіны і пазбіваў гнёзды, якія толькі-толькі зладзілі ў вершалінах лясныя птахі.

Вось яно што — д'Асэ, аказваецца, сцягнула ў князя Багінскага карону святога Альфрэда! Вось чаму так спяшалася з'ехаць і Лёдніка зманьвала! Вось чым спадзявалася здабыць ласку аўстрыйцаў! Меў рацыю доктар: пакуль не вернецца рэліквія на радзіму, так і будзе мяняць гаспадароў, прыносячы ім смерць і пакуты.

Але, значыць, Ватман з кампаніяй не за імі гоняцца, а за карэтай! Вось і добранька...

Дарога завярнула яшчэ раз, голле з кволымі зялёнымі лісцікамі балюча сцебанула драгуна па шчацэ. Ззаду пачуўся адчайны крык францужанкі. Жаласны-жаласны:

— Пан Ватман, ратуйце! Бяскоўскі — здраднік! Ён абакраў ягоную светласць! Мяне гвалтам зво-озіць!

Вось жа хітруля...

Наперадзе нарэшце паказалася развілка з шырокай высахлай лужынай, і можна было звярнуць направа, на вузейшую дарогу, дзе карэце не праехаць. Новая дарога, амаль сцежка, жоўты пясочак на ёй прыветна праглядаў скрозь шэрую ігліцу, узбіралася наверх, на ўзгорак... Зараз пераедуць праз яго і зусім адарвуцца, схаваюцца з вачэй пагоні. Алесь, лёгкі і ўчэпісты, ужо быў па той бок узвышша — а ў хлопца добрыя здольнасці да верхавой язды. Дзядька Пранціш вучыў!

Вырвіч азірнуўся яшчэ раз: карэту на павароце павяло ў бок, яна валілася з адхону.

Яшчэ лепей: гэта канчаткова затрымае пераследнікаў. Чамусьці ніхто з іх не крычаў: «Лавіце доктара». Можа, лічаць, што ён у карэце?

А вось сам Агалінскі, падобна, толькі доктара і выглядаў, прыберагаючы гэтую здабычу для сябе. Бо адарваўся ад паплечнікаў і папёр наперад, як шалёны, звярнуў на тую ж сцежку і вось ужо выразна бачыць ненавісную кампанію. І Лёднік якраз уз'ехаў на ўзвышша...

Пранціш з жахам заўважыў, як рудавалосы вершнік прыцэльваецца ў спіну доктара, што вось-вось з'едзе з вяршыні ўзгорка па той бок і апынецца ў бяспецы...

Вырвіч, дастаючы свой пісталет, прытрымаў каня, хацеў крыкнуць, папярэдзіць Бутрыма, але не паспеў. Штосьці цяжкое ўдарыла драгуна па галаве, і святло згасла.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

## Як Пранціш Вырвіч адвакатам стаў

Багун — расліна атрутная, балотная... На беларускай дрыгве толькі такая і можа вырасці — з шорсткім сцяблом, які не паддаецца пальцам, з ёлкім пахам і дробнымі белымі кветачкамі з адценнем ружовага... Адвар багуну дапамагае нават ад самага акрутнага кашлю. Вытрымай яго лісце на алеі — і вылечыш самыя страшныя гнойныя раны. Але варта перадаць багуну, асабліва глынуць

у адвары — і ён цябе атруціць, разаб'е паралюшом... Нельга верыць раслінам, якія выраслі на дрыгве.

Дробныя кветачкі багуну зноў гайдаліся перад вачыма, ёлкі смак драў горла, сушыў... Добра, што не язмін — з тае кветкай былі звязаныя надта непрыемныя ўспаміны, праўда, зараз цяжка было згадаць, якія. Ад вострага паху галава аж расколвалася — не павярнуць... І здавалася, што пад спінай — дрыгва. Пругкая, хісткая паверхня, сплеценая з ненадзейных тонкіх карэньчыкаў ды раскі, а пад ёю — чорная вада, у якой няспешна праплываюць цмокі, ускалыхваючы бездань. І ў любы момант праарвецца зялёнае покрыва, і ты будзеш марудна, па-вар'яцку павольна апускацца ў тую бездань, захлынацца густой вадкасцю, бездапаможна назіраць, як праплываюць, кружляюць вакол пачвары ў прадчуванні пачастунку...

Вырвіч змаргнуў вачыма. Кветачкі багуну аддаліліся, зрабіліся пляскатымі, нястрашнымі... І ператварыліся ў малюнак на столі зеленкавата-жоўтага колеру. Пранціш перавёў позірк убок — усё роўна не павярнуцца, можа, і праўда атруцілі яго багуном? Справа змяіліся зялёныя расліны на парцьеры з залацістага шоўку. Злева выявіўся пакой, заліты святлом. Пранціш краем вока разгледзеў высокую разную шафу з зашклёнымі паліцамі, застаўленымі кнігамі, кветкі на століку ў парцалянавай вазе, побач штось белае, вялікае... Вырвіч з цікавасці паспрабаваў павярнуць галаву... І ледзь не званітавала ад болю. Драгун не стрымаў стогну.

— Вы апрытомнелі, пан Вырвіч!

Над ім схіляўся знаёмы дзявочы твар... Разумны высокі лоб, цёмныя вочы, абведзеныя кругамі стомы, трохі заспаныя, на шчацэ адбітак карункавай наўлечкі... Быццам толькі што прачнулася.

— Які я табе пан, Дамініка Вырвічава! Маё імя Пранціш,— голас сіпеў і рыпеў, як нязмазанае кола, і да вуснаў адразу даткнуўся халодны парцалянавы бок кубка. Вырвіч прагна адпіў... Не язмін, не багун — шыпшына! Добры шыпшынавы напой, які надае сілаў... Ну і яшчэ штосьці сюды адзін вучоны доктар-эксперыментатар пэўне ж накалбаціў...

— Пан Лёднік, хадзіце сюды!

Пачуліся хуткія ўпэўненыя крокі, Вырвіч пабачыў дзюбаносае худое аблічча. Доктар Лёднік не ўскрыкваў ад радасці, не ўсміхаўся, не мармытаў сентыментальныя глупствы. Ён проста вельмі ўважліва і засяроджана зазірнуў пацыенту ў вочы, праверыў пульс, асцярожна памацаў лоб, хмурачыся, як бы вырашаў сур'ёзную навуковую праблему.

Быць пацыентам Лёдніка аказалася вельмі прыемна, нягледзячы на ягоную суровасць — а мусіць, якраз дзякуючы ёй. Такі доктар, упэўнены, надзейны, як горкія лекі, цалкам засяроджаны на табе — ваяр-гардыян, што стаіць паміж табой — і смерцю.

— Што са мной?

Вырвіч пастараўся вымавіць гэта як мага больш весела — але прагучала, да сораму, жаласна...

— Вы, пан Вырвіч, на дзіва спрытны чалавек, — доктар, працягваючы агляд пацыента, гаварыў спакойна, з адценнем някрыўднай насмешкі, а яшчэ віны. — Вы злаўчыліся спаймаць сваім ілбом кулю, якая ляцела ў спіну мне.

— Колькі... — у горле аж сцерхла. Але доктар зразумеў пытанне:

— Ліпень зараз... І, запэўніваю, яшчэ вельмі добры для пана вынік! Шчасце яшчэ, што стрэл быў здалёку, ды куля пайшла наўскос... Вас не спаралізавала, розум, здаецца, у наяўнасці, хаця колькі там таго розуму было, з каціную місу. Хутка станеце на ногі... Я рабіў масаж, так што цягліцы не зусім саслабелі.

— Доктар учыніў цуд! — усхвалявана патлумачыла Дамініка. — Калі вас прывезлі сюды, у Капанічы — рыхтаваліся ў хуткім часе хаваць. Святара паклікалі на сабораванне. Гэта проста неверагодна — з такім раненнем захаваць жыццё!

— Падзякуй, Вырвіч, Абул-Касіму Халафу ібн аль-Абасу аль-Захраві, — прамовіў Бутрым, не зачапіўшыся, але Пранціш ясна адчуваў за іранічным тонам палёгку. Перахваляваўся доктар за цяжкога пацыента. — Каб не ягоная прылада, аперацыя мне дакладна б не ўдалася, і пайшоў бы ты ўслед за тым маім жаўнерам, якога мы ў Капанічы адвозілі... Тады я яшчэ слаба прасунуўся ў расшыфроўцы. Ну і панне Дамініцы падзякуй — яна была маім асістэнтам.

Вырвіч паспрабаваў падняць руку... Віват, удалося! А потым яму дапамаглі і прыўзняцца, падклаўшы пад галаву падушак. Цяпер Пранціш пабачыў, што белае — гэта палатно для будучай карціны, перад ім на мальберце раскладзеныя фарбы. Увогуле, падобна, што жонка падзяляла з параненым мужам пакой. Вунь побач, на атаманцы, змятая падушка і адкінутая неахайна коўдра.

Вырвіч прыпомніў, што ў доўгім забыцці, падчас прасвятленняў, змяшаных з блёкатам, чуў голас Дамінікі, якая супакойвала, угаворвала штось выпіць, а яшчэ распавядала пра нешта... Няўжо ўсе гэтыя тыдні мэнчылася ля ягонага ложка? Гарачая хваля замілавання затапіла чуллівую драгунскую душу...

Пранціш удзячна зірнуў на жонку, і тая нясмела ўсміхнулася ў адказ, нібыта не ведаючы, як цяпер паводзіцца з мужчынам, які называецца яе мужам... Ну, калі ён не ляжыць бяссіла, у трызненні, а глядзіць на яе блакітнымі вачыма і ўхапіў за руку цвёрдымі пальцамі, што звыклі да шаблі.

А Пранціш не збіраўся выпускаць гэтай цёплай рукі... Хопіць, столькі ўжо часу сышло на чаканне. Пакруціўся на падушках — здаецца, прытомнасць нікуды не адлятае, памацаў перавязаны лоб... Нічога, шнар мужчыну прыкрашае! Помніцца, напярэдадні гэтага ранення моцна выцяўся галавой, калі начавалі ў адрыне, гузак амаль на тым месцы, куды трапіла куля. Можа, знак які Гасподзь драгуну падаваў?

— Ну хоць распавядзіце, што ў свеце робіцца, пакуль тут валяўся, як Лазар. З'ездзіў ты, Бутрым, у Полацак?

Доктар пацямнеў тварам, здушыўшы горкі ўздых.

— Не, не ўдалося... Паспею...

Ясна, не мог пакінуць параненага. Пранціш адчуў укол віны: блуканні ліцвінскага Адысея працягваліся.

— Алеся адаслаў да маці з Давыдам, — працягваў распавядаць Лёднік. — Ліст пасля прыйшоў — усё добра. Сафійцы хутка тры годзікі, вывучыла першую малітву і засушыла першыя кветкі для гербарыя. Сушыла ў рэдкім выданні Галена, што Саламея позна ўгледзела. Д'Асэ выкруцілася. Зваліла ўсё на Бяскоўскага, бо на каго ж яшчэ ўсё і звальваць, як не на нябожчыка? Звярнуў шыю Альфонс, калі карэта ўпала з адхону ў рэчку. А мадам — нічога, паспела выскачыць, за карчы ўчапіцца. Карона Святога Альфрэда дзесь на дне рэчкі, мусіць. Так што князь Багінскі зноў надзею на вялікую дапамогу ад Версаля страціў. Спакою ў краі няма.

Доктар уздыхнуў, адкінуўшыся на высокую спінку крэсла, абцягнутага жоўта-зялёным усходнім шоўкам.

— Усё, што здабыў Пуласкі, разбіўшы Суворава — згублена. Дзюмур'е стараўся, як мог. Але Сувораў узяў Кракаў, і Дзюмур'е, як і збіраўся, з'ехаў за мяжу. Касакоўскі яшчэ ваюе, і пакуль удала, і Багінскі збірае войска... Але

пры гэтым барукаюцца і паміж сабою, хто ўзначаліць канфедэрацыю. Порта барцаў не падтрымала. І тыя, хто спадзяваўся, што ўвагу расейцаў адцягне вайна з Турцыяй, гарлаюць пра здраду. Трон дзеляць пры жывым каралі, а ўсе гэтыя крыкі пра яго дэтранізацыю толькі адпалохваюць саюзнікаў. У тых свае каралі маюцца, што рэвалюцыі баяцца, як гарачай смалы. Аўстрыя выганяе канфедэратаў-эмігрантаў, Прусія пасылае расейцам артылерыю... Падобна, усе між сабою дамовіліся, як хворую дзяржаву з'есці. Адзіная надзея — калі Багінскі не далучыцца да акта бескаралеўя. Тады кароль зможа разам з Фаміліяй падтрымаць канфедэратаў, альбо хаця б не даваць каронныя войскі на барацьбу з імі.

Пранціш прыкусіў губу: звесткі сумныя.

— Што ж, кроў, якая праліваецца за Айчыну, ніколі не бывае дарэмнай. Прынамсі, мы не даемся, каб нас глынулі адным глытком, квасам запіўшы. А ў Капанічах ціха?

Дамініка кіўнула, яе рука не спрабавала вырвацца з рукі Вырвіча.

— Дзякуй Госпаду. Каронныя і маскоўцы нас не чапаюць, бо пан бацька ж ім дапамагаў. У рэкруты, вядома, пару дзясяткаў чалавек забралі, не адгаварыліся мы... Канфедэраты далёка, дый, калі што — тут жывуць сваякі вялікага гетмана Багінскага.

Вусны Дамінікі пагардліва пакрывіліся. Яе не вельмі цешыла яснавяльможнае сваяцтва.

Пакой зноў загайдаўся, нібыта драгун з доктарам усё яшчэ знаходзіліся ўнутры вадзянога змея, і Пранціш заплюшчыў вочы і сціснуў зубы. Належала як мага хутчэй ачуняць, каб не быць цяжкім мехам на чужой спіне.

А самае галоўнае, хацелася працягнуць тую гісторыю, якая складалася паміж ім і Дамінікай з Гараўскіх... А гісторыя мусіла скласціся — недарэмна ж пані Дамініка не пасвячала бацьку ў асаблівасці адносінаў з мужам, што іхні шлюб яшчэ не пацверджаны дэ факта, і пан Гараўскі ставіўся да Вырвіча як да сапраўднага зяця.

Вядома, былі пацалункі. Але гэты раздзел яны пачалі ўжо чытаць раней. Пранціш раздражняўся ад таго, што слабы, як кацяня, і рабіў, колькі мог, практыкаванні, аднаўляючы сілу па методыцы Лёдніка. Бутрым цярпліва паіў яго адварамі. А пан Гараўскі цішком ад суровага доктара, якога, падобна, пабойваўся, частаваў сакрэтным настоем ад адной зельніцы ў Капанічах. Нібыта з дадаткам бабровага струменю, што, мяркуючы па смуродзе, было праўдай. Невядома, якія лекавыя вартасці меў настой, але па моцы пераўзыходзіў гарэліцу, нават старадарожскую.

Дамініка з'едліва распавядала пасля, што думае пра прыхільнікаў піць гарэлку ў ложку...

Днямі яна малявала: то кветкі ў вазе, то якія-небудзь фантастычныя ўсходнія пейзажы з маўрамі ды бедуінамі па замове бацькі. Вырвіч распавядаў свае прыгоды. Калі было пагодна, чыталі на верандзе па чарзе ўслых які-небудзь раман альбо трактат... Спрачаліся... Ідылія! Нібыта лёс стварыў для дваіх гэткі зачараваны востраў цішыні, нібыта не крывавіла край вайна...

Нарэшце драгун змог прайсціся па пакоі больш-менш устойліва, і Гіпацэнтаўр не адцягваў руку ўніз, як М'ёльнір, молат Тора. І на спробу пані Дамінікі ўкласці ў ложак — стомішся, пагоршае, — абняў ды адарваў яе ад падлогі, карыстаючыся тым, што паранены, і дзяўчына не захоча ж надта моцна адбівацца, пашкадуе...

А вечарам, пасля належных малітваў, ён не даў сваёй пані легчы на атаманку. Ложак дастаткова вялікі для дваіх...

Пранціш асцярожна развязваў шнуроўку на начной кашулі Дамінікі, як быццам адкрываў неверагодна каштоўны падарунак, якога не варты. А потым асцярогі не хапіла, таму што тонкія рукі ўладна абвілі яго шыю, дазваляючы ўсё... І Вырвіч быў шчаслівы, што хапіла цярпення і розуму дачакацца, і ўсё здарылася тады, калі трэба, без адцення прымусу. Калі абодва таго хацелі, і быў давер, і пяшчота, і саспела жарсць...

І ён задыхаўся ад шчасця, схаваўшы твар у цёмных валасах, якія пахлі і строгім верасам, і пяшчотнымі ружамі, і трохі алейнымі фарбамі...

Пранціш ведаў, што жонка цэніць ягоны ўчынак, які многім падаўся б смешным, нявартым «сапраўднага мужчыны»: трымаў вянчаную жонку ў цноце. Затое цяпер прачынацца ўдваіх было так проста і радасна... Такое незвычайнае пачуццё — як стаў цэлым, не здагадваючыся, што да гэтага быў недаствораны, няпоўны...

І сумны цень Раіны не перашкаджаў — бо Вырвіч быў пэўны, што яна за яго ціха радуецца.

Цяпер ён разумеў, што лучыла Бутрыма і Саламею.

Лёднік жа і ў Капанічах карыстаўся славай персоны таямнічай, застрашлівай і амаль усемагутнай. Фурману руку паламаную склаў, лёкая ад боляў у жываце вылечыў, кухару апёк залячыў, сыну ягонаму, якога ў жаўнеры былі забралі ды параненым вярнулі, нагу адратаваў, а яе ўжо іншы доктар адцінаць хацеў, бо рана не загойвалася. Пану Гараўскаму ад раматусу дапамог, толькі хмыкнуўшы на пахвальбу пана, што дагэтуль лячыўся адным бабровым струменем на гарэлцы, і таксама ратавала. Нават да сялянкі-парадзіхі ў вёску прыімчаўся, калі пачуў, што роды цяжкія, бабка-павітуха рады не дае. А для тае бабкі ды ейнай канкурэнткі пасля давай цэлыя лекцыі чытаць... Кабеты пералякаліся, затое потым на ўвесь павет хваліліся, што сталі вучонымі дактарыцамі. Мужыкам прафесар штось пра гігіену тылдычыў. Можа, тыя і пасмейваліся з вучонага дзівака, але грошы, якія пан даваў на мыла ды лекі, на гарэліцу траціць баяліся, ва ўпэўненасці, што нейкім чынам Чорны Доктар даведаецца ды пакарае.

Дык вось, Лёднік Пранцішу, які ззяў, як новенькі ордэн, і сказаў:

— Цяпер веру, што ўсё ў цябе наладзіцца. Ведаеш, чаму веру? Бо тут шмат прыгожых дзяўчатак. Пакаёвак, пейзанак... А ты ні на адну з цікавасцю не глянуў, хаця раней мімаволі позіркам да кожнай спадніцы прыліпаў.

А Вырвіч і сам адчуваў, што змяніўся. І быў недаравальна шчаслівы...

Трэба было і другім даць магчымасць шчасця. Немажліва ўжо бачыць, якімі тужлівымі часам робяцца вочы Бутрыма.

Нарэшце Лёднік пераканаўся, што пацыенту больш нічога не пагражае, і сабраўся дадому, у Полацак. Лялек, дарэчы, для дачушкі розных накупляў цэлы мех. І парцалянавых, і з дрэва выразаных, і з тканіны пашытых... Вайны было з яго даволі, пра што аб'явіў даволі рэзка. Ледзь не пасварыўся з драгунам, які сцвярджаў, што шляхціц — найперш вой, і не ўдзельнічаць у паспалітым рушэнні, адседжвацца за печкай — ганьба.

За развітальным сталом сядзелі ўжо ўсёй сям'ёй. Пранціш з жонкай, пан Гараўскі, доктар Лёднік... Лёкай у турэцкіх строях урачыста падаў свайму пану кальян.

— Ці дазволіце, вашамосць, запытацца, — ветліва прагаварыў доктар, — адкуль ваша захапленне Усходам?

Пан Гараўскі з гонарам папыхваў кальянам, ягоны халат быў падпяразаны слуцкім пасам з уплеценымі ва ўсходні арнамент валошкамі.

— Мне гадкоў дзесяць было, у нас у маёнтку спыніўся пасол з Персіі разам са світай. Не вытрымаў нашых халадоў, захварэў дарогай. Ну я і нагледзеўся цудаў... Яны ж нават посуду з сабой вазілі цэлы воз, каб нашым, гяўрскім, нячыстым, не карыстацца. А пасол яшчэ і дзвюх жонак пры сабе меў. Я так іхніх твараў і не пабачыў. Захутаныя да вачэй, бровы вугалем намаляваныя. Праўда, як на мой густ — дык таўставатыя кабеты, хаця я малы быў, але гэта запомніў. Перс нашай мовай валодаў, увогуле дужа вучоны. Са мной важдаўся, казкі распавядаў пра джынаў, халіфаў ды птушку Рох... Але зусім слабы стаў. Як пацяплела, павезлі яго на радзіму — але не ведаю, ці давезлі. Ад яго і дываны ў нас дома засталіся, і талеркі чаканныя, і куфар з кнігамі. Шкада, так і не ведаю, пра што тыя кнігі, яны ж усе на іхняй мове, ды без малюнкаў... Толькі ў адной малюнкі ёсць, але незразумелыя, нейкія чарцяжы.

У гэтым месцы расповеду Лёднік выявіў сваю ўласцівасць чапляцца за хвост любой таямніцы так, што не адарвеш. Хіба разам з хвастом. І запэўніў, што на фарсі чытае, бо на ім напісаныя многія медыцынскія трактаты.

Куфар чорнага дрэва з кнігамі быў прынесены. Бутрым да яго дапушчаны.

Доктар прагна перабіраў старыя таміны, гартаў, варушачы вуснамі... І раптам зарычэў адчайна і аж за валасы схапіўся. Што такое?

— Гэта ж трактат Альбукасіса! Не цалкам, але тая частка, што апісвае даследаванні мозга! Каб мне гэта раней патрапілася! Я ж цэлы год расшыфроўваў мадэль мозга, што Альбукасіс з жалеза зрабіў. Гэта ўсё роўна што па аб'едзенай костцы меркаваць, якое пер'е было ў курыцы, і на якім седале яна начавала. А кніга тут увесь час ляжала!

Лёднік страсянуў валасамі ад раздражнення.

— Што ж, Гасподзь не дае мне лёгкіх шляхоў...

Зразумела, трактат быў вучонаму доктару падораны, і адправіўся разам з ім у Полацак, на пару з іржавым шлемам.

Вырвіч мусіў яшчэ падправіць здароўе, а пасля... Ён, у адрозненне ад доктара, адседжвацца не збіраўся. Праўда, дзе ваяваць — яшчэ трэба было вырашыць. Наконт гэтага з цесцем Пранціш вёў зацятыя спрэчкі, якія перарывала толькі пані Дамініка. Пан Гараўскі лічыў, што з барскімі канфедэратамі яму не па дарозе, тыя хочуць увесь край зрабіць каталіцкім. А пан Валенты — і за гэта Пранціш яго мог толькі паважаць — захоўваў веру бацькоў, і ў сваіх уладаннях не даў перавесці царкву ва ўніяцтва.

Бо што гэта за справы — прыходзяць сяляне ў царкву, а ім кажуць: вы ўжо не праваслаўныя, вы да уніі належыце, і папа рымскі над вамі... А бацюшка той самы да іх выходзіць, але ўжо ў іншай шапцы. Калі ж расейцы павет захопяць, наадварот, атрымліваецца: прыходзяць парафіяне на імшу — а іх да прысягі, царыцы ў вернасці клясціся ды патрыярху, абразы ды кнігі ўніяцкія адбіраюць ды нішчаць. А бацюшка часта зноў той самы. Ад такіх хістанняў любая вера занепадзе. На магнатаў, якія рокаш усчалі, у пана Гараўскага крыўда яшчэ і асабістая.

Пранціш жа гарачыўся, даводзячы, што калі дзяржава страціць незалежнасць, для краю нічога добрага не чакаецца. Ускраіна імперыі — усяго толькі ўскраіна, якую належыць увесь час «уціхамірваць». Калісьці палякі ліцвінаў падвялі, калі змусілі да Люблінскай уніі. Напалі на Літву адначасова і маскоўцы, і татары, а Карона заявіла, што дапаможа бараніцца толькі на ўмовах уваходу ў адну дзяржаву. Троцкі кашталян Хадкевіч тады ад гора ды ганьбы захварэў ды памёр, дэпутатаў, якія галасавалі супраць уніі, праследавалі, як дзікіх звяроў... І чым скончылася? Калі роўнасці ў народаў у саюзе няма — заняпад і «хатнія войны». А Расія пра саюз і не гаворыць — мае, кажа, дый

і ўсё. Таму, як бы канфедэраты ні памыляліся, яны за волю б'юцца, за сваю зямлю, і нашчадкі іх ушануюць. Бог бачыць, што ў каго на сэрцы.

Добра, што Лёдніка не было — дадаў бы алею ў агонь сваім рэспубліканствам. Свабода, роўнасць, братэрства... Як яшчэ ў масоны не запісаўся, як Жылібер ды Тызенгаўз? Адно што, перасмыкала яго цяпер ад любых таемных таварыстваў. Лёднік любіў разважаць, што заможная дзяржава немагчымая без развітага трэцяга саслоўя. Калі ёсць шмат багатых купцоў, рамеснікаў, банкіраў, якія маюць роўныя правы з арыстакратамі. Пра гэта нават варшаўскі часопіс «Манітор» пачаў пісаць, хоць нашто ўжо кансерватыўны... А далей, вядома, прыгоннае права трэба касаваць... Не мусіць чалавек мець права біць, зневажаць ды пазбаўляць святла навукі іншага чалавека.

Мройнік...

Пан Валенты сярдзіта пыхкаў кальянам, але позірк на шчаслівы твар дачкі — і супакойваўся пан. Урэшце, зяць яшчэ не стары, баявіты, адукаваны, добрага роду, яшчэ невядома, што з яго выйдзе, а дачка пакіруе, як належыць... Уся ў маці, светлай памяці. Каб тая была жывая — дык і пан Валенты, мусіць, сёння высокую пасаду меў, жоначка штурхала б у бок, паказвала кірунак...

Але зацішак на тое і зацішак, каб не доўжыцца вечна, а змяняцца бурай.

Давыд Ляйбовіч, толькі што з каня, запылены ды здарожаны, уваліўся ў вітальню, але ліста не прывёз. Прыехаў без дазволу Бутрыма па дапамогу.

— Кепска з Лёднікамі.

І бяссіла ўсеўся на лаўку.

— Пані Саламею вінавацяць у забойстве пана вознага Шмыгі, у якога маёнтак побач з Караблямі, пад Менскам. Суд будзе праз тыдзень.

На імгненне ў доме запанавала такая агаломшаная ціша, што чуваць было, як зумкае муха.

— Які суд? Што за лухта? — Пранціш вушам не верыў. — Вайна ідзе! Адны далучыліся да акта бескаралеўя — значыць, ім каптуровы суд трэба збіраць. А гродскі суд, каралём зацверджаны, цяпер ніяк сабрацца не можа — і ўсіх чальцоў не будзе, і сесія прамінула на Тройцу!

Давыд абцёр спацелы твар ваўнянай шапачкай.

— Гэх, пан Вырвіч, каб жа ў свеце ўсё па законе было, дык усе былі б Саламонамі. Грошы нават ліпень ператвораць у чэрвень. Суд жа на Тройцу не збіраўся з-за ваенных падзей, вось яго і «ссунулі». Акрамя таго, збіраецца не вышэйшы, а ніжэйшы замкавы суд, пад кіраўніцтвам падстаросты. А суддзя менскі ведаеце зараз хто?

— Не прыпомню, — пан Гараўскі задумна пакручваў чорны вус. — Здаецца, нейкі пан дужа багаты ды баявіты. Хтось расказваў, што яго на элекцыйным сойміку ніхто перапіць не мог.

— А яшчэ сярод бочак з віном кандыдат паставіў бочку талераў, і ўсе чэрпалі, колькі маглі панесці, ледзь не падушыліся, — змрочна ўдакладніў Давыд. — І быў гэтым шчодрым кандыдатам граф Пянткоўскі. Здаецца, вы называеце яго Германам Ватманам.

— Што? — Пранціш ажно падскочыў. — Гэта немагчыма! Прыблуда, найміт, без роду, гонару і сораму! Не веру, што менская шляхта зусім страціла розум! Як маглі прызначаць на такую пасаду замежніка, без каранёў ды маёмасці ў краі — гэта ж незаконна!

— Яшчэ як законна, — запярэчыў аптэкар. — Гісторыя такая... Ваяводам менскім зараз прыхільнік Тызенгаўза, пан Тадэвуш Бужынскі.

— Той, што ў 1768-м з іншымі здрайцамі дамову з Расеяй падпісваў? — сціснуў кулакі Пранціш.

— Ён... І таму князь Багінскі нічога не шкадаваў, каб свайго чалавека ў судзе мець, што цалкам зразумела, — развёў рукамі Давыд. — Ваш Ватман стаў графам Пянткоўскім, займеў маёнткі ў Менскім павеце. Прычым частку ўладанняў яму падарылі яшчэ Пацы. Ён нейкі час на іх працаваў, пакуль Багінскі за мяжой блытаўся. На элекцыйны сойм граф Пянткоўскі з кучай прыяцеляў з'явіўся ды з вазамі, гружанымі ежай, пітвом ды падарункамі. Тыдзень дэпутаты за ягоны кошт балявалі. А колькі ў кішэнях паноў-радцаў асела... Бужынскі, кажуць, цэлую вёску атрымаў у падарунак... Вось і прызначыў суддзёй ніжэйшага гродскага суда графа Пянткоўскага. Затое як трэба князю Багінскаму штось вырашыць — суд да ягоных паслугаў. Падстароста, падсудак ды пісар на два бакі, праўда, стараюцца хіліцца. Вось і цяпер вялікі гетман хоча, как дапамаглі тэрмінова вырашыць «гарачую» справу аб спадчыне на карысць адной персоны. Там палітыка замяшаная, здаецца, за станоўчы вырак гетману абяцаў падтрымку моцны шляхецкі род...

Што ж, гэта была таксама звычайная гісторыя. Караль Радзівіл на элекцыйныя соймы іначай, чым на вазах з падарункамі, і не прыязджаў. Калі Міхал Валадковіч, ягоны кумпан, захацеў Менскам пакіраваць, магнат сваіх жаўнераў у ратушу прывёў, і чальцы магістрату прагаласавалі, як трэба. Праўда, скончылася ўсё роўна тым, што буяша Валадковіча гэтыя ж паны пасля асудзілі за ягоныя выбрыкі на смерць.

— А Саламея тут пры чым? — не вытрымаў Вырвіч.

— Пан Лёднік упэўнены, што інцыдэнт падстроіў сам Ватман, — уздыхнуў Давыд. — На сесіі ж усе справы разглядаюцца, вось ён заадно і падгадаў... Пан Баўтрамей кажа — адпомсціць хоча. Раз самога нашага доктара не ўдалося знішчыць, з іншага канца зайшоў.

Справа выглядала пагана. Пані Саламея змушаная была ў адсутнасці свайго Адысея час ад часу наведваць іх уладанні ў Караблях. Лёднікі — прагрэсісты, фізіякраты, разумееш... У іх сяляне баршчыну не адрабляюць, у іх школка, шпіталь. Цагельню спрабуюць наладзіць з дапамогай француза-ўпраўляючага, якога пейзане жабай празвалі. Вось і даводзіцца час ад часу, каб зусім усё не развалілася, правяраць.

Вядома, пані Саламея і як лекарка там дапамагала — яна ж марыла мець сваю практыку. А Лёднік, дзе вальнадумца, а тут зацяты пільнавальнік нораваў, забараняў жонцы самой пацыентаў прымаць, надта баяўся, што звінавацяць у вядзьмарстве.

Не дарэмна баяўся. Паклікалі пані Саламею падчас чарговага прыезду ў Караблі да суседа-вознага, у якога жывот разбалеўся. Пані доктарава хворага агледзела, лекі прызначыла... А возны назаўтра й памёр. Удава шум падняла, вядома, лекарку звінавацiла. Чараўніца!

Можа, і не дайшло б да суда, хіба мала безнадзейна хворых у таго ж Лёдніка ды пані Саламеі траплялася. Але тут надта нечаканай выглядала смерць. Да таго ж возны якраз на гродскі менскі суд і працаваў, дастаўляючы позвы, і ўдава мела там добрыя сувязі. Шум падняла... Ватман і скарыстаўся...

Саламею забралі, і ніякія спробы нават пабачыцца, даведацца, дзе яе трымаюць, не дапамаглі. Лёднік увесь змэнчыўся. Прыехаў дадому — а жонка ў вязніцы. Перабраўся з сям'ёй у Менск, знялі дом. Бутрым усе парогі абівае — дарэмна. Карацей, пакуль пан доктар не ўтварыў чагось сабе ж на згубу, лепш, каб за ім прыглядзелі сябры. Бо сам па дапамогу не звернецца.

Пан Валенты нешта пачаў мармытаць пра гожую ды пабожную пані Саламею, якая аніяк вядзьмаркай быць не можа, ды пра клятага Ватмана. А Пранціш змрочна ўзняўся з крэсла.

— Што ж, адпраўлюся сёння ж.

Але за плячук драгуна ўхапіла тонкая, але моцная рука.

— Вы якім чынам і куды, васпан, надумалі выпраўляцца?

Дамініка рашуча глядзела на мужа. Пранціш пацалаваў яе руку.

— Выбачай, дарагая, але ты сама перастанеш мяне паважаць, калі я кіну найбліжэйшых сяброў у бядзе.

— А хто табе кажа іх кідаць? — прыўзняла чорныя броўкі пані Вырвіч. — Сяброў трэба выручаць. Пан Лёднік і пані Саламея людзі самыя вартыя, а Сафійку як шкада! Але васпан забываецца, што ён больш не дзяцюк, а самавіты жанаты чалавек, у якога ёсць радня. Так што запрагайма карэту, бяром гайдукоў чалавек дзесяць...

— Я не магу падстаўляць другіх пад небяспеку! — пачаў быў Пранціш, але падышоў і пан Гараўскі, засунуўшы пагрозна рукі за пояс.

— Ты, васпан, мой зяць, а значыць, я за цябе адказваю. Што ты там самадзін, на судзе, рабіць будзеш? Што пра мяне людзі пасля скажуць? На такія сходы — суды, соймікі, трыбуналы — трэба як пышней заяўляцца, з як мага большай кампаніяй. Мы цяпер — адна сям'я, а за свой род трэба стаяць гарою. Я яшчэ да стрыечнага брата пашлю, хай сваіх людзей нам дасць.

Вырвіч глядзеў на Дамініку, на пана Валентага, аднолькава рашучых, з бляскам у цёмных вачах... Дамініка пазбавіла ад неабходнасці казаць высокія словы, пацалавала ў шчаку, патрапала па русявых кудзерах... І нібыта моцы прыбавілася ў драгуна. Ён з удзячнасцю пакланіўся цесцю.

— А ці ёсць у вас якія кнігі па юрыспрудэнцыі?

— Як жа ў шляхціца можа не быць кніг па заканадаўстве? — здзівіўся пан Гараўскі. — І Статут ёсць, і рымскае права, і гербоўнікі.

У Вырвічаў, якія б яны ні былі збяднелыя, у хаце ў Падняводдзі захоўваўся Статут. І пан бацька, Антоні Вырвіч, патрабаваў ад сына, каб ведаў усе свае шляхецкія прывілеі, правы ды абавязкі. І за што могуць даць баніцыю, і якія правы наследавання, і які пасаг можа патрабаваць шляхетны жаніх за сваёй жонкай... У акадэміі Вырвіч праслухаў курс па рымскім праве. А язык у яго быў заўсёды добра падвешаны. На судах дазвалялася выступіць усім, хто абазнаны ў законе, таму і не пашкодзіць падрыхтавацца быць адвакатам на горшы выпадак.

Горшы выпадак, падобна, чакаў не за гарамі. А ў тым жа павеце, у Менску, куды дабраліся ў той жа дзень, яшчэ засветла.

Лёднік сядзеў у крэсле пасярод няўтульнага пакоя менскага здымнага дома, абняўшы сябе за плечы, нібыта страшэнна мёрз, і вочы ягоныя згаслі. Пранціш ні разу не бачыў, каб старэйшы сябар быў такі разгублены.

Хвэлька хадзіў туды-сюды з Сафійкай на руках і нудзіў:

— Абавязкова трэба ўзяць на суд панначку! Каменнае сэрца трэба суддзям мець, каб такога анёлачка без маткі пакінуць!

Сафійка пазірала вялізнымі цёмнымі вачанятамі трохі спалохана, бо і яна разумела — штосьці страшнае здарылася. Паніч Алесь стаяў побач з таткам, напяты, нібыта на варце.

— Да яе не пускаюць, — нарэшце прарыпеў Лёднік. — У гродскай турме яе няма. Страшэнная таямніца, разумееце — месца зняволення моцнай вядзьмаркі. Мяркую, Ватман яе змясціў у якімсьці кляштары.

Абцёр рукой схуднелы твар.

— У маёнтак памерлага пана Шмыгі з'ездзіў. Не пастыдаўся на калені перад удавою стаць — абы згадзілася паразмаўляць. Распытваў падрабязнасці смерці... Усё вельмі падазрона. Возны выпіў нанач лекі, Саламеяй нарыхтава-

ныя. Раніцай устаў бадзёры, казаў, што вось, якраз можа абавязкі выканаць, позвы развезці, пра што і паслаў ліст пану пісару. А ўвечары знайшлі на двары, перад весніцамі, мёртвым. Крыві няма, косткі цэлыя. Вырашылі — атрута!

Пранціш кусаў вусны.

— А ты сам які дыягназ паставіў бы?

Лёднік перарывіста ўздыхнуў.

— Які дыягназ! Каб жа я цела пабачыў! Але яго ўжо змясцілі ў радавы склеп Шмыгаў, і блізка мяне туды не пусцяць. Дый што б я ні сцвярджаў — словам маім веры няма. Раіну Грамычыну ў свой час ейны муж, святар, абараняў, сцвярджаў, што ўсе ейныя зёлкі асабіста свянцаў. І што, дапамагло?

Бутрым стукнуў кулаком па ўласным калене, нібыта яшчэ й кульгавым да кучы захацеў зрабіцца.

— Пан Баўтрамей, але сведчанне нейкага доктара ў судзе мусіла быць? Ці не перагаварыць з тым доктарам?

Дамініка ўважліва чакала адказу. Лёднік горка ўсміхнуўся.

— І пра гэта я падумаў. Цела аглядаў мой калега Ян Замойскі. Ён у Менску доктар самы ўплывовы і дарагі, і старосту, і падстаросту, і пісара лечыць. Хіба што Ватман да яго з раматусам не хадзіў, таму што раматусу ды іншых слабасцяў цела ў Ватмана, відаць, няма, як і сумлення. Але з Замойскім я не сустрэўся, колькі ні стукаўся ў ягоны дом — кажуць, няма, у ад'ездзе. І спецыяліст ён, наколькі я памятаю, слабы. Лішніх клопатаў пазбягае, рызыкі не любіць. Затое амбіцый праз меру.

— Паспрабую я штось даведацца пра вашага Замойскага ў сваіх адзінаверцаў... Дзе доктар, там і аптэкары. А з імі я знаёмы, — прамармытаў Давыд і выйшаў з пакоя. А Лёднік узяў на рукі дачушку... Якая мусіла наноў звыкаць да вечна адсутнага таткі.

— Казку хачу!

На круглым стале, не накрытым абрусам, сіратліва ляжала кніга па рымскім праве. Зумкала муха, як заблукалая душа. І казка складалася нейкая надта дзіўная... Не, каб пра якога Катка-Залатога Лабка альбо Сынка-з-Кулачок.

— Было гэта даўно-даўно, яшчэ за каралём Сасам, калі ў Дняпры плавалі вадзяныя змеі велічынёй з млын, а млыны малолі камяні. Навошта? А каб на хлебе з каменнай мукі гадаваліся волаты, моцныя, як валуны.

Голас Бутрыма гучаў ціха і сумна.

— Жыў тады ў горадзе слаўным, дзе над ракою бялее храм з пяццю купаламі, чалавек, што хацеў навучыцца рабіць золата. І калі ты думаеш, што той дзівак быў надта сквапны — памыляешся. Насамрэч ён быў шчаслівы хадзіць у лахманах і есці адну параную рэпу, абы пры гэтым у яго меліся кнігі і магчымасць лічыць зоры ды аблокі. О то ж любіў ён лічыць зоры ды аблокі! Колькі разоў ідзе, задраўшы галаў, спатыкаецца ды падае ў брудную калюжыну, месцічаў весяліць. Так што празвалі яго Зоркаведам.

А Баўтрамея ў Полацку і сапраўды так называлі... Et fabula partem veri habet[1].

— Але на насмешкі ён нават не зважаў, бо акрамя мудрасці кніжнай ды навук розных нічым не цікавіўся... Самым недасяжным, самым важным веданнем, даступным толькі абраннікам, лічылі ўменне ператвараць у золата простае жалеза альбо камень. А Зоркавед, ясна, лічыў сябе такім абраннікам. Вывучыў усе трактаты вучоныя па стварэнні штучнага золата, ды ўзяўся за працу. Ды так, што спляжылася на доследы ўся ягоная маёмасць. І нярэдка снедаў ён сухой скарынкай, а вячэраў салодкай мрояй. Галоўнае — у шкляных колбах змешваліся ды віравалі рэчывы, гарэў агонь пад чыгуном, у якім

варыўся не суп, а ўсялякае атрутнае расчынне. Хутка дакажа абраннік усяму свету, што самы разумны! І не было каму Зоркаведа спыніць, бо не меў ён у горадзе ні сяброў, ні сваякоў.

Дамініка, прысеўшы на абцягнутую патрэсканай скурай канапу каля Пранціша, слухала і сумна ўсміхалася. І Вырвіч лёгка гладзіў яе плечы. А Бутрым працягваў:

— Нарэшце здабыў наш вучоны тры крупачкі золата, якія ледзь можна было разгледзець у вуголлі. Перасыпаў у бутэлечку, паўсюль з сабой насіў, ды пяшчотна разглядаў, як штучнае золата паблісквае ў попеле. А каб працягнуць доследы, пайшоў у пазыкі, абяцаючы ўсім, што хутка таго золата здабудзе цэлы воз. Ды хто пазычыць грошай вар'яту за бліскучую парушынку? Адзін толькі пан, багаты, як цмок, што нават яблыкі ў сваім садзе загадаў пазалаціць, згадзіўся. Але ўзамен Зоркавед мусіў прывесці яму красуню з таго народа, што жыве ў аблоках ды завецца Сільфамі. Людзі ж верылі, што Зоркавед з Сільфамі, ды Гномамі, а мо і з Вужыным Каралём па начах каву п'е, як з простымі суседзямі. Сільфаў завоблачных Зоркавед, аднак, ніколі не бачыў. Але пачытаў належныя трактаты і давай закляцці тварыць. Зірнуў у акно — ці не спускаецца хто з аблокаў, а па вуліцы, вузкай, як розум дурня, ідзе яна. Сільфіда.

Голас Лёдніка здрыгануўся.

— Сінія вочы ззяюць, камяні пад звонкімі чаравічкамі ад гонару свецяцца.

Вядома, гэта было пра Саламею. Менавіта яе ў Слуцкім замку князь Геранім Радзівіл выдаваў за Сільфіду, стыхійнага духа.

— Кінуўся Зоркавед даганяць красуню, — Лёднік крануў вуснамі бліскучыя валасы дачкі — як чорны шоўк, зусім як у маці. — Вядома, не была яна Сільфідай, а звычайнай дзяўчынай, дачкой мясцовага кнігара, які жыў побач з Зоркаведам і ў лаўцы якога Зоркавед не аднойчы набываў кнігі. Але здабывальнік золата ніколі не разглядаў звычайных людзей, хай бы яны і жылі пасуседстве. А тут упершыню разгледзеў... І стаяў бы ён вечна пад кустом бэзу ля дому прыгажуні, і назіраў бы за ёю, дзівячыся і не разумеючы, што ж такое мяняецца ў ягоным сэрцы... Бо вырашыў — не аддасць ён Сільфіду сквапнаму пану. Хай лунае яна на волі, бо нічога прыгажэйшага Зоркавед не бачыў ні ў аблоках, ні ў зорным небе. І ўсё роўна яму стала, ці гэта дзяўчына з неба, ці з суседняга двара. Бо яна заставалася для яго недасяжнай, як зоры і аблокі. Што ён мог ёй прапанаваць, акрамя трох крупачак здабытага золата, за якія не купіш і булкі? А пан між тым прыехаў паглядзець, што ўдалося Зоркаведу. І заспеў яго пад кустом бэзу, і вочы ў Зоркаведа былі задуменна-шчаслівыя, і такія здзіўлёныя, быццам упершыню свет пабачыў. Заўважыў пан, каго Зоркавед гэтак вызірае. І таксама аслупянеў. Сільфіда ці не, але неадменна гэтая прыгажуня мусіць быць ягонай! Вось толькі шукальнік золата запярэчыў... Баяўся ён, што пан зробіць Сільфіду няшчаснай, пасадзіць на ланцуг. Гатовы быў на двубой пана выклікаць.

Вось гэта ўжо аўтарская фантазія, пра бэзавы куст. Заміж бэзу быў пакой у вежы, дзе Саламея сядзела, прыкутая ланцугом. Але на тое і казка, каб рабіць усё прыгажэй...

— Такі шум усчалі, што ўся вуліца збеглася...

Бутрым усміхнуўся, відаць, успомніўшы колішнюю бойку ля брамы слуцкага замка.

— І вось стаяць абодва кавалеры перад дзяўчынай, бездапаможныя перад яе сінім позіркам, і насмешна ківае ружовымі кветкамі над імі бэз. Абяцае

багацей, што ў ягоным доме прыгажуня будзе жыць у залатым пакоі, есці з залатых талерак і хадзіць у залатых сукенках. «А ты што мне можаш прапанаваць?» — перавяла сіні позірк Сільфіда на Зоркаведа. Той моўчкі палез у кішэню, дастаў бутэлечку, дзе ў чорным попеле паблісквалі тры залатыя парушынкі, адкаркаваў і высыпаў плён сваёй цяжкой працы на вецер... Можа, і даляцелі тыя залатыя парушынкі да аблокаў, дзе жывуць Сільфы? І як ты думаеш, каго выбрала дзяўчына? Таго, хто складаў да яе ног дарагія скарбы, альбо таго, хто дзеля яе адмовіўся ад апошняга?

Сафійка падумала, пакруціла ў пальчыках карункавы фальбон сваёй сукеначкі.

— Пан злы. А Золкавед твой дулны. Я б нікога не выблала, пайшла б далей кніжкі чытаць.

Пранціш ледзь стрымаў смех. Бутрым, падобна, трохі разгубіўся ад выраку сваёй каралевічны, але таксама ўсміхнуўся і працягваў:

— Ведаеш, дзяўчына была вельмі разумнай, і чытала Зоркаведа лепей, чым ён зоры... Ёй быў ясны ягоны ўчынак. Зоркавед адмаўляўся надалей шукаць таямніцу здабывання золата. Таму што ўжо адкрыў яе, і ў ягоным сэрцы ўтварылася золата кахання. Цэлы цяжкі злітак. Сільфіда ўзяла Зоркаведа за руку і павяла ў свой дом. Даўно варта было ім пагаварыць: ён кніжкі любіў, яна кніжкі любіла, дабраная пара, карацей.

— А што пан? — папыталася Сафійка.

— Пан, вядома, раззлаваўся. Хіба паны звыклі, каб у іх нейкія Зоркаведы Сільфідаў адбіралі?

Лёднік, відаць, прыпомніў сутарэнні Слуцкага замка, у якіх яго ледзь не закатавалі.

— Кажуць, нашаму дзіваку давялося нават з шабляй у руках сваё золата абараняць. Але хто яго адніме, калі яно ў сэрцы?

— Яны пажаніліся? Сільфіда і Золкавед?

— Пажаніліся, — Бутрым пагладзіў дачушку па галаве.

— А золы і аблокі ён лічыць пеластаў?

— А іх можна лічыць і ўдваіх, — усміхнуўся Лёднік. — Калі, вядома, пры гэтым не забывацца часцей пазіраць адно на аднаго ды на іншых людцаў.

Вось жа прападае літаратурны талент у доктара... Пранціш паабяцаў сабе абавязкова запісаць гэтую казку ў свой рукапіс.

Сафійка прымарылася і задрамала, і дзеўка з Караблёў, якую Лёднік узяў у дом за прыслугу, задумлівая худзенькая сірата Кася, панесла паненку ў ложак...

І тут прыбег Давыд, усміхаючыся ва ўсе зубы.

— Знайшоў я вашага Замойскага! Заўтра ідзе да багатага кліента. Пералавім — больш не схаваецца...

Пералавілі проста перад ганкам дома на рагу Дамініканскай, дзе жыў кліент.

Доктар Замойскі зусім не быў падобны да суровага прафесара Лёдніка. Бялявы, нізенькі, з вачыма, як два алавяныя гузікі, і вуснамі, якія, здавалася, вось-вось свіснуць, праганяючы якое-небудзь надакучлівае птаства. І такі шчаслівы быў бачыць Лёдніка, што каб мог, уцёк бы адразу хоць у балота. Ледзь-ледзь ветлівую ўсмешку выкрывіў.

На ўсе просьбы дапамагчы, распавесці пра дыягназ смерці вознага Шмыгі доктар толькі фыркаў злосна ды прамаўляў фразы ільдзяныя ды законныя, ад якіх ажно зубы зводзіла, бы ад сцюдзёнай вады. Лёдніка пабойваўся, але ж на людзях — што той мог зрабіць? Можна і выказаць пагарду няўдачніку.

Але калі Бутрым у адчаі прысунуўся ды схапіў Замойскага за каўнер — той збляднеў ды затросся. А Лёднік ціха прагаварыў:

— Мне ёсць чым аддзячыць пану.

Успацелы ад няёмкай сітуацыі Замойскі зацята аддзіраў пальцы Бутрыма ад свайго каўнера і спрабаваў паводзіцца звысоку.

— Запэўніваю вас, калега, што ўсёй вашай маёмасці не хопіць, каб хоць часткова скампенсаваць мне тое, што я магу страціць, калі звяжуся з вамі!

Пранціш разумеў, што гэта так. Куды ім усім — і Лёдніку, і Вырвічу, і нават Гараўскім цягацца з магнатамі... Такія, як Багінскія, Пацы, Радзівілы, могуць не толькі вёску — цэлае мястэчка падарыць, высокую пасаду надаць... Альбо ўсё адабраць.

Але Лёднік прыцягнуў раззлаванага калегу да сябе і штосьці прашаптаў на вуха. Той недаверліва паглядзеў на былога прафесара, падумаў... Потым абодва яшчэ пра штосьці пашапталіся і разышліся.

А ў вачах Бутрыма загарэлася надзея.

— Заўтра раніцай паедзем у радавы склеп Шмыгаў.

Вырвіч здзівіўся: ці не ўжыў Бутрым сваю магію, хоць і забараняў сабе ёю карыстацца, каб пераканаць Замойскага?

Да вясковых могілак, дзе знаходзіўся склеп Шмыгаў, Замойскі прыехаў асобна, у карэце, нават раней за прызначаны час. Могілкі былі змрочныя. Высокія таполі адчайна цягнулі худое голле ў неба. Магілы зараслі малiннікам, і пераспелыя чырвоныя ягады, якія ніхто не абрываў, падалі ўніз, у някошаную траву, на шэрыя пліты, быццам крывавіла вялізная жывая істота. Склеп Шмыгаў быў маленькі, з чырвонай цэглы, і страшэнна нагадваў печку. Тую самую, у якой Баба-Юга час ад часу пячэ збеглых шкаляроў.

Асаблівага жадання ісці ў склеп Вырвіч не меў. І так трупы патрашыць радасці мала, а тут яшчэ і нябожчык зусім нясвежы. Таму чакаў на ўваходзе, сцярог, каб хто не заспеў дактароў за кашчуннай дзеяй. Толькі прыслухоўваўся да размоў у смярдзючай цемры:

— Бачыце, пан Замойскі, пашкоджана аснаванне чэрапа. Сюды глядзіце. Думаю, менавіта гэта і ёсць прычынай смерці.

— Чакайце, падсвячу ліхтаром... Так, трэшчына маецца.

— На шыі мусілі застацца сляды. Прыпомніце, васпан, былі кровападцёкі, сінякі? Бо цяпер цяжка гэта зразумець.

Замойскі хмыкаў, перхаў, нарэшце неахвотна адказаў:

— Разумееце, пан Лёднік, мне не ўдалося агледзець цела дэтальна. Здаецца, былі на шыі два сінякі, але ніхто не надаў гэтаму значэння.

Зашаргатала, нібыта пасунулі штось цяжкое.

— Пан Замойскі, вельмі прашу, успомніце: сінякі месціліся вось так?

Пасля некаторай паўзы прагучала незадаволенае:

— Падобна, што так. Але тое, што вы паказваеце, калі б хтось ухапіўся двума пальцамі за шыю дарослага мужчыны, не магло паслужыць прычынай пашкоджання пазванкоў і смерці.

— Магло, пан Замойскі... — голас Лёдніка гучаў стамлёна і сумна. — Яшчэ як магло, калі ўхапіўся той чалавек, пра каго я думаю. Ён двума пальцамі шыю зламае і не такому, як няшчасны возны. Вы гатовыя пацвердзіць у судзе вынікі гэтага абследавання?

Вось цяпер паўза была даўжэйшай, Пранцішу нават падалося, што дрыготка, якая прабрала перапалоханага Яна Замойскага, перадалася сівому палыну, што рос ля ўваходу ў склеп. З разнога шурпатага лістка зляцела багоўка

і знікла ў напрамку сонца, якое зазірала між цёмных фіранак таполяў, бы цікаўная суседка.

— Прабачце, пан Лёднік, але нават за прапанаваную вамі плату я не магу так рызыкаваць. Мне зусім не хочацца ўлегчыся на месца гэтага небаракі. Тым больш у нас і радавой усыпальніцы няма, нават такой небагатай.

— Тады наша дамова няспраўджаная, — халодна прамовіў Лёднік.

На нейкі час запанавала ціша.

— Я прапаную вось што, вашамосць, — нібыта цераз сілу прамовіў суразмоўца доктара. — Я напішу сваё сведчанне на паперы. Заверу ў натарыуса, а вы карыстайцеся, як хочаце. А сам з'еду ў Рыгу. Вы ж разумееце, што пасля такога мая кар'ера тут пад пагрозай.

— Не перабольшвайце, пан Замойскі. Вам варта толькі дачакацца, пакуль той, каго вы баіцеся, страціць уладу ў павеце, а гэта ўжо здарыцца хутка. Вы і самі гэта разумееце, інакай не пагадзіліся б мне дапамагаць. Я чакаю ліст ад вас сёння ж увечары.

Пагарда хавалася ў голасе Бутрыма глыбока, як вусень у яблыку.

— Але, пан Лёднік, напачатку — тое, што вы мне абяцалі...

Замойскі, відавочна, падазраваў падман.

— Добра, давайце толькі выйдзем адсюль.

Зноў зашаргатала штосьці цяжкое, закрахтаў, засоп Замойскі... Відаць, дактары-кашчуннікі клалі нябожчыка на ягонае законнае месца і закрывалі каменную труну.

Што ж змусіла баязліўца рызыкаваць дзеля чужых інтарэсаў?

Бутрым, не кажучы ні слова, пайшоў да свайго каня, якога навязаў ля брамы, вярнуўся з сядзельнай сумкай, пакорпаўся там. І, не вагаючыся, уклаў у рукі пана Яна, які ажно падскокваў ад нецярпення, скрынку са шлемам Альбукасіса.

— А расшыфроўка? — напружана нагадаў Замойскі, які зняў накрыўку і прагна разглядаў старажытную жалязяку, быццам кучу брудных шэрых ракавінак, у адной з каторых неадменна схаваная незвычайнай прыгажосці перліна.

Бутрым моўчкі паклаў паўзверх шлема свой нататнік і персідскі трактат, падораны панам Гараўскім.

— Тут усё распісана. Можаце рабіць публікацыі, вашамосць, па ўласным гледжанні.

Вырвіч прыкусіў губу. Лёднік, гэтак жа, як дзеля выратавання каханай каліецы няўважна высыпаў са шкляніцы крупінкі здабытага алхімічнага золата, аддаваў свае навуковыя напрацоўкі, якія могуць прагучаць на ўсю Еўропу... Не дзіва, што амбітны, але бяздарны Замойскі купіўся. Гарантаваная слава, імя ў гісторыі — тое, дзеля чаго нават баязлівец можа рызыкнуць.

Таму ўвечары і сапраўды Лёднік трымаў засведчанае па ўсіх правілах пасланне пана Яна Замойскага. За прамінулы дзень тое-сёе разведаў і Давыд, і нават паніч Алесь з ім на пару... А што, падлетак куды больш месцаў можа абшнырыць, непаўналетніх тубыльцаў параспытваць, якія перад дарослымі прамаўчаць... Так што на суд ішлі не зусім безнадзейныя. І Хвэлька паннaчку Сафійку ўсё-ткі ўзяў — нельга было пагарджаць і найменшым шансам паўплываць на меркаванні паноў радцаў.

Менскі гродскі суд звычайна засядаў у спецыяльным будынку, узведзеным у куце замка над Свіслаччу пасля таго, як Менск атрымаў права збіраць Галоўны трыбунал. Але пасля апошняга наезду ці канфедэратаў, ці каронных урачысты двухпавярховы дом стаяў без вокнаў і са слядамі пажару, таму сабраліся ў зале Ратушы, дзе сыходзіўся магістрат.

Вось цяпер Пранціш зразумеў, пра што казаў пан Гараўскі. Іх кампанія з'явілася ўрачыста, цэлай капой. Капаніцкія гайдукі ў сініх жупанах з залатымі пасамі вызвалялі дарогу. Пан Гараўскі крочыў, заклаўшы рукі за пояс, ганарыста ўзняўшы гарбаносую галаву, як султан. Лёднік быў падобны калі не да султана, дык да галоўнага султанскага чарадзея. Некалькі дробных шляхціцаў, якіх Гараўскі па звычаі прыкормліваў, каб мець у свіце, пазглядалі па баках з пыхай. Занялі лаўкі не наперадзе, але і не ў апошніх шэрагах. Іншыя паны паглядалі ацэньваюча. Звысоку, калі былі з большай світай, бяднейшыя — з павагай. Вырвіч мог толькі ўявіць, якой пагардай сустрэлі б яго тут, калі б заявіўся адзін. Адсунулі б у самы дальні кут, дзе ціснуліся аднадворцы ды шарачкі.

Пранціш паспеў краем вока агледзець дзверы ў залу, якія толькі нядаўна, відаць, уставілі наноў. Расказвалі, што калі Валадковіча пасля аб'яўлення прысуду валаклі з гэтай залы, бuяш, лаючыся, ухапіўся рукамі за вушакі дзвярэй, і яго так і вынеслі — разам з тымі вушакамі ды дзвярыма...

Калі намаляваўся Ватман на судзейскім месцы, Лёднік ажно вочы апусціў, спрабуючы суцішыць гнеў ды не кінуцца на злыдня.

Справа пра спадчыну, замоўленая Багінскім, разглядалася першай. Слухаць было нудотна — у звычайных абставінах з ёю звярнуліся б не ў гродскі суд, а ў земскі. Пранціш адзначаў толькі, як умее Ватман пакіраваць людзьмі. Дзе пажартаваць грубавата — я, маўляў, свойскі, просты, не кручок-юрыста, а ваяр. Недарэмна шляхецкія вусы адрасціў. Мог і націснуць, гыркнуць з пагрозай. А дзе й працытаваць закон, укруціць у размову які пункцік-падпункцік. Ну і можна было здагадацца, што argumentum argentarium, срэбныя аргументы, альбо папросту хабар, спрацоўвалі дасканала. Пастух над ваўкалакамі... Багінскі не памыліўся. Суддзя з Ватмана атрымаўся ў гэты крывавы час самае то.

Потым былі «гарачыя» справы. Хто каму руку адсек у сварцы, хто маёнтак разрабаваў... Ясна, чаму шляхта забылася на нейкі час на свае палітычныя рознагалоссі ды сабралася на суд — гэта ж як да цырульніка зубы ірваць, хочаш не хочаш, а трэба, бо баліць. Дзесьці ішла вайна... Але памыляюцца, хто ўяўляе, што ў такую пару ваююць адразу ўсе ды паўсюль. Там гераічна канаюць, а там сядзяць за піравальным сталом. Нараджаюцца, жэняцца, паміраюць ва ўласным ложку ад мірных хваробаў. Ці вось — дзеляць спадчыну, бо пратэрмінуй — і пустыя куфры пацалуеш.

Калі ў залу прывялі Саламею, Пранціш ледзь не ўскрыкнуў. Ну не мог ён пазнаць Сільфіду ў нязграбнай, бясформнай фігуры, захутанай у нейкі балахон, з вялізным каптуром з абвіслымі фальбонамі, якія захінапі аблічча. Быццам адна з падапечных братоў баніфратраў, што ля Свіслачы ў сваім прытулку прымалі ўбогіх. Рукі ў зняволенай былі, мяркуючы па тым, як яна рухалася, звязаныя. Лёднік увесь падаўся наперад, як страла на напятай цеціве, Вырвіч ажно прытрымаў яго на ўсялякі выпадак за рукаў. Ватман задаволена ўсміхнуўся, і Вырвіч здагадаўся, што суддзя спецыяльна загадаў схаваць прыгажосць абвінавачваемай. Каб не змякчылася чыёсь сэрца, каб не выдаць уласнай зацікаўленасці ў той гожасці.

Пан пісар, абыякавы, доўгі, як бізун, тонкім надарваным голасам зачытваў абвінавачанні. Атруціла, падманула... Выступілі сведкі — так, лекавала падазронымі лекамі, вядзьмарка, няйначай. Паплакала ўдава пана Шмыгі, таксама на лекарку вярнула. Ватман спачувальна ківаў галавою, пагладжваючы тоўстым пальцам белыя, як у пацука, вусы, нязвыклыя на ягоным спаласаваным шнарамі ружовым твары.

— Што ж, думаю, probationes evidentes[2]. Але, панове, мы жывём у век асветы, мы не можам быць акрутна жорсткімі. Трэба даць час заблукалай душы знайсці шлях да Госпада. Магчыма, падсудная і не мела злых намераў, проста памылілася з лекамі. Думаю, вечнае заключэнне ў сутарэнні кляштара з самым строгім рэжымам яе выправіць. І каб не было спакусы ды боязі чарадзейства ў шаноўных жыхароў места, лепш адаслаць чарадзейку чым далей. Я сам гатовы даставіць няшчасную да месца яе пакарання — бо ведаю выдатны кляштар у Сілезіі, дзе мнішкі даюць ex voto templum facere[3], вечны абет маўчання.

Пранціш успомніў, што ў Ватмана ў Сілезіі ёсць замак, і ірвануўся з месца.

— А ці не прапаноўваў калісьці шаноўны граф Пянткоўскі падсуднай Саламеі Лёднік, а тады яшчэ ў дзявоцтве Рэніч, стаць ягонай жонкай ды паехаць у ягоны замак у Сілезію? Ці не атрымаў тады ад панны defectum[4], за які цяпер адпомсціцца хоча, што няварта сапраўднага шляхціца?

Для важкасці Вырвіч яшчэ й дадаў спасылкі на артыкулы Статута, у якіх перасцерагаюцца суддзі ад навету ды асабістай зацікаўленасці.

У зале зашумелі. Але Ватман толькі шырока ўсміхнуўся, адсыпаўшы словаў, фальшывых, як манеты, якія наштукаваў у Рэчы Паспалітай махляр-італіец Бараціні, каб было чым расплачвацца за вайну з маскоўцамі.

— Вельмішаноўнае панства, можа, калі гэтая кабета была маладая, у яе і можна было... adamare[5]. Але цяпер — мяркуйце самі — якія куртуазныя намеры ў дачыненні да гэтага няшчаснага стварэння?

— А няхай яна каптур скіне ды гэны балахон!

Гэта выгукнуў хтось з залы. І яго патрабаванне падхапілі, нягледзячы на пратэсты графа Пянткоўскага. Усім было цікава пагледзець на аблічча вядзьмаркі. Падстароста Ванькович, які старшынстваваў у ніжэйшым гродскім судзе, пузаты немалады шляхцюк, скрывіў пухльныя вусны ва ўсмешцы ды аддаў загад... З падсуднай знялі каптур ды балахон, развязалі рукі...

І вось Саламея страсянула чорнымі бліскучымі валасамі, ганарыста выпрасталася, на яе збялелым твары зблішнулі гневам вялікія сінія вочы. Прысутныя дружна выдыхнулі. Граф Пянткоўскі зразумеў, што ў гэтай сваёй хітрасці прайграў, ніхто не паверыць у ягоную абыякавасць да такой прыгажуні.

А тут яшчэ залямантавала дзіця:

— Мама!

Сафійка ірвалася з рук Хвэлькі да матулі, якую нарэшце пазнала. Пранціш хутка абвёў позіркам залу: хтось з шляхцюкоў незадаволена скрывіўся — што за дзіцячы віск, але шмат у каго расчулена заблішчэлі вочы. І хаця малечу змусілі вынесці з залы, патрэбнае ўражанне засталося. Як можна такога анёлачка пакідаць без маткі!

— У мяне ёсць доказ невіноўнасці абвінавачанай!

Лёднік выйшаў наперад імкліва і нечакана, як чорны пірацкі карабель, і падаў пану пісару паперу.

— Ягамосць дыпламаваны доктар пан Ян Замойскі, агледзеўшы цела нябожчыка, устанавіў, што пан Гарацый Шмыга памёр не ад атруты, а ад пераламу шыйнага пазванка ў аснаванні чэрапа. Пра што сведчыць трэшчына ў basis cranii[6]. На што пан доктар склаў афіцыйнае заключэнне. Яго лёгка спраўдзіць, даўшы дазвол на агляд парэшткаў. Сінія плямы, якія былі заўважаныя на шыі ахвяры, пацвярджаюць, што перелом не выпадковы, а ёсць вынікам прыкладання сілы.

— Карацей, хтось зламаў пану вознаму шыю! — выгукнуў пан Валенты Гараўскі. — І наўрад гэта магла зрабіць кабета.

— І хай пан Ватман... Выбачайце, граф Пянткоўскі патлумачыць, чаму пасля таго, як у суд прыйшоў ліст пана вознага, у якім пан Шмыга распавядаў, што лекарка Саламея Лёднік яго вылечыла, шаноўны граф тэрмінова адправіўся з горада? — перакрычаў гармідар Пранціш Вырвіч. — І чаму двое дворных бачылі чалавека, рыхтык падобнага да ягамосці, увечары ля маёнтка пана вознага?

Гэтыя звесткі здабыў Алесь Лёднік з Давыдам Ляйбовічам, параспытваўшы прыслугу, што прыехала ў Менск з удавой Шмыгі.

У зале ўсчалася бура. Шляхцюкі толькі рады былі спрэчнай справе, кожны заняў нечы бок — і давай гудзець... Вось-вось лаўкі паперапаварочваюць. А Бутрым і Саламея між тым глядзелі адно на аднаго... Так блізка — а па-ранейшаму не падысці, не дакрануцца...

Ватман ледзь хаваў злосць. Усё ўскладнялася, як каранацыя ў адсутнасці спадчынніка прастолу. Прыхільнікі, дакладней, утрыманцы суддзі абураліся, што шаноўнага пана Пянткоўскага абвінавачваюць невядома ў чым... Праціўнікі патрабавалі расследавання. Сам падстароста Ванькові ледзь хаваў злавесную радасць, хоць маўчаў — падобна, не надта любіў ён пана суддзю, хутчэй змушаны быў цярпець з-за нейкіх абставінаў, ну і баяўся вядомага забойцы, ясна. Вось пачалі ўжо згадваць пра палітыку. Хто за караля, хто за канфедэратаў... Яшчэ трохі — за шаблі схопяцца.

— Ціха, панове!

Рык пана суддзі змусіў на нейкі час усіх суняцца.

— Панове, а ці не ёсць гэтая сварка чарамі ведзьмы, якая хоча нас тут пасварыць? Не варта было дазваляць ёй адкрываць аблічча, поўнае д'ябльскай спакусы. Факты, панове, факты! Хіба няпраўда, што паводле паказанняў сведкаў, рыхтуючы лекі для пана вознага, яна змушала ваду кіпець без агню і выклікала духаў?

А вось гэта было пагана... Атруціла і счаравала — розныя рэчы і розныя артыкулы Статута. Нельга было дапусціць, каб усё звялося да падазрэння ў чарадзействе. Тады ўсе адкаснуцца, ніхто не пашкадуе чарадзейку, каб не зграшыць, каб самога не западозрылі ў блюзнерстве.

— Глупства гаворыш, Ватман! — раўнуў у адказ Лёднік. — Гэта толькі хімічныя рэакцыі. Усе іх можа вытлумачыць навука! Калі насыпаць соду ў расчынне з воцатам — здаецца, што вада кіпіць!

Адзін з лаўнікаў магістрата, сівавусы шляхцюк з падпухлымі вачыма — не адну бочку піва асушыў, відаць, за жыццё, замахаў пальцам з жоўтым пазногцем перад дзёрзкім доктарам.

— Продкі ведалі: што не па звычаі, ад д'ябла! Добры хрысціянін заўсёды адрозніць дэманскае насланнё!

Вакол сабалінай шапкі пана, з-пад якой струменіў пот, наразала кругі нахабная сіняя муха.

— Запэўніваю панства: ёсць процьма хімічных навуковых доследаў, якія здадуцца вам выкліканнем духаў, прывідаў, цмокаў ды іншай нечысці, а гэта насамрэч усяго толькі простыя, шараговыя хімічныя рэакцыі! — быццам у аўдыторыі перакрыкваючы неслухмяных студэнтаў, вяшчаў Лёднік. — Вас жа не дзівіць, што з чорнага мыла ўтвараецца белая пена! Мая жонка рабіла толькі дазволеныя, самыя звычайныя лекі!

Пані Саламея з трывогай сачыла за рыторыкай мужа: калі Бутрым гэтак зацяўся, усялякую асцярогу страціць ды наламае хмызняку... І Ватман гэта выдатна разумеў, таму насмешна прамовіў:

— У такім разе, ці можа зараз шаноўны доктар Баўтрамей Лёднік паказаць нам такое навуковае дзіва, якое ўсе мы прымем за чараўніцтва?

— Бутрым, не ўздумай! — трывожна ўскрыкнула Саламея, але той ужо корпаўся ў сваёй сумцы, у якой заўсёды цягаў розныя лекі ды рэчывы.

— Пастаўце на стол жалезную талерку і прынясіце мне агню!

Вялікае срэбнае блюда ўладкавалі проста на стол перад судзейскай камісіяй. Да стала прысунуліся цікаўныя, дыхаючы адно аднаму ў патыліцу, а пан пісар ды падстароста, якія сядзелі тут жа, наадварот, адсунуліся.

Лёднік акуратна вытрас з адной са сваіх шкляніцаў на талерку маленькі белы камячок. Гайдук нёс ужо запаленую свечку...

— Стойце! — закрычаў Пранціш. — Каб не было сумніву, што без чарадзейства, няхай святар усе прадметы асвенціць!

Святар знайшоўся тут жа — і не абы-хто, а сам ксёндз Аблачынскі, якога ўважалі за святога, і які спавядаў самога Міхала Валадковіча перад тым, як таго расстралялі тут жа, у сутарэннях ратушы.

Таму нячыстага выгналі гарантавана далёка і надоўга.

У скругленыя наверсе вокны зазірала сіняе неба, раскрыжаванае рамамі. Лёднік паднёс да маленькага белага кавалачка запаленую свечку з жоўтага воску, які нядаўна яшчэ зміналі цярплівыя пальцы мнішкі...

І раптам камячок загарэўся сінім агеньчыкам — і з яго імкліва палезла чорна-жоўтая змяя!

Шляхцюкі са спалоханымі крыкамі адкаснуліся ўбакі, зажагналіся, замармыталі малітвы. Нават Ватман трохі разгубіўся. Пранціш ведаў, што Лёднік здатны на ўсялякія штукарствы, але й яго агаломшыла: здавалася, змяюка вылазіць проста з талеркі, з сіняга агеньчыка, нібыта з апраметнай. Кольцы пякельнага гада скручваліся, абрасталі нарастамі... Нарэшце ўсё скончылася. Змяюка застыла, вызіраючы, на каго кінуцца. Лёднік крануў яе пальцам, і яна рассыпалася на порах.

— Звычайная хімічная рэакцыя. Я атрымаў падчас доследаў з іртуццю вось такое белае рэчыва, пры награванні з яго ўтвараецца чорная соль — сульфід іртуці, вылучаюцца газы, якія ўспеньваюць згаданую чорную соль...

Эксперыменты, відаць, адбываліся ў Тураве, там у Лёдніка было дастаткова інгрэдыентаў і доследаў. Са сваёй лабараторыі там і праўда пазабіраў усялякіх бутэлечак.

— Запэўніваю, што мог бы яшчэ больш эфектную змяю паказаць з дапамогай шклянкі перамолатага цукру і некалькіх кропляў купароснага алею, альбо з пяску, соды, цукру і спірытусу.

— Шалбер! — прасіпеў скрозь зубы Ватман і гучна дадаў: — Гэта нічога не змяняе! De minimis non curat lex![7] Шляхцянка з Полацка Саламея Лёднік, у дзявоцтве Рэніч, магла наслаць чары на вознага так, што ў яго трэснуў чэрап. Усе ведаюць, што Саламея Лёднік займаецца лячэннем людзей, не маючы на гэта права.

Тут зноў вылез Пранціш. Гаварыў ён прыгожа, пераканаўча, сыплючы юрыдычнымі тэрмінамі і доказамі, так, што шляхта пачала касавурыцца на пана суддзю: і праўда, што за цёмная персона? Ці не ён ёсць сапраўдны злачынца? А калі пісар, пад'юджаны Ватманам, паспрабаваў перарваць нязванага адваката — «Хто васпан такі, здаецца, пан аднадворац, з чужое ласкі корміцца?», устаў пан Гараўскі і крыкнуў на ўсю залу (і дзе падзеўся смешнаваты дабрадушны аматар кальяну?):

— Пан Прантасій Вырвіч — мой зяць, і жанаты з пляменніцай яснавяльможнага князя Міхала Багінскага, бо мая жонка была сястрою князя. Пан

Вырвіч — апошні ў родзе Вырвічаў з гербам «Гіпацэнтаўр», што вядзецца ад Палямона. Будзеце абражаць маю сям'ю — заплаціце крывёю!

Словы пана Гараўскага пацвердзілі выгукі ягонай світы. Добра быць заможным, хоць сярэдняй рукі шляхцюком.

— Не суд, а балаган нейкі! — завершыў выступ Гараўскі. — Няхай бы сама пані Лёднік слова сказала! Нападаюць на бедную кабету, а ёй і рот раскрыць не даюць!

Невядома, ці добрая гэта была ідэя — Лёднік дык увесь напружыўся, ажно кроплі поту на лбе выступілі. Саламея, у дзявоцтве Рэніч, таксама магла словам пекануць без асцярогі.

Яна й пеканула.

— Калі пан Ватман... Выбачайце, граф Пянткоўскі, лічыць, што я магла зламаць шыю свайму пацыенту, як сцяблінку, а панове радцы не зважаюць на факт, што сам пан Ватман у час забойства быў у маёнтку ахвяры, а я ў сваім доме, чаму ёсць шмат сведкаў, мне застаецца спадзявацца толькі на Божы суд, ардалію. Спадзяюся, пан Герман Ватман не настолькі баязлівец, і не спалохаецца выйсці на двубой супраць кабеты?

Ватман разгублена-злосна зірнуў на пана пісара.

— Што яна вярзе?

А Саламея ўпэўнена працягвала, гожая і ўладная, бы якаясь Артэміда, што любому нахабу стралу ўсадзіць паміж пажадлівых вачэй.

— Прэцэдэнт ёсць. Жанчына таксама можа выйсці на Божы суд супраць мужчыны — калі за ёю праўда. Апошні такі выпадак быў дваццаць год таму ў Версмюнстэры. Ганс Тальхофер у «Фехтбуку» дакладна правілы такога двубою апісаў. Каб зраўняць сілы, мужчына павінен знаходзіцца да пояса ў яміне, узброены мячом, а жанчына вольна перасоўваецца вакол, узброеная Kettenmorgenstern.

Учынак Саламеі можна было вытлумачыць — яна ўжо раз знаходзілася ў волі Ватмана, калі стала закладніцай. Так што цяпер Саламея гатовая была пайсці на смерць, абы не застацца ва ўладзе мярзотніка.

Лёднік у адчаі схапіўся за галаву, на нейкі час страціўшы мову. Ну, жоначка і прыдумала! Кетэнморгенштэрн, пра які гаварыла Саламея, уяўляў з сябе жалезны шар з вострымі шыпамі, прымацаваны ланцугом да дзяржальна. На ліцвінскіх землях часам яго называлі папросту цапом... І Ватману зусім не ў радасць было атрымаць такім небяспечным вожыкам у фізіяномію.

— Можа, дзесь так і прынята, але ў нас, панове-браты, гэта не ў звычаі!

Шляхта загарлала пра плюгаўства — каб кабета на двубой мужчыну выклікала! Толькі ў Еўропе, у якой пра сармацкія звычаі не падазраюць, такое магчыма.

І тут ачомаўся ад нечаканага павароту адзін баявіты прафесар.

— Вельмішаноўнае панства! Кабета можа выйсці сама на Божы суд, толькі калі ў яе не знаходзіцца абаронцы. У гэтым жа выпадку абаронцам абвінавачанай з'яўляецца яе законны муж. Гэта значыць, панове, я, Баўтрамей Лёднік уласнай персонай. Таму, Герман Ватман, выклікаю цябе на Божы суд, бо ты абылгаў маю жонку, кабету пачцівую і пабожную. І ўласнае злачынства ёй прыпісаў, чаму сёння мы пачулі доказы.

Пане-брацці выказалі задавальненне — іх чакала цікавае відовішча. Ватман скрывіўся, бы купец, у якога папрасілі рэшту: зразумеў, што не адкруціцца. Яны з Лёднікам, як два рэчывы алхімічнай рэакцыі з трактата Aurora consurgens[8]: разбурэнне і распад аднаго — нараджэнне другога. Вядома, можна спаслацца на Статут, маўляў, усё трэба вырашыць па напісаным... Але адмо-

віцца біцца — у павятовай шляхты адразу страціш усялякую вагу ды пашану, якія дарага яму, прыхадню, даюцца, а гэта зусім не з рукі цяпер.

Вырвіч быў больш-менш спакойны: урэшце, Лёднік ужо тройчы выходзіў на двубой з Ватманам, і тройчы перамагаў, хоць той дужэйшы за любога асілка, спрытны і хітры.

Але Ватман, відаць, таксама выдатна памятаў тыя двубоі, і асаблівыя здольнасці ненавіснага доктара. Той мог нават не датыкаючыся пашкодзіць тканкі — доўга вучыўся такому ўдару ў аднаго кітайца. Вядома, гады прайшлі, Лёднік ужо немалады — але па-ранейшаму ўмее рухацца імкліва і скакаць так, што супернік не ўсочыць, не дарэмна мучыў сябе штодзённым трэнінгам, спавядаючы, што sane corpus sanitatis[9].

Але на любое ўменне ворага дасведчаны дуэлянт знойдзе штосьці, каб не даць ім скарыстацца. Ватман прыгладзіў белыя вусы, узняўся — гэткі менскі Галіяф — і важка прамовіў:

— Добра, пане-брацці, ушануйма старыя сармацкія звычаі! Божы суд — справа адказная, трэба рэспектуючы да яе падыходзіць, без усялякіх навамодных штукарстваў. Найлепш рассудзіць нас асвечаная часам зброя — мячы князя Глеба!

Ой-ёй... Пранціш чуў пра старажытную рэліквію, якая захоўвалася ў касцёле Дзевы Марыі. А аднойчы яны з аднакурснікам па іезуіцкім калегіуме яе і пабачылі. Патрапілі ў скляпенне, калі пробашч даручыў шкалярам нейкія транты туды сцягнуць. Проста на каменнай пліце — два здаравучыя мячы-двуручнікі, цьмяныя, без усялякіх упрыгожванняў. Напэўна, Пранціш меншы ростам, чым такі меч. Калі ім біцца, асабліва не паскачаш...

Наўрад мячы належалі легендарнаму князю Глебу. Проста знайшлі старую зброю на месцы зруйнаванага храма пасля таго, як Менск у чарговы раз чарговыя ворагі ператварылі ў папялішча. На дзяржальнах выбітыя крыжы, лёзы затупіліся ад сутыкнення з варожым жалезам... Людзям падабаецца захоўваць рэліквіі ды прыдумляць пра іх легенды. Вось і ляжалі двуручнікі ганарова ў скляпенні храма. Хоць, каб прыпісалі іх не праваслаўнаму Глебу, а якому каталіцкаму ўладару, браты-езуіты знайшлі б яшчэ больш ганаровае ды відочнае месца.

Але ж, святы Прантасій, памажы — такім мечам не кожны й перахрысціцца! Ватман ведаў, у чым пераўзыходзіць Лёдніка — у грубай фізічнай сіле, а даўжыня мяча не дасць таму наблізіцца.

Двубой прызначылі, дзякуй Госпаду, праз чатыры дні, калі скончыцца пост. Будзе хоць колькі часу падрыхтавацца. А мячы прытарабанілі праз колькі хвіляў — касцёл жа на адной плошчы з ратушай. Прынеслі ўрачыста на насілках, як нябожчыкаў, у суправаджэнні айца Аблачынскага.

Ватман няспешна сышоў з судзейскага месца, пацягнуўся за мячом, які выглядаў меней вышчарбленым, узняў адной рукою, як трэсачку, махнуў са свістам — захоплены шэпт прайшоў па зале. Лёднік з каменнай фізіяноміяй узяўся за другі меч...

Ясна, што нават самыя вялізныя двуручнікі не маглі важыць некалькі пудоў — імі ж належала фехтаваць, а не цягаць, як мяхі з мукою. Але гэтыя старажытныя мячы, няўклюдныя, без прыкідкі на фехтавальныя тонкасці важылі ўсё ж не менш за пуд... Вырвіч, былы настаўнік фехтавання, механічна адзначыў: падобныя па форме да эспадона — швейцарскай рыцарскай зброі. Гарда без кольцаў, цэнтр цяжару ляза не каля гарды, а пасярэдзіне, але баланс, хутчэй за ўсё, кепскі... І занадта цяжкія. Урэшце, у трактатах па зброі напісана, што для валодання двуручнікамі адбіраліся воі асабліва высокія і дужыя,

«joueurs d’épée à deux mains»[10]: яны суправаджалі свайго сіньёра, і калі той падаў з каня, узмахамі вялізных мячоў адганялі ворага.

Не, Вырвіч нізавошта не выбраў бы сабе такую пачварную, няўклюдную зброю — з удвая лягчэйшай можна нарабіць куды большай шкоды. Але Ватман ведаў, што робіць. Пранціш з адчаем глядзеў, як Лёднік трымае дзвюма рукамі меч, сціснуўшы зубы, і спрабуе замахнуцца ім са сваёй звычайнай спрытнасцю... Але відочна, што гэта яму не ўдаецца. А Ватман, дэманстратыўна лёгка памахваючы сваёй зброяй, пазірае на доктара са злавеснай насмешкай, атрутнай, бы адвар балотнай расліны багуну. І Саламея Лёднік глядзіць адчайнымі сінімі вачыма на каханага і шэпча: «Прабач...»

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

## Доктар Лёднік, меч князя Глеба і Божы суд

Самым лепшым мячом кітайцы лічаць той, што выплаўлены з сэрца і нырак зайца, які харчуецца металам у гарах Куньлунь.

Не хацеў бы Пранціш Вырвіч спаткацца з тым зайцам, Паядальнікам Металу.

Прынамсі, меч князя Глеба быў выкаваны з самага звычайнага жалеза, здабытага дзесь непадалёк, і тутэйшым кавалём. Яшчэ ў тыя часы, калі каваль лічыўся жрацом бога агню Жыжаля, практычна ведзьмаком, які можа загадваць цмоку і злавіць за язык Бабу-Югу.

Былы прафесар Віленскай акадэміі Баўтрамей Лёднік глядзеў на сваю новую зброю, як пражскі раві Бен Бецалель на Галема, што ніяк не хоча ажываць. Ён паспрабаваў ужо вытварыць з мячом князя Глеба свае звыклыя практыкаванні, вынік адлюстроўваўся на ягоным твары. Князь Глеб ціха змагаўся з ікоткай пад тоўстым слоем менскага замчышча.

Пранціш сам узяўся за двуручнік... І хутка з раздражненнем кінуў на падлогу двухметровую жалезную паласу: рукі нылі, у галаве быццам узрываліся нясвіжскія феерверкі.

— Ды што за нязграбная калаціна! Думаю, ім і не ваявалі толкам — а выкарыстоўвалі для якіх-небудзь цырыманіялаў, альбо людзей адным выглядам адпалохвалі. Баланс пасярэдзіне ляза сустракаў — але тут у ім сэнсу няма!

Лёднік, сціснуўшы зубы, зноў падняў цяжэнны меч, крутануў ім у паветры — выглядала сапраўды застрашліва. У пакоі, хоць пустым, малавата месца было для такіх замахаў.

— Што ж, за чатыры дні дужэйшым за Ватмана я стаць не змагу, але хаця б нейкія прыёмы прыдумаю, зразумею, як найлепей з гэтай штуковінай упраўляцца... — мармытаў доктар, кусаючы тонкія вусны.

Уздыхнуў, уклаў спадчыну князя Глеба на лаўку, як п’янога сябрука — не кінуў на падлогу, сапраўдны ваяр заўсёды паважае сваю зброю.

— Ведаеш, мне гэты меч нагадвае адну кнігу… Калі я вучыўся ў Празе, у Карлавым універсітэце, амаль не выходзіў з тамтэйшай бібліятэкі — Клеменціюма… Дык вось, там захоўваецца «Кодэкс гігас», альбо «Біблія д’ябла». Цяжэнная таміна, надрукаваная на аслінай скуры, у вокладцы з дрэва… Пяць пудоў вагі! Я так марыў яе вывучыць… А нас, студыёзусаў, не дапускалі. Бо там шмат малюнкаў чарцей ды іншай нячыстай сілы. І, ведаеш, я тую Біблію аднойчы скраў… Ненадоўга. Завалок ноччу на гарышча канвенту — сам не

разумею, як. Ледзь не падарваўся… Праз тыдзень на месца падкінуў. Вядома, погаласка пайшла, што сам Люцыпар падазроны том чытаў, дык кнігу ланцугамі прыкавалі.

Та-ак, Лёднік і ў юнацтве дзеля навукі кніжнай мог пяць пудоў панесці і таго не заўважыць…

— Для трэнінгу напарнік трэба, — задумліва прагаварыў Пранціш. — Паспрабую знайсці двуручнік...

— Табе яшчэ нельга моцна напружвацца! — устрывожыўся Бутрым. — Сам жа казаў, галава часам баліць.

— Ну, а ў мяне галава баліць толькі хіба ад гарэлкі! — у пакой уваходзіў пан Валенты Гараўскі, як заўсёды, вясёлы ды дабрадушны. — І двуручнік у мяне ёсць, цвайхандэр... Яшчэ з тых часоў, калі я служыў у войску ягамосці вялікага гетмана літоўскага Міхала Серваццы Вішнявецкага. Заўтра раніцай прывязуць з Капанічаў, так што ўспомню маладосць...

Вырвіч здзіўлена глядзеў на цесця. Пан Гараўскі ў яго аніяк не вязаўся з вайсковай славай ды фехтавальным майстэрствам. Пан Валенты ўсміхнуўся ў абвіслыя вусы.

— А што ж вы думалі, князёўна Багінская звязалася б з недарэкам, які не ўмее зброю трымаць ды на двубоях за сваю даму біцца? Я ў ягамосці Вішнявецкага гвардыяй камандаваў...

Пан Гараўскі ўздыхнуў, відаць, успомніўшы каханне ўсяго свайго жыцця, пані Антаніну, маці Дамінікі, і вельмі сур’ёзна зірнуў на Лёдніка.

— Хачу папрасіць прабачэння ў васпана. Там, на судзе, можна было лёгка прыціснуць паскудніка Ватмана. Я мог заявіць пра выкраданне ім сваёй дачкі. І... дзякую, пан Лёднік, што вы самі пра тое не згадалі, хаця магло б дапамагчы вам выратаваць жонку.

Лёднік паціснуў плячыма з неразуменнем.

— Мне і ў галаву такое не прыйшло, вашамосць. Паведамляць публічна, што перажыла панна Дамініка... Каб ёй давялося яшчэ ў суд ісці, сведчыць, на сваё добрае імя цень кідаць? Я б ніколі так не зрабіў, і Саламея таксама.

Гараўскі з палёгкай выдыхнуў, прыгладзіў вусы.

— Але ў любым разе двубой пана — і мая асабістая справа. Вашамосць не толькі за волю жонкі, але й за гонар маёй дачушкі адпомсціць. Таму вось што... Зараз ужо позна... Памаліцеся ды кладзіцеся спаць, пан Лёднік. Добра адпачніце, каб вярнуліся сілы. А заўтра з раніцы перабірайцеся да мяне разам з гэтым мячом. У нашым доме зручны дворык.

Дворык у доме, які зняў Гараўскі непадалёк ад Ніжняга рынку і дзе пасяліліся і Пранціш з Дамінікай, сапраўды быў вельмі зручны, абсаджаны з усіх бакоў яблынямі, з высокім плотам. Роўны лужок пасярэдзіне якраз для фехтавання.

Пан Гараўскі, вядома, быў не такі спрытны, як Лёднік ды Пранціш, але цяжкі меч трымаў цвёрда, круціў яго, як саломінку, хоць і крахтаў пра свае гады і страчаную моц. Прынамсі, ён мог прыняць на сваю зброю ўдар пудовага мяча, не прысеўшы ды не паваліўшыся, што Вырвічу, да яго сораму, не заўсёды ўдавалася.

А Лёднік сябе не шкадаваў. Прачынаўся засветла, шчыра маліўся, і давай за трэнінг... Адразу ганяў сябе без зброі, усялякую гімнастыку выконваючы — тое-сёе пераняў яшчэ ў Вільні, у знаёмага дзядка-кітайца Чунь Лі. Скакаў на сцены, круціўся ды выкручваўся, аж пакуль пот па спіне не пацячэ. Кашулю скіне, валасы ў хвост звяжа — і далей, як апантаны, аж прыслуга праз шчыліны ў дзвярах падглядае за шалёным панам. А пан той,

хоць і доктар, кажуць, а схвастаны, як апошні разбойнік... Увесь у шнарах. Лепей з такім не звязвацца.

Людцы жагналіся ды разыходзіліся. А Лёднік браўся за меч і ішоў на двор... На гэты раз у кавалку жалеза для прафесара засяродзіўся цэнтр навуковага досведу.

Калі пан Гараўскі стамляўся скрыжоўваць лязо з прафесарам, яго ненадоўга падмяняў Пранціш. Цвайхандэр пана Валентага быў меншы, чым зброя князя Глеба, паўпуда важыў, мабыць, але таксама ў даўжыню вышэй за Пранціша. Так што доўга ім махаць у Вырвіча не атрымлівалася, тым больш не ачуняў яшчэ ад кулі ў галаве.

Каму сказаць, што ў тваёй галаве пабывала куля — падумаюць, што ты брахун, як той Пане Каханку, які ўсім хваліцца, што пакахаўся з русалкай марскою, і тая нараджала ад яго селядцоў.

Далучылі да трэнінгу яшчэ дваіх шляхцюкоў, што паздаравей, а Бутрыму ўсё мала. Хоць меч ад стомы з рук выпадае, а ўвечары трэба цягліцы адмысловым бальзамам мазаць ад перанапругі. У перапынках яшчэ й лупіў па спецыяльна ўкапаным слупе, нешта выпрабоўваючы, прыслухоўваючыся да сябе і да зброі... Ці змушаў Алеся кідаць у сябе яшчэ зялёныя яблыкі, якія адбіваў мячом так, што ўвесь дворык быў усеяны іх разрэзанымі палавінкамі.

І так пакуль не сцямнее. Каб не настойлівая пані Дамініка, і паесці забываўся б. Так што Вырвіч выгаворваць пачаў: адпачні, а то падарвешся, меч падняць не зможаш.

Але заміж таго, каб улегчыся ў ложак, Бутрым нават пры святле лямпы разглядаў маёмасць князя Глеба. Выстукваў, абмацваў... Здаецца, нават нейкімі расчыннямі сваімі правяраў. Які забабонны чалавек мог падумаць — зачароўвае.

На чацвёрты дзень, напрактыкаваўшыся ля слупа, паклікаў Пранціша:

— Як думаеш, настаўнік фехтавання, у якой пазіцыі можна лягчэй у бойцы гэты меч зламаць?

Вырвіч падумаў, падказаў на свой розум, як не варта падстаўляць лязо пад удар. Разам па-ўсялякаму спрабавалі высветліць, дзе слабейшыя месцы мяча. Ватман жа лупіць будзе, як бык у вароты. Усё-ткі не адно стагоддзе артэфакту, вышчарблены, цьмяны...

Вядома, навастрылі агульнымі намаганнямі лязо, каб аркуш паперы магло разрэзаць...

Колькі казак Пранціш чуў пра тое, як зачараваны меч уторкваюць у зямлю, а з яго вырастае альбо дрэва, альбо кветка, альбо цэлы лес густы, у якім можа схавацца герой са сваёй любай ад пагоні.

Каб жа мячы князя Глеба, ці каму яны там належалі, маглі прарасці каранямі ў менскую плошчу, каб не даць праліцца крыві!

У прызначаны для Божага суда дзень Лёднік, узяўшы сына, адправіўся на ранішнюю службу ў Жоўтую царкву, збудаваную калісь на грошы пані маршалковай Аўдоцці Друцкай-Горскай. Царква была колісь прыпісаная разам з манастыром да Віленскага Свята-Духава сабора, што падпарадкоўваўся Канстанцінопальскаму патрыярху, і была адзіным праваслаўным храмам, які застаўся дзейнічаць у горадзе. Вырвіч з жонкай і цесцем таксама пайшлі.

У заняпалым, з разбітымі шыбамі, але з таўшчэзнымі сценамі храме было нешматлюдна — некалькі манахаў ды з дзясятак старых месцічаў. Гараўскі пудовую свечку паставіў перад абразом арханёла Міхаіла, нябёснага ваяра. Абраз быў стары, пацямнелы, візантыйскага пісьма, і меч арханёльскі блішчэў на ім нечакана зыркім мазком.

Бутрым маліўся на каленях, засяроджана... Паспавядаўся, прычасціўся... Пранціш з усіх сілаў адганяў думку, што доктар як да смерці рыхтуецца. І цвёрда ведаў: здарыцца што з Бутрымам — ягоная чарга выклікаць злыдня на двубой. Таму паспавядаўся, не забыўшы сярод грахоў згадаць гняўлівасць, ды прычасціўся. Шляхціц штохвілі павінен быць гатовы да смерці. А хрысціянін павінен прабачаць ворага... І як гэта сумясціць — адзін Гасподзь ведае, ды не ўсіх уразумляе...

Пакінулі на храм, колькі маглі, бо мніхі дайшлі ўжо да таго, што міласціну на вуліцах прасілі.

Божы суд прызначылі на пляцы ля Ратушы — а што ж, усе паглядзець хочуць, а там лепш за ўсё відаць! Карнавал, балаган, ці смяротнае пакаранне... Абы відовішча.

Збеглася ўсё места. Карабейнікі, што насілі шаўковыя хусткі ды лазурытавыя пацеркі па Верхнім Горадзе. Гандляркі селядцамі з Ніжняга Рынку. Бакалейшчыкі з Францысканскай, юрысты з магістрата, рамізнікі ў насунутых на вочы шапках-магерках... Гарбары, рымары, цырульнікі, злотнікі... Мніхі-дамініканцы, мніхі-бернардзінцы, мніхі-францысканцы, мніхі-бенедыктынцы, базыльяне ды езуіты да кучы... Зямяне, мешчукі, жабракі... Жыхары Татарскага канца ды габрэі з Няміжскай... Шляхцюкі багатыя і не вельмі, з дыяментавымі гузамі на шапках і бутэлькамі ў руцэ... Да абурэння ксяндза Аблачынскага, які неаднойчы казані казаў на гэты конт, высакародныя гледачы як адзін паспелі падагрэць ужо сябе, хто гарэліцай, хто півам. Той-сёй дык проста на пляцы з біклагі пацягваў, каб не сумна чакалася. Сярод натоўпу шнырылі падазроныя ўвішныя персоны, ці кашалькі зразалі, ці прымалі стаўкі на таго, хто пераможа. Вялізны руды сабака, падобны да Піфагора, якога калісьці забілі найміты Ватмана ў віленскім доме Лёднікаў, пазяхаў, зусім як пабуджаны вартаўнік ля брамы на могілкі. Дзень чакаўся спякотны.

Ударыў звон на званіцы Марыінскага сабора, яму азваліся іншыя.

Ватман выйшаў, як рыцар на Грунвальдскую бойку. Сталёвыя латы-карацэна, кальчужныя пальчаткі, сталёвыя накаленнікі ды наручы. Закрыты шлем, падобны да рондаля, у вачніцах якога цямнелі бяздонныя прагалы вачэй, як у самой смерці.

Рыцара-суддзю можна было хоць зараз ставіць на пастамент і абвяшчаць помнікам.

Лёднік, у адрозненне ад Ватмана, не стаў грувасціць на сябе цяжкія латы. Казаў — лепш рызыкнуць, што параняць, чым яшчэ больш пазбаўляць сябе рухомасці. Апрануў толькі тонкую кальчугу, якую здабыў пан Гараўскі, ды лёгкі шлем з налобнікам. Пальчаткі з ласінай скуры, юфтавыя боты... У параўнанні з закаваным у загартаваны метал Ватманам Лёднік выглядаў зусім несур'ёзна, сапраўды — Давыд перад Галіяфам.

А вось і пані Саламея... У чорнай сукенцы, нібыта ўжо ўдава, і ў белым каптуры, танклявая, бледная, гожая... Нягледзячы ні на якія просьбы, мужу так і не дазволілі да яе падысці. Пані стаяла на прыступках ратушы, у атачэнні аховы, як рамонак сярод дзядоўніку.

Удаве пана Шмыгі таксама знайшлося ганаровае месца ля ратушы — але нізенькая кабета ў жалобным строі, здаецца, не надта цікавілася бойкай, якая аніяк не магла вярнуць ёй мужа. Хіба што адправіць кагось скласці яму кампанію ў завоблачнай карчомцы.

Бо беларускі дробны шляхцюк і за воблакамі знойдзе сабе карчомку.

Ксёндз Аблачынскі памаліўся, згадаў пра тое, што перад Госпадам нічога не схаваецца. Намякнуў, што варта было б траціць сілы на служэнне Богу і

Айчыне, а не на асабістыя разборкі, хопіць ужо шляхце буяніць, калі Айчына гіне. Але няхай здзейсніцца Божы суд.

Людзі нецярпліва пераступалі нагамі, паперхвалі, чакаючы канца казані... Нягледзячы на тое, што Ватмана не любілі, і пайшлі чуткі, што менавіта ён забіў вознага Шмыгу, каб адпомсціць кабеце, што дала яму калісь гарбуза, на волата пазіралі ўсё ж з захапленнем, а на Лёдніка з насмешкай ці шкадаваннем. Тым больш доктар трымаў меч апушчаным, амаль па зямлі валачыў, нібыта не было сіл прыўзняць. Пранціш ведаў гэтую манеру Бутрыма — ён заўсёды пачынаў бойку з падманліва расслабленай пазіцыі, трымаючы шаблю апушчанай... Так што праціўніка агаломшвала нечаканая імклівая атака.

На гэты раз першым кінуўся Ватман. Лёгка і хутка, як вялізныя вадзяныя пачвары рухаюцца ў хвалях. І здавалася, што ягоны ўдар рассек хударлявага суперніка напалам, аж у бруку застанецца выбоіна.

Але лязо сустрэлася толькі з лязом. Праўда, доктар змушаны быў крок за крокам адступаць, прысядаючы ледзь не да зямлі, каб не паваліцца пад неверагоднай сілы ўдарамі пудовага мяча.

Дамініка сціснула руку мужа, які схаладнеў ад трывогі. Ватман малаціў мячом, як цапом па таку. Здавалася проста незразумелым, як Лёднік трымаецца на нагах. Твар ліцвінскага Адысея пачырванеў ад напругі — ясна, што надоўга сіл не хопіць. Звінела ды грукатала, як у кузні, ледзь іскры не ляцелі... Доктара нават пару разоў закранула лязо... Пані Саламея трымала кулак ля вуснаў — каб не закрычаць ад роспачы.

А тут Пранціш з жахам заўважыў, што Бутрым няправільна трымае меч... Падстаўляе яго пад удар менавіта ў той пазіцыі, якую яны вызначылі найбольш слабай. Няўжо замарыўся так, што гэтага не заўважае? Ці смерці хоча?

А доктар раз за разам памыляўся... І іначай скончыцца гэта не магло: пад адным з магутных удараў лязо ягонага мяча зламалася, як трэска, роўна напалам, там, дзе была асабліва небяспечная вышчарбіна...

Канец! Натоўп дружна выдыхнуў, адламаны канец мяча зазвінеў па брукаванцы, як пахавальны звон. Твару Ватмана не было відаць за забралам шлема, але ягоны задаволены рык, зусім як у звера, які нарэшце скочыў на спіну здабычы, сведчыў: найміт прадчувае хуткую перамогу!

Але з доктарам штосьці сталася... Кудысь падзелася ягоная стома і нязвыклая нязграбнасць у рухах. Ён цяпер не адступаў, а круціўся вакол Ватмана ваўчком, так што той не паспяваў у сваіх цяжкіх латах паварочвацца. Абламаны меч мільгаў маланкай, нейкім чынам спыняючы смертаносны шлях двухметровага ляза. Ватман зноў зароў, на гэты раз раздражнёна, круцячыся і прапускаючы ўдары — бо нават вачыма сачыць з-за забрала не патрапляў за пруткім супернікам, чыя зброя цяпер была ўдвая лягчэйшай, а значыць, больш звыклай...

І Вырвіч раптам уцяміў — а ці не назнарок доктар пастараўся, каб зламалі ягоную зброю? Мусіць, задумваў так ад пачатку. Цяпер і паскакаць можа...

Якраз і скочыў — пакуль супернік падымаў меч, што апусціўся зноў у паветра, а не на мудрую чарнавалосую галаву. Прыгнуўся ў скачку да зямлі, літаральна праехаўшыся па бруку, ды ўсадзіў абломак знізу, пад панцыр, роўненька ў бок найміта. З такой моцай, з якой заганяюць зброю ў холку зубра на паляванні.

Самазваны граф Пянткоўскі нейкі час пастаяў, абапіраючыся на свой здаравучы меч, а потым паваліўся набок і яшчэ глыбей загнаў сабе пад рэбры лязо. На нейкі час запанавала маўчанне. Вырвічу падалося дзіўным, што адбылося не як у летапісах. Там, калі які волат гінуў, «предвариша же смерть его знамения

небесная: около полной луны, декаврия, явишася въ полудни три солнци, потом же и звезда страшная, светяше през два месяца по заходе солнца»

Усё было вельмі будзённа і звычна. Зумкалі мухі, на брукаванцы ляжала цела, чуваць было цяжкое дыханне Лёдніка. Потым лена гаўкнуў руды сабака, нібыта прыспешваючы дурных людцаў: чаго застылі слупамі?

Хтось кінуўся да пераможанага, пад бокам якога нацякала цёмная лужына крыві. Пранцішу закарцела адсячы Ватману галаву, як вупыру, каб у чарговы раз не ажыў. Але калі з суддзі знялі шлем, ашклянелыя вочы, якія зрабіліся светлымі-светлымі, несумненна мёртва люстравалі беларускае неба са шчырым здзіўленнем: няўжо забіты?

А Лёднік на нягнуткіх нагах, расштурхваючы людзей, ішоў да сваёй Пенелопы, і ніхто не наважваўся яго затрымаць. Пакуль. Пранціш разумеў, што варта надаць падзеям законнасць:

— Шаноўнае панства, вашамосці! Звяршыўся Божы суд! Мы ўсе бачылі, што бойка адбывалася сумленна...

Вырвіч ускочыў на нейкі камень, каб яго было лепей чутно. Ён цытаваў Статут і краем вока заўважаў, як абняліся Бутрым і Саламея, як ён цалуе яе лоб, валасы, вочы, а плечы жанчыны ўздрыгваюць ад перажытага жаху і палёгкі...

— Нашчадкі захаваюць у памяці слаўную гісторыю сённяшняга паядынку, які прыгожай вікторыяй завяршыў сесію Менскага гродскага суда!

Самазваны рытар пачуваўся зусім як у Лонданскім Гайд-парку, які неяк давялося сузіраць. Здаецца, удалося змусіць сябе слухаць... Вырвіч выцер лоб рукавом і рыхтаваўся саскочыць са свайго каменя на траву.

— Дык што, пане-браце, сесія суда скончаная? — пакрыўджана папытаўся шляхцюк у сабаліным футры, зусім недарэчным пад ліпеньскім сонцам. Але собаль быў такі пацёрты, што неадменна з'яўляўся ўспадчыненнай і адзінай параднай вопраткай. — Гэта няправільна! Пан суддзя абяцаў, што разгледзіць яшчэ і маю справу!

— І маю! — загарлаў хтось побач.

Такіх пакрыўджаных выявілася яшчэ з дзясятак. Падобна, Ватман сур'ёзна ставіўся да двубою і замест судовых паседжанняў таксама трэніраваўся.

— Суд не можа адбыцца без суддзі, вельмішаноўнае панства! А ён, самі бачыце...

Падстароста кінуў грэблівы пагляд на мёртвае цела. У паглядзе можна было заўважыць палёгку.

Панства засталося незадаволеным.

— Згодна са Статутам, суддзю ніжэйшага замкавага суда не выбіраюць на элекцыйным сойме, а прызначае ваявода! — закрычаў хтось абазнаны. — Вось няхай пан падстароста, ягамосць Ванькові́ч, і прызначыць суддзю, паколькі староста, ягамосць Тадэвуш Бужынскі, з'ехаў у Варшаву і не выконвае абавязкаў! Трэба працягнуць сесію!

Люд паспаліты ўхвальна загуў.

Гэта ж невядома, калі яшчэ ўдасца сабрацца, а справы вырашыць хочацца неадкладна, бо заўтра, чаго добрага, на вайну адпраўляцца...

Падстароста Ванькові́ч разгублена азірнуўся, вакол, як вогнішча на ветры, разгараліся жарсці. Ажно свіслацкія цмокі, тлусценькія, з чорнай лускою, на кароценькіх ножках, якія павылазілі на бераг пагрэцца на ліпеньскім сонцы ў трыснягу, дружна нырнулі ў ваду.

— Пана Прушынскага трэба прызначыць! — гарлалі злева. — Прушынскія заўсёды былі войтамі ды суддзямі ў павеце!

— Пана Кабылінскага! Кабылінскія былі ў магістраце ды ў замкавым судзе!

Прапановы пасыпаліся, як з дзіравай торбы. Гарэлачны перагар задушлівым воблакам вісеў над пляцам. Двое асабліва расчырванелых шляхцюкоў ужо адышліся, пахістваючыся, да прытулку братоў баніфратраў, пад духмяныя ліпы, і з задавальненнем секлі адзін аднаго шаблямі, абараняючы... ды якая розніца, што? Бо які гэта сойм, трыбунал альбо суд, калі ніхто не паб'ецца на сумленным двубоі? Той-сёй не супраць быў таксама далучыцца да святой шляхецкай справы.

— Спыніцеся, вашамосці! — гукнуў падстароста, які цяпер быў тут як бы галоўным, хаця ў гэты момант не надта даражыўся такім старшынствам. Каго б ён зараз ні выбраў — атрымае выбух нянавісці.

— Гэта вам не элекцыйны соймік! Калі мы зараз пачнём абмяркоўваць кандыдатуры ды звадзіцца за іх, дык сесія не пачнецца да Спаса! Тут Божы суд толькі што адбыўся, памятаеце? Трэба, каб само неба кандыдатуру падказала! Вось айцец Аблачынскі мог бы нас скіраваць...

Пан Ваньковіч відавочна спрабаваў перакласці цяжар выбару на айца Аблачынскага, які трохі разгубіўся ад такога гонару... А пакуль святы айцец думаў, хтось выкрыкнуў:

— Калі трэба знак, дык ён жа і быў нам сёння пададзены! Хто перамог у Божым судзе злачыннага суддзю, і мусіць заняць ягонае месца!

Як ні дзіўна, ідэя спадабалася — па прынцыпе «ні нашым, ні вашым». Лёднік не належаў ні да якай партыі, нічые інтарэсы не прадстаўляў, сам — фігура не важкая, таму кожны спадзяваўся, што падчас вырашэння справы перацягне яго на свой бок. Можа, такія складаныя матэрыі і не ўтвараліся ў кожнай шляхецкай галаве, галоўнае — усе разумелі, што можна зараз жа пасадзіць кагось нейтральнага на месца Ватмана, аб якім, здаецца, ніхто не шкадаваў.

— Вельмі слушная кандыдатура! — заявіў, падумаўшы, падстароста. — Пазбавіў нас ад такога злыдня, які наша слаўнае места ганьбіў, займаючы пасаду суддзі!

Та-ак, моцна чымсьці прыпёк ягамосць Ваньковіча граф Пянткоўскі.

Да Лёдніка нарэшце дайшло, што за бліскучыя перспектывы яго чакаюць — ажно перасмыкнула небараку. Ён, не выпускаючы з абдоймаў жонку, павярнуўся з ганка ратушы да паспалітай публікі.

— Вельмішаноўнае панства, шчыра дзякую за той гонар, які вы мне выказваеце! Але я ж яго нявартны. Я ніколі не забываюся, што па паходжанні звычайны полацкі зямянін, хоць і атрымаў ад яснавяльможнага князя Міхала Казіміра Радзівіла, колішняга нашага вялікага гетмана, набілітацыю. Я — доктар, лекар, шаноўнае панства, я не магу быць урадаўцам. Маё пакліканне і доўг — лячыць паспаліты люд, па волі Божай і з дапамогай святога Панцеляймона. Але я магу прапанаваць вам добрую кандыдатуру, якой перадаю сваё... сваё бласлаўленне Божым судом!

Лёднік абвёў вачыма натоўп і працягнуў руку ў бок Пранціша.

— Пан Прантасій Вырвіч, шляхціц самага старажытнага роду, спрактыкаваны ў бойках. І законы добра ведае, як вы самі ўпэўніліся. Сумленны, пачцівы, узрост адпаведны, жанаты, мае ўладанні ў павеце, у сваяцтве з высакароднымі асобамі...

Людцы заазіраліся, пачалі абмяраць вачыма драгуна, штось загулі, здаецца, ухвальнае... Пранціш ажно на крок назад адступіў, нібыта яго не на суддзю рэкамендуюць, а ў ахвяры паганскаму бажаству. Не выклікалі даверу гэткія

раптоўныя выбары. Дый як быць з тым, што Пранціш Вырвіч — дысідэнт, праваслаўны, а дысідэнтам да нядаўняга часу забаранялася займаць дзяржаўныя пасады. Цяпер, праўда, Панятоўскі пайшоў на саступкі пад уплывам маскоўцаў, дый замкавы суд у горадзе з магістратам быў дастаткова незалежны...

— Вельмішаноўнае панства, дзякую за гонар, але ж...

Вырвіч спрабаваў агучыць свае сумнівы, але за ягоны плячук ухапілася тонкая, але моцная ручка, і над вухам пачуўся шэпт пані Дамінікі Вырвічавай:

— Згаджайся! Адмовішся — невядома каго выберуць, яшчэ вынікі Божага суда перагледзяць...

З другога боку зашаптаў Давыд Ляйбовіч, які пільнаваў усю бойку з доктарскай валізкай пад пахай:

— Не бойцеся, пан Пранціш, яны зараз і слуп верставы выбралі б!

Падбадзёрыў аптэкар, няма чаго сказаць... Пан Гараўскі зводдаль энергічна ківаў галавою, таксама падтрымліваючы ідэю...

Пачуўшы адчувальны штуршок у бок ад разумнай жоначкі, Пранціш выпрастаў спіну і важна пакланіўся.

— Калі на тое будзе воля ягамосці пана падстаросты і паноў-братоў...

Воля на тое была.

І хутка Вырвіч, прызначаны панам падстаростай, што было падтрымана una voce[11], ужо сядзеў у крэсле Ватмана, а ўзрадаваныя шляхцюкі, зямяне, купцы, карчмары ды хто там меў судовую патрэбу, чакалі ў чарзе, каб вырашыць свае справы.

А бедны касцельны служка ў гэты час скрушна хадзіў па пляцы перад ратушай, трымаючы пад пахай увернуты ў рагожку абломак мяча князя Глеба.

— Ірады! Сапсулі рэліквію! Дзве святыя рэчы былі, а цяпер што, паўтары? Як так можна было абысціся з маёмасцю святога касцёла?

Небарака азірнуўся — усе занятыя сваімі справамі. Падышоў да самотнага цела, накрытага не вельмі чыстай прасцінай, напружыўся, ажно жылы на худой шыі ўспухлі, і выцягнуў з раны абломак мяча. Абцёр аб траву. Абодва кавалкі рэліквіі акуратна ўкруціў у анучу, крактануў ды ўзваліў сабе на плячо разам з другім, ацалелым, мячом. Служка звык цягаць дровы, мяхі ды п’яных мніхаў, так што дзве паласы іржавага жалеззя не былі самай цяжкой ношкай у ягоным жыцці. Рушыў далей ад граху ў касцёл, лаючыся сабе пад нос на кашчуннікаў.

Нябожчык так і застаўся ляжаць на чужой брукаванцы, у лужыне ўласнай крыві, пакорліва чакаючы, калі пра яго ўспомняць.

Пранціш акідваў вачыма залу: як жа неспадзявана паварочваецца кола Фартуны! Здаецца, яшчэ нядаўна бегаў ён тут, недавучаны школяр, і хаваўся ад суддзі Юдыцкага... Адчайна біўся з аднакурснікамі, што дражнілі яго за беднасць... А цяпер Прантасій Вырвіч — менскі гродскі суддзя. Няхай прызначаны па неабходнасці, спехам і, магчыма, ненадоўга...

Гэх, каб раней гэта здарылася — юны Вырвіч зараз сядзеў бы, як кароль на імянінах. Аж галава круцілася б ад гонару, нябачныя херувімчыкі з залатымі трубамі лёталі б вакол... А цяпер не было ніякай п’янкой радасці, ганарлівых думак — «вось бы мяне пабачыў той ці гэты знаёмец, як бы пазайздросцілі»... Не, толькі адчуванне цяжару, які ўзяў на сябе, трохі боязі — каб не схібіць, і яшчэ вялікае жаданне зрабіць штось важкае і правільнае, і запомніцца падчас нядоўгага судзейства не дурасцю сваёю.

Пісар напачатку не надта прыязна пазіраў на новага начальніка, але калі разам робіш цяжкую справу, мімаволі становішся паплечнікамі. Здаецца, новы

судзя не хібіў. Пераканаць Пранціша Вырвіча ўзяць бок несправядлівасці не мог ніхто... Цвёрдасць жа характару ў судовых справах заўсёды цанілася.

Ды не паспелі разгледзець апошнюю справу — у залу забег шляхцюк у апратцы, перапэцканай попелам.

— У Татарскім канцы маёнтак гарыць! Войска Крачэтнікава там усё рабуе!

— Рушэнне! Рушэнне, пане-браце!

Натоўп захваляваўся, як мора, якое вось-вось спародзіць магутную хвалю… Загайдаліся на ім кволыя чоўнікі чыёйсьці асцярогі…

— Рушэнне!

Пранціш устаў і выгукнуў:

— Канец сесіі, пане-брацце!

Падстароста Ваньковіч выціснуў скрозь зубы:

— І вось і супраць каралеўскае ўлады ісці не хочацца, і як дапусціць, каб маскоўцы зноў усё места спалілі… У мяне брат пад Слонімам у палон трапіў, дзесь у Омску загінаецца ад холаду-голаду…

Даў знак слугам, і пайшоў, намацваючы шаблю на баку.

А Вырвіч, суддзя менскі гродскі, ужо бег, каб на каня, і шабля ў руках, і Айчына чакае абароны!

Пан Гараўскі не быў надта задаволены, але адправіў з Вырвічам сваіх пахолкаў ды трох маладых шляхцюкоў. Сам не паехаў — і на адным баку з Багінскімі ўрэшце апынуцца не жадаў, і не той узрост, на кані скакаць… Пасля практыкаванняў з Лёднікам паясніцу ў цесця прыхапіла канкрэтна. Дамініка, пані судовая, толькі пацалавала мужа, трывожна ўздыхнула — але адгаворваць не стала. Яна ж дачка шляхціца і жонка шляхціца…

Заскочыў усё-ткі да Лёднікаў. А Бутрым, які нядаўна заяўляў, што хопіць з яго вайны, што ён не жаўнер, а лекар, моўчкі ўзяў шаблю, пацалаваў Саламею, якая не магла на яго наглядзецца:

— Даруй, любая…

Кінуў Алесю:

— Беражы маці і сястрычку, застаешся за старэйшага!

І рушыў за Вырвічам, цяжка, праўда, уздыхнуўшы ды прабурчэўшы:

— Ніколі, відаць, гэтая каруселя для беларусаў не скончыцца… То адны іх хочуць за дыванок пад нагамі мець, то другія… І ад якога боку ні пачні абараняцца — для другога будзеш здраднікам, хаця галоўнае для нас — не здрадзіць сабе.

І не трэба было тлумачыць нічога, апраўдвацца і шукаць прычынаў.

Калі на тваю зямлю нападаюць — ты мусіш яе бараніць, як пчолы бароняць вуллі свае, а звяры — норы свае… Няважна, шляхцюк ты, зямянін альбо просты мужык.

Над Менскам, над Вялікім Княствам Літоўскім, над родам чалавечым у чорных нябёсах праносілася Мятла, альбо камета, як называюць яе вучоныя кніжнікі. А значыць, далёка да спакою.

* * *

…Але калі зноў выпаў снег, у доме, які калісьці належаў полацкаму кнігару Рэнічу, а цяпер ягонай дачцы ды зяцю, было ціха і ўтульна.

Сафійка Баўтрамеева Лёднічанка, улегшыся на пухнаты кілім ля каміна, у якім, ператвараючыся ў чорны попел, ціха патрэсквалі найлепшыя бярозавыя дровы, вадзіла пальчыкам па раскрытай таміне. На старонках кнігі высоўвалі з

нетраў азёраў рагатыя галовы вадзяныя змеі, з голляў магутных дрэў цікавалі злымі вачыма плямістыя лемпарды, арлы ўзмахвалі крыламі над заснежанымі вяршынямі гор, падобных да палітых чакалядай ды пасыпаных цукрам марцыпанаў…

Шмат чаго ў свеце маецца, што хацелася б паглядзець малой дзяўчынцы не толькі на чорна-белых гравюрах у бацькавых кніжках.

Грукат у дзверы змусіў паненку адарвацца ад старонак. А гаспадар дому, вядомы полацкі доктар Лёднік, сам ужо бег сустракаць гасцей.

У пакой, упушчаны ўзрушаным таўсманым слугою Хвэлькам, трохі пакульгваючы, уваходзіў мужчына з адрослымі светлымі валасамі, зблытанымі, як салома. На схуднелым твары невялікая бародка, запалыя блакітныя вочы свецяцца радасцю, а ў лобе злева, дзе пачынаюць расці валасы, чырванее шнар, як ад кулі.

— Пранціш!

Доктар Лёднік і госць абняліся.

— Я цябе яшчэ ўчора чакаў, хацеў ужо сам выпраўляцца шукаць...

— Ды завіруха затрымала.

Госць скінуў цяжкі патрапаны кажух на рукі Хвэльку, які ўсміхаўся, як дзед з белага хлеба, пацёр скалелыя рукі.

— Табе дзякуй, Бутрым. Не ведаю, колькі і чаго табе каштавала выцягнуць мяне з маскоўскага палону. Каб там застаўся — памарозіўся б дакладна... Колькі нашай шляхты, што пад Сталовічамі схапілі, далей пагналі, у Сібір. Дарэчы, ведаеш, з кім у палоне спаткаўся? З панам Андрусём Агалінскім. Таго на полі бойкі ўзялі, параненага. Рабіў выгляд, што мяне не ведае. Праўда, на свой подпіс на маім ілбе паглядаў трохі вінавата.

Сафійка з цікаўнасцю і трохі з насцярогай разглядала госця, зарослага, як дзікун, стамлёнага ды зблажэлага. Да сябе не дапусціла, дазволіла толькі пацалаваць ручку, як дарослай, і зноў уселася глядзець карцінкі ў кніжцы. Мала хто тут швэндаецца да бацькоў, а вось цуд-рыба кіт на гравюры са спіны фантанчык пускае — гэта важна!

— Пан Гараўскі, цесць твой, таксама не сядзеў, парогі на пару са мной абіваў. У выніку сам кароль, лічы, за цябе заступіўся, — пасміхнуўся Лёднік. — Праз Тызенгаўза ў яго ліст на тваё вызваленне здабылі. Тызенгаўз жа вельмі ўдзячны, што падводны карабель расейцам не дастаўся. Да таго ж да стварэння медычнай школы трэба падбірацца. У адукацыйную камісію мяне хоча ўлучыць. Добра яшчэ, што цябе падчас бойкі не схапілі, са зброяй у руках. Ну а я яшчэ аргументаваў тваю невіноўнасць, што ты — суддзя менскі гродскі, і імкнешся свае абавязкі выконваць...

— Няўжо мяне суддзёй пакінулі? — здзівіўся госць, усаджваючыся з вялізным задавальненнем на мяккую канапу з кубкам гарачай гарбаты, які яму паднёс Хвэлька.

— А чаму ж не? — хмыкнуў суровы гаспадар дому. — Вось скончацца калядныя карнавалы, на Тры Каралі паедзеш судзіць, пакажаш усяму павету, што такое справядлівасць па-сармацку, de rigore juris[12]. Баі, здаецца, скончыліся...

— Скончыліся... — пазмрачнеў Пранціш. — Здушылі канфедэрацыю. Цяпер канец шляхецкай вольніцы і самой дзяржаве... Помніш верш: «Лёс для таго, хто вярнуўся з прайгранай вайны — толькі забыцца, як сталі з муроў — валуны...»?

— Таму час збіраць камяні... Рабіць, што можна, дзеля ўмацавання розуму й цела народа, пакуль ёсць магчымасць, — ціха прамовіў доктар, усеўшыся ў

крэсла насупраць госця. — Каб з'явіліся ў ім новыя вучоныя і юрысты, паэты і эканамісты, лекары і філосафы, каб увогуле адукаваных людзей было як мага больш, і сярод простага саслоўя таксама. І каб адукацыю ім даваць на роднай мове, кнігі на ёй пісаць, энцыклапедыі, як Дзідро, складаць. Каб ганарыліся беларусы сваім народам, а не выракаліся яго пры першай мажлівасці. І колькі сіл для такой працы трэба! Ніводныя рукі не лішнія.

Лёднік уздыхнуў.

— І як цябе занесла пад Сталовічы? Тут усялякае расказваюць пра гэтую бойку... Нібыта вартавыя перапіліся, як і ўсё войска, святкуючы нядаўнюю вікторыю. Нібыта князь Багінскі ў час нападу войска Суворава музіцыраваў ды цешыўся прысутнасцю сваёй каханкі д'Асэ... А як пачаўся бой, праз акно ўцякаў у адной бялізне, паспеўшы толькі зачэрпнуць жменю табакі...

— Людзі з усяго зробяць альбо трагедыю, альбо анекдот, — весела бліснуў блакітнымі вачыма госць. — Біліся мы добра, павер. І князь, якія б ні меў заганы, заслугоўвае павагі, бо ўсё ж устаў на абарону Айчыны, не пабаяўся, як многія іншыя. Ну што зробіш, калі ён па натуры хацеў бы быць музыкам альбо мастаком, а нарадзіўся магнатам.

— Зараз ён у Італіі, — задумліва прамовіў доктар Лёднік. —Там і цяпер, мусіць, цёпла...

— Цёпла...— таксама задумна прамовіў госць і мімаволі сцепануў плячыма — намерзся, відаць. — Ты прабач, але я не магу ў вас доўга затрымлівацца...

Бутрым з разуменнем усміхнуўся.

— Яшчэ б, да маладой жоначкі трэба ляцець ды спяшацца. Дзякуй богу, удалося цябе выцягнуць да важнай падзеі. Так што папрысутнічаеш пры нараджэнні свайго нашчадка!

Пранціш ледзь не ўпусціў кубак, на запалых шчоках праступілі чырвоныя плямы ўзрушэння.

— Як... калі?

— Ды ў красавіку, мабыць. Ну што ты ўскокваеш — ціха, ціха... Усе нармальна. Я ж езджу, назіраю за пані Дамінікай, і Саламея наведваецца, кансультуе... Пані судзейская яшчэ больш расцвіла, цябе чакае. Намалявала твой партрэт па памяці. Чыста князь Палямон!

А Вырвіч не мог супакоіцца, бо ад шчасця хацелася ці то плакаць, ці то неадкладна напісаць паэму. Пажадана гекзаметрам. І даўжынёй з літоўскую вярсту. Падумаць толькі, яшчэ тыдзень таму рыхтаваўся паміраць ад голаду ды холаду — а тут і дэкрэт аб вызваленні, і карэта чакае... А цяпер вось — бацькам скора стане! Працягнецца род Вырвічаў...

— Гэх, толькі не перадам сыну радавую зброю...

Адабралі прадзедаву шаблю пры арышце... Лёднік задуменна паглядзеў, адышоўся ў другі пакой і вярнуўся, несучы ў руках шаблю, як на каранацыі.

— Вось, выкупіў быў у расейскага афіцэра, калі твае сляды шукаў.

Пранціш недаверліва пацягнуўся да яе: Гіпацэнтаўр!

Знаёмае дзяржальна само лягло ў руку.

— Бутрым!

Вырвіч кінуўся да свайго былога слугі і настаўніка.

— Асцярожна, задушыш... А мне яшчэ сёння да цяжкахворага ісці.

Пранціш не ўтрымаўся — выхапіў з похваў лязо, выпісаў у паветры некалькі маланак... Пакуль у шляхціца ёсць у руках шабля, ворагі не перамаглі!

Лёднік назіраў за панам суддзёю з паблажлівай усмешкай, як за дзіцем. Вырвіч схаваў шаблю і павярнуўся да старэйшага сябра.

— Дарэчы, пра хваробы... Як там прайдзісвет Замойскі, скарыстаў твае даследаванні?

Бутрым адкінуў тонкімі доўгімі пальцамі чорна-сівыя валасы — аж не верылася, што такія далікатныя рукі, рукі лекара і вучонага, маглі арудаваць цяжэнным мячом.

— Скарыстаў... Але, як кажуць, не ў каня аказаўся корм. Не цярпелася пану Замойскаму з'есці свой кавалак славы. Не расчытаў усё, як трэба, паблытаў кавалкі рукапісу. Не ўлічыў, што ўсё настолькі новае ўспрымаецца шаноўнымі нашымі медыцынскімі калегамі звычайна ў рожкі. Пакуль штось ім давядзеш... Памятаеш мой даклад у Віленскай акадэміі? Вось і Замойскага пасля ягонага артыкула абвесцілі вар'ятам, шалберам, невукам і гэтак далей. Мне ж да падобнага не прывыкаць — я ў медыцыне ваяр. Тут трэба быць гатовым да ахвяраў ды мець важкія аргументы для абароны. А менскаму лекару пасля таго, як столькі гадоў клёцкай у алеі плаваў, свет абрынуўся. Павініўся перад навуковай грамадою, што паспяшаўся з вынікамі, шлем, як паганскае вынаходніцтва, здаецца, са злосці ўвогуле знішчыў. Ды яшчэ здуру на мяне саслаўся: маўляў, авантурыст доктар Лёднік з тропу збіў. Так што і тут я нічога не страціў: парадкую ўсё, што зразумеў дзякуючы шлему Альбукасіса, у трактат. Пасля маёй смерці, магчыма, сын апублікуе. А пакуль людзей з дапамогай новых ведаў ратую.

— Пан Вырвіч! — у пакой забегла прыгожая кабета ў каптуры, расцалавала госця. — З гэтымі прафесарамі ніякага зладу няма! Як закруцяць сваю катрынку, дык трэба лекцыю цалкам адгаварыць! Пойдземце, Пранціш, там балею вады нагрэлі. Цяпер ваша справа простая — памыцца, пагаліцца, пераапрануцца, пад'есці, выспацца... Каб пані Дамініка не спалохалася!

— Дзядзька не страшны! — раптам упэўнена заявіла Сафійка, скептычна вывучаючы цёмнымі вачанятамі госця. — Яго толькі пакарміць трэба!

Навучылася паненка «р» выгаворваць...

І хутка Пранціш паглынаў смачнюткія шалтаносы, нарыхтаваныя самой гаспадыняй, а сам у думках быў ужо ў Капанічах.

— Дзень добры, пан бацька! Дзень добры, пан Вырвіч!

Аляксандр Лёднік, шляхціц юны, але выхаваны дасканала, адвесіў паклон па ўсіх правілах.

— А адкуль у шаноўнага пана Аляксандра гэтая сіняя пляма пад вокам? — сурова папытаўся доктар Лёднік. Алесь насупіўся, памацаў сіняк, які пераліваўся чырвона-сінім.

— Гэта быў сумленны двубой, пан бацька!

— З-за чаго, за прыўкраснай дамы? — весела папытаўся Пранціш Вырвіч.

Алесь Лёднік вельмі знаёма задраў чарнавалосую галаву.

— Алёхна Параеў, пісарчук, смяяўся, што я гавару на той мове, як мы дома гаворым. А я яму — на ёй Статуты нашыя напісаныя! А ён... Шкада, я шаблі з сабой не меў!

— Ясна, сын. Сядай за стол. Наступны раз паспрабуй абысціся словамі. Лязо ды кулак — апошні довад і не самы лепшы.

Але зразумела было, што і без гэтых довадаў на сваёй зямлі ліцвінам не абысціся, калі нават у абароненай морам ды скаламі Ітацы цару Адысею нельга было схавацца ад вайны. А што ўжо казаць пра скрыжаванне еўрапейскіх дарог... Як сачынялася там, у палоне, Вырвічу: «Гадзюкамі сплятаюцца

вятры, і неба, як апошні сцяг, ірвецца. На скрыжаванні жыць — не да пары, ды Бог адвёў нам толькі гэта месца. Як мітуслівы блазан, час прабег, бразготкай аглушыўшы нат спачылых. На скрыжаванні — патаптаны снег, і бель твае не захаваюць крылы. Радкі паэтаў не ўтаймуюць вір, не сшыюць разарваную эпоху. Як музыка нябёсная ў клавір не змесціцца... Але па волі Бога жывем на гэтым скрыжаванні мы, трыпутнік не баіцца каляіны. Стаптаны снег апошняе зімы вясновыя стварае ручаіны».

— Ну што ж, заўтра адправім цябе да сям'і... — задумна прагаварыў Лёднік Пранцішу Вырвічу пасля вячэры. Дзень паціху спускаўся па цёмных сходах са свае званіцы. Тахкаў гадзіннік на сцяне, ягоны бледны масянжовы твар быў абыякавы да ўсіх мітрэнгаў.

— А ведаеш, добра ўсё-ткі, што тады, па дарозе на Валожын, у цябе, пан Вырвіч, знайшоўся шэлег, каб купіць мяне ў пана Агалінскага. Каб не той шэлег — па іншаму лёсы б нашыя склаліся.

— Твая праўда...

Вырвіч адпіў гарачага чырвонага віна з цынамонам.

— Што ж, часам дробная манетка можа пусціць гісторыю па іншай дарозе. А з нашым беларускім шчасцем гэтая гісторыя абавязкова будзе пакручастай і амаль што неверагоднай.

## Заўвагі аўтара:

[1] І ў казцы ёсць частка праўды (*лац.*).

[2] Доказы пераканаўчыя (*лац.*).

[3] Вечны абет маўчання (*лац*).

[4] Адмова (*лац*).

[5] Закахацца (*лац*).

[6] Аснаванне чэрапа (*лац*).

[7] Закон не цікавяць дробязі (*лац*).

[8] Узыходзячая ранішняя зорка (*лац*).

[9] У здаровым целе здаровы дух (*лац*).

[10] Тыя, што гуляюць мячом дзвюма рукамі (*лац*).

[11] Адзінагалосна (*лац*).

[12] Дакладна паводле закона (*лац*).



Анатоль ЗЭКАЎ

# ВІДУШЧАЯ ДУША

* * *

Мая душа, удзень і ўночы
усё навокал заўважай,
бо ты пільнейшая, чым вочы,
і больш відушчая, душа.

Люструй да кожнае драбніцы,
да кожнай рыскі спакваля
і ўсё раскладвай па паліцах, —
усё спатрэбіцца пасля,

каб мог я кожны дзень успомніць,
не сцёршы памяць на муку,
каго сустрэў учора й сёння
і што пабачыў на вяку.

Люструй, паказвай, дзе я збочыў,
хоць сам таго не заўважаў.
Не ўсё пабачыць могуць вочы,
што ўбачыш ты, мая душа.

* * *

І чаму ўсё не так у жыцці,
як, бывае, плануеш і хочаш?
І наперад няма сіл ісці,
і няёмка назад паварочваць.
І стаіш, і глядзіш па баках,
азірнешся назад —
і наперад
пазіраеш туды, дзе рака

---

*__Зэкаў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у камсамольскіх арганізацыях, рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя», літаратурным рэдактарам часопіса «Вясёлка», працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Аварыя сумлення» (1996), «Лісты да цябе» (2005), «Чарнобыльскі вецер» (2006), «Промнік позірку твайго» (2008), «Пад кронай белых аблачын» (2013), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Каханне на снезе» (2011), «Вінегрэт пад фуршэт» (2015), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Мянтуз сярод мядуз» (2007), «Зязюля Гулюля» (2011), «Не казкі пра Сашку» (2013), «Як Гаўка ў космас збіраўся» (2013), «Безбілетны зай» (2014), «Вожык вёз сараканожак» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі «Залаты Купідон» (2007), Літаратурнай прэміі імя В. Віткі (2009).*

падмывае жыцця твайго бераг.
Дзень за днём. А падмые яго —
і абваліцца бераг у рэчку,
і не будзе ўжо нават таго,
што вяло цябе шляхам адвечным.

* * *

Прынцып ёсць жалезны —
успрымай на веру:
перш, чым раз адрэзаць,
сем разоў адмерай.
Ты адмераў столькі,
аж да міліметра,
і стараўся,
толькі
не адрэзаў гэтак,
як было патрэбна,
нарабіўшы шкоды?

Ўсё адно не грэбуй
мудрасцю народнай.

* * *

Дні, тыдні, месяцы, гады,
нібыта коней кругаверць,
ляцяць удалеч. А куды?
А хоць куды — абы ляцець!

І ўжо галоп іх не спыніць,
не пераняць, не павярнуць.
Так і само жыццё ляціць,
не называючы цану

ні дням пражытым, ні гадам.
А назаве, дык стане горш
умомант ад цаны той нам,
калі цана ім медны грош.

* * *

Зімой у нас — ні снегу,
і ні дажджынкі — летам,
нібыта з глузду з’ехаў
той, хто ўладарыць светам.

Няўжо папераблытваў,
змяшаў усё ў прыродзе?
Няўжо зямля з арбіты
адвечнае сыходзіць?

Ды ў тым усё ж наўрад ці
віна твая, Ўсявышні.
За тое самі плацім,
што ўсё навокал нішчым.

* * *

Жыццё на нейкім павароце
разбег імклівы свой прыцішыць,
а потым выверне і пойдзе
зусім у накірунку іншым

і быццам бы наноў пачнецца,
у новую ўступіўшы фазу,
а потым зноўку спатыкнецца,
усё мяняючы адразу.

Яго ты ў лінію скразную
не выпраміш, хоць будзеш магам...
Пакуль жывём — мы балансуем
і ўсё шукаем раўнавагу.



**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# БЯРОЗА

*Апавяданне*

Ах, бярозка-сястрыца, бярозка-царыца, колькі гадоў ужо стаіць яна, раскашуе пад вокнамі нашага дома, укручаная ў бялюткую, як старажытны папірус, скрыпучую кару, на якой рассыпаюцца мурашкамі цёмныя плямкі-радзімкі! Не адно лета яе карону паласкалі цёплыя летнія дажджы і ліўні, глушылі грымотныя навальнічныя перуны і пранізвалі наскрозь зыркія маланкі; не адну восень сцюдзёныя ссівярэлыя вятры атрасалі на дол пажаўцелае лісце, якое потым іржавела і слалася пад снег! А колькі завеяў адзявалі яе ў снежнае футра з сабаліным каўняром, і пасля адлігі, і калі вяртаўся і гракаў мароз-крапак, пералівалася залацістымі мірыядамі інею яе лёгкая, падобная да воблака, крона. Здаецца, варта было крыкнуць на ўсю глотку дурной вароне, што сядзела на бляшаным і латаным-пералатаным даху гаража, як крышталёвыя карункі асыпяцца долу шклянымі друзкамі і аскепкамі. І вакол стане ціха і пуста. А як хораша глянуць на чорнае вільготнае галлё вясной, калі на ім праклюнуцца дробныя, нібы птушыныя дзюбкі, пупышкі, нясмела выглянуць на белы свет, нібы чагосьці баючыся, а, потым, асвойтаўшыся і як усё роўна зразумеўшы, што не такі ён ужо і страшны і грозны, яны нарэшце распускаліся і вызіралі зялёнымі лісточкамі, акрываючы крону пасцілкай шугавейнага полымя.

Ах, бяроза-чараўніца, бяроза-сініца, каб яна толькі ведала, як трывожыўся і хваляваўся за яе дзядзька Яўмен! Кожную раніцу, як толькі золак адаб'ецца чырванню ў шыбінах акон, міжволі кідаў ён позірк цераз балкон: як яна там, яго бяроза? Ці не здарылся з ёю што-небудзь? Можа, наляцела шаляніцай бура ды галіну ў плячах вывернула і выкруціла? Ці зламыснік узяў і сякерай цюкнуў у камлі, пакінуў злашчасную засечку-рану? Гэтулькі бедаў хадзіла каля бярозы, гэтулькі ліхадзеяў цёрлася ды аціралася ў двары, паблізу і наводдаль,

---

*__Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч__ нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Рэспубліканскім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989, «Квадратура круга» (2000), «Неба ў руках» (2012) і інш.*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Аркадзя Куляшова (1994) і «Залаты Купідон» (2013).*

якім яна, здаецца, калола вочы і засцілала белы свет: то патрабавалася месца для стаянкі легкавікоў, а яна займала ладны лапік зямлі, то занадта многа ападала з яе лісця, якое трэба было зграбаць і паліць на кастры. Траплялісі і такія ненаежы, якіх даймала, не давала жыць звычайная зайздрасць, маўляў, чаму гэта прыгажуня стаіць не пад іх вокнамі? А, калі так, няхай і яе не будзе ў двары! Прападзі яна пропадам! Жылі дагэтуль без гэткага дабра і шчасця, пражывуць і далей! Але, як не шчэрылі клыкі, выходзіла па-іншаму.

Колькі гадоў шуміць, гамоніць з наваколлем і небам бяроза, шэпчацца з небам і зорамі, зазірае ў кватэры, усміхаецца старым і маладым, юнакам і падлеткам. Часам хто-небудзь гляне, акіне яе хуткім позіркам ад камля да верху і пашкрабе патыліцу: адкуль яна тут узялася і вырасла? Можа, бяроза — самасейка? Некаторыя старажылы расказваюць, што тут калісьці была ўскраіна горада, гіблае само па сабе месца: на колькі вёрст цягнулася балацявіна, толькі зрэдку там-сям пракідваліся груды пяску і гліны, па090рослыя мохам. Трапіўшы ў такую глуш, няцяжка было і заблудзіцца ці шуснуць у дрыгвяністую прорву. У рачулках і крыніцах пялёхкалася рыба, у гушчарніку адзін аб аднаго цёрліся звяры, стаяла задушша, ад якога нельга было прадыхнуць. Пара падымалася ўгору, быццам унізе куродыміў пажар.

А тым часам непадалёку гуў горад, з кожным годам ён пасоўваўся наперад і, уразаючыся ў мядзведжы запаведны кут, асушаў багны і дрыгвяністыя прорвы. Яшчэ ў даваенныя часы тут можна было бачыць параскіданыя халупы, паміж якімі слаліся кладкі. А калі адгрымела вайна, гэта месца стала ўскраінай горада. Балацявіна высыхала ўвачавідкі і на пясчаных грудах адзін каля аднаго ўставалі дашчатыя баракі, узведзеныя нямецкімі палоннымі. Людзі год за годам абжывалі нечапаныя чалавечай рукой імшары. Адны скардзіліся на камарыную заедзь, іншыя не маглі нарадвацца, што сышоўшы з ганка, можна было набраць гладышак брусніц ці журавін. А тым часам горад лез, падступаў бліжэй і бліжэй. Равучы і выючы маторамі, пайшлі самазвалы са шчэбенем і пяском, засыпалі дрыгву за дрыгвою, прыводзілі да ладу велізарны абсяг зямлі. А перад тым, як узводзіць цагляныя дамы, зазвінелі бензапілы, загрукалі сякеры, затрашчалі ў камлі стагадовыя дрэвы і пачалі падаць долу. Ускрыкнула ў роспачы бяроза, гайданулася з боку на бок, не ведаючы, што з ёй зрабілася, і пайшла ўніз, раскінуўшы галлё кроны, быццам спадзявалася ўчапіцца за штонебудзь і адзержацца. Нездарма кажуць: калі топішся і за саломінку ўхопішся! Ды нішто ўжо не магло дапамагчы бярозе. Грымнулася яна з усяго размаху вобзем, аж водгулле разляглося навокал, апошні раз узмахнула голлем. І ў гэта імгненне выпырхнула дробнае, з мачыну, бярозавае семя. Падхапіў яго вецер, што ўзняўся, калі падала дрэва, ускінуў яго высока ўгору, пачаў кружыцца з ім ды забаўляцца, — ведама, свавольнік і шаляніца!

Не спадабалася гэта гульня семю, улучыла яно зручнае імгненне, вырвалася з абдымкаў ветру, пырхнула ўбок і неўзабаве апусцілася ў тоўчана-ператоўчаную куламесу, дзе была невялічкая і неглыбокая ямінка. І ўзрадвалася: лепшага прытулку ва ўсім свеце не знойдзеш! А тут, як на тое, упаў зверху невялічкі камячок зямлі, акрыў семя. Цёпла і ўтульна стала, як у пуховай пасцелі. Хацела яно сцішыцца дый заснуць. Але засвістала ў пявучую свісцёлку малое птушаня, пачало выробляць такія каленцы, што і мёртвы на месцы не ўлежыць. Падхапілася семя: нельга гультаяваць, з мора пагоды чакаць!

Трэба за справу брацца. Пусціла яно вострыя карэньчыкі ў зямлю, напілося гаючых сокаў, паднапружылася і пайшло сабе расці ўгору, сілы набірацца ды цешыць людскія душы і вока.

Тым часам сядзеў каля акна ў сваёй кватэры, на першым паверсе, дзядзька Яўмен. Быў ён няголены і пахмуры, нешта ў яго не клеілася, ішло не так, як

хацелася. Даў ён учора валацугу Сідару грошы, каб той прынёс з крамы пітва прамачыць горла. Бо надта пякло сонца і стаяла неймаверная гарачыня. Але во ўжо другі дзень, як ён не бачыць ні Сідара, ні пітва. Сідар, што з раніцы прывык швэндаць па двары, як скрозь зямлю праваліўся. А можа, дзе-небудзь у цянёк затуліўся, халера, ды храпака дае на ўсе застаўкі? Ад гэтага чмута ўсяго можна чакаць. Ненадзейны чалавек. Яго і жонка даўно вытурыла з хаты, бо, відно, і каліва карысці няма ад такога шчыруна.

Трэба, відно, і яму, Яўмену, больш строга ставіцца да жмінды-прыдурка, што за капейку гатоў дружбу растаптаць, абы мець уласную выгоду. Яўмен пільна прыгледзеўся, што робіцца на двары. Ён напаўляжаў грудзямі на падаконніку, заўважаючы кожную травінку і былінку. І раптам на вочы яму трапіўся маленькі парастак-дубчык. Завойкаў радасна мужчына, гоцнуўся на падлогу і, хоць быў інвалідам, замест ног з сорак другога меў дзве кульці, якія абуваў зімой і ўлетку ў два абрубкі ад рубчатых матацыклетных шын, хуценька выбег-выкаціўся з пад'езда і апынуўся каля парастка. Кволы, але жывы, ён вызіраў з ямінкі, нібы хацеў пахваліцца перад няголеным, але з вясёлай усмешкай на твары, дзядзькам: маўляў, глядзі, які сабой зух, чортаў дух! Сказаў гэтак парастак ці Ямену прычаўплося з учарашняга пахмелля, ён не помніў. Але зразумеў, што дрэўца ўзышло не так сабе. І яго нельга пакінуць без прыгляду. Парастак маглі вырваць падшыванцы альбо стаптаць падэшвамі тутэйшыя гультаі-валацугі, што круціліся тут, каб разжыцца на тое-сёе і не глядзелі, што ў іх пад нагамі: звычайная трава ці парастак!

Перш-наперш Яўмену трэба было яго агарадзіць. А ён, былы вясковы цясляр, меў залатыя рукі. І, як на тое, навокал ляжала столькі ўсялякага ламачча, што з яго можна было ўзвесці Кітайскую сцяну! Дзядзька Яўмен пахадзіў па двары, набраў добрае бярэмца аскабалкаў і розных палак, клікнуў на падмогу хлапчукоў, што непадалёк гулялі ў «футбол», ганялі камяк, скручаны з ануч, і разам з імі абторкаў дубчык з усіх бакоў, зрабіў агароджу. Услед за гэтым старанна атрос далоні, сеў наводдаль на камянёк і задаволена стаў пазіраць навакол: ці не заўважыў хто з навасёлаў, якую добрую справу ён зрабіў! Праўда, назаўтра, ці днём пазней, Яўмен зразумеў, што агароджа надта слабая, яе можа змыць лівень, паваліць і разбэрсаць град. Таму на тым месцы, дзе тырчэлі аскабалкі, ён убіў у дол чатыры колікі і прыкруціў дротам папярэчыны. Хацеў зрабіць на фанеры надпіс: «Асцярожна! Расце дрэўца», але перадумаў. Гэта магло раздражніць і вывесці з сябе якога-небудзь дурня не менш, чым быка чырвоная ануча. Хопіць будзе і таго, што Яўмен не звядзе з дубчыка свайго пільнага вока. Тым больш, што напачатку ўсё ішло і складвалася ўдала і добра. Спрыяла нават надвор'е. Пасля поўдня стала прыпарваць, услед за гэтым працерусіў дробны дожджык-грыбасей. Пад ім парастак бярозавы ўмомант пасвяжэў і так пайшоў ды рынуўся ў рост, што Яўмен дзіву даўся: ці не чарадзейны ён? А калі назаўтра прачнуўся і вызірнуў у акно, вачам не паверыў: дрэўца ўзнялося вышэй агароджы, весела глядзела навакол і махала галінкамі.

Яўмен зноў выкаціўся з пад'езда і, войкаючы і хапаючыся рукой за няголены падбародак, абышоў навокал бярозку, нібы хацеў разгадаць і ўгледзець таямнічую сілу, якая так імкліва гоніць дрэўца ў рост. Ён узяў нават палку, капануў каля парастка дол: можа, тут зямля асаблівая ці з дзіўнай прымессю... Але нічога падобнага і блізка не было. Зямля як зямля: з карэньчыкамі травы і гніллём. Яўмен выцер шапкай лоб і перад тым, як прысесці на камень, перш узяў і перакаціў яго бліжэй да бярозкі, каб паказаць, што і ён тут не з бокупрыпёку, а мае да яе прамое дачыненне. На гэты раз не паслухаўся сябра Сідара, які ціха, як кот, падкраўся збоку, моўчкі адкінуў зашмальцаванае крысо світкі і паказаў рыльца бутэлькі. Іншым разам Яўмен усхапіўся б на ногі

і рынуўся б за Сідарам на край свету. Цяпер ён узняў галаву, пільна паглядзеў на яго, быццам пазнаваў, хто перад ім стаіць, і махнуў рукой, што значыла: адыдзі і не замінай! Словам, прагнаў былога прыяцеля, як надакучлівага авадня. І Сідар зразумеў — лепш трымацца як мага далей, бо можа зарабіць на такія абаранкі, якія будзе помніць праз усё жыццё. Ён толькі здзіўлена пахітаў галавой, маўляў, як часам непазнавальна мяняюцца не толькі незнаёмыя людзі, але і сябры.

І з-за чаго? З-за нейкай дробязі, кволага дубчыка, якіх у кожным скверы тысячы! Але хай будзе па-ягоным! Для Сідара яшчэ лепш! Пляшку ён «расцісне» адзін. А Яўмен пашкадуе, сто разоў пакаецца, што адмовіўся ад пачастунку, ды будзе позна. Але памыляўся Сідар. З Яўменам, Бог ведае, што пачало, рабіцца! Ён увогуле перастаў пускаць Сідара на парог сваёй кватэры. Былы дружок не ведаў ужо, што і думаць пра Яўмена. Не магло быць, каб ён гэтак змяніўся з-за нейкае бярозкі, няхай яна там была б не тое што чарадзейнай, але і залатой. Сідар меркаваў, што Яўмен трапіў у цянёты сектантаў, і думаў, як дапамагчы яму вырвацца з іх учэпістых цянётаў. Праўда, калі Сідар заікнуўся пра гэта, Яўмен так гучна разрагатаўся, што вераб'і шуганулі з даха гаража. У яго цяпер наўме была адна толькі бярозка. Нярэдка ён запыняў каго-небудзь з тых, хто праходзіў міма, і прасіў паглядзець, палюбавацца «райскім», як ён казаў, дрэўцам.

Аднойчы адвячоркам вяртаўся дамоў малады вучоны, які жыў на другім паверсе ў адным пад'ездзе з Яўменам. Яўмен асабіста не быў знаёмы з вучоным, але чуў, што яму прадракалі бліскучы ўзлёт і будучыню. Як быццам ён шчыраваў над тым, каб зрабіць у навуцы не толькі адкрыццё, але і пэўны пераварот. Ён распрацоўваў далікатную тэму, як пры дапамозе сучасных тэхнічных маніпуляцый можна зрабіць шчаслівым чалавека. Яўмен вельмі паважаў гэтага вучонага, і яму падумалася, што менавіта ён і падкажа, чаму яго бярозка не падобная да іншых. «Падыдзі сюды, — махнуў Яўмен рукой, калі вучоны вяртаўся з працы. Можа, таму, што Яўмен быў інвалід і ветэран вайны, да ўсіх ён звяртаўся на «ты» і ніхто за гэта на яго не крыўдаваў. — Патлумач, шаноўны, чаму бярозка не расце, а ірвецца ўгору! Ты, як вучоны, павінен ведаць і адказаць».

Пахвала, пэўна, спадабалася вучонаму, ён спыніўся каля Яўмена з такім выглядам, нібы толькі і чакаў гэтага пытання, паправіў на носе акуляры і, зірнуўшы кудысьці ў неба, пачаў здалёку: «Тэарэтычна гэта можна абаснаваць, але ці хопіць у вас часу і цярпення выслухаць?» — «У мяне хапіла часу і цярпення ў шпіталі восем гадзін пад хірургічным нажом ляжаць, а тут…» — чамусьці павысіў голас Яўмен.

Можа, гэты тон падзейнічаў на вучонага, паддаў яму ахвоты, і ён пачаў гаварыць пра космас, нейкія пратоны і нейтроны, нірвану, сусветнае прыцягненне і так складна ды ладна, што Яўмен лавіў кожнае слова, ажно рот раскрыў і, здаецца, баяўся дыхнуць. А калі вучоны скончыў, ён распрасцёр рукі, нібы збіраўся яго абняць і толькі выгукнуў: «А братка ты мой, нічога ж я не ведаў дагэтуль!»

А тым часам з-за вугла дома паказаўся тонкі і хударлявы мужчына ў гадах, бухгалтар, які насіў прозвішча, падобнае да мянушкі, Дрын. Хадзіў ён у макінтошы і ў капелюшы, плечы і галаву трымаў так, быццам нёс на ёй поўную шклянку вады, баючыся праліць хоць бы адну кроплю. Жыў ён на трэцім паверсе з такой жа хударлявай, як і сам, кабетай, якую ўзяў з «прычэпам», дачкой.

Дрын быў раўнівы і ўзрыўны, як порах, — пастаянна падазраваў жонку, таксама бухгалтарку, што яна знюхалася з Кузьмой, дырэктарам хлебапякарні,

і зрабіла яго раганосцам. Жонка клялася, што гэта няпраўда. І дзіўная справа: чым больш яна клялася ў вернасці, тым больш Дрын быў перакананы ў сваёй правасце. І незразумелай рэўнасцю проста-такі даводзіў кабету да таго, што іншая на яе месцы палезла б галавой у пятлю ці кінулася б у вір. Яна гразілася, што возьме і сыдзе ад Дрына.

Але неяк трывала, бо час ад часу ён рабіўся такі ласкавы, хоць бяры яго і да раны прыкладзі. Баялася і таго, што была, як і Дрын, у гадах. А каму патрэбна яна, пажылая кабета, ды яшчэ ў прыдачу з дачкой? Так і ліпела сям'я, лічы, што на валаску. А Дрыну здавалася: жыве не горш за іншых. А што да суседзяў, мужчына вітаўся з кожным, кранаючыся брылька капелюша. Пабачыўшы Яўмена, ён трохі вышэй, чым у іншых выпадках, прыўзняў капялюш, як-ніяк перад ім інвалід вайны, і хацеў прайсці міма. Але Яўмен неяк так глядзеў на Дрына, нібы збіраўся штосьці папрасіць, і той прыпыніўся. Яўмен чамусьці хваляваўся, што з ім рэдка здаралася, мыляў губамі, нешта мычаў і паказваў рукой на дрэўца.

Бухгалтар, які ўмеў глядзець глыбока і далёка і гэтак, як убачыў і здагадаўся, што дырэктар пякарні заляцаецца да яго жонкі, зразумеў, што інвалід чакае пахвалы. Ён ўважліва агледзеў бярозку з усіх бакоў і, мыляючы губамі, шукаў патрэбныя словы. Як на тое, яны вылецелі з галавы, таму па-бухгалтарску загадкава сказаў, што дэбет роўны крэдыту. Хаця гэта і дробязь, але вунь, як важна ў падліках.

Ледзь паспеў знікнуць у пад'ездзе бухгалтар, як паказалася манікюрша Ноначка, што жыла на чацвёртым паверсе, працавала ў моднай цырульні, і была расфарбаваная, як дзіцячая цацка, насіла ўздыбленую прычоску і лодачкі на высокім абцасіку.

Ноначка была халасцячкай і ўпарта шукала сабе прыгажуна. Канечне, не на тутэйшых гарадскіх танцульках, дзе ўсе юнакі, як яна лічыла, былі ахламоны, а на паўднёвых курортных пляжах. Разы са два яна добра-такі апяклася, але няўдачы не адбілі ў яе ахвоты кожнае лета, як на крылах, ляцець у Крым, прыглядвацца і прыцэньвацца да тамашніх пляжных кавалераў.

Яўмен бачыў, што манікюрша спяшаецца і, каб звярнуць на сябе ўвагу, гучна кашлянуў і, як мага ветліва і далікатна, гукнуў: «Ацаніце, Нона Феакцістаўна, вось гэту модніцу. Ці маецца ў яе грацыя?»

Калі б Яўмен сказаў неяк інакш, манікюрша наўрад ці зірнула б у яго бок. Але ў яго голасе было гэтулькі павагі і пашаноты, што яна аж прысела каля бярозкі, дакранулася да яе лісцікаў і, каб паказаць сваю дасведчанасць наконт прыгажосці, усклікнула, як рабіла гэта ў цырульні, калі пазногці прыгажунь ззялі ад лаку: «Класіка! Але, калі б на яе месцы быў клён ці дубок…» І задаволеная сабой і сваёй ацэнкай весела і звонка рассмяялася і, забыўшыся, дзе знаходзіцца, хутчэй па звычцы, чым свядома, як маладому, падміргнула Яўмену.

Не ведаў Яўмен, што неўзабаве для яго настануць дні сапраўдных выпрабаванняў.

Пачалося з таго, што раніцай густая пара павала сярод двара з люка, — відаць, недзе ў зямлі вада прарвала трубу цеплацэнтралі. У касках і спяцоўках прыехалі рамонтнікі, замітусіліся каля люка і адразу скемілі, што, каб ліквідаваць аварыю, трэба дабірацца да трубы. Дзеля гэтага прыгналі калёсны трактар, развярнулі асфальт і пачалі ўгрызацца каўшом у дол. Яўмен пабачыў, што камякі зляжалай зямлі і торфу ляцяць убок бярозкі і кожнае імгненне могуць упасці на дрэўца, зламаць і пахаваць яго пад сабой. Яўмен зляцеў з ганка, імгненна апынуўся каля бярозкі і закрычаў экскаватаршчыку, маўляў, што робіш, паганец, хіба не бачаш, што дрэўца можаш загубіць?!

Нейкі час той рабіў выгляд, што не заўважае Яўмена, але падаспелі суседзі і ўзнялі такі гвалт, што можна было пачуць за квартал. Старшы з рамонтнікаў махнуў трактарысту рукой і груды зямлі паляцелі ў іншы бок.

Другім разам пагроза для бярозкі навісла тады, калі яна сваёй кронай перасягнула пяты паверх. Да гэтага часу асфальтаваная дарожка ў двары была ўжо ў ямінах і калдобінах і яе рашылі абнавіць. А разам з гэтым пакласці новыя брусы бардзюра. Там, дзе расла бяроза, дарожка рабіла залом, і нейкі мудрэц вырашыў спраміць яе. А для гэтага трэба перш-наперш спілаваць бярозу. Вальшчыкі-дрывасекі з'явіліся раніцай і закружыліся каля дрэва, раячыся, дзе трэба зрабіць засечку і ў які бок яе валіць. Яны былі вясёлыя і ўзбуджаныя: учора атрымалі прэмію і замачылі яе. Сягоння разгавеліся півам і меркавалі пасля таго, як зваляць бярозу, зазірнуць у забягалаўку, што была па суседстве.

Матарыст-вальшчык калупаўся каля бензапілы, спрабаваў завесці матор. Некалькі разоў ён загурчэў, але праз секунду-другую глух. Гэта падазронае гурчэнне пачуў Яўмен, глянуў у акно і ўнутры яго пахаладзела: камель бярозы абклалі дзецюкі з бензапілой. Адзін з іх замахнуўся сякерай, каб падсячы бярозу. «Гэй ты, дурыла! — хацеў крыкнуць, а на справе нема раўнуў Яўмен, — кінь сякеру!» А праз імгненне выкуліўся цераз падаконнік проста на галовы дрывасекаў. Ён настолькі быў разгневаны, што адкінуў ад дрэва двух ці трох чалавек.

Гэта было настолькі нечакана, што яны спачатку з недаўменнем глядзелі на Яўмена і не разумелі, што адбылося. А калі да іх дайшло, што нездаляшчы інвалід не дазваляе ім зрабіць тое, што загадала начальства, самі прыйшлі ў лютасць. Схапілі Яўмена за плечы і рукі і штурханулі далей ад бярозы. Пабачыўшы, што аднаму яму не зладзіць з гэтай хеўрай, ён кінуўся да гаража, дзе стаяў яго інавалідны дрындулет, завёў матор і, газануўшы, паімчаў на паганцаў-дрывасекаў.

Дзецюкі не чакалі, што інвалід гатоў пайсці на апошняе, каб толькі ўратаваць бярозу. Яны нейкі час стаялі каля дрэва, недаўменна пазіраючы, як да іх набліжаецца машына. І толькі тады, калі яна была ад іх за метр ці два, спалохана кінуліся ўбакі.

Яўмен стукнуўся лбом свайго «ўсюдыхода» ў камель і спыніўся. «Што, сабакі, падтулілі хвасты?» — пераможна глянуў ён на дрывасекаў, што збіралі раскіданае прычындалле і падазрона зіркалі на Яўмена, чакаючы, ці не выкіне ён яшчэ якога-небудзь коніка, папляліся з двара.

Былі яшчэ здарэнні, але дробязныя. Іх і ў разлік не варта было браць. Чамусьці да бярозкі прычапіўся, прыліп як смала Сідар, былы дружок Яўмена. Улетку ён клаўся пад ёй спаць. Дзе б ні быў і з кім бы ні дзяліў шклянку, але апоўначы, прывалокшыся ў двор і ўлёгшыся пад бярозай, даваў такога храпака, што ажно галлё гойдалася і ўзнімалася ўгору.

Яўмен, канечне, не раз бачыў, як мосціцца нанач яго дружок. Хацеў аднойчы турнуць таго, але разважыў, што нічога благога ён не робіць, таму няхай валацуга спіць і салодкія сны бачыць! Галоўнае, што бяроза шумела, гаманіла лісцем, весела сустракала вясну і лета і, здаецца, нікольні не зважала на тое, што прабягалі дні і месяцы, а разам з імі гады. Падзеі змянялі падзею, людзі, да якіх яна прывыкала, пакідалі свае кватэры і дом, пераязджалі і перасяляліся на новыя месцы. Калі яны выбіраліся з наседжанага гнязда, перад пад'ездам было тлумна і людна, стаяў несусветны гармідар. Але ўсе былі радасныя: і гаспадары, якія з'язджалі, і тыя, хто займаў іх жытло. Сярод люду тоўкся і Яўмен. Ён даўным-даўно таксама мог перабрацца ў новую кватэру, але і слухаць не хацеў, калі яму гаварылі пра гэта. Мала хто ведаў, што Яўмен не мог пакінуць бярозу, да якой прыкіпеў душой і сэрцам. Праўда, апошнім часам ён

рэдка выходзіў на двор і рэдка сядзеў на лаўцы. Штосьці яму немаглося. Нылі старыя раны, не давалі спакою і кульці ног. Тады-сяды ля пад’езда спынялася «хуткая», людзі ў белых халатах заклапочана спяшаліся да Яўмена і падоўгу не выходзілі з яго кватэры. Як ні намагалася бяроза заглянуць у акно і пабачыць Яўмена, нічога з гэтага не выходзіла. Аднойчы нейкая незвычайная цішыня запанавала каля пад’езда, і бяроза здагадалася, што адбылося нешта нядобрае і непапраўнае. Хутчэй за ўсё з Яўменам. Бяроза не памылілася...

Апоўдні пачалі збірацца мужчыны немаладых гадоў, у кожнага на лацкане пінжака былі начэплены ваенныя планкі. Вокны на ўсіх паверхах былі занавешаны і стаяла гнятлівая цішыня. Усе гаварылі прыцішана і напаўголаса. Але нарэшце натоўп калыхнуўся, картузы і шапкі зляцелі з галоў, нібы іх садзьмуў вецер. Зайграла жалобная музыка, з пад’езда паказаліся дзецюкі з трунай на плячах. У ёй ляжаў Яўмен. Акрыты чырвонай матэрыяй, ён здаваўся надта маленькім і непадобным да таго шустрага і вёрткага інваліда, што таптаўся па двары ў абутку з матацыклетных шын ці садзіўся ў інвалідную каляску і ехаў на Камароўку альбо ў суседнюю краму па харч. Бярозе стала так шкада нябожчыка, што яна ажно хіснулася ўбок. Але яна не магла падысці да яго і сказаць, як ёй зараз горасна і балюча. Зрэшты, для яго цяпер было ўсё адно: як бы хто ні плакаў і ні спачуваў, яму ніхто не мог памагчы, даць новае жыццё. Як бы ў доказ гэтага, труну паднеслі да катафалка, паставілі на дзве рэйкі і яна лёгка і нячутна пакацілася па іх у цёмнае чэрава праз адкрытыя заднія дзверцы, якія адразу і з грукатам зачыніў шафёр, нібы хацеў гэтым самым паказаць, маўляў, хопіць важдацца з нябожчыкам! А сам нетаропка пайшоў да кабіны. Завурчэў заведзены матор, аркестр яшчэ мацней і галасней раўнуў трубамі, барабаншчык грымнуў калатоўкай у бубен, нібы ставіў кропку. Людзі пачалі садзіцца ў аўтобусы і легкавікі, каб праводзіць нябожчыка на могілкі. Нарэшце жалобны картэж крануўся з месца, пакіраваў на вуліцу.

Бачыла і чула бяроза, як тыя самыя пажылыя мужчыны вярнуліся з пахавання і спраўлялі памінкі, згадвалі нябожчыка, гаварылі пра яго баявыя подзвігі падчас вайны, кляліся не забываць таварыша і разышліся-раз’ехаліся позняй ноччу. Пагаслі вокны ў доме, уціхамірылася і вуліца, па якой увесь дзень імчалі машыны. Над горадам вісела зорнае неба, якое раз-пораз чарцілі бліскотныя знічкі, а на праспекце, калі рэдкі легкавік налятаў на крышку люка, чуўся такі лязгат, ад якога, здаецца, скаланаліся каштаны. Жыццё ішло сваёй чаргой, як ішло ўчора і заўчора.

У кватэры Яўмена з’явіліся рабочыя, садралі старыя шпалеры, пабялілі сцены, пафарбавалі падлогу і неўзабаве ў ёй пасяліўся шчуплы, невялічкага росту, чалавек. Хатніх рэчаў у яго не мелася. Хадзіла чутка, што перад гэтым ён развёўся з жонкай. І не захацеў дзяліць ні нажытых трантаў, ні кватэры,ляснуў дзвярамі і пакінуў былую прысуху, захапіўшы з сабой толькі адно піяніна. На ім ён іграў цяпер па вечарах, а днём, напалову высунуўшыся з адчыненага акна і аблакаціўшыся на падаконнік, пытаўся ў кожнага, хто выходзіў з пад’езда ці ішоў у пад’езд: «А вы часам не піяніст?» Людзі недаўменна паціскалі плячамі, стараючыся, як мага хутчэй, адчапіцца ад дзіўнага і незразумелага чалавека, быццам бы ў мінулым лаўрэата высокай міжнароднай прэміі і ўладара гучнага, вядомага ледзь не на ўвесь свет, імя.

Бярозе здавалася, што настане дзень і музыкант пра гэта самае спытае і ў яе. Дрэву рабілася не па сабе. Да дзівацтва новага жыхара трэба было прывыкаць, як прывыкла яна да таго, што кожны вечар, калі ён сядаў за піяніна, у двары гаварылі: «Зноў не сядзіцца гэтаму піяністу!» Хаця і гаварылі так, але прыслухоўваліся да спеўнай мелодыі, што плыла з акна, кранала душу, прымушала замоўкнуць, сцішыцца і, задумаўшыся, успамінаць далёкае і неда-

лёкае, такое блізкае і хвалюючае, па-новаму гледзечы на яго і ацэньваючы. Бяроза таксама слухала чароўную музыку, як і тыя, хто па-ранейшаму жыў у пад’ездзе. Праўда, у жыцці кожнай сям’і адбыліся такія-сякія змены...

У постаці мажнога мужчыны цяжка цяпер пазнаць таго маладога вучонага, што хадзіў у кароткім, як казалі, «падстрэленым» палітончыку, спяшаючыся ў акадэмічную бібліятэку і назад дамоў. Ён даўно абараніў сваю дысертацыю. Хадзілі чуткі, што яго запрашалі ў адзін з замежных інстытутаў, абяцаючы, што з цягам часу яму дадуць кафедру, але вучоны чамусьці наадрэз адмовіўся ад такой прапановы, казаў, што яму дома лепш, чым дзе... Яго калегі ціха пасмейваліся, лічылі дзіваком. Вучоны па-ранейшаму вітаецца з суседзямі і на пытанне ці хутка купіць легкавік, адказвае жартам, што зробіць гэта тады, калі будзе мець траіх дзетак і атрымае Нобелеўскую прэмію.

Аціх, утаймаваўся і бухгалтар Дрын. Адбылося гэта пасля таго, як дырэктара пякарні Кузьму выклікала высокае начальства, а ўслед за гэтым на пякарню з праверкамі зачасцілі розныя камісіі. Яны нешта шукалі-вышуквалі з такой пільнасцю і настойлівасцю, нібы хацелі знайсці іголку. Але кожны раз з пустымі рукамі пакідалі пякарню. Праўда, хутка вярталіся зноў. Хадзілі чуткі, што за камісіі пякарня павінна была «дзякаваць» Дрыну. Казалі, нібыта ён пісаў пісьмы і скаргі, абліваў брудам дырэктра і вінаваціў яго ва ўсіх грахах.

Дырэктар спачатку адмятаў абвінавачванні, а, калі пабачыў, што праверкам няма і не будзе канца, падаў заяву і звольніўся. Дрын адразу акрыяў душой і целам. Ён падчапурыўся, на галаве з’явіўся новы капялюш. Дрын часта гаварыў, намякаючы на дырэктара: «Гарлач да пары ваду носіць». Аднак не перастаў раўнаваць жонку, апошнім часам да вахцёра Пракопа, што стаіць на прахадной...

Што да манікюршы Ноначкі, то, можна сказаць, пашчасціла жанчыне. Хто шукае, той знойдзе. Адшукала і Ноначка сваё шчасце. Якое яно на самай справе, можна меркаваць па тым, што цяпер у яе кватэры верхаводзіць каўказец з гарачай натурай і мянушкай «Адна нага тут, другая там!» па імені Зураб. Трымае ён кабету ў руках моцна. Зураб не крычыць, не лаецца на сваю красуню. Варта толькі яму зірнуць на Ноначку, як яна чамусьці прысядае долу і апускае крылы, падобна да курыцы. Ноначка забылася на свае ранейшыя капрызы. Адвучыў яе ад іх Зураб. Як гэта ён зрабіў, Ноначка не хвалілася нікому. Але, відаць, рабіў з веданнем справы. У Зураба яна не першая жонка. Ён ведаў, як трэба падбіраць ключы да яе душы, каб яна пазбавілася капрызаў. Казалі, што пасля ўрока, пададзенага Ноне, яна цэлы тыдзень не паказвалася на людзі. Навука, відаць, пайшла на карысць. Ноначка стала паслухмяная, слова мужа за дзесяць крокаў ловіць, каб зрабіць так, як ён скажа. Праўда, няма часу наводзіць на галаве «шматпавярховую» прычоску ды фарбаваць пазногці: абсыпана яна дзецьмі, як бобам. Пяць Зурабавых карапузаў валтузяцца ў пад’ездзе, гарлаюць на двары і чакаюць не дачакаюцца, што неўзабаве на свет з’явіцца чарговы крыкун.

Умеюць радавацца людзі, а радуючыся, маладзеюць і душой, і абліччам...

А выносістая і густалістая бяроза па-ранейшаму мкнецца ўгору, перасягнуўшы дах пяціпавярховага дома, што стаіць абчэплены рознымі антэнамі і рознымі іншымі «снасцямі». Днямі да яе дайшла чутка, што праз нейкі час будуць зносіць дом. Недзе тут павінна пралегчы метро. А калі гэта адбудзецца, то незайздросны лёс чакае і яе, бярозу.

Яна, здаецца, не думае ні аб чым, шуміць сабе, гайдаецца пад ветрам ці задуменна маўчыць, калі стаіць летняя гарачыня і жанчыны сядзяць на лаўках ды вядуць няспешную гаворку пра сваё штодзённае жыццё-быццё.



Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ЧАКАННЯ НАМ ДАДЗЕНЫ ДАР

## НАСТАЛЬГІЯ ПА ДАЛЕЧАХ

І тут мне такія адкрыліся далечы, да якіх не дайсці, не даехаць,
І нават не даляцець (гэта лепшая ім ухвала)... Уласна, без гэтага
Пачатковага, адпарожнага, трывала ўсталяванага ***тут***
Існаванне якіх-небудзь далечаў наогул больш чым сумнеўна.
Адкуль жа ім тады адкрывацца? Хто прызнае іх за далечы,
Без іх відавочнай і кранальнай недасяжнасці? Засмужваецца
Погляд, бы парушынка патрапіла нейкая ў вока. Немагчыма
Занадта доўга ўглядацца туды, дзе так завабліва, так самааддана
Разгортваецца невымоўная прастрань. Яна чакае, але як мне
Адарвацца ад гэтага ***тут***, як пазбыцца яго, пакінуўшы назаўжды?

## Я І ЧАС

А час мінае, час бяжыць, і другога не будзе...
Гэта твой час, табою пазначаны, ты пакінуў адбітак на ім,
і з пазнакаю гэтай, з меткай на прамільгнуўшым баку
час стрымгалоў пралятае кудысьці наўзбоч. Калі б
сустрэўся з ім ізноў — пазнаў бы па гэтай адзнацы,
прыгледзеўся б, так, гэта мой час, мной перабыты, вось
і я адлюстраваўся ў ім, у сябе магу ўгледзецца, свае
сарамяжлівыя пачуцці і бунтоўныя думкі, безразважлівыя
ўчынкі пазнаць па ім. Ды сустрэцца не суджана, у розныя
бакі аддаляемся мы адзін ад аднаго — я і час.

---

***Гарадніцкі Яўген Андрэевіч*** *нарадзіўся 29 ліпеня 1951 года ў мястэчку Ракаў Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Працаваў на Мінскім заводзе запчастак, у выдавецтвах БДУ і «Вышэйшая школа». Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1977). З 1978 года працуе ў НАН Беларусі. Вядучы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. Аўтар літаратуразнаўчых кніг «Думка і вобраз» (1986), «Мастацкі свет беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» (2005), «Літаратура як мастацтва» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2013), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2014).*

## ЧАША ЧАКАННЯ

Чакання нам дадзены дар. І вялікая ерась, нібыта
Павінна быць нейкая мэта ў чакання, хіба
Недастаткова самога яго? Ну што б ты хацеў атрымаць
Узамен, адрынуўшы гэту даброту, раскошу? Якія
Наступствы могуць прыйсці, замяніўшы сабою
Усе хвіліны, гадзіны, гады і стагоддзі чакання?
Вось чаша чакання, агульная чаша чакання, з яе
Нам піць аж датуль, пакуль не апусцее яна.

* * *

Якія памяці старэючай дзівосы, якія нечаканыя дарункі,
Здавалася б, на самым роўным месцы, як быццам зноў убачыў
Ты на дарозе медны грош — ён як медаль паблісквае на сонцы,
Да ліку ўдачнікаў цябе ён далучае. Ізноў ідзеш па вуліцы, дзе брук
Даўно ад часу пашчарбаціўся — і вось той момант настае, калі
З мінулым твар у твар сустрэцца собіць. А твар які ў мінулага?
Каб распазнаць яго, гадоў пражытых мала... Ідзеш з бітончыкам
пустым па газу па гэтай вуліцы, зарослай крапівою ля платоў
і лапухамі, а, можа, з газаю (для вечароў, калі згушчаюцца ў закутках цені,
і ціхі шолах чуецца ад тых старонак, за покрывам якіх
ідзе жыццё сваёю чарадою). Усё ідзе і ўсё мінае. І немагчыма
упэўніцца, куды вядзе сцяжына, з кім размінешся, не пазнаўшы,
але адчуўшы рух паветра, якое хутка запаўняе вызваленае месца.
Хлапчук, на момант азірніся, там полымя ўстае сцяною за спінаю
тваёю. Там будзе пустка. Выгаралае месца. Або не азірайся лепш,
наперадзе лятункі, мроі, якія выступяць на тле дранцвеючай эпохі,
як блікі полымя, якое пагасае.

## КІМ

У мінскіх камунальных катакомбах, я не памятаю дзе,
а час прыблізны — схіл пражытага стагоддзя, мы ўвайшлі
ў пакойчык, што, паўзмрокам ахінуты, адкрыўся нам насустрач
галасамі, прыглушанымі поўначчу груваcткай галасамі.
Над непатрэбным лёсам той працэнтшчыцы з Санкт-Пецярбурга
там разважаў у голас чалавек, які, здавалася, нашмат бліжэй быў
да завулкаў піцерскіх, чым да таго, што побач з ім. Ён узвышаўся
адзінокім валуном наўскрай стала, курыў, кідаў у прымоўклую
прастору рашучыя — як дзеі — словы. Усё даўно абдумана
і вынашана, толькі й заставалася агучыць. Каб гэта слова прагучала,
а разам з ім адкрылася жывая, трапятлівая, як рана, тайна...
Рассеецца назаўтра гэтае наваpачэнне, бы цыгарэтны дым. Уздыме
дзень над Свіслаччу, нібы палонны, бледныя угору рукі.
А цень, нібы Раскольнікаў, укленчыць побач з домікам РСДРП.



Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# НА СКРЫЖАВАННЯХ ПАМЯЦІ, АЛЬБО ПРЫГОДЫ, АЛЕ НЕ ЦЫМБАЛ, А ПАЭМЫ

## I

*Кнігі, як і сябры. — «Партыйная» клічка «Калабок». — Аўтографы. — Аднакурснікі. — «Коль сам не добрился», хто дабрые? — Пераплёт, але не кніжны. — Я і «Бярозка» — Ці такі ўжо страшны «шэф», як яго малююць? — Неспадзяваная ўдача.*

Зноў перабіраю дамашнюю бібліятэку. Апошнім часам раблю такую «праполку» ўсё часцей і часцей. Цесна стала кніжкам на паліцах. Прыдбаеш якую новую — трэба маракаваць, прымервацца, куды б яе ўціснуць. Пагаджаюся з самім сабой: тыя томікі і паэтычныя зборнікі, якім ужо не менш чым па паўсотні стукнула, можна і на лецішча «перасяліць». Там яны, можа, пачуюцца ў нейкай крыўдзе, але ўжо не ў цеснаце. Хаця ў якой крыўдзе: якраз на лецішчы ім пэўна ж часцей будзе шанцаваць на ўвагу і цяпло чалавечых рук, асабліва ў дажджлівыя дні, калі ў агародчык ці ў бліжэйшы лясок, каб і хацеў, носу не пакажаш, а пад дахам лецішча будзеш пачувацца болей утульна і не ў такім ужо хмурым, як зацягнутае хмарамі неба, настроі.

Пагаджаюся з самім сабой таксама, што дома абавязкова патрэбна пакінуць кніжкі, што з даравальнымі надпісамі сяброў, падарункавыя. Няхай некаторым з іх бракуе дыхтоўнасці, саліднасці, гонару насіць назву тома ці томіка, памерам яны з тваю далонь, а то і менш, але ж кожная з іх — падарунак і, хочацца спадзявацца, шчыры, з аўтографам аўтара. Як такую адправіць у «ссылку»? Не, ад сяброў пазбаўляцца не трэба, нават у такім варыянце, нават калі ўжо сяго-таго не спаткаеш ні дома, ні ў гасцях, ні на пісьменніцкай тусоўцы, з кім звязвае цябе толькі памяць...

---

*__Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч__ нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Рэспубліканскім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

Анатоль Сербантовіч, Міхась Зарэмба, Эдуард Зубрыцкі... Анатолева кніжка ў мяне — толькі адна. «Міннае поле». Ды ён пры жыцці толькі дзве і паспеў у руках патрымаць. У свой час я зрабіў з ім сяброўскі кніжны абмен: адшкадаваў яму яго першы зборнік «Азбука», які з-за свайго чытацкага попыту вельмі хутка стаў для самога аўтара бібліяграфічнай рэдкасцю, а ён падарыў мне асобнік новай кніжкі са свайго аўтарскага «загашніка», бо яго зборнікі ў кнігарнях падоўгу не залежваліся, а ахвотнікаў атрымаць аўтограф знаходзілася нямала. Падарыў з аўтографам, у які гарэзна ўплёў мянушку, што прыліпла да мяне ў рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» з языка загадчыцы школьна-піянерскага аддзела Ганны Давыдаўны Краснапёркі, калі я там студэнтам-вячэрнікам зарабляў сабе на пражыццё да прыходу на Рэспубліканскае радыё.

Чаму стаў у яе ўяўленні Калабком — не магу даўмецца дагэтуль, бо, здавалася б, на рост свой паскардзіцца не магу, дый пухнатасцю твар мой тады пры сціплым харчаванні ні дома, у вёсцы, ні ў сталіцы аніяк не вызначаўся. Але ж гэта мянушка (а ў інтэрпрэтацыі сур'ёзна-кеплівага Уладзіслава Нядзведскага «партыйная клічка») прыйшлася чамусьці даспадобы яшчэ не аднаму з маіх сяброў і знаёмых. Нават будучай жонцы. З-за чаго я і не падумваў, каб пакрыўдзіцца. Калабок усё ж — добры, бяскрыўдны персанаж, казачны... Можна было б нават за псеўданім узяць...

Што ж да аўтографа, дык ён, памятаю, нарадзіўся экспромтам, на хаду, быццам Анатоль яго загадзя прыдумаў, прадчуваючы такую бібліяграфічную «здзелку»:

У «Бярозцы» ёсць дубок —
Гэта Коля Калабок.
Каб не быў ён на баку,
Падарую Калабку
Размініраванае поле:
Магілёўскі хлопец
Толя.

Зноў складваю адзін да аднаго, каб не раскідваліся, трымаліся гуртком, зборнікі Рыгора Барадуліна. Само сабой зразумела, іх шмат сабралася, бо выдаваўся ён часта і не скупіўся на прэзенты: ад «Маладзіка над стэпам» да «Халоднай памяці вады». З жартоўнымі і болей сур'ёзнымі аўтарскімі пажаданнямі. Першы з іх — на самай першай кніжцы. І датаваны яшчэ лістападам 1961 года: «Дарагому, любаму Міколу ад шчырага сэрца жадаю шмат вясёлых, пацешных, мілых дзіцячых вершаў, казак, у якіх ты спец і не абы-які. Твой сябра Рыгор Барадулін». Апошні, ужо надпісаны не зусім паслухмянай хваравітай рукою, нашмат карацейшы, — «Хай шчасціць!»

А гэта чые кнігі? Хведара Чэрні: «Добрай раніцы, людзі», «Дабрэе свет», «Размова з памяццю», «Песня Сабіны», «Сады юнацтва», «Ваколіца», «На вуліцы Сонечнай», «Святло рамонкаў», «На скрыжаваннях памяці», «Музыка дарог»... Шкада, што не ўсе знайшліся, захаваліся. Апошняя — без аўтографа, бо не паспеў зрабіць гэта. Ды як ён мог надпісаць яе, калі сам, як і Анатоль Сербантовіч, не трымаў сваю апошнюю кніжку ў руках. Толькі падрыхтаваў і здаў у выдавецтва. Прадмову да зборніка Казімір Камейша пісаў ужо без ведама аўтара, па просьбе рэдакцыі паэзіі.

Даўжэй затрымліваю ў руках, потым адкладваю асобна зборнічак «Дабрэе свет». На гэта ёсць усе падставы: у ім змешчана паэма «Аднакурснікі», і яе Федзя прысвяціў мне. Памятаю, зрабіў згаданае прысвячэнне, калі ўжо атрымаў карэктуру зборніка. Хоць мы, па сутнасці, не былі з ім аднакурснікамі

(ён вучыўся на стацыянары, а я на вячэрнім аддзяленні), аднак жа так сталася, так супала, што дыпломы абаранялі разам, у адзін і той жа дзень — 25 мая 1966 года. Федзя Чэрня пісаў дыпломную работу паводле «Іранскага дзённіка» Пімена Панчанкі, а я выбраў сабе тэму, якая больш адпавядала накірунку майго творчага захаплення і лічылася на той час мала даследаванай — «Беларуская дзіцячая паэма». Не пабаяўся ўзяцца за яе, бо мой выбар ухваліў сам кіраўнік дыпломнай.

Працавалі ж абодва пад прыглядам Алега Лойкі. Ён афіцыйна з’яўляўся кіраўніком нашых дыпломных высілкаў. І рэцэнзент падшукаўся ім не менш патрабавальны — Дзмітрый Бугаёў.

Як і спадзяваліся, абараніліся на «выдатна». Акрыленыя такой паспяховай абаронай, па традыцыі запрасілі Алега Антонавіча і Дзмітрыя Якаўлевіча ў бліжэйшы ад філфака рэстаран «Нёман». Аднак улагоджваць нашу радасць давялося адным, бо нашых дыпломных дабрадзеяў і «начальнікаў» перахапіў нехта з выкладчыкаў філфака: якраз у той дзень у яго таксама прыспела нейкая нагода, як цяпер сказалі б, «накрыць паляну». І яны не змаглі адмовіць свайму калегу па храме навукі.

Затое, напэўна, нічолькі не быў засмучаны ад такой няўвязкі ў гэтым банкетаванні рэстаранны швейцар-гардэробшчык, які адразу нечым прыглянуўся Федзю: улагоджаны нашай увагай да яго сціплай асобы, ён, трэба прызнаць, мудра праявіўшы сваю вытрымку і мужнасць, азірнуўшыся па баках, каб, чаго добрага, не заспела адміністратарка, не куляў похапкам паднесены намі кілішак, а, падзякаваўшы, надзвычай упраўна апаражняў яго ў прыхаваную для такой нагоды бутэльку, якую вымаў аднекуль з сакрэткаў гардэробнай стойкі. Нібы вінаваціўся перад намі, затыкаючы корак: «Цяпер не магу. Пасля змены ўжо, хлопцы, вып’ю за вас».

Было яшчэ адно ў гэтых сяброўскіх стасунках, быццам вызначанае абодвум самім лёсам, што нечым зблізкала нас, гуртавала, нават радніла, дабрадзейна спрыяючы на падмацунак нашага дружбацкага збліжэння: і ён, і я вельмі рана спазналі смак сіроцтва, раслі, абдзеленыя матчынай ласкай і клопатам, самастойна, без падтрымкі з дому, выбіралі і церабілі сваю сцежку ў жыццё. Мусіць, увесь збег такіх жыццёвых акалічнасцей і даў Федзю ўсе падставы зрабіць гэта прысвячэнне менавіта мне, а не Казіміру Камейшу, скажам, ці так каму з хлопцаў-аднакурснікаў.

Што ж да самой кніжкі, дык той-сёй з хлопцаў, беручы яе ў рукі, часам іранічна пакепліваў з вокладкі: з голага чырвонага чалавечка, які бег з ускінутымі ўгору рукамі на цёмна-зорным фоне сусвету. Што хацеў выказаць мастак Арлен Кашкурэвіч, які сэнс уклаў у малюнак вокладкі — можна толькі здагадвацца. Мабыць, нейкі глыбока філасофскі, касмічны. Не менш. А востры на язык, здатны выдумшчык-гумарыст Рыгор Барадулін да таго ж спарадыраваў саму назву зборніка — «Дабрэе свет». Чамусьці на рускамоўны лад. Можа, гэтак лацвей было са словам «пагуляць»? Усё не запомніў, апошнія ж два радкі захаваліся ў памяці: «Коль сам не добрился, добреет свет». Гэта быў сяброўскі жарт, таму аніякай крыўды ў аўтара на ўедлівага паэта ніхто не заўважаў.

А Федзевы аўтографы? Хіба не ўсміхнешся, прачытаўшы, да прыкладу, гэты, на дзіцячай кніжцы «Песня Сабіны»?

Спявай, Мікола, дом будзі,
Навошта валаводзіцца?
Ты ўслед за Ленкаю ідзі —
А там Сабіна знойдзецца.

На той час я ўжо гушкаў гадавалага сына і Федзеў намёк быў зразумелы: варта падумаць і пра дачушку. Як не прыслухацца было да парады сябра, свайго сведкі пры роспісе з гэтай самай Ленай-Геленай на яе радзіме, у Нацкім сельсавеце? Праз колькі гадоў «знайшлася». Праўда, не Сабіна, а Настачка. Ды гэта — між іншым...

У гэтай бібліятэчцы з кніг майго найшчырэйшага сябра Хведара Чэрні, мабыць, самай сціплай, можа, самай пакрыўджанай выглядае трэцяя, 1970 года выдання, — «Размова з памяццю»: шэрая, з нейкімі трошкі святлейшымі разводамі-пасмамі вокладка, такая ж мала прывабная, газетнай вартасці папера пад ёю, дробны, быццам прасяныя крупы, шрыфт, адразу ж наводзяць на сумна-мінорны лад. А калі ўспомніць тую гісторыю, той пераплёт, зусім не кніжны, у якім пабывала яна (дый сам аўтар) яшчэ да выхаду кніжкі ў свет, то, магчыма, ужо не такім цёмна-шэрым сумам дыхнуць яе старонкі, а захочацца, калі не засмяяцца, дык усміхнуцца міжволі, зрабіць свой успамін весялейшым ад сустрэчы з гэтай... гаротніцай.

Што за гісторыя такая, за прыгода? О-о-о, жывы сюжэт не для камедыйнага лубка, дык для гумарэскі хаця б — ужо дакладна. Але, каб усё было потым зразумела, мушу зноў жа саступіць крышку ўбок з пачатага аповеду, пачну трошкі са свайго, далёкага, аднак жа ў нечым асабістага. І тым не менш, звязанага з месцам падзей, з гэтай гісторыяй...

Восенню 1966 года, калі я прыняў запрашэнне рэдакцыі часопіса «Бярозка» і наважыўся пакінуць стала абжытыя амаль за пяць гадоў цянёты Дома радыё, дзе займаў пасаду рэдактара літаратурна-драматычных перадач у рэдакцыі замежнага вяшчання (цяпер — радыёстанцыя «Беларусь»), давялося выслухаць ад сяброў і знаёмых нямала перасцярог: «Ці варта ісці туды? Ты ж не першы ўжо, хто не змог ужыцца з Кастусём Кірэенкам. У яго ж такі характар!..» Што галоўны рэдактар «Бярозкі» быў чалавекам і начальнікам з крутым норавам, што я туды ішоў на месца Анатоля Сербантовіча, да якога, як я ведаў, галоўны ставіўся па-зямляцку прыхільна, імкнуўся ўсяляк падтрымаць, цаніў за паэтычны талент, нярэдка заплюшчваючы вочы на тыя «конікі», якія часам выкідваў Анатоль, паказваючы свой характар, у пісьменніцкім асяроддзі ведалі многія. Але ж і яму, Анатолю, у рэшце рэшт было прапанавана падшукаць сабе іншае месца працы, каб застацца сябрамі, а не ворагамі. Тым болей, гэта месца знайшлося побач, па адным калідоры, у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі». Ведаючы такую чарговую кадравую «адстаўку» ў «Бярозцы», таму і прыпалохвалі мяне.

Ды ўсё ж я адважыўся на пераход. Хацелася трохі перадыхнуць ад штодзённай радыйнай мітуснечы (я ж адначасова з працай у «зарубежцы» вучыўся на вячэрнім аддзяленні філфака БДУ), а галоўнае — быць бліжэй да дзіцячай літаратуры, да пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей, бо ў самога было ўжо за душою дзве кніжкі (вершаў і прозы), адрасаваныя ім, і я даволі пераканаўча змог прымерыцца да статусу дзіцячага пісьменніка. І яшчэ ведаў: былі ў рэдакцыі людзі, якія хацелі, каб я прыйшоў туды працаваць.

Сапраўды, характар у галоўнага быў не з лепшых. У рэдакцыі яго пабойваліся, бо ў яго была свая мерка патрабавальнасці да кожнага. Напрыклад, да мастацкага рэдактара Пятра Драчова ён заўсёды ставіўся даволі паблажліва: напэўна, за яскравы, самабытны талент маладога мастака, яго вынаходлівасць у аздабленні часопіса, а яшчэ не менш — за іх агульнае хобі, захапленне: абодва слылі заўзятымі рыбаловамі. Прыгадаўшы ўсе свае рыбацкія вандроўкі і здарэнні, Кастусь Кірэенка нават вялікую кнігу напісаў — «Вандроўнае шчасце». І з нейкіх меркаванняў жанр яе вызначыў мала адпаведны празаічным

творам — паэма. Пятро ж не ўступаў шэфу па рыбацкіх трафеях, бо займаўся падводным паляваннем і аднойчы яму ўдалося падстрэліць паўтарапудовага сома. І гэта не рыбацкая пахвальба: я сам бачыў гэты «вусаты трафей» на фотаздымку, што ляжаў на стале Пятра пад шклом.

Калі яны распачыналі з Пятром размову на жывую для іх тэму, настрой у Кастуся Ціханавіча адразу мяняўся: ён мог жартаваць, прыгадваць нейкія свае гісторыі, і тады гэты настрой перадаваўся і ўсім нам, супрацоўнікам. Куды дзявалася ранейшая суровасць, насцярожанасць, мітуслівая заклапочанасць, лагода і нейкая сямейная ўтульнасць пасяляліся ў рэдакцыйных пакоях. Кожны з нас мірыўся з тымі ўспышкамі раздражнёнасці, з празмернай, здавалася б, патрабавальнасцю галоўнага рэдактара, бо яны, калі ўдумацца, часцей за ўсё былі справядлівыя. Адтуль, «зверху», патрабавалі ад яго, ён патрабаваў ад нас. Тым болей, юбілейныя даты, якія павінны былі асвятляцца на старонках часопіса, як найлепей, ішлі адна за адною: 50 гадоў Вялікаму Кастрычніку, 50 гадоў камсамолу, 50 гадоў БССР, 50 гадоў піянерыі, а самы галоўны юбілей — 100 гадоў з дня нараджэння У. І. Леніна!..

Аднак жа, нягледзячы на ўсю юбілейную ліхаманку, на «страшылкі», звязаныя з асобаю галоўнага рэдактара, мне ў «Бярозцы» надзвычай пашанцавала: праз два гады я займеў свой куток. Хоць у нечым камунальную, але — кватэру. І не дзесьці там, далёка на ўскраіне, а ў самым цэнтры сталіцы, дзе праспект мяжуе з плошчай Якуба Коласа. Гэта было нечаканасцю і для мяне, і для сакратар-машыністкі Веры. Калі рэдакцыі часопіса «Бярозка» выдзелілі двухпакаёвую кватэру для паляпшэння жыллёвых умоў яе супрацоўнікаў, Кастусь Ціханавіч, каб усё было па справядлівасці, вырашыў размеркаваць яе тым, хто не меў свайго жылля. І раздзялілі гэту жылплошчу, зыходзячы з «заслуг» кожнага прэтэндэнта перад калектывам рэдакцыі: Вера адпрацавала ў ёй на шмат болей, чым я, ёй — большы пакой, а мне, лічы, навабранцу — меншы. Астатняе ж — усё агульнае. І не такое ўжо цеснае, нязручнае. А калі ўлічыць, што ад ранейшага гаспадара, пісьменніка і загадчыка аддзела фельетонаў часопіса «Вожык» Валянціна Зуба нам дастаўся ў карыстанне яшчэ не дабіты круглы стол, за які, расцягнуўшы яго, можна было пасадзіць вялікую сям'ю, а таксама тэлефон, то болей цудоўнага прытулку, мне, тагачаснаму халасцяку, і прыдумаць нельга было...

## II

*Ранні званок. — Згубіў... паэму! — Таямніца Вайсковых могілак. — Дзе шукаць? — Нечаканы візіт. — Хто ты, незнаёмец з чорнай «Волгі»? — След вядзе... у епархію. — Знайшлася! — «Дзе тут у вас рэстаран?» — Хто ў епархіі «Бярозку» чытае?*

Адчуваю, вы ўжо ў нецярпенні, вам хутчэй хочацца даведацца: у чым жа соль распачатага аповеду? А ў тым, што менавіта сюды, у дзверы гэтай кватэры, той вясной раніцай нехта пазваніў. Хто б гэта мог быць? Суседзі? Адчыніў дзверы і здзівіўся: Федзя Чэрня! Хоць ён бываў ужо ў мяне не адзін раз, то з хлопцамі з выдавецтва, то з радыё, бо, як вядома, жыў жа я па суседстве з гастраномам «Сталічны», які зачыняўся штодня ці не апоўначы, тады ўсё адбывалася значна пазней, бліжэй к вечару. А тут — з самай раніцы раптам завітаў!

— Што здарылася, Федзя? — пацікавіўся я, прадчуваючы нейкую нечаканасць.

— Дай, старычок, спачатку зайсці, а пасля раскажу, — праціснуўся ён паўз мяне ў калідор. Адчувалася: чымсьці заклапочаны. Нават устрывожаны.

Суседкі ўжо дома не было, яна паехала ў рэдакцыю, таму ў кватэры нікога не заставалася, хто б мог перашкодзіць нашай гаворцы.

— Дык што здарылася, як ты тут апынуўся? — зноў перапытаў я. — Ты, можа, сёння надомнік, не трэба на працу ў выдавецтва?

— Якое там надомнік! — неяк безнадзейна адмахнуўся рукою Федзя. — Пазваніў Жычку, папярэдзіў, што затрымаюся, а, магчыма, і не з’яўлюся. Каб прыкрыў перад начальствам, калі раптам зацікавіцца мною па якой пільнай справе. Тут жа не да гэтага, шукаць трэба...

— А што ты ў нашых краях згубіў? — жартаўліва спытаў я сябра, нават не падазраючы, што гэтым пытаннем незнарок зачапіў яго за тую больку, якая нечакана ўстурбавала ягоны настрой, прычыніла такі ранні клопат.

— Згубіў... — быццам дакараючы сябе і мяне за маю здагадку, прамовіў Федзя. — Ты ведаеш, дзядусь, я рукапіс учора ўвечары згубіў... Адзіны экзэмпляр быў... А паэма ж мая ў выдавецкім плане стаіць... Здаваць яе ўжо трэба на чытку начальству. А дзе папку з рукапісам знайсці цяпер? Дзе яе пасеяў учора?

— А дзе ж ты з ёю хадзіў?

— Памятаю, пабылі на магіле Паўлюка Труса, выпілі там...

Тут я зноў перапынюся, зраблю сякое-такое тлумачэнне, каб вам, шаноўныя, усё было зразумела. Я сам усё адразу зразумеў, як пачуў пра гэту вандроўку на магілу нашага выдатнага паэта-лірыка, які пражыў усяго дваццаць пяць, а след у роднай літаратуры пакінуў нязгасны...

Той куток на Вайсковых могілках па вуліцы Даўгабродскай (цяпер — Казлова) у Мінску ў пару маёй маладосці, напэўна, ведаў кожны пісьменнік. Дый як не ведаць: там жа знайшлі вечны спачын два хрэстаматыйныя майстры паэзіі і прозы — Паўлюк Трус і Кузьма Чорны. Хоць яны пайшлі з жыцця ў розныя часы, з разбежкай у паўтара дзясятка гадоў, магілы іх тут апынуліся побач. За імі, па ўсім відаць, быў нейкі прыгляд, таму яны захаваліся ў больш-менш прыстойным парадку, не зараслі, як многія іншыя старыя магілы там. Не пабляк чорны граніт з партрэтнымі барэльефамі, выразна захаваліся надпісы на плітах.

Не ведаю, хто нам, маладзейшым, паказваў туды дарогу, але мы, сабраўшыся гуртком і папярэдне атаварыўшы ганарарныя заначкі ў бліжэйшым гастраноме-падкове на плошчы Змітрака Бядулі, час ад часу любілі звярнуць у браму Вайсковых могілак, калі сустракалася ля каплічкі пры ўваходзе якая бабулька з кветкамі, прыкупіць букецік, і адшукаць той запаветны куточак, дзе можна было не толькі памянуць нашых класікаў, а і ўволю нагаварыцца пра ўсё, што турбавала на той момант. Каго ж не падводзіла памяць — мог прачытаць штосьці з нядаўна напісанага. Тады за тэрыторыяй могілак, як нам здавалася, ніхто асабліва не прыглядваў, міліцыя туды не надта старалася забягаць, таму нярэдка разыходзіліся адтуль у добрыя прыцемкі. Хто дабіраўся дадому, а тыя, хто не паспеў нагаварыцца каля Труса і Чорнага, не дужа спяшаўся ў сямейную будзённасць, дарогаю заварочваў яшчэ ў якую забягайлаўку, каб працягнуць размову за кухлем піва, ці так чаго іншага...

І Хведар Чэрня з хлопцамі ў той вечар пры выхадзе з тэрыторыі могілак пастаялі і падыскутавалі яшчэ каля нейкага каменя, а потым мелі неасцярожнасць зазірнуць у кафэ «Планета», што знаходзілася ў новым шматпавярховым доме па вуліцы Берасцянскай, там, за філармоніяй, на самым пагорку.

Той дом праглядваўся нават адсюль, з Ленінскага праспекта. Чым яны там прычасціліся, пацярпелы не сказаў, але помніць, што болей нікуды не заходзілі, паехаў дадому...

— Дык я ўжо ў кафэ пабыў, якраз іду адтуль, — патлумачыў мне Федзя. — Распытаў там афіцыянтак, вахцёра, ніхто папкі маёй у вочы не бачыў. Думаў, хітруюць, хочуць, каб нейкі выкуп даў. Сказаў, што пачастунак будзе, ды ўсё роўна ўпіраюцца: не бачылі. Можа, і так. Дык дзе ж тады я мог пакінуць яе? Абзваню яшчэ хлопцаў, можа, з іх каторы падкажа... Дзе ў цябе тэлефон, буду званіць... Гэта ж трэба так уліпнуць! — не пераставаў бедаваць зніякавелы і разгублены аўтар. — І нашто я браў учора рукапіс дадому? Думаў, перад тым, як здаваць, дома спакойна прагледжу яшчэ раз. Там жа, у выдавецтве, сам ведаеш, як на Вырывонскай вуліцы, і засяродзіцца няма як... Паэма ўсё ж, радкоў да чорта, як іх адновіш па памяці?..

— А на могілках ты быў? — хацелася даць яму нейкую надзею.

— Быў, быў... Сама перш туды заскочыў, — зноў зажурана зазначыў Федзя.

Я не дачакаўся, пакуль ён датэлефануецца да ўсіх удзельнікаў учарашняга няўдалага паходу, пакінуў яго ў кватэры, аддаўшы яму адзіны свой ключ ад дзвярэй, а сам паехаў у рэдакцыю. Дамовіліся, што ён дачакаецца майго звароту, каб разам яшчэ пашукаць нейкага выйсця.

Рэдакцыя «Бярозкі» тады знаходзілася па вуліцы Карла Маркса, 40, у будынку, дзе размяшчаўся ЦК камсамола Беларусі. Недзе гадзіны праз дзве пасля майго прыходу раптам у дзверы рэдакцыі нехта пастукаў. Потым дзверы расчыніліся і ў пакой зайшоў высокі, мажнай знешнасці мужчына. Апрануты ён быў чамусьці трохі не па-вясноваму: у доўгім цёмна-сінім паліто, у такой жа не менш цёплай суконнай шапцы. Твар выглядаў чырвоным ці то ад майскай цеплыні, ці то ад нейкай хваравітасці. У той момант у мяне чамусьці раптам прамільгнула думка пра Чэрневу прапажу. Не ведаю — чаму, але прамільгнула...

— Скажите, здесь работает Фёдор Черня? — звярнуўся да мяне незнаёмы мужчына. — Могу ли я с ним увидеться?

— Што, яго папка знайшлася! — выказаў я з радасцю сваю здагадку, потым пачаў тлумачыць: — Ён у нас не працуе, але часта друкуецца. Гэта наш аўтар. Ён цяпер якраз сядзіць у мяне ў кватэры, звоніць, згубленую папку з рукапісам паэмы шукае. Яна ў вас? Дык вы мне яе аддайце, а я перадам яму. Гэта мой лепшы друг...

— Но я хотел бы сам передать папку ему, в его руки, — не пагадзіўся з маёй прапановай мужчына.

— Тады пачакайце, я пазваню яму. Няхай парадуецца, што папка знайшлася.

Набіраю раз, другі, трэці, а ў адказ — доўгія гудкі. Ніхто не падымае трубку тэлефона.

— Куды ён выскачыў? — пачаў злаваць я, не знаходзячы месца за сталом.

— Я тут на машине, давайте проедем к вам домой, может, встретим его у подъезда?

Я яшчэ болей здзівіўся, калі чалавек падвёў мяне да чорнай «Волгі», якая чакала яго на вуліцы. «Што ж ты за птушка, адкуль?» — міжволі падумалася ў тую хвіліну. І нейкі неспакой пракраўся ў душу: можа, Федзя ўчора ўліп у якую непрыемную гісторыю, ды не помніць дзе? На чорных жа «Волгах» тады ездзіла высокае начальства.

Хвілін праз пяць-сем былі ўжо каля майго пад’езда. Ледзь не спатыкаючыся, узбег на свой чацвёрты паверх. Ціскаю на кнопку званка — ніхто не адчыняе. «Дзе ж ты запрапасціўся?» — лаю ў думках Федзю, спускаючыся ўніз. Але адно суцяшае: рукапіс кнігі знайшоўся, не прапаў, убачыць свет!

— Не ведаю, куды ён мог сыйсці, — пачаў апраўдвацца я перад незнаёмцам. — Я ж яму і свой ключ аддаў, каб дачакаўся мяне. Што сказаць яму? Дзе ён можа вас знайсці?

— Теперь я ещё должен ехать по своим делам, а после пяти часов пускай он подъедет на улицу Червякова, спросит меня.

Ён назваў нумар дома, сваё імя. Мяне ж не пакідала разбіраць цікаўнасць: хто ён, адкуль? Па адзенні выглядаў не зусім чыноўна, але ж на чорнай «Волзе»!

— Скажыце, калі не сакрэт, а што там знаходзіцца, якая ўстанова? Для арыентацыі, каб лягчэй шукаць было, — зноў адважыўся я парушыць яго зацятую маўклівасць.

— Минская областная епархия, — сядаючы ў машыну, адказаў Федзеў выратавальнік, а потым, каб, мусіць, канчаткова задаволіць маю цікаўнасць, дадаў: — А папку со стихами наша смотрительница утром на территории Войскового кладбища обнаружила, когда производила уборку. У выхода на камне лежала… А вы тоже садитесь, мы вас обратно отвезём…

Зайшоўшы ў рэдакцыю, тут жа набраў нумар свайго хатняга тэлефона: можа, ж вярнуўся адкуль?

— Ты дзе гэта блындаеш? — пачуўшы ў трубцы знаёмы голас, выказаў я сваё незадавальненне. — Званю, званю… Ты дзе быў?

— Ты не злуйся, дзядусь, а лепш скажы дзякуй, што я на кухні прыпарадчыў, здаў за цябе посуд.

— А ты, папуас, скажы дзякуй Усявышняму. Знайшлася твая папка з паэмай, — вырашыў я адразу вывесці сябра з ранейшага пакутнага стану.

— Ды ну! — не адразу паверыў ён. — Дзе яна?

— Каб не выходзіў з кватэры, дык ужо трымаў бы яе ў руках. А так давядзецца самому ехаць на вуліцу Чарвякова, шукаць тую Мінскую абласную епархію і таго чалавека, які прывозіў тваю прапажу да мяне ў «Бярозку».

— Дзядусь, старычок, ды ты ведаеш, як узрадаваў мяне! — не мог стрымаць сваіх эмоцый ад пачутай навіны Федзя. — Паедзем туды разам, ты ж ужо ведаеш таго чалавека. Возьмем таксі і паедзем, каб не блудзіць па той вуліцы Чарвякова…

Выйшаўшы з таксі, мы з Федзем недаўменна пераглянуліся. Дзе шукаць той дом? За гэтым зялёным дашчаным парканам, што расцягнуўся ці не на цэлы вулічны квартал? Пайшлі ўздоўж яго і нечакана натыкнуліся на брамку. Адчыніўшы яе, убачылі перад сабой такую ж зялёную будку і маладога мужчыну ў ёй. «Вахцёр», — прыйшла здагадка.

— Што вам трэба, хлопцы? — выйшаў той дзяцюк насустрач нам.

Патлумачылі, хто нам трэба.

— Гэта наш гаспадарнік. Але не ведаю, ці ёсць ён тут цяпер. Ды вы прайдзіце туды, папытайце каго, вам падкажуць, дзе ён, — і вахцёр махнуў рукою ў глыбіню двара.

Сумненні вахцёра былі недарэмныя. З бітай паўгадзіны пратапталіся ў двары, ходзячы ад дома да дома, на якіх чамусьці не было ніякіх нумароў, перапытваючы таго-сяго з рэдкіх сустрэчных, ці не бачылі патрэбнага нам чалавека па імені… Тыя толькі пацiскалі плячамі.

Няўжо нехта разыграў Федзю, дазнаўшыся пра яго прапажу? Відаць, хтосьці са знаёмых, бо адразу ж на «Бярозку» вывеў, дзе, ведалі, я, яго сябра, працаваў, дзе ён не адзін раз друкаваўся?

Не ў лепшым настроі вярнуліся да прахадной. Можа, вахцёр нешта парадзіць?

— Хлопцы, а нашто вы яго шукаеце? — убачыўшы нашы дарэмныя сноўданні па тэрыторыі епархіі, зноў выйшаў насустрач нам з будкі той дзяцюк-вахцёр.

Я толькі пачаў тлумачыць, што нас прывяло сюды, як ён раптам перабіў мяне, усклікнуў:

— Дык вы б адразу сказалі, што вам трэба ад яго! Ён нейкую папку пакінуў у мяне на вахце. Сказаў аддаць, як будуць пытаць пра яе… Гэта? — і ён вынес з прахадной будкі знаёмую мне, ужо не першай навізны зелянковага колеру папку, з якой нярэдка можна было ўбачыць Федзю ў час нашых сустрэч.

Расхінуўшы папку і пераканаўшыся, што рукапіс менавіта яго, шчаслівы Федзя, не выпускаючы папкі з рук, схапіў дзецюка ў абдымкі. Зніякавелы ад такой радасці паэта, той мужна трываў іх, выціснуўшы з сябе:

— Дык вы б адразу сказалі…

Памятаю, наш добразычлівы праважаты праз двары вывеў нас на ўскрай нейкай пусткі, спыніўся, паказаў рукою ў бок дамоў, што віднеліся за ёю;

— Бульвар Шаўчэнкі — там. Бывайце здаровы, хлопцы!

Ён рушыў у свой бок, мы яшчэ пастаялі, гледзячы яму ўслед, а Федзя неяк задуменна-разважліва прамовіў:

— Бачыш, як пашанцавала. І рукапіс паэмы знайшоўся, і дарогу паказалі. Відаць, дзядусь, іх там, у епархіі той, вучаць так паважліва абыходзіцца з людзьмі. — Потым быццам спахапіўся: — Цікава, а як яны так хутка выйшлі на мой след? Відаць, старычок, там збіраюцца людзі не дурнейшыя за нас з табой, чытаюць не толькі набожныя кнігі, а нават «Бярозку» чытаюць, ведаюць, хто там друкуецца.

— Раз так хутка знайшлі цябе, значыць, чытаюць, — пагадзіўся я і, каб нечым падтрымаць адпаведны настрой, вырашыў расказаць яму сваю гісторыю. Тым болей, яна нечым нагадвала сённяшнюю, яго.

— А ведаеш, Федзя, і ў мяне такое было.

— Губляў зборнік?

— Не, толькі блакноты з вершамі.

— І знайшліся?

— Знайшліся, і таксама — назаўтра ж… Я табе, можа, расказваў калі, але паслухай яшчэ раз. Думаю, абодвум у навуку будзе…

## III

*«Свет не без добрых людзей, але і сам не будзь разявай». — Алесь Кучар: «А машыну… таго, укралі!» — І Бог не памог. — Як Хведар Чэрня аўтараў «за вушы цягнуў». — «Сінусоіда» — не «Парабала»? — «Хуткая дапамога» ў рэдакцыі «Бярозкі». — «Можа, хлопцы, я ў краму збегаю?» — У палоне грэлкі з дзірачкай. — Гарачы цурок. — Азмрочаная радасць Генадзя Д. — Жахлівая вестка. — «Жалоба і журба — дзве родныя сястры…» — Зноў — на тыя ж «граблі»? — Якая паэзія мае права на існаванне? А — эсэ?*

Гэта прыгода з часоў маёй працы на Рэспубліканскім радыё. У тыя гады я вельмі любіў карыстацца блакнотамі. Цяпер пераглядаю — з дзясятак набралася.

Ці не болей. Адны — цалкам занатаваныя, са слядамі заўзятага карпення над радком, другія — не поўнасцю, чысцейшыя. Аддаваў ім перавагу, бо хацелася рабіць так, як рабіў Рыгор Барадулін. З самага пачатку знаёмства з паэтам заўважыў: амаль усе яго вершы і нават некаторыя паэмы (напрыклад, тая ж «Блакада») першапачаткова мелі блакнотны варыянт. Ён і мне разы два ці тры прэзентаваў даволі прывабныя блакноты з пажаданнем «новых шчырых дзіцячых вершаў» ці проста: «Для вершаў».

Мне падабалася хаўрусаваць з імі: зручна, а што яшчэ трэба шукальніку рыфмаў? Здаралася, што ў блакнотах я рабіў не толькі нейкія карэспандэнцкія запісы, з мноствам лічбаў і прозвішчаў, адрасоў і тэлефонаў, а пісаў нават нарысы, радыёкампазіцыі. Не ўсе блакноты былі кішэннага фармату, таму я загортваў іх у газету і як той кампактны пакунак насіў у руках. І ў рэдакцыю выбіраючыся, і вечарам дадому едучы ці ва ўніверсітэт на лекцыі. Была ў мяне шыкоўная скураная папка — падарунак рэдакцыі на дзень нараджэння — ды я чамусьці не ахвоціўся франціць з ёю. Што магу блакноты недзе забыцца — і ў галаву не прыходзіла.

Аднак…

У той дзень, адпрацаваўшы ў рэдакцыі, я выйшаў з Дома радыё, якраз прыхапіўшы з сабою такі пакунак з блакнотамі. Ехаць адразу на сваю «вуліцу Грамадскую, на кватэру прыватную», дзе я тады кватараваў, чамусьці не захацелася і я звярнуў у бок Паркавай магістралі (пазней — праспект Машэрава, зараз праспект Пераможцаў): там у студэнцкім інтэрнаце ў мяне было нямала добрых сяброў (Федзя Чэрня — адзін з іх), і ўсюды мне магло знайсціся месца, каб заначаваць. Ніхто ж не будзе ўпікаць халасцяка, дзе бадзяўся, чаму дома не начаваў.

Дзень быў пагодлівы, сонечны. Хоць адчувалася дыханне блізкага надвячорка, але тут, на ўзбярэжжы Свіслачы, пад пошапт клёнаў і ліп на пагорку душа ажно радавалася летняму спакою. Захацелася пасядзець, палюбавацца ўсёй гэтай прыгажосцю. І я сеў на лаўку, што стаяла побліз асфальтаванай дарожкі, якраз насупраць велічнага гмаха штаба Беларускай ваеннай акругі — БВА. Згорнутыя пакуначкам блакноты паклаў не на калені, а побач, што, як аказалася, было яўнай памылкай з майго боку. Паўз мяне спяшаліся дахаты знаёмыя радыйцы, той-сёй прыпыняўся, каб перамовіцца словам-другім, і я вырашыў не мазоліць болей вочы, седзячы тут, а пайсці далей, туды, куды і намерваўся…

Што блакнот з вершамі і блакнот з накідам літаратурнай перадачы, якая планавалася неўзабаве пайсці ў эфір, я забыў на лаўцы каля Свіслачы, успомніў ужо ў інтэрнаце. Спадзявання, што прапажа знойдзецца, не было, ды ўсё ж назаўтра раней, чым калі, пашыбаваў я ў рэдакцыю знаёмай дарогай з думкай у галаве: «А можа!» Убачыўшы знаёмую лаўку, прысеў на яе, росную ад начной прахалоды, нават зазірнуў праз шчыліны пад яе — адны абрыўкі папер ды цукерачныя абгорткі валяюцца.

У рэдакцыі, сеўшы за стол, пачаў па памяці прыкідваць, нанава занатоўваць тое, што засталося ў згубленых блакнотах. А недзе пад абед, раздаўся званок з прыёмнай старшыні радыёкамітэта.

— Мікола, ты нічога не згубіў учора? — пачуўся ў трубцы вясёла-ўсмешлівы госал сакратаркі Люды.

— Згубіў… Блакноты… — амаль разгублена прызнаўся я.

— Дык спусціся ўніз, там цябе чакаюць.

— Хто?

— Сам убачыш. Нехта са штаба Беларускай ваеннай акругі.

Свой пакунак я ўбачыў у руках вайскоўца з пагонамі капітана. Вяртаючы знаходку, ён нават папрасіў прабачэння, што мусіў перагартаць блакноты, спадзеючыся знайсці прозвішча аўтара. Аднак нідзе не знайшоў. Але ж спрацавала стратэгічнае мысленне вайсковага чалавека. Вершы напісаны па-беларуску. А хто можа побліз карыстацца беларускай мовай? Пэўна ж, тыя, хто працуе на радыё ці звязаны з ім. Знайшоў тэлефон, пазваніў у прыёмную. А сакратарка Люда, з якою мне часта здаралася перамаўляцца па справах і так, чамусьці адразу скеміла, хто «аўтар» гэтай прапажы. І не памылілася.

Расчулены, я таксама прапаноўваў капітану аддзячыць у «Чорных скалах» ці ў «Тэатральным», але ён рашуча замахаў рукамі: «Што вы, што вы! Я рады, што ўсё так выйшла добра! Жадаю вам поспехаў!»

— Вось бачыш, дзядусь, свет не без добрых людзей, — выслухаўшы маю споведзь, як бы падвёў рысу пад пачутым Федзя. — Аднак на людзей спадзявайся, а свайго розуму не губляй, не будзь разявай. Я, напрыклад, з сённяшняга дня зарок даю: нічога з рукапісаў па кафэ ды забягайлаўках з сабою не цягаць. Ці свой ён, ці чужы…

У рэстаране «Космас» доўга не затрымаліся. Узялі ўсяго па сотцы. На большае адзін аднаго не падахвочвалі. І стымул для такой неахвоты быў болей, чым пераканаўчы: нашто рызыкаваць? А раптам папка з рукапісам не ў рукі царкоўнікаў трапіць, а нейкіх шалапутаў, і яго напаткае такі ж лёс, як і рукапіс кінасцэнарыя Алеся Кучара?

Гэта ж не выдумка: пад’ехаў Алесь Евелевіч да рэстарана «Мінск», па звыклай завядзёнцы зайшоў туды паабедаць ды знаёмым афіцыянтачкам пару-другую камплімēнцікаў падкінуць, пажартаваць, а ягоную машыну — дэфіцытную на той час «Волгу» — цю-цю, лічы, з-пад самага носу. Вярнуўся Кучар у рэстаран, збянтэжана-разгублена перад сабой на ўказальным пальцы ключы ад машыны пакручвае, паўтарае, як заведзены: «А машыну таго, укралі… А машыну таго, укралі…»

Злодзееў потым знайшлі, але ж бясследна знік чарнавік новага кінасцэнарыя. Угоншчыкі па сваёй недасведчанасці проста выкінулі на сметнік кіпу нейкіх скрэмзаных чарнілам лістоў, што ляжалі на заднім сядзенні «Волгі». Нашто ім гэта?

Калі быў суд, абкрадзены сцэнарыст так і заявіў няўдачнікам-злодзеям: «За тое, што вы ўкралі машыну, я вам, хлопцы, дараваў бы, а вось за тое, што выкінулі з яе паперы, не магу дараваць. За той кінасцэнарый я мог бы новую “Волгу” купіць».

Паўтаруся: гэта не мая выдумка. А калі і выдумка, то старшай афіцыянткі рэстарана Зосі, якая, як я зразумеў добра ведала кінасцэнарыста і крытыка. А я ў яе таксама колькі разоў перакусваў. Канечне ж, у рэстаране, а не дзесьці дома…

Ужо садзячы Федзю на плошчы Якуба Коласа на трамвай, я пажартаваў:

— Ну, Федзя, лічы, што твая паэма, пабываўшы ў епархіі, атрымала боскае блаславенне. Цяпер ніводзін крытык не адважыцца падняць на яе руку, зрабіць замах…

— Паглядзім, паглядзім, як яно будзе, — толькі пасміхнуўся ён, становячыся на прыступку трамвая. — Дзякуй, дзядусь, што прымушаў пісаць мяне вершы для «Бярозкі». Яшчэ нешта прыдумаю.

Я зразумеў, што ён хацеў гэтым сказаць, і толькі злёгку махнуў яму рукою на развітанне.

Паэма Хведара Чэрні «Размова з памяццю» выйшла асобнай кніжкай улетку 1970 года. Пасля рэдактара Пятра Прыходзькі я, мабыць, быў першы, каму

ён падарыў яе. І на гэта была, як падаецца, ці не самая важкая прычына ў маім сямейным жыцці: я стаў бацькам, у мяне ў тым ліпені нарадзіўся сын. Што мой сябра не прамінуў даволі арыгінальна і шматзначна «адцеміць» у радках свайго аўтографа: «Траім Чарняўскім з такой умовай: “Я кніжку, вы — Мішку, я новую кніжку, вы — малышку. І т. д., і т. д.» Давялося старацца потым, каб хоць часткова выканаць яго сяброўскі наказ…

Ён з хваляваннем і спадзевам на прыхільнасць чытачоў і крытыкі чакаў выхаду паэмы ў свет, бо ў гэтым творы было шмат таго, што яднала паэта з яго радаслоўнай, нітавала з роднымі мясцінамі, з людзьмі, якія былі блізкія яму. Аднак жа ў аўтара зноў не абышлося без нервовага ўзрушэння. Напэўна, неспадзявана для многіх, а для самога Федзі — у першую чаргу, кніжка трапіла ў поле зроку (а можа, заказ такі быў?) спрактыкаванага ў той час літаратуразнаўцы і празаіка, найболей жа — тэатральнага крытыка Барыса Б., і той, узяўшы за адпраўны пункт свайго крытычнага разгляду паэмы Аркадзя Куляшова «Грозная пушча», «Прыгоды цымбал» і нават драматычны твор Івана Козела «Папараць-кветка» (падзеі ж у паэме разгортваюцца ў былой Заходняй Беларусі) не знайшоў чамусьці ў «Размове з памяццю» Хведара Чэрні нічога такога вартага, што ўбачылася яму ў творах знакамітага майстра паэзіі, і ў той драме.

«Аўтар пакорліва пайшоў за сітуацыяй, якую прыняў за сюжэт, за персанажам, які здаўся яму вобразам, за словам, якое ў гэтым творы так часта яго не слухалася. І гэта адчуваеш, калі ўпершыню чытаеш твор, і яшчэ больш — калі перачытваеш і перачытваеш», — канстатаваў прыдзірлівы крытык, навыскубліваўшы з паэмы не адзін дзясятак радкоў, якія дазволілі яму з пачуццём свайго неабвержанага пераканання і высновы паставіць на ёй крыж. Іначай і не скажаш.

Можа, ён у нечым і праўду казаў, быў слушным, але ж у кожнага творцы свая пэўная зададзенасць, свой падыход да паказу падзей, раскрыцця характараў літаратурных герояў, іх узаемаадносін, свая аўтарская палітра, свае знаходкі і (ад гэтага, мабыць, немагчыма пазбавіцца) свае пралікі, недапрацоўкі. Якога б таленту ні быў, якім майстэрствам ні валодаў бы. Толькі гледзячы, колькі іх і ў чым. Калі задацца мэтай, калі захацець раптам, іх можна знайсці ў кожнага аўтара. І ў класіка — таксама. Толькі адным іх «сарамліва» пабойваюцца выказаць, а другім, тым больш маладзейшым, можна хвастануць на ўвесь размах крытычнай пугі. Каб застаўся на лытках пякучы пісяг не на адзін дзень і нават год…

Само сабой зразумела, настрой у Федзі пасля з’яўлення ў часопісе «Полымя» рэцэнзіі Барыса Б. «Прырода жанру вымагае…» не адпавядаў таму, каб асабліва радавацца, пачувацца ў стане душэўнай лагоды. Спрабуючы неяк развеяць яго прыгнечанасць, я не знайшоў нічога лепшага, як паджартаваць. Хоць і сумна, але ж паджартаваць.

— Выходзіць, Федзя, Бог не памог. Відаць, і праўду кажуць, што Бога няма?

— Пры чым тут Бог? — нібы зазлаваў сябра. — Проста крыўдна, што крытыкуе, павучае чалавек, які ўявіў сябе Рыгорам Бярозкіным, хоць сам даўно ўжо нічога боскага не напісаў, толькі справаздачкамі на тэатральныя пастаноўкі адстрэльваецца…

— Ты, Федзя, скажы дзякуй, што ён не паспеў яшчэ прачытаць новую паэму Аркадзя Куляшова «Далёка да акіяна», а то і на яе яшчэ б спасылачку зрабіў, — паспрабаваў я хоць такім прымітыўным жартам крышку прасвятліць змрочны настрой сябра. А такая зачэпка з майго боку была не беспадстаў-

ная: быццам па якой дамоўленасці, якраз у тым жа пятым нумары «Полымя» за 1971 год быў змешчаны пачатак гэтага ў нечым аўтабіяграфічнага твора нашага выдатнага паэта, які потым на «ўра» быў сустрэты крытыкамі і, як водзіцца, чытачамі.

— Канешне, прыплёў бы, — сумна пагадзіўся са мной Федзя.

Федзеву крыўду можна зразумець. Хоць ён і лічыўся паэтам рабочай закваскі (да службы ў арміі скончыў тэхнічнае вучылішча, працаваў у ліцейным цэху аўтазавода), быў «праходчыкам» гэтай тэмы ў тагачаснай маладой паэзіі. За гэта і нахвальваўся часам у друку, аднак на глыбейшы, больш прафесійны і добразычлівы разгляд яго лірыкі, няхай сабе і ў нечым крышку грамадзянскай, але ніколькі не абцяжаранай «пудовымі апокамі» гарачай ліцейкі, яму тады мала шанцавала. Часам праскоквалі павярхоўныя «адпіскі» там-сям, не болей таго. Магчыма, з-за той зайздрасці, што таго-сяго пад'ядала: надта ж часта выдаваўся! Лірыка, сатыра і гумар, дзіцячая паэзія… І ўсё з напісанага не залежвалася ў сховах стала, збіралася ў новыя і новыя паэтычныя зборнікі. «Вядома ж, у выдавецтве працуе!» — зласліва пакеплівалі некаторыя нядобразычліўцы.

З імі часткова можна пагадзіцца. Магчыма, Хведару Чэрню, як і ўсім астатнім, хто «сталаваўся» там, было лягчэй заняць неабходную пазіцыю ў тэмплане выдавецтва. Але ж я пераканаааны і ў гэтым: калі б не працаваў у выдавецтве Хведар Чэрня, наўрад ці ўдалося б шмат каму з маладых (дый сталых паэтаў) хутчэй стаць аўтарамі першых зборнікаў, новых кніг, паспяхова церабіць сцежку да свайго літаратурнага прызнання, да вяршынь Парнаса. Абдзелены з маленства матчыным цяплом і клопатам, ён не разгубіў, не растрос на выбоінах жыцця галоўнага — дабрыні і спагады, душэўнай шчырасці і добразычлівасці, што дазвалялі яму вельмі хутка сыходзіцца з людзьмі, знаходзіць сяброў, пачувацца сваім сярод вяскоўцаў і рабочага люду, быць прыстойным чалавекам і творцам. Адсюль і тая прыязная цёплая ўсмешка, і гэтыя жартаўліва-сяброўскія «дзядусь» і «старычок» у яго гаворцы з намі, і «папуас», «галоўны папуас» — у нашых зваротах да яго. У нашай сяброўскай суполкі нават свой гімн быў (калі можна так сказаць), а ў ім такія словы:

Са шляху ніхто не зверне,
Кожны вытрыманы з нас,
Бо вядзе нас Хведар Чэрня —
Наш галоўны папуас.

Чаму стаў «папуасам», быў гэтак «уганараваны»? Тым, хто ведаў Федзю пры жыцці, тлумачыць не трэба: з-за сваёй прыроднай чарнявасці валасоў, смугласці твару, якія прысутнічалі не толькі ў прозвішчы.

А яшчэ ён шчыра даражыў дружбай, даверам сяброў. І сам, як умеў, падтрымліваў гэты давер сваімі добрымі, чыста чалавечымі ўчынкамі, імкненнем падтрымаць, прыйсці на дапамогу, а не толькі даходлівымі да сэрца радкамі. З сябрамі, калі гэта патрабавалася, мог падзяліцца апошнім: сціплымі студэнцкімі харчамі, капейкамі, нават модным швэдарам, калі бачыў, што ён больш патрэбны яго таварышу па вучобе, па сяброўскіх стасунках, хоць тая вопратка была самому не лішняй. Хто не верыць, пацікаўцеся ў таго ж Казіміра Камейшы. Ці яшчэ лепей — верш яго прачытайце «Швэдар Хведара Чэрні».

А не так даўно патэлефанаваў мне з Вялікай Бераставіцы сябра студэнцкіх гадоў, вядомы сёння краязнаўца Мікола Пацэнка. Разгаварыліся, пра Федзю

ўспомнілі. «А ведаеш, я Федзю застаўся вінаваты, — раптам ні то жартам, ні то ў сур'ёз прызнаўся ён. — Гэта я так лічу. Федзя, канешне, пасмяяўся б, пачуўшы такое». «А што ж ты яму завінаваціўся, калі не сакрэт?» — крышку іранічна пацікавіўся я. «У 1966 годзе, будучы студэнтам, Федзя Чэрня атрымаў ганарар за сваю першую кніжку "Добрай раніцы, людзі!" Колькі — не ведаю, але для студэнта — шмат. Завёў мяне ў рэстаран, паабедалі. Выйшлі адтуль, а ён і кажа: "Мы гэты ганарар як бачыш можам прагуляць. А давай я куплю табе кашулю. Хоць памяць будзе". Зайшлі ў ГУМ, купілі. Файную такую. Доўга насілася тая кашуля»…

Адчуваю, што я трошкі збочыў, можа, нават забег наперад, а трэба вярнуцца радкоў на дзясятак назад, і менавіта — да Федзевай працы старшым рэдактарам выдавецтва, каб пабачыць, ці заўсёды і ва ўсім ён шукаў там выгоду толькі для сябе. Здаралася, ён не проста рэдагаваў, а «прырэзанага» рэцэнзентам аўтара літаральна «выцягваў за вушы». Асабліва гэта тычылася тых, хто жыў у правінцыі, быў пазбаўлены частай мажлівасці абіваць парог рэдакцыі паэзіі. Не ўсім, канешне, выпадала пакарыстацца такой лагодай і прыхільнасцю Хведара Чэрні, а толькі тым, у каго ён сам змог знайсці на той момант нешта станоўчае ў прапанаваным рукапісе, што знарок ці незнарок абмінула ўвагу рэцэнзента, не трапіла ў поле яго зроку. Дбаючы пра свой «намалот», уважліва ставіўся да творчага лёсу сяброў, хто раптам збіўся са сцежкі ад падстаўленай кімсьці падножкі, каму штосьці замінала трывала ўзысці на яе, пазбавіўшыся часовага расчаравання і разгубленасці, працягваць займацца тым, чым жыла душа, што было, магчыма, духоўнай патрэбай жыцця…

…Стаўшы першакурснікам і пасяліўшыся ў інтэрнаце па вуліцы Свярдлова, 34, многія з нас, пачаткоўцаў, шчыра зайздросцілі (а можа, я перабольшваю?) Генадзю Д. І не таму, што хвацка іграў на баяне ды гармоніку, адбіраючы ў некаторых хлопцаў прыхільныя позіркі дзяўчат, а таму, што праз год пасля паступлення на філфак БДУ надрукаваўся ў самім часопісе «Полымя». Хоць не надта вялікаю, але ўсё ж даволі прыстойнай нізачкай вершаў адзначыўся. Нам яшчэ пра такое толькі мроілася, а ў яго ўжо гэта збылося. Хіба можна было не пазайздросціць і не падагрэць сябе імкненнем творча дамагчыся такой удачы, прайшоўшы праз палымянскае «сіта», надрукавацца ў славутым літаратурным часопісе?!

Мабыць, акрылены ранняй удачай і словам у дарогу прызнанага ўжо Ніла Гілевіча, Генадзь неўзабаве наважыўся зрабіць болей рашучы крок па сцяжыне ў паэзію — падрыхтаваў першую кніжку. Колькасна вершаў у яго на гэты час набралася быццам бы ўжо і дастаткова. Нават паэма з'явілася. Пра няўцешнае каханне, але з жыцця будаўнікоў (па тагачасных правілах прыёму ў Белдзяржуніверсітэт, усе, хто паступаў сюды адразу пасля школы, не меў за плячыма двухгадовага працоўнага стажу, лічыліся «ўстановачнікамі». Павінны былі на працягу першага курса сумяшчаць вучобу з працоўнай практыкай. Карацей — два семестры недзе адпрацаваць). Генадзю, як і многім яго аднакурснікам, давялося набірацца рабочага гарту на адной з будоўляў Мінска. Там і сюжэт для паэмы знайшоўся. І не толькі для яе. А ў той час да твораў на такую тэматыку ўсюды ставіліся з асаблівай прыхільнасцю. Нават патрабавалі ад аўтараў: «Больш пішыце на тэму працы, пра жыццё і справы рабочых калектываў».

Як адчуваю, яшчэ і гэта акалічнасць абнадзейвала маладога паэта, давала спадзяванне на поспех і ўдалы дэбют. І назву для дэбютнага зборніка — «Сінусоіда» — абраў ён невыпадкова: у папулярнага тады маскоўскага паэта

Андрэя Вазнясенскага была ўжо на той час «Парабола», а ў яго будзе не менш арыгінальны зборнік паэзіі — «Сінусоіда». Прынамсі, так маладому аўтару думалася. На што ж спадзяваўся, несучы аддрукаваны на машынцы за апошнія рублі (тады бралі па 10 капеек за адну старонку вершаў) рукапіс у выдавецтва? Сказаць цяжка. Пазней ужо мне прызнаўся: «Спадзявання, канешне, мала было, але ж думалася — з чым чорт не жартуе…» У выдавецтве ж пра яго спадзяванні ніхто тады не спытаў, а, каб даць яшчэ зялёнаму абранніку Музы ад варот паварот (ці калі казаць болей сурова і даступна — «прырэзаць»), бо і тады такіх ахвотнікаў выдацца, «стаць пісьменнікам», было процьма, перадаверылі лёс тога рукапісу і, як аказалася, амбіцыйнага аўтара, самому Рыгору Бярозкіну. Тагачасны мэтр нашай крытычнай думкі быў няўмольны, прысуд зборніку вынес суровы: сыры, патрабуе грунтоўнай дапрацоўкі, малады аўтар паспяшаўся з выданнем першага зборніка. Трэба набірацца літаратурнага вопыту і майстэрства.

Астуджаны слынным крытыкам, Генадзь пасля таго палічыў за лепшае асабліва не высоўвацца з вершамі на суд людскі. Нават рэдка прыходзіў з намі ў «Чырвонку» на пасяджэнні літаб’яднання.

А неўзабаве жыццё закруціла яго, зацягнула ў вір свайго звычнага чалавечага побыту: рана ажаніўся, стаў бацькам, а з чацвёртага курса раптам прызвалі ў армію, адправілі служыць углыб Расіі. Жонка скончыла вучобу ў БДУ і з дачкою вярнулася працаваць у родныя мясціны, на Міншчыну, настаўніцай. Ён жа вярнуўся праз тры гады з войска — куды ўжо ісці давучвацца на той стацыянар! Перавёўся на завочнае і перабраўся на жыхарства ў жончыны мясціны, уладкаваўся настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў тую ж школу, дзе і яна настаўнічала. Услед за дачкою, там ужо, з’явіўся на свет сын, потым — другі. Казённая кватэра стала цеснай, узяўся свой дом будаваць. Як любіў казаць усё той жа Уладзіслаў Іосіфавіч Нядзведскі, «быт заеў». Само сабой зразумела, пра вершы думалася радзей, чым пра планы ўрокаў. Іх у школе ніхто не адмяняў. Як і розныя там грамадскія даручэнні, нагрузкі, абавязкі — з часам жа да статусу дэпутата райсавета вырас!

Праўда, паэтычны сверб не праходзіў, нешта ўсё ж чаплялася за дзюбку пяра, збіралася ў радочкі, у новыя вершы, але, апёкшыся ўжо адзін раз, чамусьці не спяшаўся паказвацца з імі ў сталічны друк. Хіба што адводзіў душу на старонках райгазеты. І я, і ўсе яго сябры, хто застаўся ў Мінску, не-не ды скублі Генадзя, падганялі: «Чаму маўчыш? Дзе твой рукапіс? Няўжо не можаш сабраць вершаў на кніжку? Прывязі, пакажы напісанае, разам памазгуем, што з імі рабіць». «Ды вершаў трохі сабралася, здаецца, і не такіх ужо кепскіх, але ж… Буду ехаць у наступны раз на сесію — прывязу», — адбіваўся ён.

І аднаго разу прывёз. І тую пакутную «Сінусоіду», і даволі ёмістую папку новых вершаў. Бо цягнуць далей ужо не было як: Генадзеў зборнік па папярэдняй заяўцы, вывуджанай з аўтара няўрымсным Хведарам Чэрнем, ужо заняў адпаведную «пазіцыю» ў выдавецкім тэмплане. Заставалася — здаць рукапіс.

Рэдакцыя часопіса «Бярозка», дзе я тады працаваў, як ужо вядома, знаходзілася ў будынку ЦК камсамола Беларусі. У той час доступ туды быў адкрыты ў любы час сутак: за парадкам тут сачыў міліцэйскі пост. Каб прыходзіць сюды і працаваць у суботу ці нядзелю, дастаткова было звычайнага рэдакцыйнага пасведчання. Чым я часта і карыстаўся. Нешта пісаў, нешта перадрукоўваў на рэдакцыйнай машынцы, якая ў гэтыя дні «гуляла»-адпачывала ад рук

нашай машыністкі Веры. Хоць двума пальцамі, ды я ўжо даволі шпарка мог адбіваць на ёй патрэбныя мне рукапісы.

У тыя два дні «Бярозка» стала сведкаю як нараджалася першая кніжка Генадзя. Як і належала выдавецкаму рэдактару, спрактыкаванаму ў такім увіханні над рукапісамі аўтараў, верхаводзіў Хведар Чэрня. Спачатку «перабралі» парыжэлую ад часу «Сінусоіду», потым — новыя вершы. Чыталі разам. Калі не ўдавалася вызначыцца з вартасцю таго ці іншага верша з першага разу, ён «смакаваўся» і двойчы, і тройчы. Некаторыя, што здаваліся слабымі, адразу бракавалі, некаторыя — пакідалі для дапрацоўкі. Тыя ж, якія ўхваляліся і не патрабавалі, на нашу думку, «хуткай рэдактарскай дапамогі», тут жа клаліся на машынку — траплялі ў мае рукі. Запрацаваў, можна сказаць, творчы канвеер: я, высільваючы з сябе скупыя прафесійныя навыкі друкарскага ўмельства, як мог, бездакорна адстукваў ухваленыя і дапрацаваныя вершы на машынцы і аддаваў іх у рукі пакорлівага аўтара. Той, прабегшы аддрукаваную старонку вачамі, акуратна ўкладваў яе ў загадзя падрыхтаваную папку. І такім чынам — старонку за старонкай, верш за вершам…

Хоць усё рабілася супольна, апошняе слова ўсё ж было за Чэрнем. Часам ён самаўладна, ігнаруючы нашу думку, вырашаў лёс таго ці іншага верша або радка, прапаноўваў варыянты канцовак, якія не падлягалі пярэчанню. Здаралася, паразважаўшы, і пагаджаўся з намі. Тады толькі буркліва перапытваў: «А што вы прапануеце?» Быццам разумеў, што аўтарытарнасць з яго боку ўсё ж не павінна браць верх над калектыўнай думкай.

У перапынку, калі рэдагаваліся чарговыя старонкі рукапісу, і аўтару надакучвала чуцца ў ролі маўклівага назіральніка, ён сціпла цікавіўся: «Можа, я, хлопцы, за гэты час у краму збегаю?» А чаму б і не? Тым болей, што да крамы праз скверык Янкі Купалы хадзьбы той — раз-два. Не павінна ж згасаць іскрынка творчасці, прытупляцца вастрыня рэдактарскай думкі: працы ж яшчэ — о-го-го!

Як ні ўвіхаліся, у адзін дзень укласціся не змаглі. Давялося пераносіць нашы «дажынкі» на заўтра, на нядзелю. Спарадкаваліся з рукапісам недзе да абеду. Я адшпокаў яго, як і патрабавалася тады, у двух экзэмплярах. Сам аўтар (настаўнік усё ж!) уважліва вычытаў аддрукаванае. Я выправіў на машынцы ўсе дапушчаныя мною абмылачкі, а Федзя Чэрня звыкла пранумараваў старонкі і завязаў матузкі папкі: «Ну, цяпер, старычок, можаш яшчэ разок у краму збегаць…»

Кніжка Генадзя не затрымалася гэтым разам, выйшла.

Услед за гэтай кніжкаю Генадзь праз некаторы час выдаў яшчэ некалькі. Адну з іх — для дзяцей. Яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў, ён з сям'ёй праз колькі гадоў перабраўся з вёскі на сталае жыхарства ў сталічны Мінск. Нават займаў адказныя пасады ў самім СП, а таксама ў «Полымі» — у тым часопісе, на старонках якога яшчэ ў пару студэнцкай маладосці зрабіў першы крок у паэзію, і, напэўна ж, у сваю мару, якая, вытрымаўшы выпрабаванні лёсу, усё ж збылася…

Праўда, Федзю Чэрню ён ужо не мог аддзячыць, як хацелася б, карыстаючыся займаемай пасадай, паспрыяць, даўшы «дабро» на якую пазачарговую публікацыю ў тым жа «Полымі»: нашага сябра-таварыша на тую пару ўжо не было з намі.

Найгоршае адбылося нечакана. 16 сакавіка 1983 года. Яшчэ пятнаццатага, удзень, Федзя патэлефанаваў мне ў рэдакцыю:

— Ты плаціў партыйныя ўзносы? — пацікавіўся ў мяне.

— Не яшчэ, заўтра збіраюся, — патлумачыў я.

— Ведаеш, старычок, заадно заплаці і за мяне. Там не дужа многа будзе. Як з беспрацоўнага, — папрасіў ён.

— Не хвалюйся, заплачу. Заўтра якраз нам грошы даюць, атрымаю і паеду плаціць. Да дваццатага ж яшчэ не позна, — супакоіў я. — А што ў цябе добрага чуваць?

— Вольны пакуль, прыкідваю, куды б уладкавацца.

На той час Хведар Чэрня з-за нечага звольніўся з выдавецтва і сапраўды сядзеў дома, быў заняты пошукам новага месца працы. У той момант, быццам прадчуваючы нешта недарэчна-жахлівае, непапраўнае, хацелася паразмаўляць з ім даўжэй, ды ён сам, не ўцягваючыся ў роспыты, паклаў трубку тэлефона. Толькі паспеў кінуць: «Прабач, у дзверы звоняць».

Назаўтра, бліжэй к абеду, калі я ўжо знаходзіўся ў рэдакцыі, раптам зазваніў тэлефон. Можа, хто з аўтараў? Тэлефанавала Алена Міхайлаўна Мімрык, наш адказны сакратар. Я ведаў, што яна павінна была ў гэты час знаходзіцца ў дактароў у нашай саюзаўскай паліклініцы.

— Ты чуў ужо? — адразу ж неяк усхвалявана запытала яна.

— А што такое? — не зразумеў я.

— Федзя Чэрня памёр!

— Калі? — я адчуў, як пахаладзела ў грудзях.

— Ды во, з нейкую гадзіну таму. У паліклініцы пачула.

Гэта жудасная вестка аглушыла мяне. Як так? Яшчэ ж учора размаўляў з ім! Як гэта здарылася?

Ужо вярнуўшыся з паліклінікі, Алена Міхайлаўна расказала, што пачула там ад дактароў: выходзіў раніцай Федзя з кватэры і раптам на вачах у знаёмых, што чакалі яго на лесвічнай пляцоўцы, асунуўся каля дзвярэй. Намаганні ўрачоў «хуткай дапамогі» выратаваць — былі дарэмныя. Развіталіся мы з ім у той вясновы сонечны дзень на Паўночных могілках. Здаецца, сама прырода вырашыла аддзячыць яму сваім цяплом і яснасцю за ўсё добрае, што ён паспеў зрабіць на гэтым свеце, пакінуць на зямлі. Калі б яшчэ не журба, што стукала ў сэрца і памяць яго ж радкамі:

Жалоба і журба — дзве родныя сястры —
Усё часцей вядуць нас да сасонкі,
Дзе пакідаюць шумны свет сябры…
Цішэе свет без галасоў іх звонкіх.

Сярод рукапісаў у шуфлядах яго пісьмовага стала знайшлася няскочаная паэма. Але — без назвы. Як бы назваў яе аўтар? «Лісты здалёку», «Тытунь» ці яшчэ як-небудзь? Можна толькі здагадвацца. Я ж, рыхтуючы праз нейкі час урывак з гэтага твора для часопіса «Полымя», даў ёй сваю, умоўную назву — «Чужы бераг». Чаму такая назва падалася мне больш верагоднай, адпавядаючай задуме і зместу няскочанай паэмы? Ды таму, што яна ў нейкай ступені блізкая да паэмы «Размова з памяццю». Зноў жа яе героі, дзейныя асобы — ураджэнцы былой Заходняй Беларусі, з тых мясцін, адкуль родам і сам Хведар Чэрня. Толькі яны ў гэтым творы па волі лёсу ў пошуках свайго шчасця вымушаны былі пакінуць радзіму, як і некаторыя іх аднавяскоўцы, апынуцца далёка ад яе — у лацінаамерыканскай Аргенціне.

Аўтар не паспеў ажыццявіць сваю задуму, рэалізаваць сюжэт, таму невядома, ці знайшлі яго героі шчасце на чужой зямлі, ці ўдала прыбіліся да нязведанага берага, чым усё скончылася. Даводзіцца толькі гадаць, як склаўся б лёс і самой паэмы, калі б Хведару Чэрню ўдалося скончыць яе і надрукаваць, як паставілася б цяпер крытычна-няўмольнае пяро яшчэ б якога Барыса Б. да

гэтага твора паэта. Можа б, нарэшце ўдалося зразумець, чаму ён, «спёкшыся» на «Размове…», быццам забыўшыся на той «разнос», зноў звярнуўся да гэтай «куслівай» тэмы, чым прывабіў яго абраны сюжэт; што ён хацеў сказаць і паказаць нам, паўторна наступаючы на адны і тыя ж «граблі», узнаўляючы падзеі, далёкія ад нашай рэчаіснасці і, скажам шчыра, не такія ўжо «гістарычна знамянальныя, рэвалюцыйна-вячыстыя» ў свядомасці тагачасных уладнікаў і таго-сяго з даследчыкаў, але блізкія сэрцу паэта?

На вялікі жаль, адказы на гэтыя пытанні ён забраў з сабою. А тыя 63 машынапісныя старонкі паэмы, якія сталі здабыткам творчай спадчыны Хведара Чэрні, таксама не могуць нічога падказаць. Хіба што могуць толькі пацвердзіць адно: ён жыў творчасцю, нягледзячы на ўсялякія жыццёвыя перапады, працягваў плённа працаваць, шукаць сябе, цікавіўся лёсамі людзей, асабліва тых, сярод якіх жыў і рос, ад каго змог узяць тое лепшае, што грэла яму душу і сэрца, вяло па жыцці, прыдавала натхнення спяваць «аб краі мілым, краі родным…»

Абмовіўся тут словам «спяваць», можа, нават крышку трафарэтным, «заезджаным», і злавіў сябе на думцы, што ўсё ж — невыпадкова, зусім апраўдана. Хведар Чэрня і сапраўды, не ў пераносным, а ў самым натуральным сэнсе гэтага слова ўмеў не так ужо і кепска спяваць, калі выпадала такая нагода, віртуозна падбіраючы мелодыі пад акампанемент свайго паслухмянага яго ўмельству акардэона. А што ён быў не толькі здатным паэтам і прыроджаным музыкантам, музыкантам ад Бога, як часта кажуць, гэта ўсе добра ведалі, бачылі і чулі. Дзе, магчыма, не даходзіла паэтычнае слова, брала за сэрца, кранала патаемныя струны душы, дапамагаючы хутчэй сыходзіцца з людзьмі, знаходзіць сяброў і аднадумцаў, зачароўваць позіркі дзяўчат і жанчын, на студэнцкіх вечарынах, у калгасных клубах падчас шэфскіх выездак на бульбу, у сяброўскіх застоллях і на вяселлях, яго музыка, прафесійна-віртуозная ігра на акардэоне.

Федзя ганарыўся тым, што іх крэўна мужыцкі, але і музычны род «пачаўся ад прадзеда-музыкі і множыўся ашчадна з году ў год». І канстатаваў без усякай тады пахвальбы:

А спадчына іх мне перадалася.
Непрымірымая з няпраўдай і хлуснёй,
Яна ўва мне вяселлем аддалася,
Яна жыве і ў музыцы маёй.

Таму вось і мажорна падпяваю
Свайму акардэону пад настрой.
Тады і сам на крыўды забываю
І радую пакрыўджаных ігрой.

З бацькоўскай надзеяй заўважаў: «ужо і сын штудзіруе актавы і будзе цешыць, весяліць народ», а значыць — будзе жаданы працяг, будзе жыць «музычны род». Ды… у лёсу свой рахунак, свой ход, свой адлік усяму. Не дажыў. Не дачакаўся, каб убачыць усё гэта, перадаць сыну ўсе ўрокі свайго майстэрства. Як раптоўна абарваўся радок няскончанай ім паэмы, гэтак жа раптоўна абарвалася яго музыка, яе палёт. Замоўк, асірацела застаўся чакаць у куточку пакоя цяпла чалавечых рук, пяшчотнага дотыку пальцаў да сваіх звонкіх клавішаў спеўны дружбак і спадарожнік ягоных жыццёвых дарог-вандровак — акардэон. Замоўк, каб стаць не проста сямейнай рэліквіяй, а легендаю, нагадаць пра сябе і свайго спеўнага душою гаспадара ў вершаваных радках сяброў-паэтаў, ва ўспамінах усіх, каму надарылася радасць сустрэчы з імі…

Што яшчэ?

Перабіраючы кніжкі, затрымаў у руках і гэту — «Гарады на далонях». Захацелася зноў перачытаць некаторыя старонкі. Як тады, калі супольна рыхтавалі яе, як тую папялушку, да выдання, і пасля ўжо, калі выйшла з друку ў свет. Крытыка сустрэла яе хоць і стрымана, без гучных воплескаў, але ж і не разгромна. «Калі спявае кельма», — выказаўся адзін з рэцэнзентаў на старонках «ЛіМа». А я, памятаю, таксама не застаўся ўбаку, адзначыўся сваім водгукам, але… эпіграмай. Праўда, па нейкай там прычыне яна не стала здабыткам тагачаснага масавага чытача, а неяк непрыкметна надоўга «спачыла» ў цянётах майго хатняга архіва. Дастаючы з «архіва памяці» гэтыя ўспаміны, выцягнуў і яе. Магчыма, і запозна, але ж, дзякуй богу, яшчэ пры жывым аўтары зборніка. Можа, і ў яго архіве месцейка прыдатнае знойдзе.

Хоць не дойлід,
Ды рады сягоння,
Гэта ж цуд, паглядзіце, сябры:
У адных — мазалі на далонях,
А ў мяне — гарады і муры.
Іх насіць я зняможыўся вельмі,
Але ж мушу насіць і трываць.
Хоць пяро прыраўняў я да кельмы,
Мне б да крана яго прыраўняць!

Хто што б ні сказаў, усё ж у сэнсе крытыкі Генадзю пашанцавала больш, чым яго «шэфу» Хведару Чэрню з той спляжанай «Размовы з памяццю» і некаторымі пазнейшымі зборнікамі паэзіі, якія асабліва не заўважаліся чамусьці крытыкай, а калі і заўважаліся, то найчасцей — як бы зводдаль, мімаходзь…

Няхай не крыўдуе спадарыня Крытыка, ды яна ў той час (магчыма, як і цяпер яшчэ) рабіла ўсё з нейкай аглядкай, з нейкім сваім разлікам. Трымалася, ехала па літаратурнай дарозе, як упохап скіданы воз, пахіліўшыся на адзін бок, гатовы ў любы момант асунуцца, і тады нехта мог апынуцца пад завалам пахвальбы, а нехта — як у таго Ведзьмака-Лысагорскага: «Глядзіш, і спёкся папуас…»

А можа, я памыляюся? Аднак жа даволі часта кідалася ў вочы, што на гэта хворыя былі не толькі даследчыкі-пачаткоўцы, але і добра прызнаныя, салідныя літаратуразнаўцы. Не заўсёды, не ва ўсіх, ды ўсё ж прызнакі згаданай хваробы ў рэцэнзіях і артыкулах гэтых кандыдатаў і дактароў навук прагледжваліся нярэдка. І часцей — у залежнасці ад аўтара, хто станавіўся аб'ектам іх крытычнай і даследчыцкай думкі. Тады іх прынцыповасць прыкметна давала збой.

Памятаю, у адным з нумароў «ЛіМа» была надрукавана рэцэнзія на зборнік вершаў Уладзіміра Л. «Роднае». Аўтар рэцэнзіі, ужо на той час вядомы ў акадэмічных колах літаратуразнаўца, зямляк Хведара Чэрні Віктар К. яўна не паскупіўся на пахвалу ў адрас паэта, выставіў яму за кніжку (калі карыстацца школьнай практыкай) няхай сабе не пяцёрку, дык моцную чацвёрку — гарантавана. У Федзі таксама выйшла кніжка. Спадзеючыся, што зямляк зробіць ласку і напіша водгук пра яе, ён аднойчы падарыў яму свой зборнік з аўтографам. І для пэўнасці падмацаваў сваё спадзяванне канкрэтнай (любімае слова з Федзевага лексікону) просьбай:

— Віктар Антонавіч, можа б ты знайшоў часу і пра маю кніжку напісаў куды-небудзь. Я быў бы вельмі ўдзячны.

Заўважыўшы, што вучоны зямляк нервова затузаў плячамі, часта заморгаў вачамі, падбіраючы словы, каб неяк адгарадзіцца ад такой прапановы, Федзя з крыўдаю выказаў свой папрок:

— Ты ж вунь слабенькую кніжачку Уладзіміра Л. расхваліў, як нешта добрае, а там жа чытаць няма чаго. Перапевы адны. Няўжо мая горшая за яго? Не думаю…

А той па-сяброўску паклаў яму руку на плячо і зусім сур'ёзна адказаў, нібы адчаканіў, сваім разважна-пастаўленым голасам:

— Ведаеш, братка Фёдар, што я скажу: і такая паэзія мае права на сваё існаванне.

Пераказваючы гэту размову з Віктарам К., Федзя ледзь не лаяўся:

— Я ж думаў, ён глыбей капнецца ў кніжцы. Знойдзе добрае — пахваліць, знойдзе кепскае — перцу падсыпле. Ён усё ж крытык сур'ёзны, з імем, а не нейкі там студэнцік з філфака. Мне ж адна пахвальба не трэба, я хацеў, каб ён па справядлівасці выказаўся. Бо ў кніжцы, сам бачу, ёсць за што зачапіцца, паразважаць…

Адным словам, зямляцкага хаўрусу не адбылося. Можа, у Віктара К. ужо склалася раней пэўная думка пра паэзію Хведара Чэрні, і ён, як кажуць, не захацеў «пакрывіць душою». А можа, трошкі ў іншым: аўтар «Роднага» займаў тады пасаду дырэктара выдавецтва., у якім Віктар К. быў не чужым, паспеў стаць сталым аўтарам, а Хведар Чэрня — старшага рэдактара рэдакцыі паэзіі, куды крытыку і літаратуразнаўцу са сваімі рукапісамі звяртацца не было ніякай неабходнасці. Хто ведае…

Магчыма, і МАЯ размова з памяццю, гэта сюжэтна разбэрсанае і зацягнутае эсэ некага не задаволіць, выкліча супярэчлівыя меркаванні наконт яго мастацкай вартасці і грамадска-літаратурнай значнасці. Што ж, як выйшла — так выйшла. А можа, і нічога страшнага: калі прытрымлівацца той жа думкі і пераканання нашага слыннага даследчыка літаратуры, спрактыкаванага навукоўцы Віктара К., які пазней быў ушанаваны званнем акадэміка, «і такое эсэ мае права на сваё існаванне». Тым болей, што я не хлусіў, не крывіў душою, а стараўся ісці ўслед за праўдаю.



***Закі Нуры (Закі Шарафутдзінавіч Нуратдзінаў)*** *— паэт, грамадскі дзеяч — нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Татарскія Цюкі Дражжанаўскага раёна Рэспублікі Татарстан, памёр у 1994 годзе ў Казані. Пры жыцці паэта былі выдадзены 63 кнігі, у тым ліку адна з іх на беларускай мове. Закі Нуры вядомы і як актыўны перакладчык паэзіі народаў СССР. У 1968 годзе ў яго перакладзе на татарскую мову выйшаў зборнік вершаў беларускіх паэтаў, які склалі вершы 22 паэтаў, у тым ліку Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Петруся Броўкі, Максіма Танка і інш. У 1971—1974 гадах ён з'яўляўся старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Татарстана, сакратаром Саюза пісьменнікаў СССР, двойчы выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Татарстан.*

*Вялікую Айчынную вайну Закі Шарафутдзінавіч сустрэў у Беларусі пагранічнікам і з першых гадзін уступіў у бой. У жніўні 1941 года з аднапалчанамі ён патрапіў у акружэнне і прымкнуў да партызан. Да жніўня 1944 года служыў падрыўніком, потым камандзірам атрада разведкі ў партызанскім злучэнні Канстанціна Заслонава. Пасля вызвалення горада Оршы ад фашысцкіх захопнікаў быў назначаны намеснікам старшыні гарсавета, займаўся аднаўленнем разбуранай вайной гаспадаркі. У 1975 годзе яму прысвоена званне Ганаровага грамадзяніна горада Оршы.*

*За баявыя заслугі Закі Нуры ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны, медалём «Партызану Айчыннай вайны», за дасягненні ў творчасці і грамадскай дзейнасці — ордэнамі «Знак Пашаны» і «Дружба народаў».*

*У бытнасць Закі Шарафутдзінавіча старшынёй Саюза пісьменнікаў нашай рэспублікі мне пашчасціла працаваць яго намеснікам. Ён часта прыпамінаў свае партызанскія гады, горад Оршу, беларускіх сяброў. Ён быў адным з ініцыятараў адкрыцця музея Янкі Купалы ў пасёлку Пячышчы на беразе Волгі, дзе ў 1942 годзе знакаміты паэт знаходзіўся ў эвакуацыі. Закі Шарафутдзінавіч надзвычай цёпла прыгадваў прыём групы татарскіх пісьменнікаў Першым сакратаром ЦК КП Беларусі Пятром Міронавічам Машэравым.*

*Закі Шарафутдзінавіч у Оршы ажаніўся з беларускай і пражыў з ёю да самай смерці. У іх былі тры сыны. Мы да яе, па яе просьбе, звярталіся проста Валя-апа, і яна заўсёды па-беларуску гасцінна сустракала сяброў і калег мужа.*

*Увазе чытачоў прапаную некалькі вершаў татарскага паэта-франтавіка, беларускага партызана Закі Нуры.*

***Рэнат ХАРЫС,***
***народны паэт Татарстана,***
***лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі.***

Закі НУРЫ

# ПЕСНЯЙ СВЕТЛАЙ ПРАРАСЦІ

* * *

Ціха, скута прымоўклі салдаты,
І слязіна на вейцы дрыжыць.
Сябар іхні, што смерцю узяты,
Нерухома ля камня ляжыць.

Быў ён поўны адвагі і сілы,
У атаку хадзіў і ў дазор.
Сыдзе ён не ў прадонне магілы,
А душой узнясецца да зор.

Ён ляжыць, аўтамат прыціскае
Да грудзей схаладзелай рукой,
Быццам зноўку дарога чакае,
Быццам зноўку наперадзе бой.

Без цябе мы, таварыш наш мілы,
Рушым дальш, не застацца нам тут,
Дзе над погарбам-жвірам магілы
Пpагрымеў развітальны салют.

Толькі мужная памяць салдата
У народнае сэрца ўрасце,
Як імя і смяротная дата
На халоднай магільнай пліце.

*1942*

## ПАСЛЯ АТАКІ

Бой суціх… І бязмоўна шугае
Ноч халодным накрапам дажджу.
Ты паслухай, мая дарагая,
Што табе я сягоння скажу.

У акопах прамёрзлых, сырэчых,
Дзе бліскоча штыка вастрыё,
Праганяючы сум недарэчны,
Я імя прамаўляю тваё.

І твае, можа, сном не спавіты
Ночы — сумна, трывожна ідуць,
Бо крыжастыя зноў месершміты
Нада мной у нябёсах гудуць.

Да цябе толькі вестка скупая
Мае думкі нясе трэці год.
Знай: жыву і заўсёдна чакаю
Нашу стрэчу, як сонца ўзыход.

Крылы вестка някрэпкія мае.
Зноўку голубам шызым ляціць.
Што ад сэрца табе прамаўляю,
Хай у сэрцы тваім прагучыць.

Пісьмы з дому, як лёсу пазнакі,
У кішэню — да сэрца! — кладу.
З імі разам у грукат атакі
Пад варожыя кулі іду.

Веру: заўтра з табой будзем разам,
Перамогай закончыцца бой,
На пісьмо тваё лепшым адказам
Сам паўстану я перад табой.

*1944*

## НА ПРЫВАЛЕ СПЯВАЙ

Не палошыць нас наступ нягоды —
Ні снягі, ні дажджы, ні туман.
Разгарайся, касцёр наш паходны!
Запявай ля кастра, партызан!

Не за дальняй схаваны гарою
Час расплаты; шчэ наш дынаміт
Не ў крывавым баі — у забоі,
На будоўлях не раз праграміць.

Будзе вольнаю наша Айчына,
Будзе вораг дабіты спаўна!
Застануцца палаць ва ўспамінах
Ненажэрная смерць і вайна.

Перамога салютам адвагі
Над байцамі яшчэ прагучыць.
Тым, хто нёс яе гордыя сцягі,
На зямлі светла жыць і любіць!

*1944*

## ДВА СЭРЦЫ

Паўсюд, дзе бываю, — ляту ці плыву,
Век думкай адной пра цябе я жыву.

Узлёт тваіх чорных падведзеных броў,
І вочы, дзе поўдзень адбітак знайшоў.

Я чую чароўную мову тваю,
Нібыта крыніцы жывую брую.

Слязу адчуваю, што піта да дна, —
Знямець прад табой прымушае яна.

Было ўсё ў дарозе. У памяці ёсць
І горыч, і крыўды, і сваркі, і злосць.

Аднак, калі цень падступаўся бяды,
Ты побач са мной паўставала заўжды.

…Сушыла спякота траву на зямлі,
Снягі замяталі лясы і палі.

Аднак, калі мне шанцавала ў жыцці
Насуперак буры дарогай ісці,
Калі нешта вартае зроблена мной, —
Дык гэта здабыта табою адной.

…Паўсюд, дзе бываю, — ляту ці плыву,
Век думкай адной пра цябе я жыву.

*1971*

## РАЗМОВА З ПАДСНЕЖНІКАМ

Набрыняла хмарна неба,
Пашарэлі фарбы дня.
І з'явіўся ён з-пад снегу,
Быццам з яйка кураня.

Пругка ўстаў на тонкай ножцы,
Адагнаў маркоту сну,
Паківаўся ўсцешна трошкі
І пялёсткі расхінуў.

Горды, вабны і жывучы,
Сцішыў сівер ледзяны.
Навучы мяне, трывучы,
Чуць у жылах моц вясны!

Навучы адвазе смелых,
Каб я здолеў шлях знайсці, —
У самоце душ знямелых
Песняй светлай прарасці!

*1971*

## МАЁ БАГАЦЦЕ

У трох клецях маё багацце:
Песні — ў першай,
А вершы — ў другой.
Ў трэцяй —
Шчодрасць братэрства ўбачце
І любоў да краіны маёй.

У прыволжскіх садах песні-казкі
Салаўі даравалі мне.
І таму палічыў абавязкам
Перадаць іх
Сваёй старане.

Ну а вершы
(Не дзеля славы
Час аддаў трапяткім радкам)
Раздарыць сёння маю права
Дарагім маім землякам.

А багацце,
Што ў трэцяй клеці,
Мне прыдбалі сябры — яны
Разбрыліся па белым свеце…
Хай раздзеляць той скарб
Сыны.

Хай трымаюць яны,
Як зброю,
Хціўцам-злыдням усім на страх
Скарб-братэрства,
Здабыты крывёю
Ў беларускіх
Густых лясах.

*1971*

## ПРА ДВУХ КАМАНДЗІРАЎ

Шчыруе поўдзень сонечны у кронах,
А на зямлі паўсюд спакой і мір.
Ды бачу, як загінуў наш Заслонаў —
Батыр і партызанскі камандзір.

Вайна гады чатыры нас крышыла,
Зямлю Айчыны акрапіла кроў.
Вайна не раз нам сэрцы апаліла
І тым, што мы хавалі ў дол сяброў.

Агнём кацюш, гармат і кулямётаў
Мы бралі штурмам свету гарады.
Кідаліся не раз на пашчы дотаў,
Каб смерці наступ знішчыць назаўжды.

Варожыя тылы не раз гramілі
І цягнікі пускалі пад адхон.
Шкада, што тое ўсё Мусе Джалілю
Ў яго пакутах снілася, як сон.

Ён партызаніў у самім Берліне,
А не ў лясах сваіх вітаў зару.
Яго радкоў не згаснуць мужнай плыні:
«Я ў бомбу песні моц ператвару!»

Дык, можа, быў Муса тут з намі побач
І са святой рашучасцю не раз
Заслонаву і нам ішоў на помач,
І праз агонь прайшоў у грозны час?

Гісторыя! Ты позна або рана
Казала праўду нам ва ўсе часы.
Тваім бяссмерцем, славай партызана
Даўно імя авеяна Мусы!

Так, заклікам свабоды, шчасця, міру,
Той Перамогі, высненай, святой,
Сумленныя героі-камандзіры
Мяне — байца — вялі штораз у бой.

Зноў бачу, як трымае дзядзька Косця
Дзве міны — іх і зараз пазнаю…
Муса прыносіць значнае мне штосьці —
Спадзеў на песню лепшую маю!

Апалены мінулаю вайною,
Я помню тое, што ў душы жыве.
Два камандзіры… Ў небе нада мною
Яны заўсёды, быццам зоркі дзве.

*1976*

***Пераклад з татарскай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

# ЦЕПЛЫНЯ ПАЭЗІІ — ЦЕПЛЫНЯ СУСТРЭЧ



*Дэлегаты V з'езда пісьменнікаў СССР. Злева направа: Гарыф Ахунаў, Шаўкат Галіеў, Закі Нуры, Рэнат Харыс, Генадзь Паўшкін і Равіль Файзулін. Масква, 1971 г.*

У працяг публікацыі новых перакладаў Закі Нуры, зробленых Міколам Мятліцкім, мы вырашылі задаць беларускаму паэту некалькі пытанняў.

**— Пераклады Закі Нуры, здзейсненыя ў год 70-годдзя Вялікай Перамогі, — ці гэта ваш першы зварот да татарскай паэзіі як перакладчыка?**

— З вялікай удзячнасцю паэту-партызану за тое, што яго мужнае ваеннае юнацтва спалучана з лёсам нашай Айчыны, я ўзяўся за пераклады яго вершаў на беларускую мову ў юбілейны год Вялікай Перамогі. І гэта мой першы зварот да татарскай паэзіі як перакладчыка. Не выпадала раней перакладаць татарскіх паэтаў. У гады майго студэнцтва ў нас выйшлі пачаргова ў «Мастацкай літаратуры» зборнікі вершаў Закі Нуры «Радасць сустрэч» (1973) і Мусы Джаліля «Маабіцкі сшытак» (1975). Яны і патрапілі ў мае рукі як першыя ластаўкі татарскай паэзіі.

**— Што найболей уразіла пры знаёмстве з даўно напісанымі вершамі?**

— Перш-наперш, суровая праўда паэтычнага радка, лёсавасць вершаў. Такія яны, вершы, напісаныя паміж баямі ў гады Вялікай Айчыннай. Гэтай тэме Закі Нуры заставаўся верным на працягу ўсяго жыцця. Мы адкрывалі ў свой час мужны гераічны лёс і вялікага сына Татарстана, паэта-пакутніка Мусы Джаліля. Кожны з нас, маладых, хто меў дачыненне да літаратуры, шукаў сваю літаратурную сцежку, лічыў абавязковым прачытаць яго бессмяротны «Маабіцкі сшытак». І я ў нашай Ленінцы заказаў гэты зборнік, пра-

чытаў яго на рускай мове. Быў да глыбіні душы ўражаны вершамі. А потым адкрыў для сябе і Закі Нуры — прачытаў на беларускай мове, і меў шчасце прачытаць Мусу Джаліля ў бліскучых перакладах Аляксея Пысіна і Сцяпана Гаўрусёва. Гэта ўзмацніла маю зацікаўленасць татарскай паэзіяй. І калі праходзіў універсітэцкі курс «Літаратура народаў СССР», то, рыхтуючыся да экзамену, не малую ўвагу ўдзяліў і літаратуры Татарстана. Пазнаёміўся з творчасцю Хадзі Такташа, Хасана Туфана, Каві Наджмі, Ахмеда Ерыкеева, Ахмеда Файзі, Ахмета Ісхака, Саліха Батала, Фатыха Карыма, Сібгата Хакіма, Галі Хузеева, Нуры Арсланава, Энвера Давыдава, Шарафа Мюдарыса, Шаўката Галіева, Ільдара Юзеева, Равіля Файзуліна. Са студэнцкай пары на ўсё жыццё запомніліся радкі верша «Зорка» Каві Наджмі:

Горела всю ночь голубая звезда,
В окно мне светила лучом.
С рассветом угасла она, как всегда,
Но след её в сердце моём.

И каждую ночь всё гляжу я опять
На эту звезду из окна,
И хочет душа так же ясно пылать,
Как в небе пылает она.

**— Здаецца, пераклад кагосьці з ленінградцаў, санкт-пецярбуржцаў…**

— Сапраўды… Гэтыя радкі ў перакладзе Усевалада Раждзественскага сталі для мяне, тады маладога паэта, лёсавызначальнымі і пуцяводнымі. Думаю, што стануць такімі ж і для многіх паэтаў XXI стагоддзя.

**— Ваша агульнае ўяўленне пра татарскую паэзію як пра складнік літаратурнага, мастацкага свету на постсавецкай прасторы, у атачэнні іншых літаратур… Якія велічыні Паэзіі бачацца вам у дачыненні да супляменнікаў Закі Нуры з нашай беларускай гары?**

— Перакладаючы паэзію розных народаў свету, я прыйшоў да высновы: усё геніяльна створанае мае своеасаблівае падабенства — пранікненне ў глыбіні чалавечага жыцця. Нацыянальна адметнае, зместава адрознае — усё паяднана вялікай сілай стваральнага чалавечага духу, самой сутнасцю чалавечага прызначэння. Гэтым падабенствам літаратуры свету і пішуць агульную гісторыю чалавецтва. Лёсы многіх народаў судакранаюцца якраз праз літаратуру сваімі болевымі кропкамі — паўстае агульначалавечы гуманізм. Літаратура Татарстана не з’яўляецца выключэннем з правілаў агульначалавечага развіцця. Яе карані ў фальклоры і помніках сярэдневяковай цюркскай культуры — Балгарыі Волжска-Камскай, у знакамітай паэме трынаццатага стагоддзя «Кыса-і-Юсуф» Кул Галі, у гуманістычных творах золатаардынскага перыяду і Казанскага ханства. Тут лёсавызначальнымі сталі творы Кутба, М. Булгары, С. Сараі, Мухамедзьяра, Умі Камала, Кул Шарыфа.

Сярэднявечча татарскай літаратуры таксама мае знакавыя імёны Маўля Кулы, Утыза Імяні, Ш. Зак і, Г. Чакрыя.

**— Вы праяўляеце такую дасведчанасць, што, можа быць, следам за стварэннем анталогіі «Пад крыламі Дракона: сто паэтаў Кітая» адважыцеся на рэалізацыю падобнага творчага праекта і ў дачыненні да татарскай паэзіі?..**

— Загадваць не буду. Але такая праява творчага, мастацкага пабрацімства з боку беларусаў павінна быць некалі рэалізавана…



*На вечары, прысвечаным 75-годдзю Мусы Джаліля. Злева направа: паэт Закі Нуры, празаік Гарыф Ахунаў, паэт Мухамет Садры, сакратар Татарскага абкама КПСС Мурзагід Валееў і калмыцкі паэт Давід Кугульцінаў. Люты 1981 г.*

Вартая агульначалавечай увагі і новая літаратура Татарстана. Пачынаючы з другой паловы XIX стагоддзя яна развіваецца паўнакроўна ва ўсіх жанрах. Прыгадваецца цэлы шэраг яе знакавых імён — Г. Тукай, Ф. Амірхан, М. Гафуры, М. Файзі, К. Наджмі, М. Джаліль, Г. Башыраў, І. Газі, С. Хакім, А. Расіх, Р. Тухватулін, Н. Фатах, Ш. Галіеў, М. Магдзееў, Т. Мінулін, М. Хабібулін, М. Хасанаў, Р. Файзулін, Р. Харысаў, Р. Батула, М. Аглямаў і інш.

**— А калі ўсё ж бліжэй да нашага часу…**

— Так, мне выпадае гаварыць больш пра паэзію і паэтаў нашых часін... У XX стагоддзі паэзія Татарстана набыла асабліва чуйнае грамадзянскае гучанне: паэты былі ўдзельнікамі і сведкамі многіх віхур гэтага жорсткага, ахвярнага веку. Аднак іх вершы ўскалыхнула і паўнагалоссе ўсіх чалавечых пачуццяў.

Сённяшняя татарская паэзія — нацыянальна адметная частка не толькі ў літаратуры Расійскай Федэрацыі, але і ўсёй сусветнай. Яе духоўнае аблічча бачна з усіх кантынентаў. Гэта асабліва выразна падкрэслена ў пару інтэрнэту. Шкадую, вельмі рэдкімі сталі нашы творчыя сустрэчы. Мы, пісьменнікі XXI стагоддзя, зусім не ведаем адзін аднаго, радзей і радзей сустракаемся на постсавецкай прасторы. А гэта збівае градус цікавасці, не дае магчымасці напоўніцу акунуцца ў літаратурнае жыццё нават родных па духу народаў.

Памятаю, як пасля выхаду ў свет кнігі «Радасць сустрэчы» ў Мінск з групай татарскіх пісьменнікаў прыязджаў Закі Нуры. Мне пашчасціла пабываць на літаратурнай вечарыне яшчэ ў нашым старым Доме літаратара, пачуць паэтычныя галасы татарскіх сяброў. Нясу праз жыццё цяпло гэтай сустрэчы — удзячнасць зямлі мужнага Мусы Джаліля і бясстрашнага беларускага партызана Закі Нуры.

***Гутарыў Павел АЛЬСОВЫ.***

**Валерый МАКСІМОВІЧ**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МАСТАЦКАЯ ТРАДЫЦЫЯ ЯК ДЗЕЙСНЫ СРОДАК ЗАБЕСПЯЧЭННЯ ГУМАНІТАРНАЙ БЯСПЕКІ ГРАМАДСТВА

Ва ўмовах фарміравання новай цывілізацыйнай парадыгмы асаблівую значнасць набывае праблема захавання ментальнага, духоўнага свету сучаснага чалавека, яго каштоўнасных арыентацый, маральных якасцей, актыўнай светапогляднай пазіцыі. Надзённай застаецца задача распрацоўкі комплексу мер, накіраваных на ўмацаванне нацыянальнай бяспекі ў інфармацыйна-светапогляднай, духоўна-культурнай сферы, на культываванне нацыянальнай ідэнтычнасці і памнажэння духоўных каштоўнасцей народа.

З улікам функцыянальнай гісторыка-культурнай запатрабаванасці і задзейнічання ў жыцці грамадства традыцыя можа быць разгледжана з розных пазіцый. Думаецца, варта пагадзіцца з даволі слушным меркаваннем, што традыцыя ўяўляе сабой своеасаблівую іерархічна пабудаваную сістэму, дзе той ці іншы элемент, канцэптуальны фрэйм, светапоглядная ідэалагема могуць актывізавацца, набываць дамінуючае значэнне ў залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі, якая склалася ў грамадстве. Гэта тычыцца не толькі пэўных сфер культуры і мастацтва, дзе легітымныя рысы традыцыі найбольш адчувальныя і ў той ці іншай меры прадстаўлены ў канкрэтных мастацкіх аб'ектах і артэфактах. Маюцца падставы весці размову пра традыцыі пэўнай цывілізацыі, якая ўключае ў сябе розныя сферы чалавечай дзейнасці (палітычную, гістарычную, філасофскую, навуковую, эканамічную і г. д.). Акрамя таго, у апошні час усё больш пачынаюць гаварыць аб інтэлектуальнай, духоўна-маральнай традыцыі, традыцыі жыццятворчасці, традыцыі «структуры сістэм», што складаюць сам змест культуры ў цэлым і функцыянальныя, у тым ліку якасныя трансфармацыі ў працэсе яе развіцця. Пэўныя, у рознай ступені праяўленасці, перасячэнні, счапленні гэтых сістэм як атрыманага ў спадчыну гістарычнага мінулага назіраюцца і ў плане сінхраніі, і ў плане дыяхраніі. Нават з улікам прасторава-часавага змянення, вар'іравання асобных традыцыйных штамаў, усё ж стабільна захоўваецца ядро культурнага тэзаўрусу, стрыжнёвыя сімвалічныя элементы, духоўныя арыенціры, мадэлі культуры і грамадскай практыкі, якія спрыяюць узнаўленню ідэнтычнасці сацыякультурнага суб'екта — носьбіта традыцыі.

Традыцыйныя каштоўнасці, захавальнікам і рэтранслятарам якіх па праве лічыцца і нацыянальная літаратура, з'яўляюцца дзейсным сродкам забеспячэння гуманітарнай бяспекі грамадства. Не патрэбна, думаецца, прыводзіць адмысловыя доказы таго, што менавіта ў літаратуры і мастацтве кандэнсуецца духоўны вопыт многіх пакаленняў, транслююцца архетыпы, знакі, вобразы, інакш кажучы, семантыка-аксіялагічныя структуры культурнай рэальнасці, якія замацоўваюць сталыя коды жыцця- і культуратворчасці. Больш за тое, кожная асобна ўзятая традыцыя выступае ў ролі носьбіта пэўнага нацыязаангажаванага кода або нарматыўна-інстытуцыйнага рэгістра агульнапрынятых сістэмаўтваральных каштоўнасцей, у адпаведнасці з якімі ажыццяўляецца духоўная сувязь паміж шматлікімі пакаленнямі людзей. Менавіта спасціжэнне базавых семантыка-семіятычных структур культуры дазваляе прадстаўніку пэўнага этнасу засвоіць «ген», першаэлемент традыцыі. Пераводзячы гэты паняційны рад на мову кампаратыў-

нага літаратуразнаўства, можна вылучыць тэзіс аб «нацыянальным акцэнце» літаратуры, які «ўяўляе сабой гістарычна абумоўленую характэрнасць, ... адметныя рысы мастацкага генія пэўнага народа, якія ўдзельнічаюць у фарміраванні стылю і якія працягваюць потым істотна ўплываць на яго далейшае развіццё... Нацыянальны акцэнт можа быць арыенцірам і для эвалюцыі літаратуры, і для фарміравання нацыянальнага характару, і ў палітыка-ідэалагічнай сферы» [4, с. 257].

Як бы мы ні ставіліся да традыцыі ў працэсе творчай і сацыякультурнай дзейнасці, яна імпліцытна, на ўзроўні ментальных матрыц і кагнітыўных мадэлей прысутнічае ў ствараемым творы мастацтва. Пры ўсім адметным характары засваення, задзейнічання вопыту папярэднікаў, што абавязкова павінна адрозніваць творчую індывідуальнасць у шэрагу «тыпалагічна» блізкіх, падобных, варта ўсё ж прызнаць і факт прысутнасці дзвюх перспектыў (мінулага — сучаснасці), якія даюць магчымасць меркаваць аб ступені арыгінальнасці, самабытнасці, значнасці індывідуальных мастацкіх адкрыццяў. Менавіта іманентная прысутнасць традыцыі (пры ўсёй зменлівасці і зменнасці тыпаў мастацкага свядомасці і творчасці) дазваляе меркаваць аб ступені навізны, непаўторнасці і адметнасці твора мастацтва. Тут размова ні ў якім разе не ідзе пра сляпое, нятворчае запазычанне, пераймальніцтва або імітацыю. Маюцца на ўвазе творы з высокай ступенню эстэтычнага ўвасаблення. Цалкам зразумела, што ў мастацкім шэдэўры дзякуючы ўдала прыменянай сістэме меры, гармоніі, кампазіцыйна-стылявым рашэнням цяжка, а то і немагчыма адшукаць першакрыніцу, узор або нейкі інтэгральны пратэкст (першатэкст), які выступае пэўным каталізатарам, заахвочвальным стымулам для сапраўды прарыўных, інавацыйных адкрыццяў у плане суб’ектнай арганізацыі мастацкага тэксту. Як паказвае сусветная практыка, ні адзін значны мастак не ігнараваў традыцыю, гісторыка-літаратурны кантэкст у самых разнастайных і шматаблічных формах іх прадстаўленасці. На ўзроўні паэтыкі гэта і цытатныя алюзіі, і рэмінісцэнцыі, і вобразна-стылістычныя маркеры, фігуры, прыёмы, якія, уключаныя ў кантэкст мастацкага цэлага, набываюць свежасць і арыгінальнасць гучання і сведчаць аб асаблівым жанрава-, структура- і светастваральным спосабе і прынцыпе аўтарскай культурадзейснай стратэгіі. Але ёсць і іншы, больш глыбінны пласт, які складаюць сімвалічныя структуры сакральнай традыцыі і архетыпічныя вобразы несвядомага, пра што размова пойдзе ніжэй.

Разгляд гісторыі культуры як сукупнасці працэсаў фарміравання, эвалюцыі і разбурэння культурна-ідэнтыфікацыйных асяроддзяў змушае аддаць належнае тым каштоўнасна-светапоглядным канстантам, якія пазітыўна ўплываюць на ўсведамленне чалавекам сябе ў якасці дзейснага суб’екта ў сістэме культуры. Сказанае адносіцца перш за ўсё да традыцыйных тыпаў культуры. У адносінах жа да іншай культурнай сістэмы каардынатаў, у прыватнасці постмадэрнісцкай, наадварот, назіраецца размыванне ўстойлівых каштоўнасцей, іх рэдукцыя і замена псеўдакаштоўнаснымі семантыка-семіятычнымі структурамі, г. зв. сімулякрамі (у тэрміналогіі Ж. Бадрыяра).

Культывуючы светапоглядны эгацэнтрызм і прытрымліваючыся антытрадыцыяналісцкіх па сваёй сутнасці культурных арыенціраў, ідэолагі і праваднікі постмадэрнізму, у тым ліку і з асяроддзя дзеячаў культуры, фактычна спрыяюць таму, што самаідэнтыфікацыя і свядомы выбар чалавека ў сучасных умовах істотна абцяжараныя. Па сутнасці, чалавек аказваецца ў сітуацыі перманентнага пошуку адрознага ад іншых спосабу светабыцця, які не заканчваецца ніякім станоўчым вынікам і толькі спрыяе росту энтрапіі грамадскіх сувязей і міжкультурнай камунікацыі. Перадусім гэта мае дачыненне да постмадэрнісцкай літаратуры, якая не прызнае ніякіх эстэтычных і этычных табу, і ёсць рызыка, што тым самым яна можа ператварыцца ў сродак псавання душ, крыніцу паталагічных узораў паводзін і мыслення. Такая літаратура, якую прываблiваюць нестандартныя, «альтэрнатыўныя» тыпы людзей і іх паводзіны, робіць акцэнт на перыферыйным, ценявым ракурсе мастацка-псіхалагічнага даследавання. Яе герой, як правіла, выбірае

пазіцыю назіральніка, статыста; ён цалкам камфортна адчувае сябе «культурным тубыльцам», вольным ад усякага этычнага выбару, душэўных пакут (у тым ліку і згрызот сумлення), грамадзянскага і чыста чалавечага доўгу. Пры гэтым хваравітая сканцэнтраванасць на анамаліях, акцэнт на ўнутраным памежжы суб'екта нельга расцэньваць толькі як цынічны выклік «шэрай» і «сумнай» штодзённасці, як бравіраванне гульнёй у нігілізм або спісваць усё на «хваробу росту». Відавочна, што такая пазіцыя, пранізаная духам адмаўлення, але пададзеная ў вонкава прыгожай упакоўцы, прадыктавана свядомым выбарам, г. зн. мае прадуманую і бескампрамісную светапоглядную матывацыю, свайго роду філасофію, якая прапануе замест маральнага імператыву ўцёкі ў свет хваравіта скажоных мар — вычварных аскепкаў свету рэальнага, пачуццёва адчувальнага.

Зрэшты, рэальнага свету як такога тут і не існуе, паколькі для постмадэрнісцкай свядомасці ён пазбаўлены сэнсу і заканамернасці. Хаатычнасць, выпадковасць, часовасць — вось сапраўдная сутнасць жыцця з пункту гледжання постмадэрнісцкага мастацкага канону. Адрывістыя, калейдаскапічна зменлівыя брутальныя і нонканфармісцкія эпізоды, успрынятыя свядомасцю постмадэрнісцкага героя, не дазваляюць не толькі асэнсаваць, але і папросту прыняць свет як нешта цэльнае, суладнае, гарманічнае. Рэлятывізм каштоўнасных установак і этычных нормаў цалкам блакіруе шлях да адэкватнага рэагавання і адэкватных паводзін. Усёдазволенасць, перш за ўсё ў плане ўнутранай разняволенасці, становіцца самамэтай і для аўтара, і для яго альтэрнатыўнага героя. Ёсць падставы меркаваць, што гэта заканамерны вынік барацьбы за «вызваленне» чалавека ад усяго чалавечага, людскага, як бы «гульнявое» прывыканне да нізкага, дзікага, першабытна-агрэсіўнага.

Але схематычна апісаная вышэй стратэгія постмадэрнісцкага пошуку, як можна меркаваць, не мае ўсеабдымнага характару свайго праяўлення. Насамрэч сам працэс творчасці далёкі ад механічнага ўспрымання клішаваных формул і стандартных падыходаў, ад стварэння перфарматыўных субстытутаў традыцыйных практык. Мастацкая творчасць па вызначэнні з'яўляецца вынікам узаемадзеяння свядомага і несвядомага ў чалавечай псіхіцы, і ў той жа час уяўляе сабой своеасаблівае змесціва ўніверсальных пачуццяў і мадэляў у спасціжэння свету. Гаворка ў першую чаргу ідзе аб ўстойлівых вобразах, названых Юнгам архетыпамі. З'яўляючыся вынікам калектыўнай думкі, яны ўнутрана матывуюць, як бы «падказваюць» мадэль паводзін, успрымання і дзеяння ў сітуацыях, якія карэлююць з пэўным архетыпам. Агульнапрызнана, што паняцце «архетып» уключае ў сябе пэўныя адгалінаванні вуснай народнай творчасці: паданні, легенды, казкі, міфы, якія з'яўляюцца прадуктам калектыўнага светаўспрымання, светапогляду і якія характарызуюцца ўстойлівай і аднаўляльнай (трансляцыйнай) прыродай. Сакральныя, фальклорныя, класічныя літаратурныя тэксты шмат у чым прадвызначаюць характар устойлівага вобраза свету, мастацкіх (культурныя) уяўленняў, матываў паводзін, становяцца арганічнай часткай нацыянальнага менталітэту, складаюць аснову нейкага духоўнага сплаву, які фарміруе агульныя светапоглядныя і маральна-этычныя алгарытмы (прынцыпы, мадэлі) светабыцця.

Па сутнасці, архетыпны субстрат, у асобных выпадках становячыся рухаючай сілай фабульных сюжэтаў і матываў, набывае якасць своеасаблівай мастацкай субструктуры, якая дазваляе больш рэльефна ўбачыць дынаміку, узаемадзеянне розных сацыяльных слаёў, іх суадносіны, выявіць коснасць сацыяльнай іерархіі і адначасова яе няўстойлівасць. Разам з выяўленнем сацыяльнага гэта адкрывае магчымасць спасцігнуць сутнасць іншых жыццёвых з'яў, паглыбіцца ў сферу маральна-духоўнага, субстанцыяльнага.

Акрамя ўсяго, пераемнасць традыцыйных формаў можа выяўляцца не толькі па лініі фармальна-стылістычных формаў і кампазіцыйна-структурных рашэнняў, але і на ўзроўні розных мадэляў культурнай традыцыі, эпох, мастацкіх стыляў, напрамкаў, цывілізацыйных формаў, якія характарызуюцца сваёй канцэптуальнай

адметнасцю выяўлення (= пазіцыянавання) мастацкага і гуманістычнага ідэалу, эстэтычных прынцыпаў. Сама прырода творчасці мае на ўвазе як бы натуральнае ўнутранае жаданне «парадніцца», «прычасціцца», зблізіцца з генетычна і тыпалагічна блізкімі мастацкімі з’явамі, засвоіць іх асновасутнасныя ідэі ў адпаведнасці са сваімі светапогл444днымі перакананнямі, творчымі прынцыпамі і падыходамі з улікам асаблівасцей канкрэтнай гісторыка-культурнай сітуацыі, індывідуальна-аўтарскім бачаннем свету. Зварот да вопыту папярэдніх перыядаў развіцця літаратуры ніколькі не прадугледжвае механічнае, імітацыйнае ўспрыманне, сляпое прытрымліванне сталых канонаў, узораў, нарматыўнасці. Наадварот, сапраўдны акт творчасці наўпрост спалучаны з імкненнем да генерацыі новых аўтэнтычных мастацкіх ідэй і арыгінальных рашэнняў. Назапашаны гісторыка-культурны вопыт і багаж ведаў закліканы актывізаваць творча-стваральную дамінанту, выклікаць да жыцця асацыяцыі-праблескі, звязаныя як з экзістэнцыйна-асобасным, так і з канкрэтна-нацыянальным, субстанцыяльным. У любым выпадку зварот да стабільных, правераных часам культурных артэфактаў закліканы разнастаіць, узбагаціць мастацкую палітру твора, напоўніць яго адметнай сэнсавай ідыяматыкай.

Вельмі паказальны ў гэтых адносінах алгарытм станаўлення і развіцця беларускай класічнай традыцыі. Як вядома, яе аснову, базіс складае вусна-паэтычная творчасць, самабытныя формы беларускага фальклору. Але шлях механічнага запазычання фальклорных схем, вобразаў-клішэ без істотнага іх пераасэнсавання і сэнсавага «нарошчання», як паказвае практыка, пазбаўлены плённай перспектывы. Але ў той жа час мэтанакіраваны, праграмны зварот да эстэтыкі фальклору — паваротны шлях літаратурнага развіцця. Ён быў асабліва важны для канстытуявання мастацкай своеасаблівасці беларускай літаратуры, для працэсу яе эстэтычнай самаідэнтыфікацыі. Гэта той самы выпадак, калі фальклорная ідэя паступова ператваралася ў ідэю нацыянальную, станавілася часткай нацыянальнага космасу.

Дзякуючы звароту да фальклорных, міфалагічных першакрыніц былі зроблены значныя мастацкія адкрыцці. Глыбокая гісторыка-культурная дасведчанасць пераконвала пісьменнікаў-адраджэнцаў у наяўнасці невычэрпных рэзерваў у беларускай народнай паэзіі, багаты ўнутраны патэнцыял якой шырока задзейнічаны імі ў пэўных мастацкіх мэтах і ў адпаведнасці з новым гісторыка-культурным мысленнем. Можна нават сказаць, што літаратурная форма ў значнай ступені адпавядала фальклорным канонам. І гэта стала адной з праяў той спецыфічнай сітуацыі, што складвалася ў літаратуры пачатку ХХ стагоддзя і якую можна аднесці да ўзораў мадэрнісцкай творчасці. Тут варта згадаць агульнапрыняты пастулат пра абсалютызацыю формы ў мадэрнісцкім мастацтве і пагадзіцца з тым, што культ формы не заўсёды выяўляў сябе ў вытанчанасці і манернасці — «за гэтым стаяла прага мастацкага ўдасканалення, да чаго мадэрністы набліжаліся і прама адваротным шляхам — праз натуральнасць і прастату выяўлення. <...> Сутнасць была не ў саміх навацыях — у большасці выпадкаў мадэрністы не столькі ўводзілі новыя тэхнічныя прыёмы, колькі вярталі ў літаратурны ўжытак забытыя каштоўнасці са старога культурнага арсенала, прымушаючы іх гучаць у новай танальнасці і ў новым кантэксце. Наватарства заключалася не ў паэтычнай мове, якая насамрэч не была вынайдзена, а складзена з гатовага матэрыялу, — сутнасць была ў выяўленні, у «прамаўленні» [1, с. 41].

У складзе наноў створанай беларускай культуры з прычыны недастатковага развіцця іншых формаў грамадскай свядомасці (палітычнай, ідэалагічнай, філасофскай, гістарычнай) літаратура першапачаткова выконвала асабліва важную культурастваральную функцыю. Славеснасць стала той галіной, у якой выпрацоўваліся першаасновы новай культурнай свядомасці, пачатковыя формы культуралагічнай рэфлексіі аб уласным — нацыянальным — свеце, ідэі культурнай і ідэалагічнай аўтаноміі. Ужо ў літаратуры другой паловы XIX ст. усё больш сталі

праяўляцца рысы асноўнага магістральнага шляху, які заклаў цвёрды падмурак нацыянальнай традыцыі: імкненне ўсвядоміць сябе як адмысловы самастойны свет, жаданне не толькі асвоіцца ў чужых культурных кантэкстах, але і выпрацаваць сваё стаўленне да іх, іншымі словамі, самавызначыцца, раскрыць сваю «самасць», знайсці асновы сваёй творчай самастойнасці.

Працэс усведамлення сябе ў якасці адметнай культурна-духоўнай аўтаноміі ўступіў у новую фазу ў пачатку ХХ ст. разам з узрастаннем агульнай тэндэнцыі да этнакультурнай дыферэнцыяцыі, калі з’явіўся гістарычны шанец нарэшце сцвердзіць сябе як нацыю. У культурнай свядомасці пад уплывам новых прыярытэтаў пачала складвацца нацыянальная культуралагічная праграма дзеянняў, дзе пануючае становішча заняла субстратнай ідэя — ідэя прапаганды народнай культуры, мовы, развіццё ўласных нацыянальных формаў пры адначасовым прызнанні факта знешніх уплываў і ўздзеянняў.

Класічная беларуская топіка набывае сваю завершанасць перш за ўсё ў творчасці Я. Коласа з яе натурфіласофскай скіраванасцю і пантэістычным абагаўленнем сваёй этнакультурнай прасторы — «роднага кута», «роднай зямелькі». Творчасць Коласа — сувязное звяно, якое мацуе агульны ідэал новай гармоніі, новага жыццеўладкавання, што выявілася ў такіх канцэптазначных коласаўскіх топасах, як «вобразы мілыя роднага краю», «родны кут». Важна і тое, што гэтая коласаўская міфалагема супрацьстаіць і апазіцыйнаму ключавому топасу «чужаніц», які, прыкладам, ідэнтыфікаваўся ў творчасці Я. Купалы з тэмай «забранага краю». Купалаўская суб’ектыўная міфатворчасць, да таго ж, нарадзіла такія правідэнцыялісцкія топасы, як «вужака», «хохлік», «ваўкалак», «Чорны бог», «злыдзень» і г. д. Хоць у Купалы маецца таксама свой сакральны топас — «спадчына», «старонка родная». Наяўнасць сэнсава супрацьлеглых топасаў дазваляла больш рэльефна падкрэсліць ідэю супрацьстаяння разбуральнай стыхіі нацыянальнай інертнасці, дэградацыі і заняпаду.

Зварот да «рарытэтаў» сялянскага побыту і свядомасці на пачатку стагоддзя ў творчасці Купалы, як і ў многіх пісьменнікаў гэтага часу, несумненна, быў абумоўлены працэсам паглыблення народнасці. Але гэты працэс меў перадусім пэўны літаратурны і ідэйна-светапоглядны перадвыток, звязаны з істотнымі зрухамі ў мастацкай свядомасці пераломy стагоддзяў. Творчасць Купалы запачаткавала, па сутнасці, станаўленне нерэалістычнай традыцыі ў беларускай літаратуры. Сапраўды, у Купалы, як ні ў кога з тагачасных беларускіх паэтаў, яскрава адчуваюцца істотныя зрухі ў мастацкім мысленні, якія сталі выражэннем агульнай тэндэнцыі пранікнення ў аб’ектыўныя жыццёвыя працэсы і з’явы, своеасаблівай рэакцыяй на канфлікты рэчаіснасці. Прыгадаем тое прадчуванне катастрофы, якое так характэрна для многіх яго вершаў. Адсюль нагрувашчванне ў іх вобразаў пустаты, цемры, бязгучча, безжыццёвасці, бязладдзя, якое ўласціва для паэзіі Купалы гэтай пары і першых паслякастрычніцкіх гадоў. Гэтыя вобразы ствараюцца ўжо ў супрацьлегласць трагізму рамантыкаў, якія дапускалі наяўнасць актыўнага героя-змагара, але ніяк не пустату, не бязладдзе. У мастацкай сістэме Купалы гэтага часу рэчаіснасць інтэрпрэтуецца як своеасаблівая парадыгма неабходнасці і магчымасці, што сведчыць пра дысгармонію рэчаіснасці ці, хутчэй, указвае на яе вынікі. На гэтую ідэю працуе і ўвесь фальклорна-міфалагічны арсенал паэта. Можа таму такой важнай, асновасутнаснай заставалася для беларускага мадэрну катэгорыя красы, гармоніі — найважнейшая катэгорыя мадэрнісцкай філасофіі і эстэтыкі. Яна стала працягам той канцэпцыі свету і чалавека, якая выявіла сябе ў міфалогіі і фальклоры. Абагаўленне прыгожых, высокіх формаў жыцця азначала заадно і адмаўленне дысгарманічных. Вытокі гэтай дысгармоніі бачацца як вынік этнакультурнай несфарміраванасці, невыразнасці свайго аблічча, сваёй асобаснасці, непаўнаты культурна-цывілізацыйных формаў і нацыянальных падасноў мастацтва. Усё гэта стварае культурную платформу, на якой і сыходзяцца, па сутнасці, усе пошукі культурна-нацыянальнага адраджэння.

Міф, становячыся больш рацыянальным і ўсвядомленым з пазіцый тагачаснае культуры, пераплаўляецца ў літаратурны твор. Маюць рацыю тыя даследчыкі, якія заяўляюць, што «лучнасць архаікі і мадэрну, прастаты міфалагічных схем з вытанчанасцю эстэтычнай рэфлексіі з'яўляецца найхарактэрнейшай прыметай мастацкіх пошукаў у ХХ ст.» [6, с. 251]. «ХХ стагоддзе, — заўважае Д. Сараб'янаў, — стварае новую міфалогію. Новы міфалагізм, зразумела, не можа карыстацца ўсімі перавагамі старога, ён не валодае ранейшай арганічнасцю, натуральна, ён узнікае з дапамогай культурнай памяці, ён арыентаваны на нейкі гістарычны прэцэдэнт. У новым міфалагізме ёсць элемент гульні. Калі сапраўдны міф быў спосабам пазнання рэальнасці, то ў новых умовах міф становіцца нярэдка прыёмам утойвання ісціны замест яе раскрыцця. Ён дазваляе мастаку балансаваць на мяжы паміж бачным і нябачным, яўным і тайным. Такім чынам, новы міфалагізм зноў вяртае нас да дваістасці, прамежкавасці мадэрну. У руках мастака мадэрну міф падобны на маску. Нацягваючы яго на твар мадэрну або на свой твар, мастак і хавае і адначасна адкрывае сваю сутнасць. Ісціна застаецца да канца нерэалізаванай» [5, с. 267].

Міф (міфалагізм) быў сярэдзінным звяном паміж рэальнасцю і ўмоўнасцю, паміж выяўленнем і ўяўленнем. Гэта, у сваю чаргу, гаворыць аб прыналежнасці мадэрнісцкага стылю як старому, так і новаму. Калі мастацка-міфалагічная вобразнасць літаратуры XIX стагоддзя прадугледжвала абавязковы «эфект прысутнасці», напрамую звязаны з рэальным светам, то творы ХХ стагоддзя, па словах Г. А. Недашывінай, былі заснаваны больш на «вядомым», чым на бачаным. У гэтым праглядваецца агульны светапоглядны прынцып мадэрнізму — прынцып стварэння «новай рэальнасці». Можна нават сказаць, што мадэрнізм знаходзіцца паміж гэтымі двума рознаскіраванымі вектарамі. Рэальнае спалучаецца з выдуманым і «вядомым», жыццёвае — з фантастычным: раскрыццю рэальнасці спадарожнічае яе ўтойванне. Даволі распаўсюджаным быў прыём своеасаблівага міфалагічнага травеставання, наўпрост звязаны з пастаноўкай сацыяльных, філасофскіх і маральных праблем, з працэсам інтэнсіўнага фарміравання нацыянальнай свядомасці.

Валодаючы вялікім зарадам крэатыўнай энергіі, эпоха нацыянальнага адраджэння стала сапраўды пераломнай, вехавай. Яна шмат у чым прадвызначыла шлях далейшага сталення і ўзмужнення сусветных нацыянальных культур і літаратур. Сімптаматычна, што менавіта ў гэты час закладваліся класічныя асновы многіх славянскіх літаратур, стваралася мастацтва па-сапраўднаму высокае, узорнае, унікальнае. Мабыць, упершыню ў гісторыі літаратуры назіраецца татальнае разбурэнне канона, ігнараванне клішаваных формаў, якія стрымлівалі рост літаратуры, скоўвалі мастацкую фантазію. Заўважаецца тэндэнцыя паступовай жанравай раскаванасці, адыходу ад строгай рэгламентацыі стылявых, структурна-кампазіцыйных і мастацка-вобразных формаў. Літаратура ўсё больш імкнецца да сінтэзу, да свабоднага спалучэння самых разнастайных традыцый (рэалістычных, рамантычных, фальклорна-казачных, міфалагічных), мастацкіх формаў (лірычных, драматычных і эпічных), рознастылёвых тэндэнцый. Мноства пунктаў гледжання, узаемаперасячэнне розных сэнсавых палёў, іх амбівалентнасць, шматаспектнасць і палiварыянтнасць — усё гэта легла ў аснову эстэтычных прынцыпаў новага мастацтва.

Размова пра арганічнае задзейнічанне традыцый і інавацый у беларускай літаратуры памежжа стагоддзяў уяўляецца магчымым весці толькі ўнутры самога гэтага працэсу. Іншымі словамі, эпіцэнтрам працэсу варта прызнаць уласна беларускую рэчаіснасць. Станаўленне новай беларускай літаратуры ў вялікай ступені абумоўлена, па-першае, яе дыфузным структураўтваральным модусам і, па-другое, сфакусаванасцю ўсіх галоўных ліній развіцця, якія вянчала ідэя нацыянальнага адраджэння. Сам гэты працэс быў на здзіўленне сціснуты, спрасаваны ў часе, паскораны, з-за чаго паспеў неаднаразова перастуктуравацца, аптымізавацца, не адыходзячы пры гэтым ад пракладзенага магістральнага шляху. Асноўны вектар пралягаў па лініі «нацыянальнае — універсальнае — нацыянальнае». У гэтым ланцугу сярэдняе звяно — універсальнае — займала прамежкавае ста-

новішча, хоць і даволі значнае. З ім звязаны спробы апрабацыі як бы навобмацак светапоглядных катэгорый, якія ляжалі за межамі традыцыйнай паэтыкі і эстэтыкі, але якія не маглі не быць запатрабаванымі. Гэта звяно «прышчапіў» беларускай літаратуры, як вядома, Максім Багдановіч. Паэт прадэманстраваў сапраўды еўрапейскі густ, высокую культуру творчасці, даў узоры класічнай нацыянальнай паэтычнай версіфікацыі. І ён жа быў першым, хто цалкам адмовіўся ад рамантычнай традыцыі і супрацьпаставіў рамантычнаму ідэалу класічны — шляхам рэпрадукцыі сталых формаў еўрапейскай культуры.

Акрэслены вышэй алгарытм цалкам адпавядае канцэпцыі паскоранага развіцця беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя. Паскоранасць выяўляла сябе далёка не ў адмаўленні ад ранейшых мастацкіх набыткаў, а ў своеасаблівым перманентным іх назапашванні і зберажэнні. «Спецыфічна нацыянальнай прыкметай паскоранасці літаратурнага развіцця былі не толькі імклівасць, з якой літаратура набірала эстэтычную і ідэйную вышыню, не толькі шырыня мастацкіх абсягаў, але і непаўторнае спалучэнне рысаў “маладой” літаратуры — язычніцка-вобразнага першаадкрыцця свету, сінкрэтычнай цэласнасці светаадчування, стылявой недыферэнцыраванасці і, з другога боку — адзнак мастацкай сталасці — ідэйна-філасофскай глыбіні і народнасці, паслядоўнасці сацыяльна-дэмакратычных прынцыпаў, шырыні эстэтычнай платформы» [3, с. 6]. У вялікай ступені гэта стала магчымым дзякуючы таму, што станаўленне беларускай літаратуры на пачатку XX ст. адбывалася выключна эвалюцыйным шляхам, без рэзкай, рэвалюцыйнай змены эстэтычных знакаў і кодаў. Тая ж дыскрэтнасць, перарванасць у развіцці, якая не вынікала з уласна ўнутранага модусу літаратуры, а была абумоўлена выключна знешнімі фактарамі, заўсёды кампенсавалася яе нязменнай увагай да законаў пераемнасці і традыцый, чуйнасцю да «імпульсаў глыбінных пластоў нацыянальнай культуры» (В. Каваленка). Новыя эстэтычныя феномены ўзнікаюць не ў выніку радыкальнай змены мастацка-эстэтычных каардынат, агульнаметадалагічных прынцыпаў і падыходаў, а дзякуючы гісторыка-культурнай *перакадзіроўцы* ўнутранай структуры літаратуры, пераразмеркаванню яе якаснай сукупнасці прыкмет. Гэта той момант, які Д. С. Ліхачоў акрэслівае як нарастанне іншай традыцыйнасці, звяртаючы ўвагу на тое, што, «па сутнасці, гэта не “замена”, а агульная змена традыцыйнасці, з’яўленне новых традыцыйных формаў у нечаканых становішчах» [2, с. 43]. Завострым думку: «старыя» ідэалагічныя і эстэтычныя дактрыны не спыняюць сваё існаванне, а, наадварот, працягваюць актыўна ўплываць на літаратурны працэс, актыўна ўдзельнічаць у фарміраванні аблічча гэтай літаратуры, у вызначэнні яе эстэтычных і светапоглядных дамінант.

Пры гэтым варта заўважыць, што адсутнасць вербальна афармленай прыярытэтнай светапогляднай сістэмы бачання свету, пэўнай філасофскай школы і шэраг іншых фактараў аб’ектыўна выключылі магчымасць з’яўлення тэарэтычных распрацовак, якія б ініцыявалі, абгрунтоўвалі і прызнавалі верхавенства нейкай адной філасофска-эстэтычнай школы, плыні і г. д. Ды і ў адмыслова зрацыяналізаванай філасофіі, як аказалася, патрэба адпадала сама па сабе: уласна «філасофіяй» станавілася само жыццё з яго мноствам ісцін, поглядаў, меркаванняў. Фігуральна кажучы, ісціна была побач, яе бралі там, дзе знаходзілі, не аддаючы перавагі нейкаму аднаму вучэнню, дактрыне, не робячы падзелу паміж старым і новым і арганічна сумяшчаючы чужы вопыт з уласнымі ўнутранымі патрэбамі літаратуры. Кожная мастацкая і пазамастацкая з’ява, трапляючы ў зону дзеяння субстанцыі мастака, абавязкова творча асвойвалася апошнім, пераасэнсоўвалася, станавілася фактам унутранай працэсуальнасці. Гэта, у сваю чаргу, станавілася адной з галоўных умоў дасягнення такога рубяжу, такой ступені самарэгуляцыі, якая стымулявала прадуцыраванне як бы лішкавай энергетычнай масы, якая адыгрывала велізарную ролю ў стабілізацыі ўсяго сацыякультурнага арганізму. Утварэнне нестандартных мастацкіх суплётаў патэнцыйна стварала надзейную базу для перманентнага самадастатковага функцыянавання літаратуры з улікам папярэджання, прадбачання магчымай крытычнай сітуацыі. Творы звышструктурнай арганізацыі і нестандартнай семантычнай насычанасці ста-

навіліся пэўнымі мастацкімі архіпелагамі, што разнастайвалі, «насычалі», змянялі, урэшце, усталяваны агульнакультурны відарыс, станавіліся відавочнымі арыенцірамі ў абжыванні, асвойванні свайго культурнага поля. І гэта сведчыла пра прынцыпова новую стадыю ў развіцці беларускай літаратуры, якая пачынае пакладацца на свае ўнутраныя рэзервы, спакваля набываць уласную дынаміку развіцця.

Варта ў гэтай сувязі адзначыць, што ў дачыненні да беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя мажліва і зусім апраўдана гаварыць найперш пра тыпалогію сыходжанняў, чым пра тыпалогію ўплываў. Гэты момант, як думаецца, больш скіроўвае да высвятлення сутнаснай, а не фармальнай патрэбы адной літаратуры ў другой, прызнае пэўны духоўны абсалют, на які і кіруюцца пастаянна вібрыруючыя мастацкія сістэмы. Першаснай умовай для гэтага выступае тут наяўнасць унутранага стымулюючага фактару, якім перадусім валодаюць літаратуры маладыя, што знаходзяцца на стадыі свайго станаўлення і развіцця. Галоўныя, генерыруючыя імпульсы, закладзеныя ў жыццёвыважны код усёй сістэмы, сыходзяць ад яе ж самой у сілу самарэгуляцыі і самагенерацыі арганізму, і знешнія ўмовы пры гэтым існуюць для яе як пэўныя рэгенератары, здольныя папаўняць, сілкаваць, узмацняць першапачаткова зададзенае ў адпаведнасці з сітуацыйна ўзнікаючай патрэбай. Не варта забываць пра тое, што «ўсялякае ўжыванне ў эпоху можа быць натуральным і канструктыўным толькі тады, калі яно чулае да энергіі нацыянальнай традыцыі, якая складваецца з барацьбы і пакут многіх пакаленняў свядомага грамадства. Усё астатняе ў духоўным жыцці, як сведчыць гісторыя, не мае запасу пэўнасці» [7, с. 6].

Гэта лішні раз служыць доказам таго, што культурныя архетыпы ў сілу сваёй гістарычнай стабільнасці, устойлівасці не сыходзілі з гістарычнай арэны, а падсілкоўвалі плённую тэндэнцыю спалучэння аўтэнтычнай народнасці з вытанчаным вопытам сусветнай мастацкай культуры. Але нераўнамернасць і несінхроннасць развіцця беларускай літаратуры, у адрозненне ад высокаразвітых еўрапейскіх літаратур, у тым, што калі ў апошніх мастацка-эстэтычныя новаўвядзенні выходзяць на пярэдні край, пазбаўляючыся ад састарэлых эмпірыка-этнаграфічных комплексаў або зусім ігнаруючы іх, то ў межах уласна беларускай нацыянальнай традыцыі згаданыя з'явы становяцца фактам літаратурнага жыцця, дзейнічаюць у большай меры «неўсвядомлена», стыхійна, на ўзроўні мастацкага абсалюту, непрыкметна пранікаючы ў рэгіянальную спецыфіку. Працэс уваходжання літаратуры ў «сілавое поле» транснацыянальных культур адбываўся нязмушана, паступова, будучы гатовым актуалізавацца ў любы момант. Таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што менавіта з гэтага моманту літаратура ўступіла на шлях паўнакроўнага самадастатковага развіцця згодна з законам уласнай унутранай дынамікі і ў адпаведнасці з вызначальнымі тэндэнцыямі агульнага перастуктуравання мастацкага мыслення, што ў роўнай ступені характарызуе ўсю сусветную літаратуру эпохі памежжа стагоддзяў.

Думаецца, менавіта ў абсягах беларускай класічнай літаратуры адбывалася свядомае прызнанне адзінства гістарычных і агульначалавечых каштоўнасцей. Усведамляючы бесперспектыўнасць спроб зразумець іншы народ, застаючыся выключна ў абсягу ўяўленняў уласнай культуры, пачынальнікі прынцыпова дапускалі пэўную ступень атаясамлення з «іншароднай» з'явай, прадметам, станавіліся паўнамоцнымі ўдзельнікамі, рэпрэзентантамі міжкультурных узаемін («міжкультурнага кантакту»). Акумулятыўнасць (пераемнасць) элементаў і культурных кодаў іншых літаратур адбывалася на ўзроўні ўнутранай рухомай сувязі, а сам кантакт набываў адценне інтэрыярызацыі, свядомаснага «абжывання» іншакультурнай рэальнасці ва ўласным ментальным полі як штосьці само сабой зразумелае. Падобнай разнавіднасці сувязі розных культурных элементаў адпавядае і пэўны тып міжкультурных узаемін, які грунтуецца на супярэчлівай спалучанасці тэндэнцый узаемапрыцягнення і ўзаемаадштурхоўвання яго ўдзельнікаў. Навідавоку сімбіятычны тып сувязі, пры якім не адбываецца поўнага зліцця ўзаемадзейнічаючых (узаемакантактных) элементаў аўтахтонных (субстратных)

і іншародных (суперстратных) культур, якія ў выніку пэўнай структурнай перагрупоўкі трансфармуюцца ў штосьці якасна новае, адметнае. Пры гэтым працэс утварэння новай культурнай якасці не набывае ўсеабдымнага, татальнага характару, не ахоплівае цалкам усю «прастору культуры», ніколі не заходзіў у завяршальную стадыю з прычыны перманентнага пераадолення магутных контртэндэнцый, сярод якіх не апошняя роля належыць ідэалагічным фактарам і грамадска-палітычным перыпетыям. Што тычыцца беларускай літаратуры, то яе мастацка-эстэтычны статус вызначалі фактары як уласна мастацкія, так і пазамастацкія, грамадска-палітычныя. Тут мы сустракаемся са з’явай, бадай, выключнай у еўрапейскай літаратуры пачатку XX ст., калі *ідэя нацыянальнага адраджэння* выступае як факт мастацкай структуры, як яе і светапоглядная, і ўласна мастацка-эстэтычная дамінанта.

Працэс уваходжання беларускай літаратуры ў шырокі кантэкст культур меў глыбінныя, сутнасныя падасновы, абумоўленыя аб’ектыўнымі законамі гісторыка-культурнага, духоўнага развіцця, светапогляднымі фактарамі, новым мастацкім мысленнем эпохі. Магутным рухавіком станавіўся сам пошук уласнай нацыянальнай сутнасці, што, у сваю чаргу, паскарала працэс духоўнага і эстэтычнага фарміравання, прызнання самакаштоўнасці нацыянальнай культуры, літаратуры, мовы як галоўных складнікаў культурна-духоўнай адметнасці. Агульнакультурны фон у розных сваіх праявах (умоўна-гістарычнай, антычнай, міфалагічнай, фальклорнай і г. д.) станавіўся знакам своеасаблівага праецыравання канкрэтнай і духоўнай рэальнасці, спосабам выяўлення індывідуальнага і нацыянальнага светаадчування.

На падставе зробленыхназіранняў можна зрабіць выснову, што нацыянальная культурная традыцыя ўяўляе сабой спецыфічную форму самаадкрыцця, самапазнання народа і чалавека на вірлівых шляхах гісторыі. Яна дазваляе ўспрымаць чалавека не ў якасці аб’екта, а ў якасці суб’екта быцця, носьбіта самацэннай духоўнасці, адметнага тыпу духоўнасці, якая мае сваю гісторыка-культурную каштоўнасць. Праз прызму традыцыі пэўным чынам структурыруецца і асэнсоўваецца нацыянальная гісторыя як сацыякультурнае цэлае. Нязменны патрыятычны пафас, рэнесансны матыў вяртання да нацыянальных каранёў, да гістарычнай памяці, нацыянальнай свядомасці ўваходзіць арганічнай складовай часткай у агульначалавечую гуманістычную і эстэтычную традыцыю, а ў сваёй сукупнасці складае агульначалавечую духоўную каштоўнасць.

## Спіс літаратуры:


1. История литератур Латинской Америки: конец XIX — начало XX века (1880—1910-е гг.) / Отв. ред. В. Б. Земсков. — М.: Наследие, 1994. — 654 с.
2. Лихачев, Д. С. Закономерности и антизакономерности в литературе // Русская литература. — 1986. — № 3.
3. Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей: У 4 кн. Кн. 2. Пачатак XX ст. 1900 — 1917. — Мінск: Навука і тэхніка, 1994. — 444 с.
4. Никитин, В. А. Национальная традиция в поэтическом стиле / В. А. Никитин // Многообразие стилей советской литературы: Вопросы типологии. — М.: Наука, 1978. — 511 с.
5. Сарабьянов, Д. В. Стиль модерн: Истоки. История. Проблемы / Д. В. Сарабьянов. — М.: Искусство, 1989. — 236 с.
6. Эпштейн, М. Парадоксы новизны. О литературном развитии XIX — XX веков / М. Эпштейн. — М.: Сов. писатель, 1988. — 416 с.
7. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: У 4 т. / Нац. акад. навук. Беларусі. Ін-т літ. імя Я. Купалы. — Мінск: Белар. навука, 1999 — 2003.. — Т.1: 1901—1920.


Артыкул паступіў у рэдакцыю 9 красавіка 2015 года.

## Рэзюмэ

### Валерый МАКСІМОВІЧ
### Нацыянальная мастацкая традыцыя як дзейсны сродак забеспячэння гуманітарнай бяспекі грамадства

Нацыянальная мастацкая традыцыя прызнаецца важным фактарам і дзейсным сродкам забеспячэння гуманітарнай бяспекі. Яна наўпрост удзельнічае ў фарміраванні прэзентатыўнага аблічча літаратуры, яе эстэтычных і светапоглядных дамінант, спрыяе захаванню ментальнага, духоўнага свету сучаснага чалавека, яго каштоўнасных арыентацый.


**Ключавыя словы:** глабалізацыйныя трансфармацыі, нацыянальная ідэнтычнасць, духоўна-культурны крызіс, інтэграваны нацыянальны ідэал, міфалагема, архетып, светапогляд, культурны кантэкст, сацыяльная камунікацыя.


## Summary

### Valery MAKSIMOVICH
### National art tradition as an effective means of providing the humanitarian security of the nation

National artistic tradition is an important factor and effective means of human security providing. It directly participates in formation of presentational appearance of literature, its aesthetic and worldview dominants. It promotes preservation of mental and spiritual world of modern people and their values.


**Keywords:** globalization transformations, national identity, spiritual and cultural crisis, integrated national ideal, mythologeme, archetype, worldview, cultural context, social communication.

**Лада АЛЕЙНІК**

# РОЛЯ СЯМ'І Ў САЦЫЯЛІЗАЦЫІ ДЗІЦЯЦІ (на прыкладзе аповесці А. Федарэнкі «Ціша»)

Сацыялізацыя асобы — адна з тых фундаментальных праблем сацыяльна-гуманітарных навук, актуальнасць якіх з цягам часу не страчваецца, а ўзрастае. Звязана гэта перадусім з глабальнымі сацыяльна-эканамічнымі зрухамі ў сучасным грамадстве, з кардынальнымі зменамі асноўных інстытутаў сацыялізацыі, трансфармацыямі сістэмы традыцыйных каштоўнасцей і механізму пераемнасці пакаленняў.

Нягледзячы на тое, што сацыялізацыя асобы адбываецца на працягу ўсяго жыцця чалавека, асновы яе паспяховай рэалізацыі закладваюцца пераважна ў дзіцячым узросце. Маленства з'яўляецца перыядам актыўнага авалодання механізмамі сацыялізацыі і засваення правіл сацыяльных паводзін, асэнсавання грамадскіх каштоўнасцей і маральных норм. Натуральна, што сярод іншых грамадскіх інстытутаў менавіта сям'я адыгрывае вызначальную ролю ў першаснай сацыялізацыі дзіцяці. Так, напрыклад, сацыёлагі заўважаюць: «Як правіла, дзіця выбірае лад жыцця і стыль паводзін, якія ўласцівы яго бацькам. Паспяховасць сацыялізацыі залежыць ад шматлікіх фактараў: тыпу сям'і, структуры, матэрыяльнай забяспечанасці, сацыяльнага статусу, традыцыйных укладаў выхавання, рэлігійнай прыналежнасці, рэгіёна пражывання, узроўню культуры, адукацыі і педагагічнай кампетэнтнасці бацькоў, а таксама шэрагу іншых фактараў» [1]. Псіхолаг Т. Андрэева сцвярджае яшчэ больш катэгарычна: «Сям'я і дзіця — люстраны адбітак адно аднаго. У выніку, менавіта ў сям'і фарміруюцца тыя якасці, якія больш нідзе сфарміраванымі быць не могуць» [2, с. 56]. Сям'я адыгрывае ключавую ролю не толькі ў працэсе першаснай сацыялізацыі, але на працягу ўсяго жыцця чалавека. «Сям'я — важнейшы фактар сацыялізацыі не толькі для дзяцей, але і для дарослых. Ад сям'і шмат у чым залежыць фізічнае, эмацыянальнае і сацыяльнае развіццё чалавека на працягу ўсяго жыцця. Фізічнае развіццё звязана з наладжанасцю і характарам быту сям'і. На эмацыянальнае развіццё ўплываюць маральна-псіхалагічная атмасфера і адносіны ў сям'і. У працэсе сацыяльнага развіцця чалавека роля сям'і незаменная ў сувязі з тым, што яе адабрэнне, падтрымка, абыякавасць або асуджэнне ўплываюць на сацыяльныя прэтэнзіі чалавека, дапамагаюць або перашкаджаюць яму шукаць выйсце ў складаных жыццёвых сітуацыях, адаптавацца ў зменлівых абставінах жыцця і новых сацыяльных умовах» [3, с. 164].

Выключнай важнасцю сацыялізацыі асобы, у непасрэднай залежнасці ад якой знаходзіцца агульная сацыяльная ўстойлівасць грамадства, абумоўлена пільная ўвага сусветнай навукі да праблем сучаснай сям'і. Сацыёлагамі, псіхолагамі, педагогамі, этнолагамі, іншымі навукоўцамі распрацоўваюцца сацыяльныя праграмы па падтрымцы сям'і, укараняюцца найноўшыя педагагічныя методыкі, утвараюцца цэнтры псіхалагічнай падтрымкі дзяцей і бацькоў, праводзяцца сямейныя семінары і трэнінгі. Аднак функцыі і агульная роля мастацкай літаратуры ў сацыялізацыі асобы па-ранейшаму застаецца недаацэненай, неасэнсаванай. Між тым, мастацкая літаратура здольна не толькі плённа ўплываць на працэс сацыялізацыі, рэгуляваць і карэкціраваць яго, але з'яўляецца падставовым

матэрыялам для непасрэднага даследавання праблемы. У шматлікіх літаратурных творах вобразна адлюстраваны фактары, механізмы і стратэгіі сацыялізацыі, выяўлены прынцыпы засваення сацыяльнага вопыту, асэнсаваны праблемы ўзаемадзеяння асобы і грамадства.

Адзін з узораў найноўшай айчыннай літаратуры, які валодае несумненным педагагічным патэнцыялам, — аповесць А. Федарэнкі «Ціша», якая арыгінальная паводле кампазіцыі і наратыўнай арганізацыі. Ключавыя перыпетыі сюжэта датычацца пераважна жыцця дарослых людзей — іх супярэчлівых сямейных узаемаадносін, сацыяльна-грамадскіх канфліктаў і бытавых праблем, але асэнсаванне падзей выяўлена ў творы праз свядомасць дзіцяці. Спецыфікай кампазіцыі абумоўлена своеасаблівая «двухадраснасць» твора — аповесць мае розныя сэнсавыя ўзроўні. Некаторыя з іх зразумелыя дзіцяці, а іншыя — дасяжныя толькі дарослым.

Галоўны герой аповесці — маленькі хлопчык, жыццё якога, натуральна, абмежавана пераважна сямейным асяроддзем. «У 1980-м Петрусю Двораку было шэсць гадоў, і жыў ён разам з маці і з бабуляй Домнай у белым цагляным доміку на гарадской ускраіне «Чэшская Слабада». <…> Што да Петрусёвага бацькі, малодшага сына бабы Домны — Марка, той быў «капітан дальняга плавання», у Слабадзе аб’яўляўся рэдка, раз ці два на год, а ўвесь астатні час плаваў недзе па рэках далёкай Сібіры, зарабляў грошы, каб пабудаваць кааператыўную кватэру…» [4, с. 6].

У сямейнае кола ўваходзяць яшчэ бацькавы старэйшыя браты Стах і Стэфан, якія жывуць асобна, але перыядычна наведваюцца ў госці да сваёй маці — Петрусёвай бабулі. Паміж сынамі Домны склаліся непрыязныя адносіны, яны ніколі не збіраюцца разам, толькі паасобку. «Ніхто, у тым ліку і самі браты, не памятаў прычыны, з-за чаго ўсё пачалося, але гэтая варажнеча паміж імі цягнулася каторы ўжо год, і канца ёй не было відаць. Браты ўвесь час як бы пнуліся даказаць сабе і людзям, хто з іх траіх лепш жыве, прычым кожны быў упэўнены, што толькі ён адзін як трэба ў жыцці ўладкаваўся, самы разумны, удачлівы і гаспадарлівы, а тыя два — нікчэмныя шалапуты. Здаровыя дарослыя дзядзькі — Стэфану было 50, Стаху 45, Марку 40, а капрызнічалі горш за малых дзяцей: не віталіся, амаль не размаўлялі, не кажучы ўжо, каб сабрацца разам, як у іншых сем’ях, выпіць, пагаварыць, паабдымацца, паспяваць…» [4, с. 7].

Шасцігадовы хлопчык яшчэ не мае дастатковага жыццёвага досведу, каб аб’ектыўна ацэньваць паводзіны дарослых, ён пакуль можа толькі назіраць за роднымі, супастаўляць і параўноўваць лад жыцця ўласнай сям’і з жыццём сваякоў ды бліжэйшых суседзяў, рабіць вельмі простыя высновы. Безумоўна, ён адчувае эмоцыі блізкіх, але не здольны глыбока іх усведамляць. «Бабуля Домна вельмі перажывала за сыноў, старалася памірыць іх, але пакуль марна. І толькі малому Петрыку было ўсё роўна. У свае шэсць ён быў перакананы, што самы шчаслівы чалавек на зямлі, людзі, якія яго акружаюць, самыя лепшыя, самыя добрыя, а выдумляюць яны нейкія праблемы проста так, ад няма чаго рабіць, каб яшчэ весялей жылося. Гэта ў іх як бы такая гульня. <…> Нават тое, што бацька не жыве з імі, амаль не бывае дома, мала бянтэжыла Петрыка. Яму і так някепска жылося. Маці з бабуляй любілі яго, песцілі. Паміж сабой — у адрозненне ад Домніных сыноў — амаль ніколі не сварыліся. Домна звала нявестку «доня», а нявестка яе — «мама» і на «вы» [4, с. 7—9]. У аповесці вельмі выразна падкрэсліваюцца абставіны і ўмовы, якія робяць Петрыка шчаслівым, — перадусім цеплыня і добразычлівасць у сям’і, паразуменне і згода ў адносінах маці і бабулі. Хлопчыку вельмі камфортна ў гэтай атмасферы, ён атулены любоўю і пяшчотай блізкіх, адчувае іх шчыры клопат.

Прыезды бацькі заўсёды станавіліся сапраўднай падзеяй для хлопчыка. Пры тым, дзіцяці не столькі важныя падарункі ды гасцінцы, яго радуе святочны настрой блізкіх — радуе, што «маці ззяе», а бабуля заклапочана мітусіцца,

што вакол пануе вясёлае ажыўленне. «Каму-каму, а Петрыку ўражанняў хапала. Пачаць хоць бы з таго, што бацька блытаўся ў сынавым узросце. Заўсёды ў яго з падарункамі атрымліваліся казусы. Калі Петрыку было два гады, бацька прывёз яму новенькі школьны ранец, набіты кедравымі шышкамі…<…> У чатыры гады — сын ужо ганяў па двары мячык і ўмеў чытаць і пісаць друкаванымі літарамі — бацька аб'явіўся з прыгожым пакункам. Там былі ніколі тутэйшым людам не бачаныя памперсы, паўзункі, пінеткі... <…> Затое ў пяць гадоў атрымаўся перабор: бацька прыехаў сапраўды з мехам за плячыма, толькі замест грошай там было адзенне: унты, кажух і вялізная пухнатая вушатая шапка са скуры невядомага звера…» [4, с. 16—17]. Хлопчык назірае рэакцыю маці — яна не сварыцца на бацьку, дазваляе сабе не больш за іранічную заўвагу. Хаця Петрык цудоўна разумее, што маці расчаравана такімі падарункамі — ёй ізноў прыйдзецца самой клапаціцца пра ўсё, што неабходна дзіцяці ў паўсядзённым быце. Бацька клянецца маці ў каханні, абяцае, што больш ні на якія заробкі не паедзе. «Плакаў, цалаваў маці рукі і ўсё паўтараў: «Я сваё шчасце, лепшыя гады праплаваў! Нічога лепшага не бачыў за гэта вось, за нашу Слабодку, нікога лепш за цябе... <…> Назаўтра раніцаю не было ні чамадана, ні бацькі» [4, с. 20].

Петрык бачыць перажыванні маці, чуе, як бабуля просіць у нявесткі прабачэння за свайго сына, які «без цара ў галаве». Але гэтаксама ён заўважае, «як маці ажывае, харашэе, дабрэе пасля бацькавых наездаў». Дзіця ўсведамляе, што і бабуля, і маці вельмі любяць яго бацьку, нягледзячы ні на што. «І ён пачынаў здагадвацца, што справа тут, відаць, не ў мяху з грашыма, а ў тым, што мужчына, які не саромеецца плакаць перад жанчынай, станавіцца на калені і цалаваць ёй рукі, хутчэй за ўсё сапраўды валодае нейкім, можа быць, яшчэ большым за грошы, багаццем» [4, с. 21].

У аповесці дакладна адлюстравана псіхалогія дзіцяці, якое засвойвае жыццё пакуль што пераважна на ўзроўні пачуццяў. Натуральна, Петрык разумее: паводзіны бацькі не заслугоўваюць ухвалы, але галоўным для яго з'яўляецца тое, што ў сям'і не трымаюць крыўд адзін на аднаго, усе — і маці, і бацька, і бабуля — здольныя між сабой паразумецца. Хлопчык спакваля пачынае ўсведамляць, што ёсць рэчы нашмат важнейшыя за грошы, за усялякія матэрыяльныя каштоўнасці. Псіхолаг А. Мудрык падкрэсліў: «Засваенне норм і каштоўнасцей у сям'і ў дзяцінстве ідзе, як правіла, на падсвядомым узроўні з дапамогай імпрынтынга (фіксавання). Дзеці зніітаваны са светам дарослых шматлікімі сувязямі, адчуваюць на сабе яго разнастайныя ўздзеянні, выпрацоўваюць неадназначныя адносіны да гэтага свету ў цэлым і да асобных яго прадстаўнікоў. Іх зносіны са светам дарослых адбываюцца і тады, калі яны проста бачаць жыццё дарослых, чуюць іх размовы паміж сабой, назіраюць іх узаемаадносіны. І гэта мае, як правіла, больш моцнае ўздзеянне на дзіцячую ўспрыемнасць свету, чым звернутыя да іх словы дарослых. Гэта натуральна, бо ўспрыемнасць свету заўсёды, а ў дзяцінстве асабліва, ідзе не толькі на рацыянальным узроўні, але і на эмацыянальным» [5, с. 323].

Петрык назірае за блізкімі людзьмі і пакуль яшчэ неўсвядомлена фіксуе адрознасць ладу іх жыцця, стылю паводзін, каштоўнасных прыярытэтаў. Як толькі з'язджае з хаты бацька, у госці наведваецца дзядзька Стах. У адрозненне ад бацькі — летуценніка ды рамантыка, захопленага вандроўкамі і прыгодамі, вядзе размовы выключна пра свой жыццёвы дабрабыт, выхваляецца ўласным спрытам і добрымі заробкамі. «Ты ведаеш, як я жыву? Які я багаты? У мяне ў кватэры ў футбол гуляць можна! <…> А грошай на браніроўцы зарабляю столькі, што мог бы засыпаць цябе з галавою, як лістамі клёна ўвосень!» [4, с. 23]. А калі сыходзіў Стах, з'яўляўся Стэфан. Другі дзядзька гэтаксама хваліўся сваёй «натуральнай гаспадаркай», добрай працай, «чыхвосціў аднаго брата, другога і ўсіх слабадчан за кампанію» [4, с. 24]. У аповесці выразна падкрэсліваецца, што Петрык не дае

ніякіх ацэнак таму, што бачыць і чуе, ён толькі слухае размовы дарослых і засвойвае іх адносіны да свету, да людзей, да саміх сябе.

Сацыялізацыя дзіцяці адбываецца незаўважна, хлопчык пакуль што прымае да ведама не столькі тое, што свядома і мэтаскіравана даводзяць яму старэйшыя, а пераважна тое, што ўздзейнічае на яго эмацыянальна, што яго кранае або хвалюе. Ён разумее, напрыклад, што ў іх у сям'і не хапае грошай, чуе, што маці час ад часу ўшчувае бабулю, якая магла б пры жаданні атрымаць нямала іх ад мясцовых улад. Дзед Андрэй, муж бабы Домны, франтавік, быў пахаваны на мясцовых могілках. «Гісторыя і праўда была няпростая. <…> Ад першага дня вайны радавы Андрэй, як і ўсе, ваяваў — у сэнсе, адступаў, быў у акружэнні пад Смаленскам, удзельнічаў у абароне Масквы, а ў 43-м, калі вызвалялі Беларусь, так супала, што акурат іхняй дывізіі выпаў гонар ачышчаць ад немцаў родны горад і сваю Чэшскую Слабаду… Як угледзеў салдат знаёмыя краявіды, як забілася сэрца, — так і пабег, не хаваючыся ад куль, што свісталі над галавою, па сваёй вуліцы, ускочыў у двор, прытуліўся да абрыкосавага дрэва… І асеў… Сэрца не вытрымала! Так і памёр на месцы» [4, с. 10]. Домну прызналі ўдавой франтавіка-героя, прызначылі належную пенсію. Але пазней у бабулі адбыўся канфлікт з мясцовымі ўладамі, і яе пазбавілі ўсяго — і пенсіі, і розных ільгот, і традыцыйных падарункаў на святы Перамогі. «Недзе ў 60-я, калі ўзнікла мода на манументы, брацкія магілы, абеліскі, пастаменты з бетонным салдатам у касцы і з партызанам з гранатай, у Слабадзе таксама заварушыліся, <…> вырашылі перазахаваць астанкі партызан і падпольшчыкаў у агульную магілу, а над ёй узвесці стандартны мамумент. Вось тут Домна нечакана праявіла ўпартасць: «Не даю дазволу!» [4, с. 11]. Для нявесткі зрабілася нечаканасцю, што яе лагодная і памяркоўная свякроў можа выявіць такую цвёрдасць характару. А Петрык даведваецца, што ў яго далікатнай бабулі ёсць прынцыпы, якімі яна не можа паступіцца. Хлопчык бачыць, што бабуля адчувае сябе вінаватай, але з-пад яго ўвагі не выпадае і той факт, што маці не трымае на яе сапраўднай крыўды — папракае свякроў згарача, каб даць выйсце сваім эмоцыям. «Яна як хутка загаралася, так і астывала, і ў канцы рабілася поўнай саюзніцай бабы Домны; ужо ёй самой было няёмка, што лішні раз развярэдзіла сямейную драму. Выліўшы душу, выказаўшыся, яна зараз жа пачынала шкадаваць, апраўдваць свякруху…» [4, с. 12—13]. Нягледзячы на тое, што хлопчык не зусім разумее логіку паводзін і матывы дзеянняў дарослых, ён фарміруе ўяўленні пра рэчаіснасць, спрабуе аналізаваць супярэчнасці, якія назірае ў сваёй сям'і, і няўхільна назапашвае сацыяльны вопыт, з якога пачынае складвацца яго індывідуальная карціна свету. Т. Уайлдэр вобразна заўважыў: «Сямейнае жыццё падобна зале з выдатнай акустыкай. Падрастаючыя дзеці не толькі чуюць словы (і ў большасці выпадкаў прывучаюцца на іх не зважаць), яны адрозніваюць думкі і намеры, якія хаваюцца за гэтымі словамі. І галоўнае, яны даведваюцца, што іх бацькі любяць, а чым насамрэч грэбуюць» [6, с. 370].

Петрык, несумненна, здагадваецца, што маці гэтаксама спадзяецца і на матэрыяльную падтрымку заможных бацькавых братоў. Перыядычна яна возіць Петрыка да дзядзькі Стаха «ў ванну» ў гарадскую кватэру. І заўжды павучае малога: «Ты прывыкай, і яны хай да цябе прывыкаюць. <…> …Мо кватэру на цябе перапішуць… Ды прыглядайся да яго, вучыся!» [4, с. 37]. Аднак Петрык не можа ўцяміць, да чаго яму трэба «прыглядацца», бо ўсё відавочна: «Толькі пазіраць і зайздросціць. Прыбіральня, ванна, балкон, кухня — усё ў адным памяшканні, і разам з тым ізаляванае. На падлозе дываны, на сценах дываны. Чысціня, ахайнасць. <…> Цуд, а не гарадское жыццё!» [4, с. 37]. Маці не хавае ад дзіцяці сваіх намераў, даводзіць сыну, што разлічвае на дзядзькаву дапамогу. Напярэдадні чарговага дня нараджэння, калі Петрыку спаўнялася восем гадоў, яна вырашае з'ездзіць да Стаха ў госці: «Скажам, што дзень нараджэння заўтра… Мо зробяць падарунак, ці грошай дадуць» [4, с. 40]. І ў размове з дзядзькам маці ўжо нават не намякае, а наўпрост кажа, што «малы чакае падарунка». Стах доўга вагаецца, але ў рэшце

рэшт выносіць з пакоя старую гітару, на якой калісьці іграла яго дачка. «У Петрыка сэрца зайшлося ад радасці. Ён і марыць не мог пра гітару! <…> На двары, на вуліцы, і потым, калі стаялі на прыпынку, хаваючыся ад восеньскага ветру, маці ўсё не магла даць веры, што вось так, з адной гітараю, Стах іх адпусціў.

— Можа, калі мы на кухні сядзелі, паклаў табе ў кішэню? Каб мы не бачылі? Сюрпрыз каб зрабіць? Паглядзі, сынок, у кішэнях…

Разам абшукалі, абмацалі кішэні паліто. Пуста! Зрэшты, Пятрок не разумеў матчынай засмучонасці» [4, с. 42].

Натуральна, хлопчык усцешаны падарункам, у яго яшчэ адсутнічае практычны вопыт, таму ён ацэньвае сітуацыю суб'ектыўна. Дзіця не ведае, як вядзецца гаспадарка, як зарабляюцца грошы, як вырашаюцца матэрыяльныя праблемы сям'і. Псіхолагі падкрэсліваюць, што ва ўяўленні дзяцей «грошы не з'яўляюцца эквівалентам працы бацькоў і трапляюць у поле зроку як малазразумелы бок дарослага жыцця» [7, с. 210]. Рэакцыю маці Петрык не зразумеў, але заўважыў, зафіксаваў. Аб'ектыўна асэнсаваць прычыну «матчынай засмучонасці» ён здолее пазней, рэтраспектыўна, калі пашырыцца яго сацыяльны досвед.

На наступны дзень маці выпраўляе Петрыка да другога дзядзькі — руплівага і заможнага Стэфана. Гаспадарлівы, ён падняў з-пад яблыні антонаўку і павіншаваў пляменніка з днём нараджэння: «Вялікі расці!»

Ад бацькі замест віншавання прыходзіць ліст з «рознымі прыгожымі лірычнымі апісаннямі» і з прабачэннямі. Бацька паведамляў, што хацеў «зрабіць сыну на дзень нараджэння незвычайны падарунак — прыслаць асятровай ікры, прычым самай свежай, уласнаручнага прыгатавання… <…> Але напароўся на рыбахову, а ў яго не было ліцэнзіі, і замест падарунка давялося заплаціць штраф…» [4, с. 45].

Несумненна, аўтар аповесці свядома пазбягае апісання псіхалагічных рэфлексій хлопчыка і эвалюцыі яго светаасэнсавання. У творы адлюстравана толькі непасрэднае бачанне падзей дзіцячымі вачыма. Але ў стылі, у падтэкставасці і ў эмацыянальнай афарбоўцы аповеду недвухсэнсоўна выяўлена, якія ўражанні назапашвае Петрык, да якіх высноў ён абавязкова прыйдзе з цягам часу.

Асабліва выразны кульмінацыйны эпізод твора, калі Петрыка віншуе бабуля. «Рыпнулі дзверы, і ў пакой увайшла баба Домна. У руках яна трымала ладны мяшэчак, набіты, як падалося Петрыку, кавалкамі гаспадарчага мыла. <…>

— Вялікі расці, унучак мой дарагі, слухайся матку, мяне ўспамінай… А гэта табе падарунак, — паклала мяшэчак на стол і ўсхліпнула чамусьці. — Ад мяне і ад дзеда Андрэя.

Маці ўзяла мяшэчак за рогі, патрэсла. З яго пасыпаліся пачкі жоўтых рублёў, зялёных траячак, сініх пяцёрак, чырвоных дзясятак і нават некалькі танюткіх стосікаў ружовых дваццацьпятак…» [4, с. 45].

Бабуля даводзіць, што ў ваенкамат прыехаў «важны генерал» і «зрабіў усім разгон», таму мясцовыя ўлады выплацілі ёй пенсію за дзеда Андрэя «за ўсе гады». Але неўзабаве дадае: «А можа, і не было ніякага генерала. А проста пабачылі, што памру хутка, ды пашкадавалі. Памру я, доня, баліць у мяне ўсё…» [4, с. 46]. Безумоўна, у Петрыка застаецца сумнеў у праўдзівасці бабулінай гісторыі. Хлопчык не можа з пэўнасцю вызначыць, ці сапраўды прыязджаў той генерал, ці ўсё ж такі бабуля пераступіла праз свае прынцыпы, бо зразумела, што нявестцы і ўнуку ніхто, апроч яе, не дапаможа.

Петрык ужо ўсведамляе, што ў адносінах паміж людзьмі не ўсё так проста, як яму зусім нядаўна падавалася. Калі ў шэсць год ён яшчэ не ўспрымаў усур'ёз праблемы сваёй сям'і — лічыў, што непаразуменні паміж дарослымі «несапраўдныя», гэта ў іх «такая гульня», то ў восем ужо дакладна ведае, што памыляўся, і жыццё яшчэ толькі «пачынае адкрывацца» яму.

У аповесці адлюстраваны першы сацыяльны досвед дзіцяці — пачатак асэнсавання сямейных узаемаадносін, індывідуальных якасцей блізкіх людзей,

засваення прынцыпаў іх паводзін і каштоўнасцей. Гэты пачатковы вопыт яшчэ не надта маштабны паводле зместу, але ён фундаментальны паводле сэнсу і значэння. Каштоўнасць твора ў дэталёвым і псіхалагічна дакладным выяўленні механікі сямейнай сацыялізацыі, фактараў уплыву ўнутрысямейных адносін на свядомасць дзіцяці.

Безумоўна, ролю мастацкай літаратуры ў працэсе сацыялізацыі асобы нельга абсалютызаваць. Сацыялізацыя — з’ява ў вялікай ступені стыхійная, яе структура надзвычай шматаспектная, разгалінаваная. Аднак літаратурныя творы, у якіх вобразна адлюстраваны шматлікія ўзаемасувязі асобы і грамадства, з’яўляюцца своеасаблівай сацыякультурнай практыкай, здольнай істотна ўплываць на сацыялізацыю. Мастацкія інтэрпрэтацыі жыццёвых з’яў, падзей і супярэчнасцей дазваляюць больш аб’ектыўна ўсведамляць сутнасць грамадскіх маральных норм, садзейнічаюць засваенню сацыяльных роляў, спрыяюць агульнай сацыяльнай адаптацыі чалавека.

## Літаратура:

1. Дворникова, К. М. Роль семейного воспитания в социализации молодежи // Nauka-rastudent.ru. — 2014. — No.10 (10—2014) / [Электронный ресурс] — Режим доступа: URL: http: // nauka-rastudent.ru/10/2045/

2. Андреева, Т. В. Семейная психология: Учеб. пособие. — СПб.: Речь, 2004. — 244 с.

3. Мустаева, Ф. А. Социализация личности ребенка под влиянием социальных проблем современной семьи. — Вестник Челябинского государственного университета. — 2010. — № 1 (182). Философия. Социология. Культурология. — Вып. 16. — С. 162—167.

4. Федарэнка, А. М. Ціша : аповесці, апавяданні / Андрэй Федарэнка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 174 с.

5. Мудрик, А. В. Социализация человека : учеб. пособие / А. В. Мудрик. — 3-е изд., испр. и доп. — М.: МПСИ ; Воронеж : МОДЭК, 2010. — 624 с.

6. Уайлдер, Т. День восьмой; Мост короля Людовика Святого. — М.: Прогресс, 1976. — 496 с.

7. Голованова, Н. Ф. Социализация и воспитание ребенка. Учебное пособие для студентов высших учебных заведений. — СПб.: Речь, 2004. — 272 с.

# Леанід ШЧАМЯЛЁЎ: «ЗРАБІЦЬ ГЭТЫ СВЕТ КРЫХУ ЛЕПШЫМ...»



На мастацкіх выстаўках карціны Леаніда Шчамялёва лёгка можна пазнаць нават здалёк, не зазіраючы ў таблічкі-надпісы пад імі. Яны вылучаюцца яркімі, вясёлкавымі фарбамі, прыгожымі, адухоўленымі тварамі мастацкіх вобразаў. Ад іх сыходзіць такая жывая энергетыка, такое моцнае выпраменьванне дабрыні і цеплыні, што зблытаць гэтыя карціны з якімі-небудзь іншымі немагчыма. Невыпадкова яго палотны называюць сонечнымі, святланоснымі.

Так, Леанід Шчамялёў сёння — прызнаны Майстра жывапісу, бясспрэчны лідар нацыянальнага выяўленчага мастацтва, адзін з буйнейшых дзеячаў беларускай культуры. Але шлях да шырокага прызнання, да цяперашняй славы і пашаны ў Леаніда Дзмітрыевіча быў даволі няпросты.

Вытокі яго актыўнай творчасці прыпадаюць на пачатак 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэта быў час грамадскага самапазнання і пошуку «новай праўды», калі ў нетрах айчыннай культуры спела непрыняцце паказнога аптымізму і замілаванай, фальшывай лагоднасці. Усё больш з’яўлялася творцаў, для якіх жыццёвым і мастакоўскім дэвізам станавілася нецярпімасць да хлусні і несправядлівасці. Менавіта ў гэтым рэчышчы пачаліся мастацкія пошукі і Леаніда Шчамялёва.

Яскравае пацвярджэнне таму карціна «Цяжкія гады», напісаная мастаком у 1964 годзе. У цэнтры палатна — сямейная пара: жонка з малым дзіцем на руках і муж-навабранец з вінтоўкаю ў руках перад адыходам на фронт. Абое глыбока задуманыя і засмучаныя, добра ведаючы, што іх чакае наперадзе… Ваенная тэма была вырашана нечакана, смела і нават з пэўным выклікам на фоне тагачаснага батальнага жывапісу.

Не дзіва, што наватарства Шчамялёва калегі ўспрынялі, мякка кажучы, стрымана. На пасяджэнні выставачнага камітэта, куды Леанід Дзмітрыевіч прынёс карціну для рэспубліканскай выстаўкі, узнікла шмат пытанняў. Яго папракалі ў песімізме вобразаў, безвыходнасці іх настрояў. Дзе высокая гераіка, патрыятызм? Чаму салдат без фуражкі? Ён што, не верыць у перамогу? А ў канцы абмеркавання нехта нават абвінаваціў мастака ў «натуральным пацыфізме»…

І ўсё ж справядлівасць узяла верх. Карціна трапіла не толькі на рэспубліканскую выстаўку, але і на ўсесаюзную — у Маскву. І была заўважана, у прэсе з'явіліся станоўчыя водгукі вядомых маскоўскіх мастацтвазнаўцаў.

Гэта быў вельмі важны момант у творчасці Шчамялёва. Першы поспех акрыліў яго, надаў упэўненасці, што мастацкія пошукі вядуцца ім у правільным кірунку. Думкі і погляды мастака ўжо тады цураліся сярэдняга, будзённага, трафарэтнага. Ён выбіваўся з агульнай каляіны, з агульнага асяроддзя, дзе любоў да «роднай партыі» і «роднага ўрада» лічылася вышэй за любоў да малой радзімы, хараства прыроды, жаночай красы, шчасця дзяцінства.

Кожны з навічкоў, якія прыходзілі тады ў мастацтва, трапляў у вялікую гульню: альбо апынаўся ў лагеры кволых бунтароў андэграўнда (іх, дарэчы, вельмі хутка абломвалі старэйшыя калегі), альбо далучаўся да канфармістаў, прыхільнікаў «традыцый», што заахвочваліся ўладамі і крытыкай.

Даўні сябра Шчамялёва і адзін з нашых самых знаных мастацтвазнаўцаў Барыс Крэпак, прыгадваючы гэты перыяд творчасці мастака, зазначае: «Леанід Дзмітрыевіч не быў нонканфармістам, але не быў і падлізаю. Проста яго натура (тут ужо нічога не паробіш — такім нарадзіўся!) трансліравала нейкі псіхаэнергетычны космас стыхійнага супрацьстаяння ўсялякаму канфармізму, нават калі гэты канфармізм быў прыкрыты фігавым лістком самадастатковасці… Ён рана зразумеў, што праца мастака — бясконцае ўзыходжанне па дарозе на Алімп. Дакладней, нават не праца, а хутчэй страснае, усёпаглынальнае пачуццё з таго маманту, калі ён пачынае грунтаваць палатно, і да апошняга імгнення, калі ён ставіць у правым кутку свой подпіс».

Масцітыя, вядомыя мастакі, якія рэальна кіравалі мастацкім працэсам у рэспубліцы, даволі насцярожана аднесліся да нечаканага ўзлёту няўрымслівага і неўмаймоўнага парушальніка спакою. Праўда, напачатку спадзяваліся, што гэта ў ім калабродзіць запозненая маладосць, з гадамі, маўляў, адумаецца, супакоіцца. А не супакоіцца — падрэжам крылы, вылечым.

На шчасце, зламаць Шчамялёва нікому не ўдалося. Дзякуючы таленту і непахіснай веры ў тое, што ён усё робіць так, як падказвае яго сэрца, мастак упэўнена і ўпарта ішоў сваёй дарогай. Ды і час патрабаваў ужо новых творцаў, страсных, моцных, мужных, якія б не баяліся перайсці парог дазволенага зверху, якія аддавалі перавагу творчай рызыцы, адчайным пошукам новай праўды і справядлівасці. У беларускім выяўленчым мастацтве адбываліся перамены, звязаныя з пашырэннем кола тэм і сюжэтаў, з настойлівым жаданнем па-новаму пластычна іх засвоіць. На шырокі прастор мастацкіх сродкаў усё больш выходзілі складаныя метафары, асэнсаваныя паралелі і прамыя дыялогі з гісторыяй.

Леанід Шчамялёў сустрэў гэты час цалкам падрыхтаваным. Паласа мяцежных пошукаў скончылася. Ён выпрацаваў свой адметны, толькі яму ўласцівы стыль, сутнасць якога, па вызначэнні Б. Крэпака, заключаецца ў цудоўным сплаве ўзвышанага, высакароднага, усёчалавечага са звычайнай, будзённай рэальнасцю жыцця. Аскетычнай і ўзвышана-адухоўленай мовай ён спрабуе ўзарваць прывычныя каноны гістарычных сюжэтаў, надаючы сваім варыяцыям на гэтыя, здавалася б, традыцыйныя тэмы драматычную напружанасць. Альбо, наадварот, знаходзіць у самым простым жыццёвым факце, эпізодзе тое, што да яго ніхто не бачыў. А то раптам возьме ды і ачысціць сваю карціну ад усяго выпадковага, лішняга ў антуражы і дэталях, ад знешняга хараства — і тады з'яўляюцца палотны чароўнай паэтычнасці, песенна-звонкага каларыту.

Вядомасць і папулярнасць Шчамялёва расла год ад году. У жніўні-верасні 1973 года да свайго пяцідзесяцігоддзя ён ладзіць маштабную персанальную выстаўку, на якой прадстаўляе 160 твораў жывапісу і графікі. Выстаўка гэтая засведчыла бясспрэчны поспех як самога мастака, так і відавочныя дасягненні сучаснага беларускага выяўленчага мастацтва.



*Сустрэча мастакоў.*

На рахунку Леаніда Шчамялёва ўжо амаль тры дзясяткі персанальных выставак. Яго палотны захоўваюць Нацыянальны мастацкі музей Беларусі і лепшыя музеі Расіі. Яго карціны бачылі жыхары больш як трыццаці краін Старога і Новага свету, Афрыкі, Азіі і Блізкага Усходу.

Але справа нават не ў гэтым ці, дакладней, не толькі ў гэтым. Як сказаў сам мастак, «усё, што я ўвасабляю ў сваіх палотнах, — маё жыццё. Гэта гісторыя маёй Радзімы. Гэта людзі, якіх бясконца люблю. І — прырода, без якой не мыслю свайго існавання. Сённяшняя і будучая прыгажосць роднай зямлі — гэта і ёсць тое, дзеля чаго ў сорак самы адчайны год я пайшоў на фронт».

Сутнасць, своеасаблівасць творчасці Леаніда Шчамялёва вельмі трапна і дакладна ахарактарызаваў у свой час народны мастак Беларусі, скульптар Анатоль Анікейчык, які назваў свайго калегу паэтам «імгненнага, рухомага, чароўназыбкага. Адсюль яго лаканічны, імпрэсіяністкі почырк, вастрыня і спрошчанасць лініі, ягоная заўсёдная пагоня за цяжкаўлоўным і мімалётным, тым, што патрабуе асаблівай увагі і напружання». А старшыня праўлення Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца дабаўляе да гэтага: «Шчамялёў для мяне абсалютны, бясспрэчны аўтарытэт. Гэты таленавіцейшы чалавек — гісторыя нашага мастацтва».

Леанід Шчамялёў даўно прызнаны і на дзяржаўным узроўні. Ён — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Саюзнай дзяржавы. Узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. Ганаровы грамадзянін горада Мінска.

З Леанідам Дзмітрыевічам мы сустрэліся ў ягонай майстэрні. У акружэнні шматлікіх добразнаёмых і менш знаёмых карцін. Іх гаспадар сустрэў мяне бадзёрым, засяроджаным і, па-руску кажучы, «в добром расположении духа».

## Трывожнай памяці святло

**— Леанід Дзмітрыевіч, мы гутарым з вамі напярэдадні значнай усенароднай падзеі — 70-годдзя Вялікай Перамогі. Таму лагічна пачаць нашу размову менавіта з гэтага. Скажыце, калі ласка, дзе і як вы сустрэлі пачатак вайны?**

— Вайну я сустрэў у Віцебску. І пачалася яна для мяне, як і для многіх савецкіх людзей, абсалютна нечакана. Не, я ведаў, канешне, што ідзе вайна ў Іспаніі, што набірае моц фашысцкая Германія, якая акупіравала ўжо некаторыя еўрапейскія краіны, пагражае паходам на Усход. Але аб магчымай рэальнай вайне ў нас мала хто думаў. Ну а калі вораг раптам уздумае напасці на Савецкі Саюз, то размова будзе кароткай. Ён будзе разбіты на ягонай жа тэрыторыі. Так нас выхоўвалі і так мы, юныя патрыёты-рамантыкі, думалі — абсалютна шчыра і пераканана.

Таму раніца 22 чэрвеня сорак першага года пачалася для мяне сонечна і весела. Разам са сваімі аднагодкамі адправіўся на раку Віцьбу — прыток Заходняй

Дзвіны. Узялі лодкі, пачалі катацца. І раптам, у 12 гадзін па рэпрадуктары на лодачнай станцыі абвяшчаюць: вайна!

Пляж імгненна апусцеў. Мы з хлопцамі таксама прычалілі да берага і бягом дадому. Бацькі мае ў трывозе і недаўменні: як жа так? Тыдзень таму ТАСС запэўніваў, што ніякай вайны не будзе і вось — на табе! Усё яшчэ не хацелася верыць, што бяда прыйшла на нашу зямлю.

Аднак ужо на наступны дзень над Віцебскам з'явіліся першыя нямецкія самалёты. Пачуліся страшныя выбухі ў раёне аэрапорта і нафтавых аб'ектаў. Адна бомба ўзарвалася ў цэнтры горада — побач з універмагам. А нашы зеніткі чамусьці маўчалі…

Праз некалькі дзён майго бацьку, Дзмітрыя Аляксеевіча, прызвалі ў армію. Як цяпер помню яго на парозе роднай хаты — панурага, засяроджанага, але не разгубленага. Відаць, і ў яго душы жыло перакананне, што гэтая бяда ненадоўга, бо, развітваючыся з намі, ён упэўнена сказаў: «Чакайце, я хутка вярнуся…» Не вярнууся. Дзе і як загінуў — невядома.

А яшчэ праз некалькі дзён з'явіўся муж маёй сястры Галіны, вайсковец, і паведаміў, што справы на фронце дрэнь. Узброеных да зубоў фашыстаў спыніць немагчыма, трэба, пакуль не позна, пакідаць горад: жонцы савецкага кадравага афіцэра заставацца ў Віцебску небяспечна.

Сабраліся ў дарогу ўтраіх — маці, Агаф'я Венядзіктаўна, сястра Галіна і я. На вакзале ледзь ушчаміліся ў апошні эшалон, які адпраўляўся на ўсход. Муж Галі правёў нас і паспяшаўся ў сваю воінскую часць, якая трымала абарону недзе ў раёне Бярэзіны.

З вялікімі цяжкасцямі дабраліся да Масквы, адтуль нас эвакуіравалі ў Іванава, дзе мы на некалькі дзён затрымаліся ў сваякоў Галінага мужа. Але сустрэлі нас не дужа гасцінна, і мы паехалі далей, у глыб Расіі. Спыніліся ў невялічкім гарадку Сямёнаў. Нас прыняла зусім незнаёмая сям'я, аднак людзі аказаліся вельмі душэўныя, шчырыя. Галя, якая мела дыплом педагагічнага тэхнікума, уладкавалася настаўніцай пачатковых класаў. Я, стаўшы на ўлік у ваенкамаце, пайшоў працаваць на чыгуналіцейны завод, вывучыўся на электразваршчыка. А паралельна з гэтым займаўся пад кіраўніцтвам вопытных інструктараў ваеннай падрыхтоўкай.

**— Рыхтаваліся да прызыву ў армію?**

— Так. Мы тады ўсе, каму было васямнаццаць і каму не было, рваліся на фронт. Аднак ваенкамат астуджваў нашу гарачнасць: маўляў, няма адпаведнага ўказу.

І вось нарэшце 12 снежня 1941 года мне прыйшла доўгачаканая позва. Атрымаўшы на заводзе разлік і развітаўшыся з роднымі, я прыбыў на прызыўны пункт горада Сямёнава. Так пачалася мая ваенная эпапея.

**— І вы трапілі…**

— Напачатку я трапіў у школу сяржантаў. Гэта было на тэрыторыі Марыйскай аўтаномнай рэспублікі, у невялічкім мястэчку пад назвай, як цяпер помню, Сурок. Жылі мы ў зямлянках, а займаліся ў асноўным на плацу.

Заняткі ішлі ўсю зіму і вясну і праводзіліся вельмі грунтоўна. Як я пасля даведаўся: з выпускнікоў школы фарміравалі запасныя палкі Маскоўскага ваеннага гарнізона.

А на фронт трапіў у чэрвені сорак трэцяга. Атрымаўшы званне малодшага сяржанта, быў прызначаны камандзірам аддзялення ў складзе 896-га стралковага палка 211-й стралковай дывізіі 13-й арміі.

**— І дзе вы прынялі першы бой?**

— На Курскай дузе!

**— Адразу ў самае пекла?**

— А на фронце нідзе раю не было. Але нас, маладых, неабстраляных, натхняла, акрыляла тое, што нашы войскі, вытрымаўшы шалёныя атакі фашысцкіх

полчышчаў, неўзабаве перайшлі ў контрнаступленне. І да 18 жніўня Арлоўскі выступ праціўніка быў цалкам ліквідаваны. Пасля было вызваленне Украіны, Беларусі…

**— За гэтыя вызваленчыя баі вы ўзнагароджаны двума ордэнамі Вялікай Айчыннай вайны. Дзе і як гэта было?**

— Першы ордэн я атымаў за Чарнігаўскую аперацыю. А другі — за фарсіраванне Прыпяці. Гэта ўжо на тэрыторыі Беларусі, у раёне Мазыра— Калінкавічаў. Там жа падчас атакі мяне цяжка параніла — куляю раздрабіла левую руку. Два месяцы праваляўся ў шпіталі. Выпісалі перад новым, сорак чацвертым годам. І трапіў я ў кавалерысты.

**— Якім чынам?**

— У шпіталі пазнаёміўся з адным афіцэрам, які служыў у кавалерыі. Мы разгаварыліся, і калі зайшла размова аб маім далейшым лёсе, я сказаў, што хацеў бы пасля выздараўлення трапіць у кавалерыйскую часць, бо з дзяцінства вельмі люблю коней. Той падтрымаў маё жаданне і даў адрас, куды паслаць маю заяву. На здзіўленне, адказ прыйшоў даволі хутка. У ім паведамлялася: пасля выпіскі малодшага сяржанта Шчамялёва накіраваць у 2-ю кавалерыйскую брыгаду. Месца прызначэння — горад Каўроў. Вось там я і сустрэў Дзень Перамогі.

**— Як я разумею, Леанід Дзмітрыевіч, што нават цяпер, хоць прайшло шмат гадоў, вам успамінаць ваенныя падзеі нялёгка, балюча. Аднак не магу не запытаць. Якія ўражанні, пачуцці пакінула ў вашай душы вайна?**

— Першае, і самае галоўнае: паколькі я камандаваў кулямётным аддзяленнем, то мая вайна ішла на маленькім лапіку зямлі. Што там далей, я не ведаў. Але я ведаў іншае: на гэтым лапіку была мая краіна, мая мова, мой дух, мае таварышы… І другое адчуванне, якое прыйшло крыху пазней. Хоць мне было ўсяго дваццаць, але я ўжо разумеў, што такія жорсткія, крывавыя бітвы, у якіх молах вайны перамолвае тысячы, мільёны чалавечых жыццяў, не прыносяць сапраўднага шчасця пераможцам. А што казаць пра пераможаных? І падспудна адчуваў гібельнасць такіх войнаў для чалавецтва, незалежна ад таго, хто праў — хто вінаваты.

Я да гэтага часу адчуваю агіду да вайны, таму што гэта ненатуральны, ненармальны стан чалавека. Для мяне не існуе наогул вайны выдатнай альбо вялікай. Можа быць вялікі народ, яго подзвіг, яго перамога. Але вайна не можа быць вялікай, таму што гэта забойства. Урапатрыятычныя лозунгі — не па мне.

**— Мне здаецца, што менавіта гэтыя пачуцці ўвасоблены ў некаторых вашых карцінах, прысвечаных тэме вайны. У такіх, скажам, як «Генерал Даватар», «Маё нараджэнне», «Першы дзень міру»…**

— Дакладней будзе сказаць — тэме чалавека на вайне. Бо самі па сабе батальныя сцэны мяне ніколі не цікавілі. А вось паводзіны, псіхалогія чалавека ў складанейшых умовах суровых выпрабаванняў — гэта мне, як мастаку, вельмі цікава.

## Праўда мастацтва і праўда жыцця

**— Бальзак некалі сказаў, што мастацтва — гэта вопратка нацыі. У тым сэнсе, як я разумею, што па творах літаратуры, жывапісу, музыкі, архітэктуры людзі пазнаюць гісторыю таго ці іншага народа, яго звычаі і традыцыі ці, як цяпер модна казаць, яго менталітэт. Але разам з тым, мастацтва павінна заключаць у сабе і нейкія агульначалавечыя каштоўнасці, інакш яно атрымаецца ў пэўнай ступені збедненым. Якім, на ваш погляд, павінна быць вось гэтая дыялектыка нацыянальнага і агульначалавечага?**

— Ведаеце, я пабываў у шмат якіх краінах, бачыў рознае мастацтва. Але заўсёды найбольшую цікавасць у мяне выклікалі творы, якія адлюстроўвалі адметнасць, асаблівасць свайго народа. Іншымі словамі — мастацтва нацыянальнае.



*Партрэт дачкі Рыты.*

**— Што трэба для таго, каб стаць выказнікам дум і спадзяванняў народных?**

— Перш за ўсё — жыць сярод свайго народа, жыць яго радасцямі і болямі, яго, як вы правільна сказалі, звычаямі і традыцыямі. Менавіта традыцыі, па маім глыбокім перакананні, і нараджаюць нацыянальную форму мастацтва.

Мастак усімі сваімі каранямі павінен глыбока ўрастаць у родную зямлю. А калі ты не можаш ці не хочаш гэтага рабіць, то і не маеш права называцца мастаком беларускім. Альбо рускім. Альбо ўкраінскім… Вось у чым справа.

Мастацтва, пазбаўленае нацыянальнай адметнасці ці, кажучы словамі Бальзака, нацыянальнай вопраткі, — мала цікавае. Гэтаксама як і мастацтва, наглуха замкнутае ў нацыянальную абалонку, без выхаду ў шырокі свет, без агульначалавечага кантэксту. Ключ да творчага поспеху — у іх арганічным адзінстве. А вось якая тут павінна быць прапорцыя спалучэння гэтых паняццяў — гэта ўжо задача і права кожнага асобнага мастака.

**— Некаторыя мастацтвазнаўцы, аналізуючы вашу творчасць, падкрэсліваюць гістарызм мыслення мастака Шчамялёва, гэта значыць, аб’ектыўнае, паважлівае стаўленне да рэальных фактаў гісторыі і глыбокае, канцэптуальнае іх разуменне. Гістарычныя асобы, увасобленыя ў вашых карцінах, ад вялікага князя ВКЛ Міндоўга, ад паэта-лацініста эпохі Адраджэння Міколы Гусоўскага і да Максіма Багдановіча, як нельга лепш апавядаюць нам аб слаўным мінулым Беларусі, яе хараstве і багацці, яе асобым лёсе і прадвызначэнні.**

**У гэтай сувязі я хачу запытацца: што абудзіла ў вас цікавасць да нашай гісторыі і па якіх крыніцах вы яе вывучалі?**

— Я не магу сказаць, што вывучаў і вывучаю гісторыю Беларусі пастаянна, мэтанакіравана, паглыблена. Была звычайная, натуральная чалавечая цікавасць да свайго мінулага. Але кожны раз, калі я браўся пісаць карціну на гістарычную тэму, мне хацелася ведаць пра свайго героя як мага больш. І тады я чытаў на гэту тэму дакументальныя кнігі, навуковыя даследаванні, вывучаў архіўныя матэрыялы, гутарыў са спецыялістамі, якія шмат у чым мне дапамагалі.

Для мяне падзеі мінулага не маюць закончанага значэння. Бо тое, што было, што мы называем гісторыяй, на самай справе не завершана, а працягваецца. У нашых галовах. У пераацэнцы духоўных, сацыяльных, гістарычных каштоўнасцей. У нашай больш пільнай, аб’ектыўнай увазе да жыцця і асабістых лёсаў тых, хто рабіў гісторыю.

**— Вы маеце на ўвазе некаторыя свае карціны?**

— Не толькі. Сэнс сказанага больш шырокі. Але прыкладам могуць служыць і некаторыя мае палотны. У 1970 годзе я напісаў карціну «Кастусь Каліноўскі». Тады я ўяўляў Каліноўскага ў рамантычным арэоле — гэтакі Робін Гуд. Звесткі пра яго былі даволі скупыя. Пазней я вывучыў гісторыю паўстання 1863 года больш глыбока, і мне адкрылася шмат новых, неадназначных фактаў. А сёння такіх фактаў з'яўляецца ўсё больш і больш. І, канешне ж, калі б я пісаў гэту карціну цяпер, то пісаў бы ўжо яе па-іншаму. Гэтым самым я хачу сказаць, што погляды на гістарычныя працэсы, якія адбываліся на нашай тэрыторыі ў мінулым, цягам часу мяняюцца, вызваляючыся ад ідэалагічнага суб'ектывізму.

**— А ці не хацелася б вам сёння нешта змяніць у такіх сваіх рэчах, як «Ленін і Крупская ў Шушанскім», «1918 год», «Ля саркафага правадыра», «Кастрычнік»?**

— Не палічыце нясціплым, але я за гэтыя карціны вялікага сораму не адчуваю. Хаця падчас іх стварэння яшчэ не былі вядомыя многія факты і дакументы аб сапраўднай ролі Леніна ў гісторыі краіны. Праўда была затушавана савецкай марксісцкай навукай і прапагандай. Тым не менш я інтуітыўна адчуваў неадназначнасць і супярэчлівасць такой з'явы, як рэвалюцыя. Гісторыя сведчыць, што яна заўсёды прыносіла мільёны ахвяр у імя дэкларуемых высокіх ідэалаў.

Таму ў паказе рэвалюцыйных падзей я пастараўся адысці не толькі ад палітычнай плакатнасці, але і ад дакументальнай рэпартажнасці і бяздумнай праўды факта. Ды і Ленін у мяне паказаны не на катурнах, не над натоўпам, а радавым персанажам у глыбіні мас.

Але ж справа тут не ў Леніне. Справа ў тым, як я «прачытаў» тую старонку гісторыі, якая называецца рэвалюцыяй. Калі мы сёння глядзім, напрыклад, выдатнае палатно «Мікалай ІІ», мы, дзякаваць богу, не развенчваем Валянціна Сярова за тое, што ён паказаў імператара, які ўвайшоў у марксісцкую гісторыю як Мікалай Крывавы. Ён — постаць гісторыі.

Такая ж гістарычная постаць і Ленін. Ён — асоба, якая перавярнула свет. Хто стане з гэтым спрачацца? Іншая справа, што ў гэтай асобе намешана шмат розных фарбаў. Вось задача мастака ў тым і заключаецца, каб не маляваць правадыра рэвалюцыі нейкай адной фарбай, а паказваць яго шматколерна, аб'ектыўна. А рабіць выгляд, нібыта такой постаці наогул не было — гэта антыгістарычна.

**— Ну добра. З Леніным, Дзяржынскім, Крупскай — усё зразумела. Гэта асобы сапраўды маштабныя, значымыя ў нашай гісторыі. Але чаму вашу ўвагу як мастака прыцягнулі такія адыёзныя фігуры як тэрарыст Барыс Савінкаў, анархіст Нестар Махно?**

— Наконт іх адыёзнасці тут я хацеў бы з вамі паспрачацца.

Возьмем Савінкава. Так, гэта вялікі тэрарыст ХХ стагоддзя. Так, ён валодаў энергіяй з разраду тых, што называюць д'ябальскай. Быў кіраўніком шэрагу антысавецкіх змоў і ўзброеных выступленняў.

А з другога боку, многія палітычныя дзеячы таго часу давалі яму самую высокую ацэнку. Так Луначарскі, які разам з Савінкавым адбываў царскую высылку і пасля шмат разоў сустракаўся з ім у эміграцыі, гаварыў пра яго, што гэта яркая індывідуальнасць. Яшчэ больш узнёслую ацэнку даваў Чэрчыль. Добра знаёмы з Савінкавым, ён падкрэсліваў у ім мудрасць дзяржаўнага дзеяча, якасці палкаводца, адвагу героя і стойкасць пакутніка.

Бачыце, якая супярэчлівая і неардынарная натура ў майго героя. Менавіта гэта і прыцягнула да яго маю мастакоўскую ўвагу. Але менш за ўсё я хацеў маляваць Савінкава як героя альбо пакутніка. Я хацеў паказаць перш за ўсё трагедыю асобы, якая заблыталася ў складанейшых перыпетыях гісторыі, па-свойму бачыла шлях да шчасця народа.

**— Слухаю вас, Леанід Дзмітрыевіч, а ў галаве круціцца неадчэпная думка: дык што ж усё-такі ёсць мастацтва? У чым яго сутнасць і сэнс? Занатоўваць на палатне цудоўныя імгненні нашага хуткаплыннага жыцця,**

**спецыфічнымі выяўленчымі сродкамі выхоўваць чалавека, узвышаць яго душу, узбагачаць яго маральны свет ці, можа, усяго толькі форма самавыяўлення мастака, удзячная для яго магчымасць здзівіць, уразіць гледача парадаксальнасцю кампазіцыі, незвычайнасцю каларыту, абстрактнасцю малюнка?**

— Філасофскае пытанне… Што ёсць мастацтва? Для мяне гэта перш за ўсё — пластычнае адлюстраванне тых ці іншых з'яў нашага жыцця, духоўнага свету чалавека, погляд аўтара на сучаснасць і мінулае праз уласную мастакоўскую ацэнку. Вобразна кажучы, жывапіснае палатно — гэта акно ў свет з усімі яго радасцямі і болямі, своеасаблівае люстэрка, з дапамогай якога чалавеку даецца магчымасць угледзецца ў самога сябе.

У чым сэнс і задача мастацтва? На мой погляд, яно павінна не столькі выкрываць бесчалавечнае, колькі абараняць у чалавеку чалавечнае, такое ранімае, уразлівае перад злом і няпраўдай.

Ці значыць гэта, што мастак павінен упадабляцца фатографу, які добрасумленна фіксуе ўсё лепшае, станоўчае ў нашым жыцці? Канешне ж, не. Аднойчы выдатны беларускі мастак і педагог Віталь Цвірко сказаў: мастацтва мае сэнс толькі тады, калі яно больш праўдзівае за рэчаіснасць. І я цалкам згодны з гэтым вызначэннем.

Што бачу, тое і пішу — не мой прынцып. Праўдападобнасць — вораг ісціны. Вельмі важна, каб у душы заўсёды жыло здзіўленне і пачуццё, што ты робіш для сябе хаця б невялічкае адкрыццё.

**— Вы лічыце, што праўда мастацтва і праўда жыцця — гэта не адно і тое ж?**

— Безумоўна. Твор мастацтва — гэта плён фантазіі, выдумкі мастака, пластычны вобраз яго суб'ектыўнага светаўспрымання. І ў гэтым сэнсе мастацтва, канешне ж, форма самавыяўлення. Але калі мастак празмерна захопіцца сваім самавыяўленнем і згубіць усялякую сувязь з рэчаіснасцю, то ён непазбежна губляе і сувязь з мастацтвам.

Любы эксперымент павінен грунтавацца на глебе рэальнасці. Усялякае наватарства будзе мець плён толькі тады, калі яно не адрываецца ад традыцый.

## Заставацца самім сабой

**— Давайце вернемся да вытокаў вашага творчага шляху. З чаго яно ўсё пачыналася? Вы з дзяцінства марылі стаць мастаком?**

— Ні я сам, ні мае бацькі ніколі не думалі, што я выберу сабе прафесію мастака. Хаця як і ўсе дзеці маляваць любіў. Маляваў многа, ахвотна. Алоўкам, кавалкам вугалю і на чым прыйдзецца.

Памятаю, у бабуліным куфэрку я знайшоў шмат рэпрадукцый з розных жывапісных карцін. Мне яны так спадабаліся, што некаторыя з іх нават пастараўся перамаляваць. Але, мусіць, у мяне атрымалася не дужа, бо ніхто ў нашай сям'і на гэта не звярнуў увагі.

Нічым асаблівым не вылучаўся я і ў школе. Тым не менш, маё жаданне маляваць не толькі не слабела, а з гадамі, наадварот, мацнела. Мусіць, праўду кажуць: калі чалавеку ад нараджэння падорана іскрынка боская, то яна ўжо не дасць яму спакою нідзе і ніколі.

**— Як вы лічыце, што фарміравала вас як творчую асобу?**

— Найперш — вясковая прырода. Пяцігадовым хлапчуком я ўпершыню трапіў у вёску, дзе жыла мая бабуля. І быў узрушаны, зачараваны навакольным харастовм — пяшчотнымі ружовымі кветкамі брусніц, карычне-чырвонымі галоўкамі зязюльчынага лёну, дзівосным россыпам кветак на поплаве, спевамі птушак, якіх ніколі не чуў у горадзе, палётам матылькоў, пчолак… Мая душа вельмі чуйна адгукалася на гэтае хараство.

Многае даў і горад. У Віцебску да вайны быў знакаміты клуб металістаў. Знакаміты тым, што тут кожны тыдзень ішлі новыя кінафільмы. Савецкія, замежныя. Выдатныя фільмы! Менавіта яны развівалі ў нас, падлеткаў, паняцце, што ёсць добра, а што кепска, фарміравалі нашыя эстэтычныя густы.

Да таго ж у школе я вельмі многа чытаў. Спачатку чытаў усё, што траплялася пад руку — прыгодніцкія кнігі Гайдара, Бічар-Стоу, Марка Твэна, Купера, Рыда, Стывенсана, Дзюма…Пасля перайшоў да больш сур'ёзнай літаратуры — Чэхава, Талстога, Дастаеўскага, Драйзера, Бальзака, Флабэра. Аднойчы на Полацкім рынку бацька купіў «Анталогію паэзіі XX стагоддзя». Дзякуючы гэтай унікальнай кніжцы я далучыўся да вершаў не толькі савецкіх паэтаў Маякоўскага, Блока, Пастарнака, Ахматавай, Ясеніна, але і паэтаў-эмігрантаў — Хадасевіча, Цвятаевай, Сашы Чорнага, Северяніна, Гіпіус, Бальмонта…

З таго часу паэзія трывала ўвайшла ў маё жыццё. Люблю чытаць не толькі рускіх паэтаў, але і беларускіх — Коласа, Купалу, Барадуліна, Бураўкіна… Добрыя вершы дапамагалі і дапамагаюць мне ў маёй творчасці. Не скажу, што яны аказвалі непасрэдны ўплыў на творчыя задумы, але ўздзейнічалі апасродкавана — абуджалі фантазію, фарміравалі вобразнасць мыслення, адкрывалі новы, невядомы свет летуценняў, прымушалі разважаць пра хараство і справядлівасць, дабро і зло…

Ну і, канешне ж, вялікі ўплыў на мяне аказалі сустрэчы з самімі творамі жывапісу. Я ўжо казаў, што на нашай вуліцы ў Віцебску жыло шмат прафесійных мастакоў. Назіраючы за іх працай, я не толькі спасцігаў пэўныя сакрэты жывапісу, але і міжволі спеліў у сваёй душы гарачае жаданне маляваць самому.

Пазней, калі я ўжо вучыўся у Мінску, у мастацкім вучылішчы, тэатральна-мастацкім інстытуце, не ўпускаў малейшай магчымасці пабываць у карцінных галерэях Масквы, Ленінграда. Я ўжо не кажу пра наш мастацкі музей, экспазіцыю якога я вывучыў дасканала.

Аднак жа самае моцнае ўражанне на мяне зрабіла выстаўка карцін Дрэздэнскай галерэі, якая экспанавалася ў 1955 годзе ў Маскоўскім музеі выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна. Экскурсію для нас, трэцякурснікаў інстытута, арганізаваў наш педагог Віталь Цвірко. Я хадзіў туды цэлы тыдзень, гадзінамі прастойваў ля шэдэўраў Рэмбранта, Рафаэля, Тыцыяна, Рубенса, Веласкеса… І гэтае сузіранне арыгіналаў зблізку дало мне, будучаму мастаку, столькі, колькі не даваў ніхто і ніколі.

**— Нават вашыя настаўнікі?**

— Нават яны. Хаця мне тут грэх скардзіцца. Ад самага пачатку майму станаўленню дапамагала шмат розных, таленавітых люлзей. У пачатковай школе гэта быў Мікалай Іосіфавіч Ракоўскі, у вячэрняй — Павел Кавалёў.

Незабыўнае ўражанне пакінула ў тыя, школьныя, гады знаёмства са знакамітым віцебскім мастаком Пэнам. Нехта сказаў мне, што ў майстэрню мэтра жывапісу можна зайсці не дамаўляючыся, яна заўсёды адчынена. І вось я набраўся смеласці і пайшоў. Юрый Майсеевіч быў у майстэрні, сустрэў мяне неяк па-свойску, па-хатняму. Узяў за руку, стаў распытваць пра бацькоў, пра вучобу. А пасля нечакана пацікавіўся, ці малюю я. І калі я сказаў, што малюю, папрасіў прынесці яму свае малюнкі.

На наступны дзень я прынёс цэлы альбом. Уважліва разглядваючы мае накіды, мэтр ухвальна ківаў галавою і ў заключэнне сказаў: «Няблага… Але вам трэба яшчэ шмат вучыцца». На жаль, гэта была мая першая і апошняя сустрэча з Юрыем Майсеевічам. Неўзабаве яго не стала.

У мастацкім вучылішчы мы ўсе вельмі любілі Льва Маркавіча Лейтмана, які быў выдатным выкладчыкам, ведаў моцныя і слабыя бакі кожнага з нас і стараўся нашыя здольнасці і густы скіраваць менавіта ў прафесійнае, творчае рэчышча.

Але, бадай, самы значны ўплыў на маё станаўленне як мастака аказаў Віталь Канстанцінавіч Цвірко — унікальная асоба ў гісторыі беларускай мастацкай культуры. Як мастака я ведаў яго, канешне, і раней, але асабіста пазнаёміўся ўжо ў інстытуце. Ён выкладаў у нас жывапіс. Але для мяне Віталь Канстанцінавіч быў больш,

чым проста выкладчык. Я ўспрымаў яго як Настаўніка, які пастаянна напамінаў нам галоўныя, вызначальныя патрабаванні нашай прафесіі: глядзіце ўважлівей, малюйце болей, пішыце прасцей», «ідзіце сваім шляхам, шукайце свой почырк, не пераймайце нікога», «мастацтва не церпіць фальшу і трафарэту, вучыцеся ў вялікіх майстроў, але не капіруйце іх знешнюю манеру, глядзіце углыб, у корань…»

Асабіста для мяне вельмі многа далі штогадовыя творчыя паездкі на летнюю студэнцкую практыку, якой кіраваў Цвірко. Галоўным для яго было даць студэнту свабоду, пры якой той мог бы знайсці свой, толькі яму характэрны творчы стыль, свой пластычны почырк. Ён дапамагаў мне самастойна развівацца, вучыў разумець законы прыроды, але пры гэтым ніколі не давіў сваім аўтарэтэтам альбо аўтарытэтам класікаў. За што я свайму Настаўніку, хаця яго няма з намі ўжо шмат гадоў, бясконца ўдзячны і сёння.

**— Леанід Дзмітрыевіч, наколькі я ведаю, прызнанне да вас прыйшло даволі позна…**

— А што вы хочаце? Я ж паступіў у вучылішча ў дваццаць чатыры гады, а інстытут скончыў наогул у трыццаць шэсць гадоў. Быў ужо бацькам дзвюх дачок. А ў мастацтве толькі-толькі пачынаў дарогу. Мне трэба было навёрстваць упушчанае. Вайна і служба ў арміі забралі ў мяне амаль сем гадоў, падчас якіх я практычна нічога не маляваў.

**— Дарога да прызнання давалася вам няпроста.**

— Вельмі няпроста. Хаця пачатак быў неблагі. Яшчэ ў інстытуце я напісаў карціну «Вайна скончылася». Сюжэт яе даволі просты: хлапчук з башні напаўзатопленага нямецкага танка ловіць рыбу. Метафара, што называецца, прачытваецца з першага погляду. Асаблівага значэння свайму сціпламу тварэнню я не надаваў. Карціна аднак мела амаль дэтэктыўны лёс. Без майго ведаму і без дазволу педагогаў яна нейкім чынам трапіла ў Маскву, у экспазіцыю выстаўкі, прымеркаванай да VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, і атрымала нечаканы для мяне поспех. З Масквы карціна не вярнулася, і дзе яна цяпер — невядома…

Абнадзеены гэтай удачай, я з вялікім жаданнем і, можна сказаць, творчым гарэннем пачаў працу над дыпломнай работай. «Вяселле» — так я вызначыў тэму гэтай работы. Справа ў тым, што мне не раз даводзілася быць не толькі сведкам, але і ўдзельнікам вясёлай вясковай урачыстасці, дзе ўсе ад душы смяяліся, жартавалі, разыгрывалі дасціпныя тэатралізаваныя сцэнкі. Мне гэта нагадвала нейкую нацыянальную містэрыю, дзе свет здаваўся яркім святам, поўным жыццёвых сокаў.

Эскізны малюнак кафедра без праблем зацвердзіла, і я прыступіў да працы над карцінай. Усё ішло нармальна: удала сфарміравалася агульная каларыстычная гама, прыгожа, пластычна вымалёўваліся народныя персанажы — балазе ў мяне было некалькі дзясяткаў эцюдаў, замалёвак, зробленых з натуры. Ні Цвірко, ні яго асістэнт Стальмашонак да маіх мастакоўскіх пошукаў і самога творчага працэсу ніякіх заўваг не мелі.

І вось абарона. Адзін за адным мае аднакурснікі атрымоўваюць ацэнкі «выдатна», «добра». Падышла нарэшце і мая чарга. І тут адбылося нешта неверагоднае: члены экзаменацыйнай камісіі, якія да гэтага лагодна ўсміхаліся, добразычліва жартавалі, убачыўшы «Вяселле», раптам змяніліся ў твары. Пасыпаліся рэзкія, злыя рэплікі: якое ж гэта савецкае вяселле? Тут хутчэй нейкая патрыярхальная дарэвалюцыйная гулянка! І наогул, што гэта за абуральная, недапушчальная анархія фарбаў? Дыпломнік робіць дэманстратыўны выклік асновам класічнага жывапісу…

Справа хілілася да поўнага правалу. Уявіце мой стан: шэсць гадоў напружанай, складанай вучобы ішлі кату пад хвост.

Сітуацыю выратаваў старшыня экзаменацыйнай камісіі, вядомы маскоўскі мастак Барыс Іагансон. Ён пахваліў мяне за нетрафарэтны паказ святочнай народнай стыхіі, адзначыў некаторыя ўдалыя знаходкі і прапанаваў паставіць «здавальняюча». Убачыўшы мой хмуры твар, падбадзёрыў: «Не перажывайце. Не адзнака робіць чалавека мастаком, а тое, як вы будзеце адносіцца да мастацтва і да жыцця наогул…»



*На вернісажы.*

Але на гэтым мае беды не скончыліся. Пасля абароны дыплома ад вялікага фізічнага і эмацыянальнага напружання ў мяне адкрылася язва страўніка. Пачалася дэпрэсія, з якой я выбіраўся доўга і пакутліва.

Вакол мяне ўтварыўся нейкі вакуум. Дзіўна павялі сябе некаторыя мае калегі: хто рабіў выгляд, што не заўважае мяне, а хто, вітаючыся, няёмка адводзіў позірк убок.

На шчасце, у мяне хапіла сілы волі і розуму не сарвацца, не апусціць рукі. Падлячыўшыся зёлкамі і мёдам, я вярнуўся да любімай справы. Працаваў як апантаны. Кожны дзень, без выхадных і свят. Пісаў адну карціну за другой. І па меры магчымасці ўдзельнічаў у розных выстаўках — рэспубліканскіх, саюзных.

А ў 1962 годзе мне ўдалося нават арганізаваць персанальную выстаўку. Ну вось гэтага мае «добразычліўцы» ўжо ніяк не маглі дараваць. Адкрыта крытыкаваць не адважваліся, таму што многія мае работы былі высока ацэнены ў Маскве, затое распускалі розныя чуткі, плёткі, байкі адносна маіх неадэкватных паводзін, багемнасці і зазнайства. Маўляў, знарокавым эпатажам, ломкай канонаў сацыялістычнага рэалізму заваёўвае сабе танную папулярнасць.

Мне заставалася адно: не зважаць на ўсе гэтыя брудныя інсінуацыі, не здраджваць сваім мастакоўскім ідэалам, быць самім сабой. Словы, сказаныя Іагансонам, сталі маім творчым дэвізам: адносіцца да мастацтва гэтак жа сур'ёзна, як і да жыцця. Такая пазіцыя давалася мне ох як цяжка. Не так проста было рабіць выбар паміж канфармізмам, які забяспечваў рэальны, сыты камфорт, і творчай незалежнасцю з прывіднай надзеяй, што некалі дзякуючы таленту і працы ўсё ж прыйдзе прызнанне і слава.

**— У вас свой адметны стыль, пазнавальны почырк. Нехта з крытыкаў добра сказаў пра ваш творчы метад. Гэта — уменне самы звычайны жыццёвы эпізод шляхам своеасаблівага каляровага вырашэння пераўтварыць у яркае, святочнае эстэтычнае відовішча. Такі стыль яшчэ называюць магічным.**

— Уся гэтая магіка — чыстая ўмоўнасць. Ёсць чалавек і ёсць рэальны свет, які ты павінен бачыць і адлюстроўваць. Я не прыдумваў назву свайму стылю, але мне здаецца, што я бачу ў навакольнай рэчаіснасці тое, што хачу бачыць. Іншымі словамі: бачу жыццё, якое мне цікавае, якое я люблю і якое ў меру сваіх здольнасцей стараюся яго адлюстроўваць на палатне. А як гэта назваць — справа дзясятая.

## Мастацтва, якое грэе душу

**— Леанід Дзмітрыевіч, давайце закранём вось якую тэму. У савецкія часы часта цытавалі вядомае ленінскае выказванне аб тым, што жыць у грамадстве і быць свабодным ад грамадства немагчыма. Як вы лічыце, а да мастака гэта адносіцца?**

— Несумненна. Мастак — такі ж член грамадства, як і ўсе. І яго ўзаемаадносіны з грамадствам падпарадкоўваюцца тым жа законам, што і для астатніх членаў. З некаторымі толькі асаблівасцямі. Паэтычнае жыццё мастака не павінна залежаць ад таго, як да цябе адносіцца грамадства. Яно павінна залежаць у першую чаргу ад таго, як ты адносішся да грамадства. Якім бачыш навакольны свет? Што ты хочаш сказаць людзям? Якімі маральнымі, ідэйнымі крытэрыямі пры гэтым карыстаешся? І не прынараўлівацца, не прыстасоўвацца да таго, што і як табе сказаў той ці іншы чалавек, нават калі гэты чалавек — вялікі начальнік. Важна рабіць тое, што ты лічыш патрэбным і цікавым для людзей.

**— Дарэчы, пра начальства. Гэта — адна з вельмі сур'ёзных і актуальных праблем. Ва ўсе часы вакол узаемаадносін мастака і ўлады вяліся і вядуцца гарачыя, вострыя спрэчкі. Адны, мастакі, настойваюць на поўнай свабодзе, незалежнасці ад якіх бы то ні было кіруючых указанняў. Другія, прадстаўнікі ўлады, з гэтым катэгарычна не згаджаюцца: маўляў, асобны скрыпач можа граць і сам па сабе, а вось аркестр ужо мае патрэбу ў дырыжоры. Мастацкі працэс, культурнае жыццё — той жа аркестр і ім трэба разумна, умела кіраваць.**

— Менавіта разумна. Як у той байцы Крапівы: «Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай». Дзеля справядлівасці я павінен сказаць, што ў Беларусі ў параўнанні з «хрушчоўскай», а пасля і «брэжнеўскай» Масквой у цэлым мастацкі працэс развіваўся спакойна, талерантна і выпадкі забароны зверху той ці іншай карціны былі надзвычай рэдкія.

**— А якія стасункі з уладамі былі ў вас асабіста? Пытаюся пра гэта, таму што вакол вашага імя хадзілі цэлыя легенды: што вы бунтаўшчык, парушальнік спакою, ачарняльнік савецкай рэчаіснасці.**

— Гэта ўсё мае «добразычліўцы» стараліся. Часам даходзіла да абсурду. У 1962 годзе групу творчых работнікаў прыняў першы сакратар ЦК КПБ Кірыл Трафімавіч Мазураў. Пасля дыскусіі пра літаратуру размова зайшла аб становішчы спраў у выяўленчым мастацтве. Пахваліўшы некаторых мастакоў — Савіцкага, Стальмашонка, Данцыга, Мазураў зазначыў, што, на жаль, у сям'і не без вырадка. І называе маё прозвішча: маўляў, Шчамялёў нядаўна напісаў «зялёную карціну», касмапалітычную па духу і з буржуазным ухілам.

Я знямеў: такой карціны ў мяне зроду не было! Пішу запіску ў прэзідыум з просьбай даць мне слова. Але тут якраз абвясцілі перапынак. А ў перапынку да мяне падыходзіць загадчык аддзела прапаганды ЦК Васіль Шаура і гэтак спакойна, дружалюбна кажа: «Леанід Дзмітрыевіч, не трэба вам выступаць. Усё нармальна, працуйце, як працавалі…»

І толькі праз некалькі гадоў мне стала вядома прычына гэтага непрыемнага інцыдэнта. У часе аднаго ўрачыстага мерапрыемства я, улучыўшы зручны момант, падышоў да Мазурава і запытаўся, якая «зялёная карціна» мелася на ўвазе. Кірыл Трафімавіч усміхнуўся: «А гэта вы ў сваіх калег пацікаўцеся. Ваш адказны сакратар па ўзгадненні з партбюро Саюза мастакоў падсунуў мне такую паперку, якой я і паверыў…»

**— Але ж, напэўна, і па-за палітыкай цалкам заставацца немагчыма?**

— Палітыка — гэта жыццё, і жыццё вельмі актыўнае. Вядома, мастак павінен у гэтым жыцці мець сваю пазіцыю. Ён можа думаць па-рознаму, але ў сваёй творчасці рабіць тое, што неабходна людзям. Вось у чым справа.

**— У вашай біяграфіі ёсць адзін даволі цікавы факт. Вы ніколі не былі ні піянерам, ні камсамольцам, ні камуністам.**

— Гэта праўда. Не буду гаварыць, што я з дзяцінства быў такі несвядомы. Проста ў пачатковых класах, пры пераходзе з адной школы ў другую, я нейкім чынам выпаў з-пад увагі піянерскай арганізацыі. Пасля, калі ўжо вучыўся ў вячэрняй школе, мяне зноў-такі ніхто ў камсамол не пазваў. І можа, з гэтай прычыны падчас маёй службы ў арміі не было прапановы ўступіць у партыю.

**— А пазней, калі вы ўжо былі вядомым мастаком?**

— Сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Кузьмін запытаў у мяне аднойчы, чаму я не ў партыі. Давялося аджартавацца: маўляў, у нас ёсць шмат больш дастойных кандыдатур, вось, напрыклад, Міхаіл Савіцкі. А я ўжо за ім…

**— Скажыце, калі ласка, а ў сваім асяроддзі вы, мастакі, часта спрачаецеся, крытыкуеце адзін аднаго?**

— Раней такая практыка была нормай. Мы любілі заходзіць адзін да аднаго ў майстэрню, цікавіліся, над чым той ці іншы мастак працуе, абмяркоўвалі зробленае. І часам узнікалі даволі гарачыя спрэчкі. Крытыкавалі адзін аднаго, але крытыкавалі прафесійна, добразычліва, тактоўна. Такая крытыка, паўтаруся, гэта нармальна. Кепска, калі ствaралася групаўшчына, калі пэўная група людзей па нейкіх сваіх карыслівых інтарэсах пачынала траўлю таго ці іншага мастака.

Цяпер няма ні таго, ні другога. Хоць крычы, хоць спявай. Нікому да цябе няма справы. Мая майстэрня заўсёды адчыненая. Заходзьце, калі ласка, глядзіце, выказвайце сваю думку. Не заходзяць — ні калегі, ні студэнты. А мяне ў акадэмію ўжо не запрашаюць. Вось і застаюся сам-насам са сваімі карцінамі…

Між тым, сустрэчы, размовы, дыскусіі з калегамі неабходны. Гэта, калі хочаце, нават карысна — паглядзець што робяць іншыя, параўнаць, павучыцца. А пасля і абмеркаваць. Але размова пра мастацтва павінна быць шырокая. Мы з Міхаілам Савіцкім, калі ў свой час сустракаліся, то менш за ўсё гаварылі пра канкрэтныя карціны і нават не заўсёды пра мастацтва. Часцей за ўсё гаворка ішла аб розных грамадскіх, агульначалавечых праблемах. І гэта дазваляла нам удакладняць свае пазіцыі па той ці іншай праблеме, паглыбляла наша разуменне працэсаў, што адбываюцца ў сучаснай рэчаіснасці.

**— Ёсць і процілеглая думка…**

— Ведаю, ведаю. Але гэта памылковая думка. Той, хто сцвярджае, што ён піша для самога сябе, а на меркаванне астатніх яму пляваць, — хітруе. Значыць, ён не ўпэўнены ў сабе, нечага баіцца. Калі ж людзі твае работы не разумеюць, не цэняць — насамрэч мастаку ад гэтага вельмі кепска. Гэта яшчэ горш, чым крытыкуюць. Інтарэс мастака ў тым, каб быць карысным людзям. Калі гэтага няма, то няма і мастацтва. Вось у чым справа.

**— Аднойчы сярод калег вы сказалі такую фразу: «Вось чалавек — па сутнасці сваёй нягоднік, а карціну напісаў добрую». Ці магчыма такое? Хіба ж сумяшчальныя зладзейства і геній?**

— Сумяшчальныя. Ёсць асобная ўдача, звязаная з часовым настроем, з нейкім душэўным парывам. Але ў цэлым у кепскага чалавека ўся творчасць не можа быць пазітыўнай. Яму перашкаджае злы погляд на ўсё навакольнае. А без любві нічога добрага не зробіш.

**— Леанід Дзмітрыевіч, вы працуеце ў мастацтве ўжо больш за шэсцьдзясят гадоў. Набыты вялікі прафесійны вопыт, сфарміраваліся, напэўна, нейкія мастакоўскія навыкі, прыёмы. Скажыце, калі ласка, вам гэты вопыт дамапагае ці перашкаджае? Пачынаючы новую карціну, вы абапіраецеся на свае навыкі ці ўсё ж кожны раз пачынаеце з чыстага ліста?**

— Вопыт бывае парушае бачанне навакольнага свету. А гэтае бачанне заўсёды павінна быць свежым, новым. Сёння яно такое, а заўтра ўжо іншае. Я не пішу работы, адарваныя ад жыцця. Тое, што я бачу, я асэнсоўваю, у мяне на гэта ёсць свой погляд, свае адносіны.

Так што гаварыць, нібыта я ўжо напрацаваў нейкія прыёмы, не магу. Па-мойму, іх і нельга напрацоўваць, інакш гэта будуць штампы. Дай бог, перадаць тое, што я адчуваю і каб яно было падобнае на тое, што я бачу.

## Вера, любоў, надзея

**— Як вядома, у станаўленні чалавека, вызначэнні яго схільнасцей, яго жыццёвай дарогі, вялікае значэнне мае сямейнае выхаванне, сямейныя традыцыі. На пачатку нашай размовы мы ўжо крыху закраналі гэтую тэму. Але хацелася б, каб расказалі пра сваіх продкаў больш падрабязна.**

— Мне пашанцавала з бацькамі. Ніякага выхавальнага ціску на мяне з іх боку не было. Ніколі сілком не прымушалі рабіць тое, што мне было не па душы. Адносіліся да ўсіх маіх захапленняў цалкам сур’ёзна. За што я асабліва ўдзячны бацькам, дык гэта за тое, што прывучылі да галоўнага ў жыцці: да працы і чалавечай прыстойнасці. Яшчэ хлапчуком я навучыўся, напрыклад, распальваць печ, пілаваць дровы, запрагаць каня.

**— Пачатак вашай творчай біяграфіі складваўся даволі драматычна. Некаторыя вашы, цяпер знакамітыя карціны альбо рэзка, несправядліва крытыкаваліся, альбо гадамі замоўчваліся. У чым тут прычына?**

— Банальная рэч — зайздрасць. На жаль, яна заўсёды была, ёсць і, мусіць, нязводна будзе ў творчым асяроддзі. Не ўсе ж людзі могуць нармальна перанесці поспех калегі. І пачынаюцца інтрыгі, плёткі, падкопы. Я стараўся адносіцца да гэтага больш-менш спакойна, але ўсё роўна кожны раз было прыкра, горка, балюча.

**— А як прайшоў ваш прыём у Саюз мастакоў?**

— Нармальна. Рэкамендацыі мне далі аўтарытэтныя мастакі — Міхаіл Савіцкі, Альгерд Малішэўскі і Аляксандра Паслядовіч. Пры тайным галасаванні «супраць» аказалася толькі некалькі галасоў.

**— Я чаму запытаўся аб прыёме? Таму што тайнае галасаванне — гэта ўсё ж самы яскравы і самы аб’ектыўны паказчык адносін да вас вашых калег.**

— Так яно і ёсць. Стаўшы членам саюза, мне ў многім стала лягчэй і камфортней працаваць. Я зразумеў, што ў мяне «дабрадзеяў» не так ужо і шмат і што не яны вызначаюць надвор’е ў нашым творчым доме.

**— Адзін час вакол творчых саюзаў вяліся даволі бурныя спрэчкі. Адны сцвярджалі, што гэта хітрая сталінская прыдумка, каб трымаць творцаў у цуглях, каб прасцей было імі кіраваць. Другія не згаджаліся, казалі, што прафесійная садружнасць неабходна, каб абараняць правы мастакоў, дапамагаць ім вырашаць матэрыяльныя праблемы і наогул часцей сустракацца адзін з адным, калектыўна абмяркоўваць творчыя пытанні. А што думаеце на гэты конт вы?**

— Я думаю, што пры ўсіх недахопах і выдатках, саюз патрэбен. Чалавек пасля заканчэння акадэміі павінен быць у творчым асяроддзі — расці, набірацца вопыту. І адчуваць побач плячо старэйшых таварышаў вельмі важна.

Ну і само сабой — рашэнне матэрыяльных праблем, пра якія вы згадалі, — таксама не другарадная справа. Асабіста я, дзякуючы клопатам саюза, атрымаў і кватэру, і майстэрню, меў адчувальную дапамогу ў арганізацыі персанальных выставак

**— Дарэчы, пра выстаўкі. Дасведчаныя людзі падлічылі, што іх за час вашай творчай дзейнасці было больш за дваццаць пяць.**

— Магчыма. Я не падлічваў. Скажу, што толькі ў год майго дзевяностагоддзя я зрабіў чатыры персанальныя выстаўкі — у Нацыянальным мастацкім музеі, у галерэі Савіцкага, у сваёй уласнай галерэі на праспекце Ракасоўскага ў Мінску і ў Санкт-Пецярбургу.

**— Акрамя прэстыжу, што яшчэ дае мастаку персанальная выстаўка?**

— Магчыма, не столькі мастаку, колькі гледачу. Яна дае магчымасць убачыць аўтарскую мастацкую палітру цэласнай, аб'ёмнай, больш поўна, аб'ектыўна ацаніць творчыя дасягненні, пошукі, недахопы.

**— Пасля сваіх выставак вы цікавіцеся ўражаннямі, водгукамі наведвальнікаў?**

— Абавязкова. Заўсёды ўважліва вывучаю кнігу водгукаў, чытаю рэцэнзіі ў друку. Гэта неабходна рабіць, каб ведаць, што людзі прымаюць і што не прымаюць і пры неабходнасці карэкціраваць свае пазіцыі.

**— Вы ўпамянулі імянную мастацкую галерэю ў Мінску. Яна існуе ўжо больш за дзесяць гадоў. А што было першапрычынаю стварэння такой галерэі?**

— Шчыра скажу, не помню ўжо, як гэта ідэя ўзнікла. Напэўна, яна па сваёй сутнасці з'явілася заканамерным працягам майго жыцця: аднойчы я вырашыў падараваць мінчанам шэсцьдзясят сваіх карцін. Справа ў тым, што ў Мінску пастаянна дзеючых галерэй мала, і беларускія мастакі знаходзяцца як бы па-за ўвагай гледачоў, асабліва ў мікрараёнах. А між тым нашаму сучаснаму выяўленчаму мастацтву ёсць што паказаць, ёсць чым ганарыцца.

Гарадское кіраўніцтва прыняло мой дарунак з удзячнасцю і вырашыла на праспекце Ракасоўскага адкрыць пастаяна дзеючую галерэю маіх твораў. Але там выстаўляюцца не толькі мае творы. У адным з залаў арганізуюцца зменныя выстаўкі маіх калег. Акрамя таго, рэгулярна праводзяцца музычныя і паэтычныя вечары, відэапрагляды, адкрытыя лекцыі і прафесійныя семінары вядомых культуролагаў, мастацтвазнаўцаў і крытыкаў.

Мне хочацца, каб гэтая галерэя была цікавай перш за ўсё для простага наведвальніка. Па сутнасці, усё павінна рабіцца для чалавека, дзеля якога, па вялікім рахунку, і існуе мастацтва. Калі карціны пыляцца на стэлажах у майстэрні, як беспрытульныя, нікому не патрэбныя дзеці, альбо дзесяцігоддзямі знаходзяцца ў сховішчах музеяў, не сутыкаючыся з жывым жыццём, — гэта не робіць гонару ні мастаку, ні нацыянальнай культуры.

**— За свае гады вы спазналі шмат усяго рознага — і прыемнага, і непрыемнага, але, дзякуй богу, шчасліва дажылі да шаноўнага ўзросту. Падзяліцеся, калі ласка, сакрэтамі даўгалецця.**

— Магчыма, я вас расчарую, але ніколі не ставіў перад сабой такой задачы — пражыць доўга. Мне хацелася іншага — многае зрабіць, паспець напісаць тое, што задумана. Таму я заўсёды многа працаваў. Падымаўся ў 7 гадзін раніцы і пасля невялікай размінкі, снедання ішоў у майстэрню. Бывала, ля мальберта прастойваў па 8—10 гадзін.

**— Што вам дапамагала вытрымліваць такія фізічныя нагрузкі?**

— Спорт. Ведаеце, стойку я лёгка рабіў практычна да шасцідзесяці гадоў. Акрамя таго вельмі любіў вячэрнія праходкі з кім-небудзь з калег. Цяпер ужо не хаджу — падводзяць ногі.

**— А як наконт здаровага ладу жыцця?**

— Жыў як любы нармальны чалавек: і курыў, і чаркі не цураўся. Праўда, гадоў ужо трыццаць, як з усім гэтым завязаў. Хаця кілішак добрай гарэлкі і цяпер яшчэ магу ўзяць.

**— Дыету захоўваеце?**

— Апошнія гады даводзіцца захоўваць. Дзякуючы гэтаму адчуваю сябе нармальна. Ведаеце, калі гаварыць пра даўгалецце, то галоўны сакрэт яго, на мой погляд, у дзвюх рэчах — любімая праца і надзейная, клапатлівая сям'я.

**— Добра, што вы ўзгадалі пра сям'ю. Мне няёмка было пытацца аб гэтым, ведаючы, што ў вас тут быў вельмі няпросты перыяд.**

— Няпросты і, можна сказаць, банальны. Будучы бацькам дзвюх дачок, я закахаўся, нібы юнак. Да нас у мастацкае вучылішча, дзе я тады працаваў, восенню 1963 года прыйшла маладая выкладчыца фізікі Святлана Шымкевіч. Дык вось, калі ёсць каханне з першага погляду, то гэта якраз наш выпадак.

І Святлана, і я адразу адчулі ўзаемныя пачуцці куды глыбейшыя, чым простая сімпатыя.

Складанасць сітуацыі заключалася ў тым, што не толькі я быў звязаны сям'ёй, але і Святлана. Аднак у яе сям'і нешта не зладзілася і яна разам з маленькім сынам перайшла жыць да маці.

Недзе з год мы сустракаліся, не маючы сур'ёзных намераў, але чым далей, тым больш разумелі, што мы ўжо адно без аднаго жыць не можам. Трэба было рабіць рашучы, але няпросты крок. Тым больш, што нашыя патаемныя спатканні сталі вядомыя ў вучылішчы, нас абвінавацілі ў «амаралцы» і павялі з намі рашучую барацьбу. Я вымушаны быў напісаць заяву і «па ўласным жаданні» пакінуць вучылішча. Святлану, праўда, з працы не звольнілі, але вызвалілі ад класнага кіраўніцтва.

Пачалося самае непрыемнае — разводы. У Святланы гэта адбылося чыста фармальна, а мне прыйшлося рэзаць па жывым. Абедзве дачкі (старэйшай было ўжо шаснаццаць, малодшай — восем) успрынялі наш развод як сапраўдную драму. На шчасце, мая першая жонка, Галіна Іванаўна, аказалася жанчынай мудрай, яна зрабіла ўсё, каб мы не сапсавалі адносіны.

Мы са Святланай Мікалаеўнай жылі спачатку ў майстэрні, дзе, як вядома, няма нармальных бытавых зручнасцей. Пасля знялі прыватную кватэру, але і там быў не мёд. І толькі атрымаўшы праз некалькі гадоў уласнае жыллё, мы нарэшце адчулі волю і самастойнасць, сапраўднае шчасце сямейнага жыцця. І гэтае адчуванне, дзякаваць богу, доўжыцца ўжо амаль паўвека. Хутка будзем спраўляць залатое вяселле.

— **Як склаўся лёс вашых дзяцей?**

— Нармальна. Старэйшая дачка, Рыта, працуе педагогам у Акадэміі мастацтваў. Малодшая, Люда, — вольны мастак. Не толькі я, але і мае калегі кажуць, што яна неблагі жывапісец. Трэцяя дачка, Насця, скончыла мастацкае вучылішча і працуе ў касметычным кабінеце, мае сваю пастаянную кліентуру. Сын Гена абраў тэхнічную спецыяльнасць, займаецца аўтабізнесам. Ёсць унукі, трое праўнукаў. З усімі — добрыя, сяброўскія адносіны. І я бываю ў іх, і яны прыходзяць да мяне ў майстэрню.

Мая сям'я — гэта мой самы надзейны тыл, маё духоўнае апірышча і мая жыццядайная крыніца, з якой я чэрпаю і сваю творчую энергію, і маральныя сілы.

**— Леанід Дзмітрыевіч, з вышыні пражытых гадоў як бы вы вызначылі сэнс чалавечага жыцця?**

— Чалавек прыходзіць у гэты свет, каб зрабіць яго крыху лепшым. Для гэтага ён павінен прыкладаць шмат намаганняў. Не займацца імітацыяй бурнай дзейнасці, а рабіць справу сур'ёзна, шчыра. Пазіцыя: «хай зробіць нехта іншы, а я пасля» альбо «мая хата з краю — я нічога не знаю» — гэта філасофія трутня. У сапраўднага чалавека шчырасць павінна быць заўсёды і ва ўсім. Вось у чым справа.

**— Шчасце, у чым яно?**

— Шчасце — у веры. У веры да іншага чалавека.

**— Нечаканы адказ.**

— Я патлумачу. Ёсць адзіны на свеце чалавек, якога ты кахаеш, якому бязмежна верыш і які адказвае табе такімі ж пачуццямі. Вось гэтая вера, гэтая шчырасць і адкрытасць і ёсць самае вялікае шчасце.

**— Вы пражылі багатае, насычанае жыццё, у якім было столькі ўсяго цікавага, неардынарнага, грамадска значнага. Няма жадання пакласці свае ўспаміны на паперу, як гэта зрабілі ў свой час Заір Азгур, Віктар Грамыка і іншыя мастакі?**

— Для гэтага патрэбен не толькі час, але і ўменне пісаць. Я ж калі пачынаю пісаць, адразу пачынаю думаць пра іншае. Таму пісьменнік з мяне ніколі не атрымаецца.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЦМОК, РУСАЛКА І ШМАТ ШТО ІНШАЕ

## Фальклор у метале

Віцебшчына, як вядома, край азёрны. Лепельшчына — у не меншай ступені. Звыш 120 вялікіх і малых натуральных вадаёмаў знаходзіцца ў гэтым кутку Бацькаўшчыны. Ды Лепельскае возера не толькі самае вялікае ў раёне, але па працягласці сваёй берагавой лініі — 39,65 кіламетраў — займае трэцяе месца ў Беларусі. Пасля возера Нешчарда і знакамітай Нарачы. Папраўдзе кажучы, Лепельскае нават не адно возера, а цэлых тры вадаёмы, злучаныя паміж сабой пралівамі. Кожнае з гэтых азёр мае сваё найменне. Паўночнае называецца Кусцінскае. Самае ж вялікае па плошчы Гарадское возера, а Белае возера — найбольш глыбакаводнае. З Гарадскім яно злучаецца вузкім і мелкаводным пралівам і каля вёскі Новае Лядна дасягае глыбіні 33,7 м. Сярэдняя ж глыбіня вагаецца ў межах 13—15 м. У Лепельскае возера ўпадаюць рэкі Эса і Зеха, а таксама некалькі невялікіх ручаёў. Выцякае з яго толькі адна рака — Ула. Яна — левы прыток Заходняй Дзвіны.

Канечне, ужо гэтым Лепельскае возера па-свойму адметнае. Ёсць, праўда, і тое, чаго больш нідзе не напаткаеш. Дакладней, было. Не здагадваецеся, што маю на ўвазе? А вы «напружце» сваю памяць. Успомніце раман Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Здзіўляецеся, пры чым тут Караткевіч? А пры тым, што ў самым пачатку гэтага рамана, у першым яго раздзеле «Падзенне агнявога змія», акурат і гаворыцца пра неверагоднае, што адбылося ў Лепельскім возеры ў XVI стагоддзі.

То зазірнём у раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»: «…Год той быў страшны год. І дурному было ясна, што абяцае ён сатанінскія вялікія беды. Па ўсёй зямлі беларускай чынілася такое, чаго ні раней, ні потым не бачылі нават відалыя людзі. […] Не толькі людзям, а і звярам, і гадам, і пачварам падводным даводзілася ў той год цяжка. Якраз тады выдахлі ў Сенненскіх азёрах цмокі […]» Ды каб жа толькі ў Сенненскіх?! Падобнае адбылося і ў Лепельскім возеры: «За адну ноч на водмелях тых яшчураў, тых цмокаў знайшлі сорак, ды палова таго хісталася на фалях, як плаваючыя выспы. Ды другой раніцай знайшлі яшчэ трохі менш паловы таго, што выдахла ў першую ноч.

А яшчэ праз ноч усплыў самы вялікі. Адзін. […]

Выглядам той цмок быў, як звер фока (цюлень. — тлумачэнне *У. К.*), такі самы льсняны, у складках, толькі без поўсці. І шэры, як фока. Але даўжэйшы за яго куды. Бо даўжыні ў ім было сем з паловай лагожаскіх (лагойскіх. — *У. К.*) сажняў. […]

Тулава мелі тыя цмокі шырокае і трохі пляскатае, і мелі яны плаўнікі — не такія, як у рыбы, а такія таксама, як у фокі, таўстамясыя, шырокія, але не дужа доўгія. Шыю мелі, па тулаву, дык тонкую і надта доўгую. А на шыі сядзела галава, адначасова падобная і на галаву змяі і на галаву лані».

То, як бачым, даўно было. Таму праверыць, дзе праўда, а дзе… Ды не мана, а праяўленнне багатай людской фантазіі, цяпер высветліць немагчы-

ма. Толькі застаецца паверыць на слова. У Лепелі паверылі, таму і з'явіўся на беразе возера Цмок. У выглядзе помніка. Самы што ні ёсць звычайны. У тым сэнсе, што надта падобны на тых цмокаў, пра якіх расказваюць народныя паданні і легенды. З адной хіба розніцай: выглядае ён зусім не злосным. Ніякая не пачвара, а гэткі добры, рахманы. Такім бачыцца, які ніколі не напалохае. Наадварот, прывабіць да сябе. Поруч з ім нават захочацца сфатаграфавацца. А то і проста пастаяць.

Адным з ініцыятараў установкі Цмока ў Лепелі стаў мясцовы краязнаўца Уладзімір Шушкевіч. Такая думка ў яго з'явілася пасля таго, як даведаўся, што ў Бабруйску паставілі помнік Шуру Балаганаву. Падумаў-паразважаў: «А чым лепяльчане горшыя за бабруйчан? Бабруйск у знакамітым рамане Ільфа і Пятрова толькі адным радком згадваецца, а яны ўзялі і ўвекавечылі ў сваім горадзе Шуру Балаганава. А пра Цмока столькі вядома! І Караткевіч пра яго пісаў, і ў фальклоры цмокі «водзяцца». Адным словам, трэба дзейнічаць!»

Задумку Шушкевіча падтрымаў старшыня Лепельскага райвыканкама Барыс Яфрэмаў. Увасобіць гэтую ідэю ў помніку ўзяўся скульптар Леў Аганаў. Дарэчы, гэта дзякуючы яму ў Лепелі з'явіліся помнікі Льву Сапегу, пятачку (маюцца на ўвазе пяць капеек), Русалцы. Пра паважнае стаўленне лепяльчан да гісторыі сведчаць і замацаваныя на муры ўздоўж касцёла св. Казіміра прыгожа аздобленыя фатаграфічныя выявы з мінулага Лепельшчыны. Устаноўцы ж помніка Цмоку паспрыяла і праграма Еўрасаюза «Вада, прырода і людзі ў знікаючым ландшафце». Шмат што знікае, а нешта ўсплывае. Як гэты лепельскі Цмок, які стаў у нашай краіне першым і пакуль што адзіным скульптурным увасабленнем аднаго з адметных персанажаў нацыянальнага фальклору. У лепяльчан ёсць упэўненасць, што ён будзе сапраўдным брэндам іхняга цудоўнага горада з гэткай адметнай і багатай гісторыяй.

## Адкуль жа такая назва?

Аднак спачатку пра саму назву Лепель. Адкуль яна пайшла, што пакладзена ў аснову такога наймення. На жаль, нічога пэўнага наконт гэтага сказаць немагчыма. Існуе, праўда, некалькі версій, кожная з якіх дае сваё тлумачэнне. Напрыклад, аўтар «Краткого топонимического словаря Белоруссии» Вадзім Жучкевіч меркаваў, што ў аснове назвы Лепель ляжыць слова «лепей», якое ў дадзеным выпадку ўжыта ў сэнсе «лепшы, прыгожы». Хоць, магчыма, вытворным было слова «ляпіць», якое, як няцяжка здагадацца, сведчыць пра тое, што ў гэтых мясцінах, а калі канкрэтней, то ў самім паселішчы некалі атрымала развіццё ганчарнае рамяство.

Вядомы ж гісторык прафесар Адэскага ўніверсітэта А. Качубінскі яшчэ ў канцы XIX стагоддзя выказаў іншую думку. Ён лічыў, што слова «Лепель» паходзіць ад латышскага «ліепа», што азначае «ліпа». Маўляў, спачатку было возера, якое знаходзілася сярод ліпавых лясоў. А ўжо ад ягонай назвы і пайшло найменне паселішча, што з'явілася ў гэтых мясцінах.

Праўда, не трэба забываць і пра тое, што ёсць старажытнабалтыйскае слова «лепель», якое ўзнікла яшчэ ў другім тысячагоддзі да н. э. Пазней ад яго пайшлі латышскае слова «лепе» і літоўскае «лепеле». Так называюцца ў гэтых мовах белыя гарлачыкі. А такіх раслін на мелкаводдзі Лепельскага возера можна напаткаць шмат і па сённяшні дзень.

Існуе таксама версія, паводле якой старажытная аснова слова «лепель» абазначае «альховы». Што ж, альхоўніку ў тамашніх мясцінах таксама стае.

Калі ж адштурхоўвацца ад легенды, што вытлумачвае паходжанне Лепеля, то як быццам даўным-даўно завітаў на Лепельшчыну нейкі знакаміты пада-

рожнік. «О, як тут пышна!» — усклікнуў ён у захапленні. Так і з’явілася назва паселішча Пышна. Паехаў далей, зноў не мог схаваць свайго замілавання: «А тут яшчэ лепей!» Паселішча, што ўзнікла на гэтым месцы, і пачалі называць Лепелем. У іншым варыянце згаданай легенды лепельскім краем праязджала сама царыца Кацярына. Уражанні ў яе былі гэткія ж, як і ў таго безыменнага падарожніка.

## Гэта ўсё гісторыя

Адно можна сказаць пэўна: першая пісьмовая згадка пра Лепель адносіцца да 1439 года, калі сын вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча Міхаіл падарыў яго віцебскаму рымска-каталіцкаму касцёлу. Першыя ж людзі ў гэтых мясцінах з’явіліся яшчэ ў 9—5 тысячагоддзях да н. э. Захаваліся стаянкі больш позняга перыяду. Тую з іх, што знаходзіцца на адным з астравоў Лепельскага возера (цяпер ён заліты вадой) і адносіцца да эпохі неаліту (IV тысячагоддзе да н. э. — пачатак II тысячагоддзя да н. э.), у 30-я гады мінулага стагоддзя даследаваў археолаг К. Палікарповіч. Яшчэ адно паселішча было адкрыта ў вусці ракі Эсы. Некалькі стаянак знойдзена і на паўднёвым беразе возера Окана.

Пасля ўзвышэння Полацка тэрыторыя сучаснага Лепельскага раёна ўваходзіла ў склад Полацкага княства. Сёй-той з навукоўцаў мяркуе, што праз гэтыя землі магло праходзіць адно з адгалінаванняў знакамітага шляху «з варагаў у грэкі». Яно выглядала наступным чынам: рака Заходняя Дзвіна — рака Ула — Лепельскае возера — рака Эса — рака Бярэшча — возера Окана — волак — возера Плаўна — возера Манец — рака Сергуч — рака Бярэзіна — рака Днепр. А чаму б і не. Выгода для перамяшчэння грузаў відавочная. Ва ўсякім разе пра гэты шлях успомнілі, калі тэрыторыя сённяшняй Беларусі ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Тады пачалі складаць праекты злучэння рэк і азёр сістэмы Бярэзіны і Улы. Але задума не ажыццявілася. Ды не забылася. Пра гэтыя намеры ўспомнілі, калі Лепельшчына ўжо ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. З’явіўся ўказ імператара наладзіць «водныя зносіны паміж рэкамі Дняпром і Заходняй Дзвіной пры дапамозе Бярэзіны». За выкананне гэтага ўказа ўзяліся сур’ёзна. Будаўніцтва пачалі ў 1797 годзе і ў асноўным завяршылі ў 1805-м. Хоць у наступныя гады работы па ўдасканаленні гэтай воднай сістэмы працягваліся. Тым самым з’явіўся як бы новы варыянт шляху «з варагаў у грэкі».

Гэта, канечне, адметнасць Лепельшчыны. У астатнім жа часта адбывалася тое, што і паўсюдна на Беларусі. Хіба што з пэўнай карэкціроўкай на мясцовыя асаблівасці. А гэта, калі пазначаць пункцірна, — Айчынная вайна 1812 года, паўстанні 1831-га і 1863—1864 гадоў, рэвалюцыі, Грамадзянская вайна. Будаўніцтва новага жыцця з небывалымі поспехамі, але, як вядома, і з тым негатыўным, што каштавала загубленых жыццяў ні ў чым не вінаватых людзей. Вялікая Айчынная вайна, калі лепельцы таксама, як маглі, набліжалі светлы дзень Вялікай Перамогі. Пасляваеннае аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі і зноў натхнёная праца, каб усё было не горш, чым у іншых раёнах, а шмат у чым і лепш. Пра гэта можна гаварыць шмат, але пра гэта ўжо і сказана, у чым можна ўпэўніцца, уважліва пазнаёміўшыся з гісторыка-дакументальнай хронікай Лепельскага раёна «Памяць», якую выпусціла выдавецтва «Беларусь» у 1999 годзе. Але ніколі не будзе лішнім сказаць пра тое, што асабліва вылучае гэты раён, у пэўнай ступені з’яўляючыся і ягонай візітоўкай.

## Што можа расказаць… балотнік

Лепельшчына не толькі азёрамі багатая, але і лясамі. Увогуле, яна вылучаецца той прыроднай нерушавасцю, што напаткаеш далёка не ўсюды. Асабліва гэта дае знаць пра сябе ў Бярэзінскім дзяржаўным біясферным запаведніку, цэнтральная сядзіба яго размяшчаецца ў пасёлку Домжарыцы Лепельскага раёна, а гэта ўсяго тры кіламетры ад шашы Мінск—Віцебск. Ад самога стольнага Мінска, калі падыходзіць да ўсяго з сучаснымі меркамі, адносна недалёка. І разам з тым адчуванне такое, што ў прыродным развіцці спыніўся сам час. А што ўжо казаць пра першую чвэрць мінулага стагоддзя, калі было вырашана ўзяць гэтыя запаведныя мясціны пад ахову дзяржавы?! Тады ўвогуле тут па сутнасці не ступала нага чалавека. Таму ў 1925 годзе Савет Народных Камісараў БССР і прыняў пастанову аб стварэнні запаведніка.

90 гадоў — узрост паважаны. Нават у гістарычным вымярэнні. А ў каго жыццё бывае простым? Запаведнікі ў гэтым сэнсе не выключэнне. Тым больш — Бярэзінскі біясферны. Усяго давялося перажыць яму. Гады станаўлення з усімі цяжкасцямі. Калі неставала вопытных кадраў, а тыя, каго знаходзілі, былі іншага профілю, таму іх даводзілася спешна нават не перавучваць, а вучыць. Адсутнічала належная матэрыяльна-тэхнічная база, а фінансаванне часам было далёкім ад жаданага. Аднак выстаялі. Аднаго не ведалі, што хутка на ўсім гэтым будзе пастаўлены крыж. З чорнай фашысцкай свастыкай. Ды ўсё адно верылася ў лепшае. Як і верылася ў тое, што пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў дзяржава не пакіне запаведнік сам-насам з яго праблемамі.

Аптымісты не памыліліся ў сваіх спадзяваннях. Ужо ў ліпені 1944 года беларускі ўрад прыняў спецыяльную пастанову пра аднаўленне Бярэзінскага запаведніка. Спатрэбілася ўсяго нейкія шэсць гадоў, каб ён зноў запрацаваў ва ўсю сілу. Да 1950 года былі зноў створаныя музей і бабровая ферма, пачалі распрацоўвацца метады клетачнага развядзення гэтых каштоўных звяроў. Калектыў жыў новымі планамі. Але… Удар быў нанесены адтуль, адкуль яго не маглі чакаць. Знайшліся ў вышэйшых эшалонах улады тыя, хто палічыў далейшае існаванне запаведніка немэтазгодным, і ў 1951 годзе на яго тэрыторыі стварылі паляўнічы заказнік рэспубліканскага значэння. На шчасце, праз некалькі гадоў адумаліся. 29 красавіка 1958 года Савет Народных Камісараў БССР прыняў новую пастанову — «Аб мерах паляпшэння лясной гаспадаркі і рацыянальнага выкарыстання лесасыравінных рэсурсаў рэспублікі». Бярэзінскі запаведнік быў адноўлены, а праз шэсць гадоў да яго далучылі землі двух калгасаў, што знаходзіліся на ягонай тэрыторыі.

Можна шмат гаварыць пра тое, што ўяўляе сабой гэты «эталон прыроды», а менавіта так называюць яго навукоўцы. І не без падстаў, бо гэта яскравы прыклад таму, як ашчадна неабходна ставіцца да навакольнага асяроддзя, калі літаральна на пяткі кожнаму наступае тэхнічны прагрэс. Трэба працаваць так, каб гэта было на карысць прыродзе, але не на шкоду чалавеку. Ды нездарма кажуць: лепш адзін раз убачыць, чым некалькі разоў пачуць. Зрабіць гэта не так і складана, калі пабываць у Бярэзінскім запаведніку на экскурсіі. Турыстычныя туры рэгулярна арганізоўваюцца аўтобусам і з Мінска.

Гэтыя туры прадугледжваюць і наведванне Дома экалагічнай асветы, Дома прыроды. Пасля ж чакаецца экскурсія па экалагічнай сцяжыне і нават сустрэча… з загадкавым Балотнікам. У вальерах жа можна ўбачыць некаторых насельнікаў гэтых запаведных мясцін. Некаторыя з дзікіх жывёл вольна адчуваюць сябе толькі ў запаведніку. Музей жа прыроды — на тое ён і музей, каб абавязкова нечым здзівіць. Канечне, гэтае здзіўленне выклікаюць і асобныя яго экспанаты, сярод якіх нямала ўнікальных.

Хараство лепельскай прыроды ва ўсёй яе красе можна адчуць, калі пакарыстацца турыстычным маршрутам «Край жоўтых гарлачыкаў і сівых валуноў».

Маршрут гэты найперш для тых, хто не толькі прыроду любіць, але і неабыякавы да гісторыі свайго краю, цікавіцца нацыянальнай культурай, этнаграфіяй. Працягласць гэтага маршрута — 155 км. За выключэннем воднай часткі яго, што праходзіць па рацэ Эса, а гэта каля 20 км, перамяшчэнне на веласіпедах.

## Словам шчырым, улюбёным

Прырода Лепельскага краю радавала ва ўсе часы не толькі мясцовых жыхароў, але і ўсіх, каму даводзілася тут бываць. Пра гэта сведчыць і тое, што Лепельшчыне прысвечана нямала паэтычных радкоў. У тым ліку і мясцовым азёрам. Найперш Лепельскаму возеру.

Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка адзін са сваіх вершаў назваў «Над Лепельскім возерам»:

Вецер з поўначы прыносіў песні,
Надазёрны разбудзіўшы гул.
Хвалі шэрыя збіваліся так цесна,
Як авечы статак на лугу.

Потым уздымаліся, як горы,
І грудзямі бераг іх прымаў —
Быццам хто кавалак кінуў мора
Гэтым месцам, людзям для забаў.

Бачыў я, як човен шлях свой значыў,
Вецер ветразі да долу гнуў…
І здавалася, што човен скача,
Як дэльфін, згінаючы сіну.

У яшчэ адным са сваіх вершаў Пятрусь Усцінавіч прызнаваўся: «Хоць люблю свае Ушачы, // Лепель я люблю не меней» і тлумачыў, у чым прычына такога замілавання: «Лепля, Лепель, // Няма лепей, // Як ты, горада малога. // Не таму, што ты мне блізкі, // А таму, што я не бачыў // Больш прыгожага такога. // Ты ў бярозах, // Ты і ў соснах, // Між іх постацяў выносных. // У азёрах, што ў каралях, // З іх адно завецца Проша, // Гэта значыць, калі ласка, // Паспрабуй, як песцяць хвалі».

Уладзімір Дубоўка свае пачуцці выказаў па-свойму: «Прыгажэй і лепей // за цябе, наш Лепель, // пэўна, ёсць нямала гарадоў, // ды няма такога // сэрцу дарагога // для людзей тваіх і для сяброў». Народны ж паэт Беларусі Рыгор Барадулін як майстар яркіх паэтычных дэталяў і насычаных вобразаў здолеў і гэтым разам прамовіць па-свойму непаўторна, а згадваючы Лепель, не забыўся сказаць і пра іншыя адметныя мясціны:

Зноў
    даўні мой сусед Браслаў,
Як колісь, да мяне прыслаў
Сваіх ганцоў чарнагаловых
За дапамогай Крыгалому.

Я сонны ранак раскатурхаў.
Устала сонца — вочы слепіць.
У рог туровы трубіць Тураў,
Касу-літоўку клепіць Лепель.

Я знаю радасці цану,
Вучуся шчодрасці ў неба.
Ледзь возьмецца на дзень —
Цягну
        са свежым словам цяжкі невад.

Думкі Юрася Свіркі — гэта тое, што на душы, бадай, у кожнага, закаханага і ў саму Лепельшчыну, і ў яе раённую сталіцу: «Цябе не страшыць, Лепель, даль вякоў, // Ты з бегам часу ў суладнай згодзе. // Глядзіш у вечнасць, горад крывічоў, // Распалавініўшы тысячагоддзе. // Ты не старэеш, вечна малады, // Бо ля вады жывой, азёрнай блізка. // Такім і заставайся назаўжды, // Брат меншы // Полацка, // і Турава, // і Мінска». А Станіслаў Шушкевіч свой верш «Я сёння зноў у Лепелі» прысвяціў памяці паэта Тодара Кляшторнага. У пачатаку твора ён прыгадаў, як разам з сябрам хацеў наведацца ў яго родныя мясціны: «Тады над ціхім Лепелем // Спускаўся цёмны вечар. // Мы думалі, што лепей нам // Хутчэй ісці ў Парэчча. // Маўчала, спала возера, // І мы цікаўным позіркам // Удаля паглядалі. // Як здані, над дарогаю // Слупы драты цягнулі. // Назаўтра слота, лужыны… // Укрылі хмары далі». Канечне, пасля гэтага стала не да таго, каб збірацца ў дарогу. Паэт, канстатуючы гэта, звяртаецца да Кляшторнага як да жывога, нібы нагадвае яму пра тое, пра што не можа забыцца: «Так у Парэччы, дружа мой, // З табой не пабывалі». Пасля гэтага масток з мінулага адразу перакідваецца ў дзень чарговага наведвання Лепеля:

Я сёння зноў у Лепелі.
Зазімак. Ціха. Раніца.
І востраў з небам злеплены
Лаўжом счарнелым цягнецца.
Я зноў цікаўным позіркам
Гляджу ў бок Парэчча.
Бушуе, плешча возера,
Нагадвае сустрэчы.

Тодар Кляшторны — адзін са знакамітых людзей, чые карані на Лепельшчыне. Пра некаторых з іх хочацца расказаць падрабязней.

## Асабісты вораг Мураўёва-вешальніка

«Мінулае незваротна, але... калі б гэта зрабілася без маёй волі, абставіны гэтыя паўтарыліся, я б зноў зрабіў так, як зрабіў…» — гэтага прызнання Іасафата Агрызкі дастаткова, каб упэўніцца ў тым, што ён усвядомлена выбраў свой жыццёвы шлях — шлях рэвалюцыянера, выдаўца, журналіста. Родам Агрызка з Лепельскага павета. Нарадзіўся ў 1826 годзе ў небагатай шляхетнай сям’і. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, а ў 1837 годзе паступіў у Лепельскае павятовае вучылішча, пасля чацвёртага класа быў пераведзены ў Мінскую гімназію. У 1844 годзе пры заканчэнні яе за цудоўнае веданне рускай мовы яго ўдастоілі права на атрыманне чыну чыноўніка пры паступленні на цывільную службу.

Ды вырашыў працягваць адукацыю, паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Паколькі асабліва разлічваць на дапамогу бацькоў не даводзілася, падзарабляў прыватнымі ўрокамі. А яшчэ выкладаў у вучылішчы правазнаўства і ў школе гвардзейскіх падпрапаршчыкаў. Вольнага часу нервавала, але гэта не было на шкоду ўдзелу ў рэвалюцыйным студэнцкім гуртку. Дый і пашанцавала яшчэ. Калі ўлады выйшлі на ягоны след, удалося пазбегнуць пакарання. Універсітэт скончыў са ступенню кандыдата права, што дазволіла заняць уплывовую пасаду: з 1850 года пачаў службу ў Кадыфікацыйнай камісіі Царства Польскага. Пазней перайшоў у Міністэрства фінансаў Расіі.

Аднак ставіць крыж на рэвалюцыйнай дзейнасці не збіраўся. Калі ў 1857 годзе з ссылкі вярнуўся Зыгмунт Серакоўскі — з ім Агрызка некалі ўваходзіў у студэнцкі гурток, разам стварылі падпольную арганізацыю са студэнтаў і афіцэраў. Да ўсяго Агрызка атрымаў дазвол на выданне польскамоўнай газеты «Slowo» і нават набыў друкарню. З першага нумара, які выйшаў 2 студзеня 1859 года, відаць, што выдавец і яго аднадумцы надавалі вялікае значэнне асвеце народа,

вострa ставілі справядлівае вырашэнне сялянскага пытання, не абыходзілі ўвагай і праблемы міжнароднага жыцця. Толькі газета праіснавала нядоўга: яе закрылі, а выдаўца арыштавалі. У Пецярбургу з вуснаў перадавалася двухрадкоўе, аўтарства якога прыпісвалася Мікалаю Някрасаву:

Плохо, братцы, беда близко,
Арестован уж Огрызко.

Але ў абарону Іасафата Пятровіча выступілі многія дзеячы і ўплывовыя чыноўнікі. З просьбай вызваліць яго да цара звярнуўся Іван Тургенеў. Дый у Міністэрстве фінансаў пра Агрызку былі высокай думкі, таму ён хутка апынуўся на свабодзе. Паколькі працягваць выпускаць газету ўсё ж не дазволілі, узяўся за выданне кніг. Працаваў вельмі плённа, таму на працягу некалькіх гадоў з'явілася больш за 100 найменняў. Сярод іх і такія ўнікальныя выданні, як некаторыя тамы «Матэрыялаў для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба», у тым ліку тыя, што тычацца Віленскай і Гродзенскай губерняў. Перавыдаў Агрызка і восем тамоў «Валюміна легума» — збору старажытных законаў Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны… Стаў Іасафат Пятровіч і першым выдаўцом твораў Мікалая Дабралюбава.

Мікалай Дабралюбаў, як вядома, памёр 17 лістапада 1861 года. Сабраць напісанае ім узяўся Мікалай Чарнышэўскі, які паспеў зблізіцца з Агрызкам. Працавалі аператыўна і першы том пабачыў свет вясной 1862 года. Следам за ім з'явіўся другі. Потым трэці, а ўлетку змаглі патрымаць у руках і чацвёрты. Вось-вось павінен быў выйсці і пяты, але 7 ліпеня 1862 года Чарнышэўскага арыштавалі. Агрызку гэткі ж лёс напаткаў 14 лістапада 1864 года. Царскія ўлады ведалі каго «бралі»: падтрымліваў сувязі з арганізацыяй «Зямля і воля». Калі ж пачалося паўстанне 1863—1864 гг., належаў да яго арганізатараў і кіраўнікоў, у Пецярбургу выконваў абавязкі прадстаўніка польскага нацыянальнага ўрада «Жонда Нарадовага». І гэта прытым, што з'яўляўся віцэ-дырэктарам Дэпартамента неабкладных збораў у Міністэрстве фінансаў.

Атрымлівалася, што сярод бунтаўшчыкоў аказаўся чалавек, які знаходзіўся на вяршыні дзяржаўнай кіруючай лесвіцы. Да ўсяго яго лічыў асабістым ворагам сумнавядомы Мураўёў-вешальнік: у свой час Агрызка прылюдна назваў яго казнакрадам, а затым перашкодзіў ягонаму нашчадку заняць месца апекуна пры малалетнім сыне князя Дзямідава. Такому не магло быць ніякага даравання. Як вынік, у канцы 1865 года Агрызку назначылі смяротнае пакаранне. Праўда, яго неўзабаве замянілі дваццацю гадамі катаргі ў Сібіры. Так апынуўся на Нерчынскіх рудніках.

Ды на катарзе не зламаўся. З іншымі «дзяржаўнымі злачынцамі» ўвайшоў у арганізацыю «Огул выгнаньцев», ці прасцей — «Таварыства выгнаннікаў». Хутка ўлады Іасафата Пятровіча разам з яшчэ 19 зняволенымі аднеслі да «самых небяспечных». Адправілі іх у Вілюйск. Кожны атрымаў свой парадкавы нумар. Агрызка значыўся пад 11-м. Але ў канцы 1871 года яму нечакана «вярнулі» прозвішча і дазволілі пасяліцца ў Якуцку пад наглядам паліцыі. Як даведаўся пазней, ягоная камера-адзіночка «спатрэбілася» Чарнышэўскаму, якога пераводзілі ў Вілюйск.

У Якуцку займаўся сельскай гаспадаркай, дасягнуўшы пэўнага поспеху. Спрабаваў гэта рабіць і ў Верхаленску, але сутыкнуўся з цяжкасцямі: «Гэта аказалася зусім немагчымым: з-за таннасці хлеба і дарагоўлі рабочых рук хлебаробства стратнае». Нарэшце, дзякуючы намаганням сяброў, у 1876 годзе быў пераведзены на пастаяннае жыхарства ў Іркуцк, дзе знаходзіўся «пад строгім наглядам паліцыі і асобным наглядам». Жыць заставалася яшчэ трынаццаць гадоў — памёр 18 сакавіка 1890 года.

Як быццам, не так і мала. Толькі не ў радасць былі гэтыя гады Іасафату Пятровічу. Адзіноцтва — у тым ліку і духоўнае — даўно надакучыла. А ў душэўным здароўі, паколькі стаў фізічна нямоглым, было ці не адзінае ўратаванне. Страціў

зрок на правае вока, слаба бачыў левым. Дый не дазвалялі выязджаць за межы Іркуцкай акругі. З кожным годам усё больш разумеў і мройнасць сваёй мары аб вяртанні ў Пецярбург.

Памёр у адзіноце і беднасці — даўгі складалі 20 тысяч рублёў. Па тым часе немалыя грошы. Тым не менш любіў запрашаць да сябе сяброў, якіх знайшоў у Іркуцку. Адным з іх быў Браніслаў Шастаковіч, які праходзіў па справе Каракозава і апынуўся ў Сібіры. Дарэчы, яму наканавана было стаць дзедам сусветна знакамітага кампазітара Дзмітрыя Шастаковіча. Іасафат Пятровіч шмат расказваў Б. Шастаковічу пра сваё жыццё, дзяліўся з ім самым запаветным. Захавалася сведчанне Шастаковіча: «У апошнія дні нашага знаёмства мы дамовіліся, каб я пад яго дыктоўку запісаў яго ўспаміны. Але хвароба так моцна падточвала яго арганізм, што я баяўся стаміць яго гэтай справай. Мяркуючы па некаторых нашых гутарках, аповед гэты не быў бы пустым, а ўяўляў бы шмат цікавых гістарычных фактаў». Аднак і таго, што вядома пра Агрызку, дастаткова, каб упэўніцца, наколькі неардынарным чалавекам ён быў.

## Пераўзышоў... Міхаіла Шчэпкіна

7 чэрвеня 1811 года — 10 кастрычніка 1851-га… У такі кароткі часавы прамежак упісваецца жыццёвы шлях выдатнага акцёра ўраджэнца Лепеля Карпа Саленіка. Так рана звялі яго ў магілу сухоты — традыцыйная хвароба творчых людзей, якая ў раннім узросце падкасіла не адзін яркі, самабытны талент. Менавіта такімі якасцямі валодаў і Карп Трафімавіч. Шкада, што пра яго юныя гады амаль не захавалася звестак. Як і не засталося здымкаў — ні тых, на якіх зняты сам ён, ні тых, што маглі б сведчыць пра яго як цудоўнага выканаўцу шматлікіх роляў. Даўно зраўнялася з зямлёй і ягоная магіла. Не пакінуў ён і аўтабіяграфіі, мемуараў. Хоць хто ў такім маладым узросце думае пра гэта? Асабліва, калі гэта не проста сціплы чалавек, а на дзіва сціплы, у многім і зусім сарамлівы.

Затое Саленік паспеў зрабіць вельмі шмат. Толькі за няпоўныя шэсць гадоў — з ліпеня 1834 года па 1841-ы — ён увасобіў 170 разнастайных сцэнічных вобразаў. Канечне, не ўсе з іх аднолькава дасканалыя, але дзясяткі два смела можна аднесці да сапраўдных мастацкіх адкрыццяў. І хоць выступаў ён у тагачасных правінцыйных тэатрах, як засведчыў адзін з рэцэнзентаў часопіса «Пантеон», «мог бы ўпрыгожыць сталічную сцэну». Не сумняваўся ў гэтым і Мікалай Гогаль. Праўда, Мікалай Васільевіч асабіста не быў знаёмы з ім, але давяраў ацэнкам, меркаванням тых, з кім знаходзіўся ў сяброўскіх адносінах.

Калі паўстала пытанне наконт пастаноўкі «Рэвізора», Гогаль хацеў, каб у ролі Хлестакова ў славутым Александрыйскім тэатры выступіў ніхто іншы, а Саленік. У 1836 годзе, за тры месяцы да гэтай пастаноўкі, Мікалай Васільевіч пісаў свайму знаёмаму М. Белазёрскаму: «Збіраюся ставіць у тутэйшым тэатры камедыю […] Ёсць у адной качуючай трупе Штэйна, пад дырэкцыяй Млаткоўскага, адзін акцёр па імені Саленік. Ці не маеце вы якіх-небудзь пра яго звестак? І, калі вам выпадзе сустрэць яго дзе-небудзь, нельга як-небудзь угаварыць яго ехаць сюды? Скажыце яму, што мы ўсе будзем старацца аб ім. Данілеўскі (сябра Гогаля па Нежынскім ліцэі. — *А. М.*) бачыў яго ў Дубнах і быў у захапленні. Цалкам камічны талент!»

Мікалай Гогаль хацеў, каб гэтая камедыя «была добра сыграна», але быў перакананы, што гэта «цяжкавата пры нашых акцёрах». Відавочна, што ён ставіў Саленіка нават вышэй за артыстаў Александрыйскага тэатра. Ва ўсякім разе выразна бачыў перад сабой не проста Хлестакова, а Саленіка-Хлестакова. Але ягоны дэбют на пецярбургскай сцэне, на жаль, не адбыўся. Невядома, што таму прычынай. Канечне, магло стацца і так, што жаданне Гогаля не было своечасова перададзена Карпу Трафімавічу, а час прыспешваў, таму ў Александрыйскім тэатры і падшукалі іншага выканаўцу. Мог Саленік і адмовіцца. Але вобраз Хлеста-

кова ўсё ж прывабіў яго. Калі 15 жніўня 1836 года ў Харкаве адбылася прэм’ера «Рэвізора», выступіў акурат у гэтай ролі. Пазней выканаў яшчэ дзве ролі ў згаданым спектаклі. Спачатку — Бабчынскага, пасля — Восіпа. Дарэчы, праз некалькі гадоў Карп Трафімавіч чарговы раз сустрэўся з драматургіяй Гогаля: 27 жніўня 1843 года ў камедыі «Жаніцьба» ён выканаў ролю Качкарова.

Зацікавіўся ж Саленік тэатрам яшчэ ў юнацтве, выконваючы ролі ў школьных спектаклях, але, у якой навучальнай установе, невядома. Пэўна можна сказаць толькі, што восенню 1829 года ён паступіў у Віленскі ўніверсітэт. Аднак аб прафесіянальным тэатры, відаць, не марыў, бо выбраў фізіка-матэматычны факультэт. Правучыўся, праўда, усяго год з нечым. У сувязі з паўстаннем 1831 года ўлады ўніверсітэт закрылі. Многіх студэнтаў арыштавалі і аддалі ў салдаты. Саленік некаторы час знаходзіўся за кратамі. Ды кампраметуючых улік супраць яго не знайшлося, таму хутка адпусцілі. Тады і накіраваўся ў Харкаў. Паводле адной версіі, хацеў вучыцца ў тамашнім універсітэце. Але праўдзівей — усё ж вырашыў звязаць свой лёс з тэатрам. Прынамсі, апошняе сцвяржаў вядомы рускі гісторык Мікалай Кастамараў.

Харкаў выбраў таму, што ў гэтым горадзе сфарміравалася свая тэатральная трупа. Сам па сабе выпадак рэдкі: на той час у правінцыі стацыянарныя тэатры не існавалі. У Харкаве цягам часу Саленік і сцвердзіўся як цікавы, самабытны акцёр. Выступаў таксама і ў кіеўскім тэатры, і ў адэскім. Але харкаўскі тэатр — асноўная старонка ў ягонай творчай біяграфіі. Зарэкамендаваў сябе і як драматычны, і як камедыйны акцёр. Прытым яго камедыйнае амплуа найлепш раскрылася ва ўкраінскім рэпертуары. Як пісаў крытык К. Пашкоў: «Саленік быў непараўнальны комік. Пра яго можна сказаць, што і на свет ён нарадзіўся для таго, каб быць камічным акцёрам. Самыя сур’ёзныя людзі смяяліся да слёз, калі ён выкіне, бывала, на сцэне які-небудзь жарт позай, жэстам, грымасай, голасам ці адсмаліць, натхнёны, што-небудзь такое, чаго ў п’есе няма… Ну проста жываты трымай… Пакуль Саленік на сцэне, ва ўсім тэатры амаль бесперапынны рогат — і не хацеў бы, дык міжволі зарагочаш».

Што ж, акцёрам быў ад Бога. Харкаўская старонка, як вядома, ёсць і ў біяграфіі заснавальніка рэалізму ў рускім сцэнічным мастацтве Міхаіла Шчэпкіна. Міхаіл Сямёнавіч быў і сярод тых, хто ўвасобіў вобраз Чупруна ў спектаклі паводле камедыі Івана Катлярэўскага «Маскаль-чараўнік». Вісарыён Бялінскі лічыў гэтую ролю адным з лепшых сцэнічных набыткаў Шчэпкіна. Здавалася б, пераўзысці яго ў майстэртве немагчыма. Але Саленік пераўзышоў.

## Загляне сонца і ў наша ваконца

У фальварку Будзькаўшчына на Лепельшчыне ў 1859 годзе нарадзіўся яшчэ адзін славуты сын беларускай зямлі — Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Пасля заканчэння гімназіі паступіў на аддзяленне класічных моў гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта. Выбар быў усвядомлены: дасканала авалодаў больш чым дваццаццю мовамі! Нездарма пасля завяршэння вучобы стаў чытаць курс грэчаскай мовы ў духоўнай акадэміі, а пазней выкладаў яе ў мужчынскай гімназіі, з’яўляўся лектарам па лацінскай мове на агульнаадукацыйных курсах А. Чарняева. Але, на тых самых, на якія пазней паступіць і Іван Луцэвіч.

Шмат гадоў Б. Эпімах-Шыпіла лічыўся «памочнікам бібліятэкара» Пецярбургскай Імператарскай бібліятэкі, а па сутнасці з’яўляўся неафіцыйным дырэктарам яе. Справа ў тым, што на законных падставах ён не мог заняць гэтую пасаду з-за свайго веравызнання — на той час каталікам быць дырэктарам бібліятэкі, прытым Імператарскай, забаранялася. Праца ў бібліятэцы і самому шмат давала — заўсёды знаходзіліся пад рукой неабходныя кнігі, можна было знайсці рэдкія публікацыі ў перыёдыцы. Ахвотна дапамагаў і студэнтам. Калі патрэбнага выдання ў фондах не было, дастаўляў яго з іншых бібліятэк — і з публічнай, і

з бібліятэкі Акадэміі навук, прыносіў і кнігі, што набываў сам. Дый вырашыў заняцца выдавецкай дзейнасцю.

Суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» была заснаваная 5 мая 1906 года. Першынцам яе стаў «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання». На вокладцы было сказана і пра задачы суполкі: «Таварыства ўстанаўляецца для таго, каб друкаваць і шырыць паміж людзьмі кніжкі беларускія і ўсё, што датычыць Беларусі».

4-я Лінія, дом 45, кватэра 16… Гэты адрас у Пецярбургу ўжо ведалі многія. Цяпер жа Б. Эпімах-Шыпіла ў сябе дома размясціў кантору выдавецтва. Працавалі з зайздроснай аператыўнасцю і апантанасцю. Ужо ў канцы 1906 года пабачыла свет другая кніжка — «Першае чытанне для дзетак беларусаў», напісаная Цёткай. Яна ж, Цётка, перад гэтым звярталася да Б. Эпімаха-Шыпілы: «Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка нашая беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, ды не ведаю, як чаго трымацца». Б. Эпімах-Шыпіла, у сваю чаргу, шукаў аднадумцаў. Наперадзе было знаёмства і сяброўства з Янкам Купалам, Цішкам Гартным, Браніславам Тарашкевічам і іншымі.

Сяброўства па духу, канечне, шмат значыць. Але такое сяброўства неабходна заваяваць. Б. Эпімах-Шыпіла ведаў, што арыентавацца трэба на моладзь. Яшчэ ж у 1902 годзе ў Пецярбургу ўзнік так званы «Круг беларускай народнай прасветы і культуры». З ягонымі сябрамі і наладзіў сувязь. Неўзабаве суполку вітаў Я. Купала. Гэтае вітанне для Б. Эпімаха-Шыпілы і яго аднадумцаў шмат значыла, бо спачатку Іван Дамінікавіч, не задаволены тым, што выдаўцы ў першыя месяцы сваёй работы абмяжоўваліся толькі выпускам лемантароў, выступіў з эпіграмай. А тут такое шчырае вітанне!

Гэй, дзівы над дзівы, мкне гоман грамлівы!
Глядзіце, ўстае беларускі народ;
Айчызну будуе на борах, на нівах.
Што гэта? — то йдзэі, то праўды прыход.

У суполцы гэтаму вітанню вельмі абрадаваліся. Як прыгадваў Б. Эпімах-Шыпіла ў адным з лістоў да Л. Клейнбарта (захоўваецца ў фондзе Л. Клейнбарта ў архіве Інстытута рускай літаратуры ў Санкт-Пецярбургу), заўважыўшы незвычайны талент у прысланым вітанні, суполка папрасіла Самойлу прысласць ёй вершы Купалы, што той і зрабіў... З гэтых твораў і нарадзіўся зборнік «Жалейка», які выйшаў у 1908 годзе. Акрамя 98 вершаў, у яго былі ўключаныя і некаторыя пераклады. Так і прыйшоў у літаратуру Янка Купала. Дарэчы, народны пясняр напісаў вершы «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з новым 1910 годам» і «Прафесару п. Б. Эпімах-Шыпілу», а таксама прысвяціў яму легенду «Паляўнічы і пара галубкоў».

## Яшчэ адзін адметны куток

Томік Тодара Кляшторнага «Выбраныя творы» (1970) у «Бібліятэцы беларускай паэзіі» адкрываецца гэтым вершам:

Раніца...
Сонца з-за ўзгоркаў не выйшла
У росах свой твар паласкаць.
Шэпчуць калоссямі ўзвышшы,
Пахне расой сенажаць.
Гай апушыўся туманам,
Гай заглядзеўся у высь, —
Кудрамі лісцяў з кургану
У прозалаць возера звіс.

«Ранне», якое так пяшчотна апяваў паэт, было азмрочанае тым драматычным, нават трагічным, што прывяло да масавых рэпрэсій. Не мінуў гэткі лёс і самога Кляшторнага. Арыштаваны восенню 1936-га, ён 29 кастрычніка 1937 года быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і праз дзень расстраляны. Развітаўся з жыццём у самым росквіце сваіх жыццёвых і творчых сіл: нарадзіўся 11 сакавіка 1903 года ў вёсцы Парэчча.

Вучыўся на рабфаку ў Оршы. У 1931 годзе скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, пасля чаго працаваў на радыё, у рэспубліканскіх газетах. Кляшторны ўваходзіў у літаратурныя арганізацыі «Маладняк», «Узвышша», у Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў. Першыя вершы надрукаваў у 1925 годзе ў часопісе «Аршанскі маладняк». Выдаў кнігі «Кляновыя завеі» (1927), «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929), «Праз шторм на штурм» (1934). Асобным выданнем выйшла яго паэма «Палі загаманілі» (1930). Аўтар кніжкі-малюнкі для дзяцей «Пра зайца, ваўка і мядзведзя» (1935). Пераклаў на беларускую мову раман Ф. Панфёрава «Брускі» (разам з Міхасём Багуном), а таксама асобныя творы іншых пісьменнікаў.

Якім жа ён быў як чалавек, добра відаць з успамінаў Максіма Лужаніна: «...Чамусьці ўсе знаёмыя называлі яго Тодзік, памяншальна, і ўсміхаліся. І ў яго самога на твары гасціў ласкавы выраз, нібыта, як цяпер часта пішуць, у нечым чуў правінку чалавек. Ягоная ўсмешка хіліла да сябе, настройвала на добразычлівасць, абяззбройваючы тых, хто гневаўся ці гатовы быў угневацца...

...Жартавалі, што ягоны, некалькі адлучаны ад рэчаіснасці, дакладней, — выцураны выраз вачэй выклікае ва ўяўленні постаць раскрыжаванага Езуска — такія крыжы стаўлялі некалі ў вясковых каплічках і касцельчыках.

Падабенства да евангельскага пакутніка крыху парушала заўсёдная, як быццам прымёрзшая да ніжняй губы папіроска, найчасцей пагаслая. Наогул жа ад яго патыхала няўлоўная дабрата, не падкрэсленая, а менавіта няўлоўная, і гэта вабіла: адчувалася, гэткі чалавек не здолее зрабіць благога».

На Лепельшчыне з асаблівай павагай ставяцца да гэтага свайго земляка, штогод ушаноўваючы ягоную памяць. Найперш у аграгарадку Камень, непадалёку ад якога знаходзіцца Парэчча. Яшчэ ў 2003 годзе рашэннем Лепельскага гарадскога выканаўчага камітэта Каменская сельская бібліятэка была пераўтвораная ў бібліятэку-музей Тодара Кляшторнага, дзе сабрана шмат цікавых матэрыялаў, што расказваюць пра жыццё Тодара Тодаравіча і ягоную творчасць. У бібліятэцы-музеі ладзяцца літаратурна-краязнаўчыя чытанні, праходзяць сустрэчы з пісьменнікамі, якія пакідаюць для экспазіцыі свае кнігі з аўтографамі.

Не чужой была літаратурная творчасць і старэйшай дачцэ Кляшторнага Тадзіяне (нарадзілася 5 студзеня 1929 года ў вёсцы Парэчча, памерла 2 сакавіка 2011-га). Маці яе звалі Яніна, у дзявоцтве Германовіч. Імя Тадзіяна і ўзнікла ад першых складоў імён бацькі і маці. Так захацелі Тодар Тодаравіч і Яніна Міхайлаўна. Пасля арышту сваёй маці 28 лістапада 1937 года Кляшторная некаторы час жыла ў бацькавай сястры Аляксандры, затым у адным з дзіцячых дамоў Мардовіі. Дарэчы, хросным бацькам яе быў Максім Лужанін. Пасля вайны Кляшторная скончыла Лепельскае педагагічнае вучылішча. Некаторы час настаўнічала на Браслаўшчыне, у Ленінградзе і іншых гарадах, у дзіцячым садку ў Віцебску. Уваходзіла ў літаб’яднанне пры газеце «Віцебскі рабочы». Разам з сястрой Маяй шмат рабіла дзеля ўшанавання і папулярызацыі творчасці свайго бацькі. У 2008 годзе прысутнічала на адкрыцці вуліцы імя Тодара Кляшторнага ў вёсцы Камень. Упершыню надрукавалася ў 1971 годзе ў лепельскай раённай газеце. Аўтар кніг вершаў для дзяцей «Паўцякалі цацкі» (1982), «Пахі вясны» (1991). Укладальніца зборніка вершаў «Песні любай ліры» (2001) дзіцячага літаратурнага гуртка «Паэтычная сцяжынка», які вяла ў Віцебску.

З самога ж Каменя родам Міхась Модаль. Нарадзіўся 26 красавіка 1904 года. Хацеў стаць урачом. У 1924 годзе нават скончыў тры курсы медыцынскага факуль-

тэта (тады медінстытута ў Мінску яшчэ не было) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аднак перайшоў на педагагічны факультэт гэтай вышэйшай навучальнай установы, дзе правучыўся два гады. Потым быў на журналісцкай і партыйнай рабоце, працаваў у навуковых і тэатральных установах рэспублікі, літаратурным кансультантам у Саюзе пісьменнікаў БССР, а з 1940 года адказным сакратаром у гэтай грамадскай арганізацыі. У гады Вялікай Айчыннай вайны Кляшторны працаваў у тэатрах і ўстановах культуры Тамбова, Ташкента, Андзіжана. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў загадваў літаратурнай часткай Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. У 1945—1949 гадах звязаў свой лёс з часопісам «Полымя», а ў 1949—1962 гадах быў літаратурным супрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва». З 1926 года выступаў у перыёдыцы з тэатральнымі рэцэнзіямі і артыкуламі. Выдаў зборнік артыкулаў «Тэатр і драматургія» (1935), брашуру «Ларыса Пампееўна Александроўская» (1945), кнігу тэатразнаўчых нарысаў «Народныя артысты БССР» (1948). Памёр 26 кастрычніка 1980 года.

## Напісанае застаецца

У вёсцы Забалацце 4 верасня 1911 года нарадзіўся Пятро Дудо. З 1935 года служыў у Чырвонай Арміі. У 1940 годзе скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. Кірава ў Мінску, пасля чаго працаваў намеснікам рэдактара газеты «Вольная праца», што выходзіла ў Беластоку. Творчы шлях пачаў у 1934 годзе з нарысаў і апавяданняў. Аўтар аповесці «Першы салют» і сатырычнай камедыі «Чортаў тузін». У гады Вялікай Айчыннай вайны быў палітработнікам, супрацоўнікам армейскага друку, а з 1949 года з'яўляўся карэспандэнтам газеты Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины». Памёр 23 лютага 1958 года.

Лепель — радзіма літаратуразнаўцы, вядомага пушкініста, лаўрэата Сталінскай прэміі другой ступені Барыса Мейлаха. Нарадзіўся 9 ліпеня 1909 года. Скончыўшы літаратурны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, ён вёў навуковую работу ў Пушкінскім доме, з'яўляўся членам Пушкінскай камісіі Акадэміі навук СССР. Аўтар шэрагу фундаментальных даследаванняў пра творчасць А. Пушкіна, сярод якіх кнігі «Пушкін і рускі рамантызм» (1937), «А. С. Пушкін. Нарыс жыцця і творчасці» (1949), «Пушкін і яго эпоха» (1958), «Мастацкае мысленне Пушкіна як творчы працэс» (1962), «Жыццё Аляксандра Пушкіна» (1974), «Талісман: кніга пра Пушкіна» (1975, другое выданне 1984), «Творчасць А. С. Пушкіна: развіццё мастацкай сістэмы» (1984). Барыс Саламонавіч уважліва асэнсоўваў і творчасць Льва Талстога. Асаблівую вядомасць яму прынесла кніга «Адыход і смерць Льва Талстога» (1960, другое выданне 1979). Не абыходзіў сваёй увагай творчасць паэтаў-дзекабрыстаў, агульныя пытанні літаратуразнаўства, псіхалогіі мастацкай творчасці. Памёр Мейлах 4 чэрвеня 1987 года.

## Чырвонаармеец Сухаў і іншыя

Бадай, няма такога гледача, які б ні захапляўся фільмам «Белае сонца пустыні». Многія нават глядзелі яго. Што ўжо ў такім разе казаць пра лепяльчан! Паставіў жа гэты фільм «свой» кінарэжысёр Уладзімір Матыль, які нарадзіўся ў Лепелі 26 чэрвеня 1927 года. Пачаў Уладзімір Якаўлевіч творчы шлях у 1948 годзе, калі пасля заканчэння акцёрскага аддзялення Свярдлоўскага тэатральнага інстытута стаў працаваць рэжысёрам мясцовага драматычнага тэатра. Потым быў акцёрам і рэжысёрам тэатраў у Сталінагорску (цяперашні Новамаскоўск) Тульскай вобласці. У 1955 годзе Матыля прызначылі галоўным рэжысёрам Свярдлоўскага ТЮГа. Праз два гады скончыў гістарычны факультэт Свярдлоўскага ўніверсітэта і быў прыняты ў штат Свярдлоўскай кінастудыі. Гэта і стала пачаткам ягонага далучэння да кінематографа.

Спачатку заявіў пра сябе як другі рэжысёр пры пастаноўцы фільмаў «Час таёжнай пралескі» і «Чакайце лістоў». Самастойна дэбютаваў у 1963 годзе на кінастудыі «Таджыкфільм», калі здымаўся фільм «Дзеці Паміра», адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Таджыкскай ССР і высока ацэнены кінакрытыкамі. Зноў у цэнтры ўвагі аказаўся ў 1967 годзе, дзякуючы кінакамедыі «Жэня, Жэнечка і Кацюша», сцэнарый якой напісаў сумесна з Булатам Акуджавам. Праўда, гэтым разам думкі ў ацэнцы разышліся. Некаторыя рэцэнзенты рабілі папрокі за тое, што падзеі Вялікай Айчыннай вайны ў гэтай стужцы адлюстраваныя ў трагікамічным аспекце. Затое гледачы былі ў захапленні. Аднак, хоць на творчым рахунку Матыля былі і іншыя фільмы, усё ж сапраўднае прызнанне яму прынесла менавіта «Белае сонца пустыні». Гэтая мастацкая стужка стала, можна сказаць, па-сапраўднаму народнай. Пра гэта гаворыць і тое, што асобныя дыялогі і рэплікі ператварыліся ў прыказкі і прымаўкі. А чырвонаармеец Сухаў, мытнік Верашчагін, басмач Абдула ператварыліся ў герояў шматлікіх анекдотаў.

Уладзімір Матыль выступаў таксама і як мастацкі кіраўнік у фільмах маладых рэжысёраў «Ідэнтыфікацыя жаданняў», «Па Таганцы ходзяць танкі», «Страляючыя анёлы». Памёр Уладзімір Якаўлевіч 21 лютага 2010 года.

## У кожнага свой унёсак

Ганарацца лепяльчане і сваім земляком паэтам, драматургам, публіцыстам, перакладчыкам Анатолем Вярцінскім, які нарадзіўся 18 лістапада 1931 года ў вёсцы Дзямешкава. Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Анатоль Ільіч працаваў у рэдакцыях раённых газет Давыд-Гарадка, Камянца, Клімавіч, Рагачова. Пераехаўшы ў 1962 годзе ў Мінск, быў супрацоўнікам «Літаратуры і мастацтва», рэдактарам выдавецтва «Беларусь», літкансультантам, адказным сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, галоўным рэдактарам штотыднёвіка «ЛіМ», выбіраўся народным дэпутатам БССР, з'яўляўся намеснікам старшыні пастаяннай камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, членам Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета БССР. У складзе дэлегацыі Беларускай ССР у 1977 годзе ўдзельнічаў у рабоце XXXII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Выдаў кнігі вершаў і паэм «Песня пра хлеб» (1962), «Тры цішыні» (1966), «Чалавечы знак» (1968). «З'яўленне» (1975), «Ветрана» (1979), «Святло зямное» (1981) і іншыя. Паасобныя яго вершы пакладзеныя на музыку. Па паэме «Колькі лет, колькі зім!» пастаўлены тэлеспектакль (1980). Аўтар кнігі літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі «Высокае неба ідэала» (1980) і кнігі публіцыстыкі «Нью-Йоркская сірэна» (1987), за якую яму прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР (1988). Напісаў шэраг п'ес для дзяцей. Асобныя з іх увайшлі ў зборнік «Дзякуй, вялікі дзякуй» (1983). Выступае і ў галіне перакладу.

Пра прывязанасць да сваіх родных мясцін у адным са сваіх вершаў Уладзімір Міхно сказаў так: «Людзі едуць на дачу, у адведкі... да маці, // Настальгуюць па вёсцы са сталічных нябёс, // Я не госць, не чужы у бацькоўскай хаце, // Я — тутэйшы, бо Лепель, бо Чэрцы — мой лёс». У вёсцы Чэрцы ён нарадзіўся 6 сакавіка 1964 года. Скончыў мясцовую васьмігодку, потым вучыўся ў Лепельскай СШ № 3. Пасля заканчэння ў 1986 годзе факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта працаваў у чашніцкай раённай газеце «Чырвоны прамень», затым — у «Чырвонай змене», «Настаўніцкай газеце», быў уласным карэспандэнтам па Віцебскай вобласці. Цяпер жыве ў роднай вёсцы і працуе ў газеце «Лепельскі край». У асноўным выступае ў галіне прозы. У 1993 годзе ў серыі «Бібліятэчка часопіса "Маладосць"» выйшла кніга «Горкі зефір». Асобныя творы Міхно змешчаныя ў калектыўным зборніку «Карані» (1994).

Не чужая літаратура і яго сястры Веры Міхно, якая нарадзілася ў вёсцы Чэрцы 13 снежня 1955 года. Скончыўшы Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1979), працавала ў дзіцячай паліклініцы горада Барысава. Цяпер — урач Мінскай цэнтральнай раённай паліклінікі. З вершамі выступала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць», «Вожык» «Полымя», у калектыўных зборніках «Гаючая квецень» (2004) і «Подыхам адзіным» (2009).

Сяргей Рублеўскі (нарадзіўся 24 снежня 1954 года ў вёсцы Бабча) зарэкамендаваў сябе як паэт, празаік, публіцыст. Скончыў Бароўскую сярэднюю школу, фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, настаўнічаў на Капыльшчыне. Звязаўшы ў 1978 годзе свой лёс з журналістыкай, працаваў у бешанковіцкай раённай газеце «Зара», у талачынскай — «Сцяг Ільіча», абласной — «Віцебскі рабочы». З 1990 года, з дня заснавання да 2008 года быў галоўным рэдактарам віцебскай абласной газеты «Народнае слова». Цяпер — намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама, начальнік аддзела па архівах і справаводстве. Аўтар кніг «Апостраф» (2000), «Азярод» (2003), «Абмытыя валуны» (2005), «Ў, тое, што мы скарацілі» (2008), «Маўчанне на ўвесь Божы свет» (2011), «Святло лускі» (2012) і «Паспець надыхацца» (таксама 2012), за якую стаў лаўрэатам прэміі «Гліняны Вялес».

## Прапісана ў біяграфіі

Свая памяць пра Лепель была і ў вядомай беларускай паэтэсы Еўдакіі Лось (нарадзілася 1 сакавіка 1929 года ў вёсцы Старына Ушацкага раёна, памерла 3 ліпеня 1977). Прынамсі, пра гэта можна даведацца з яе верша «Успамін аб Лепельскай дарозе». Таму і запомнілася Еўдакіі Якаўлеўне яна, што вёрсты яе давялося пераадольваць неаднойчы на працягу навучальнага года, не зважаючы на тое, якое было надвор’е: «Зімой сляпіла завіруха // улетку ногі сек жарсцяк. // Ішлі мяжой, ішлі, як суха, // калі пад’еўшы, калі — так… // Ішлі натхнёныя дзяўчынкі // дарогай ранішняй зары. // Вятры трапалі іх хусцінкі, // туліў ад веі бор стары». Праўда і толькі праўда ў паэтычных радках. Згадкі юнацтва, якое не толькі не забываецца, а на працягу ўсяго жыцця помнае і па-свойму вабнае: «Яны (дзяўчаткі. — *А. М.*) вясёла гаманілі // на першых вёрстах дваццаці, // хаця нічога не ўлучылі // і не спазналі ў жыцці. // Апроч бяды, вайны гарачай, // што іх, як кветкі, апякла, // дарожанька, пасля бядачай, // у міры — першаю была. // Вяла да кніжчынага свята, // таму й сама была святой, // хоць падбіваліся дзяўчаты // дзесь на вярсце саракавой…».

Аднак з дзяўчатамі, дый з сястрой Марыяй яна хадзіла гэтай дарогай крыху пазней. Спачатку няблізкі шлях пераадолела адна. Як успамінала Марыя Якаўлеўна: «У Лепельскае педвучылішча Дуня не прыехала, а прыйшла пешшу з м. Ушачы, што за 40 кіламетраў. Тады не ездзілі ні машыны, ні аўтобусы, яшчэ ішла вайна, хоць Беларусь і была вызвалена. Ды і бальшака, які зараз ад Лепеля да Ушач, не было, была проста дарога, зарослая бур’яном, кустамі, хмызняком, па якой вельмі страшна было хадзіць… Прыйшла Дуня да мяне, я тады вучылася ўжо на другім курсе. Гэта быў 1945 год». Вучыліся сёстры ў Лепельскім педвучылішчы з 1945 года, пакуль не перавяліся ў Глыбоцкае педвучылішча.

Шмат што забыла Е. Лось цягам часу. Толькі не тое, што зместам сваім звязана з Лепельскай дарогай:

Цяпер па ёй не ездзяць многа,
бо лічыцца, што лішні круг.
З Ушач да Лепеля дарога
даўно раўнейшая, мой друг.
Імчыш ты ў свет на шпаркіх колах
асфальтаванаю шашой!
А я ўсё іду, іду наўкола
са спадарожніцай сястрой.

Гораду, які прапісаўся ў яе біяграфіі, Е. Лось прысвяціла і верш «Зялёны Лепель, сэрцу мілы…», у якім ёсць і такія радкі: «Жывеш ты, ліўнямі прамыты, // грамамі хрышчаны не раз, // шпакамі з даўніх дзён абжыты // і бэзам — быццам напаказ! // Жывеш, раённая сталіца, // сярод палёў як працаўнік. // У Леплі злеплен!» — // ганарыцца // мой аднагодак-жартаўнік».

Ёсць лепельская старонка і ў біяграфіі паэта і фалькларыста Яна Чачота (нарадзіўся 17 ліпеня 1796 года ў Малюшычах Наваградскага павета, памёр 23 жніўня 1847 года). Як вядома, ён быў адным з арганізатараў і кіраўнікоў гурткоў філаматаў і філарэтаў, заснаваных студэнтамі Віленскага ўніверсітэта. Пасля таго, як гэтыя гурткі былі выкрытыя ўладамі, яго асудзілі на шэсць месяцаў зняволення, а потым адправілі ў бестэрміновую высылку, якую адбываў у Кізільскай крэпасці, а затым ва Уфе. На Беларусь вярнуўся ў 1833 годзе і пачаў працаваць у Лепелі сакратаром канцылярыі інжынернага ўпраўлення пры Бярэзінскай воднай сістэме. У вольны час збіраў фальклор, якім захапіўся яшчэ падчас пражывання ў родных мясцінах. Так з’явіліся «Вясковыя песні з-пад Дзвіны, з ваколіц Лепеля і з самога Лепеля...»

Біяграфічныя звесткі пра Фелікса Тапчэўскага скупыя. Нарадзіўся каля 1838 года ў фальварку Будзішча, што знаходзіўся на мяжы з Лепельскім паветам. У 1849 годзе паступіў у Лепельскае павятовае вучылішча, дзе ўжо вучыўся ягоны старэйшы брат. Неўзабаве туды паступіў і малодшы. Пасля заканчэння вучылішча працаваў пісарам-канцылярыстам у Віцебскім земскім судзе, а потым валасным пісарам у мястэчку Ула, якое на той час адносілася да Лепельскага павета. Давялося зведаць і хлеб лесніка. У час паўстання 1863 года падтрымліваў сувязь з яго ўдзельнікамі. Арыштавалі за тое, што пры вобыску знайшлі паштоўкі ад сяброў, а таксама ў рукапісах ягоныя творы. Але неўзабаве разам з братам Мікалаем быў выпушчаны на свабоду. Да нас дайшло некалькі вершаў Тапчэўскага: «Вечарынка», «Саўсім не тое, што было», «Ён і яна», «Грошы і праца», што даюць падставы аднесці яго да першых беларускіх паэтаў-сатырыкаў і гумарыстаў. Асобныя з іх Тапчэўскі падпісваў псеўданімам Хвэлька з Рукшэніц, паколькі валодаў фальваркам паблізу Рукшаніц (Рукшэніц). Там і памёр 29 снежня 1892 года, дзе і пахаваны. Цяпер гэта вёска Глыбачка Ушацкага раёна.

## З даўнінай на «вы»

Невыпадкова паўночная частка Лепельскага возера мае назву Кусцінскае. Некалі тут знаходзілася сядзіба Кусцінскіх — іхні дом стаяў за нейкія 50—70 метраў ад возера. Найбольш вядомы з іх Міхаіл Кусцінскі — археолаг, гісторык, краязнаўца. Нарадзіўся ён 28 верасня 1829 года, памёр у 1905 годзе. Першапачатковую адукацыю атрымаў на Лепельшчыне. Потым скончыў Віленскі дваранскі інстытут і юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, але зацікавіўся археалогіяй. Пасяліўшыся ў 1855 годзе ў сваім маёнтку Завідзічы, раскопваў курганы ў саміх Завідзічах, у Гутаўскай лясной дачы, каля Бораўна, Кубліч, у Лепелі. Гэта дало неблагія вынікі. Прынамсі, каля Кубліч знайшоў дзіды, жалезныя сякеры, гліняную лямпу з адтулінай для кнота… Атрымалася калекцыя каменных, бронзавых, жалезных, гліняных і іншых вырабаў, што была перададзеная ў музеі Віцебска, Расіі і Польшчы.

Апроч таго, Міхаіл Францавіч за шмат гадоў стварыў археалагічную карту Лепельшчыны. Яму належыць таксама першая ў Беларусі фотатэка помнікаў даўніны Віцебскай і суседніх губерняў. Вынікамі сваёй работы дзяліўся ў друку: «Нататкі аб археалагічных раскопках у Віцебскай губерні», «Вопыт археалагічных даследаванняў у Лепельскім павеце Віцебскай губерні», «Нататка аб знаходках у Віцебскай губерні ў курганах са спаленнем», «З нататкаў аб курганах Лепельскага павета». За значнасць навуковых даследаванняў Лепельскага краю

Кусцінскі быў выбраны членам-карэспандэнтам, а потым акадэмікам Маскоўскага Імператарскага археалагічнага таварыства.

Спрычыніўся да вывучэння Лепельшчыны і фалькларыст, этнограф, гісторык, пісьменнік і ўраджэнец Віцебшчыны Іван Гарбачэўскі (1860—1914), які некаторы час працаваў у Лепельскім гарадскім двухкласным вучылішчы. Ён друкаваўся у «Витебских губернских ведомостях», «Виленском вестнике», іншых перыядычных выданнях. У 1895 годзе асобнай кніжкай выйшаў нарыс Гарбачэўскага «Лепельскі павет Віцебскай губерні», у якім гаворка ішла пра прыроду гэтага кутка, гаспадарчую дзейнасць насельніцтва, падаваліся цікавыя звесткі па гісторыі і культуры Лепельшчыны.

Не менш цікавыя звесткі можна напаткаць і ў кнізе Дзмітрыя Даўгялы (нарадзіўся 1 лістапада 1868 года ў вёсцы Казьяны Гарадоцкага павета Віцебскай губерні, памёр у красавіку 1942-га) «Лепель, павятовы горад Віцебскай губерні», прысвечанай 100-годдзю з дня надання мястэчку статусу горада. «Парадніўся» ж Дзмітрый Іванавіч з Лепельшчынай пасля таго, як ягоны бацька святар Іаан Даўгяла ў 1896 годзе быў пераведзены протаірэем лепельскага Свята-Прабражэнскага сабора і назіральнікам царкоўнапрыходскіх школ Лепельскага павета. Сын да яго звычайна наведваўся летам. Зацікавіўшыся гісторыяй Лепеля, стаў вывучаць архіўныя матэрыялы, што расказвалі пра яго даўніну.

Адно ж з першых даследаванняў Лепельшчыны — праца Рыгора Кладніцкага «Этнаграфічныя звесткі аб жыхарах Лепельскага павета» (1850). Кладніцкі доўгі час жыў на Лепельшчыне, таму не толькі змог добра пазнаёміцца са звычаямі тутэйшага сялянства, атрымаць уяўленне пра іх жыллё, адзенне, але і вывучыў асаблівасці мясцовай мовы. Гэта дазволіла яму скласці слоўнік гаворкі, якой карысталіся жыхары паўночнай часткі Лепельскага павета. Ёсць у гэтым слоўніку і крылатыя выразы, асобныя з якіх бытуюць і па сённяшні дзень. Яшчэ адна адметнасць слоўніка ў тым, што Кладніцкі сялянскую гаворку запісаў фанетычна дакладна, перадаўшы яе гукавыя і артыкулярныя ўласцівасці.

## Салодкая антонаўка з Фатыні

Сярод папер, што засталіся пасля Івана Гарбачэўскага, захаваўся і рукапіс, у якім расказваецца пра вядомага на Лепельшчыне садоўніка і пчаляра Восіпа Мароза з вёскі Фатынь. Гэты чалавек невыпадкова зацікавіў Івана Данілавіча, бо належаў да тых людзей, якія на дзіва самаахвярна працуюць на роднай зямлі.

Нарадзіўся ён у 1852 годзе ў вёсцы Бачэйкава ў сям'і Кандрата Мароза, прыгоннага мясцовага пана Ціханавецкага, які 33 гады працаваў памочнікам замежнага садоўніка, даглядаў дэкаратыўныя дрэвы. Хацеў займець сваю зямлю. Гэтая ягоная мара здзейснілася ў 1863 годзе, калі атрымаў у арэнду восем дзесяцін каля вёскі Фатынь. На гэтым участку і пачаў шчыраваць разам з сынам. У 1869 годзе пасадзілі свой першы сад з дзікіх яблынь, каб неўзабаве пачаць рабіць на іх прышчэпкі. Праз год заклалі і ўласны гадавальнік. Праз адзінаццаць гадоў царскі ўрад падарыў фальварак Фатынь віцебскаму губернскаму казначэю Мерлінгу, а той, у сваю чаргу, перадаў яго ў арэнду Марозам. Яшчэ праз восем гадоў Язэп Кандратавіч Фатынь выкупіў.

З 1888 года Мароз разгарнуўся як след, ладзячы сваю гаспадарку. Пабудаваў жылы дом, узвёў падсобныя памяшканні. Для расшырэння пасадкі пладовых дрэў займаўся выкарчоўкай, асушэннем балота. Каб вызначыць больш устойлівыя сарты пладовых дрэў, ягадных і іншых культур, толькі яблынь вырошчваў больш за сотню гатункаў. Прадоўжыў эксперыменты па вывядзенні салодкай антонаўкі. Падыходзіў да здзяйснення гэтага паэтапна. Яшчэ ў 1885 годзе на салодкай яблыні аляксандраўскай прышчапіў кісла-салодкую баравінку. Калі праз год прышчэплены парастак вырас, на ім прышчапіў чаранок антонаўкі.

У 1889 годзе дачакаўся першых пладоў новага гатунку. Але на гэтым эксперымент не згарнуў. Яшчэ пяць гадоў праводзіў многаразовыя прышчэпкі чаранкоў атрыманага сорту на дзікіх яблынях. Нарэшце, з 1896 года пачалося масавае распаўсюджванне гэтага гатунку.

Увогуле, сядзіба Мароза нагадвала сабой суцэльны сад. Чаго на ёй толькі ні расло! Больш за пятнаццаць гатункаў груш, пятнаццаць — сліў, па пяць сартоў вішань, чарэшань, маліны, барбарысу, восем агрэсту, дзесяць — парэчак. Дзякуючы Язэпу Кандратавічу, з'явілася так званая рэмантантная суніца Мароза, якая цвіце на працягу лета без перапынку і дае ягады ажно да кастрычніка. Уздоўж алей, вакол дома расло мноства кветак. Адных руж было 35 гатункаў. Стварыў Мароз і свой дэндрарый з многімі рэдкімі дрэвамі і раслінамі, у тым ліку і з лекавымі. Меўся ў яго і заалагічны сад з самымі рознымі жывёламі і птушкамі.

Сваё захапленне Язэп Кандратавіч перадаў тром сынам, кожны з якіх узяў для сябе пэўны кірунак работы, што мела па-сапраўднаму даследчыцкі характар. Да ўсяго сям'я Марозаў прапагандавала прысядзібнае садоўніцтва ў навакольных вёсках Лепельскага павета. А ў 1919 годзе Язэп Мароз прапанаваў Віцебскаму губземаддзелу арганізаваць на базе яго гаспадаркі саўгас, што і было зроблена. Гаспадара сядзібы зацвердзілі аграномам-садаводам. Можна сказаць, што яго на ўсё ставала. Таму і з'яўляўся нязменным удзельнікам розных сельскагаспадарчых выставак Лепельскага павета і Віцебшчыны. На той, што праходзіла ў Лепелі ў 1924 годзе, здзівіў усіх боханам хлеба, які важыў ажно дваццаць пудоў. Займаўся і вынаходніцтвам. Прынамсі, зрабіў сушылку, прадукцыйнасць якой складала 40 пудоў фруктаў у суткі. Машына ж для рэзкі яблыкаў за мінуту прапускала 4 кілаграмы пладоў. Паколькі ў 30-я гады мінулага стагоддзя сітуацыя ў краіне была складаная, Язэп Кандратавіч пакінуў Беларусь і паехаў у Сібір, дзе і памёр у 1933 годзе.

* * *

На цудоўнай лепельскай зямлі мне пашчасціла пабываць двойчы. Праўда, першы раз гэта адбылося гадоў трыццаць назад. Таму, прызнаюся шчыра, цягам часу пра тое наведванне Лепеля забылася. Аднак дастаткова было апынуцца на беразе Лепельскага возера, як даўняе адразу ажыло ў памяці, выклікаўшы прыемныя згадкі. Дый тыя старыя ўражанні падмацаваліся новымі. Хоць і было халаднавата — як-ніяк, а да вясны было яшчэ далёка, а таму рыбакі смела сядзелі на лёдзе возера, але пра сцюдзёнасць не думалася. Дый настрой узнімалі, як ні дзіўна, Цмок і Русалка, якія прымасціліся тут жа ля берага. Цмок адным сваім выглядам упэўніваў, што ўсё павінна быць добра, а Русалка… Красуня заўсёды красуня. Тым больш, што поруч праходжвалася нямала прыгожых дзяўчат, якія ўлетку, калі пачнецца купальны сезон, несумненна, хараством сваім зацьмяць яе. То, можа, завітаць у Лепель яшчэ раз? Каб убачыць тое, што ўбачыць не паспеў. Расказаць пра тое, згадаць пра што не хапіла месца ў гэтым і так аб'ёмным матэрыяле.

**Артур ВЯРЭЙЧЫК**

# ДЗІВОСЫ КУЛЬНЕВА І... ГРОМ ПЕРАМОГІ

### Жаночы чаравічак з шампанскім

Настрой у жыхароў шведскага горада Якабштата быў гнятлівы: вайна працягваецца, праліваецца кроў, гінуць людзі, застаюцца параненыя і скалечаныя. І каб жа толькі адны ваенныя — ім, бадай, і лёсам наканавана гэта, а то хапае няшчасцяў, перажыванняў, смерці і сярод мірнага насельніцтва, якое ні ў чым не павінна, а толькі становіцца заложнікам усіх гэтых авантур, якім, здаецца, не будзе канца. Вось і цяпер рускія ля самых сцен горада. Хто яго ведае, як усё павернецца і ці можна быць упэўненым, што і па цябе неўзабаве не прыйдзе кашчавая са сваёй вечна вострай касой.

Каб хоць крыху развеяць гэтыя самотлівыя думкі, многія паспяшаліся ў самую вялікую ў горадзе карчму. Куфель-другі піва, кварта віна, глядзіш, і весялей на душы. А калі зайгралі скрыпкі, падалі свой голас валторны, дык ва ўсіх сум як рукой зняло. Нібыта і вайны няма, і не сцюдзёная зіма на дварэ, а мірны і сонечны вясновы дзень.

Нехта, асабліва неспакойны, разгарачаны выпіўкай, падхапіўся з месца, падышоў да стала, дзе ў кампаніі сядзелі жанчыны, і запрасіў адну з іх на танец. Прыклад з яго ўзялі іншыя, і праз колькі хвілін паміж сталамі закружыліся пары. У які бок ні кінеш вокам — паўсюдна панавалі радасныя, узбуджаныя твары.

Не плакалі ўжо скрыпкі, калі смычкі краналіся струн, а спявалі — пяшчотна, замілавана, нібыта спяшаюцца адразу перадаць усё багацце гукаў, падуладнае ім. А валторны, дружна падхопліваючы гэтую мелодыю, старанна аздаблялі яе новымі музычнымі фарбамі, блізкімі і знаёмымі толькі ім.

Гуляў Якабштат.

Здавалася, няма такой сілы, якой бы ўдалося спыніць гэтую весялосць. Усе былі настолькі захоплены, што страцілі пачуццё рэальнасці. Быццам знаходзіліся ў нейкім іншым, зусім не рэальным свеце, у якім няма месца подласці, здрадзе, смерці. І падобная адчужанасць была настолькі вялікая, што калі нечакана рашуча, адным магутным рыўком расчыніліся дзверы, ніхто спачатку гэтага і не заўважыў, і толькі тады, калі з праёму іх густым туманам павалілa марозная, свежая пара, тыя, хто знаходзіўся бліжэй ля ўваходу, павярнулі галавы. І адразу вярнулася да іх рэальнасць...

Спалохана закрычалі, завішчалі жанчыны.

Аслупянелі, не ведаючы, як зрэагаваць на гэта, мужчыны.

На паўтоне змоўклі скрыпкі, нібыта ў адно імгненне ва ўсіх іх лопнулі струны.

Знямелі, падобна таму, як раптоўна змаўкае той, каго нечакана напаткала нейкая небяспека, валторны.

А ў праёме дзвярэй, разумеючы якое ўражанне сваім нечаканым з'яўленнем ён зрабіў на прысутных, упэўнена стаяў з зарослым тварам мужчына. Шырокі ў плячах, высачэзны — эфес яго шаблі звычайнаму чалавеку дайшоў бы да пляча, ён мусіў крыху апусціць галаву, інакш не ўвайшоў бы. Вейкі велікана пакрываў, не паспеўшы растаць, іней, з ягонай барады звісалі ледзяшы, зачэсаныя наперад бакенбарды таксама былі заснежаны, а ў вачах...

Дзіва дый толькі. У позірку яго зусім не адчувалася агрэсіўнасці, хоць гэтак рашуча ў незнаёмую кампанію з добрымі намерамі звычайна не заходзяць. Аднак вочы велікана былі добразычлівымі, а твар расплываўся ў шырокай, дружалюбнай усмешцы.

Аднак сполах у карчме ўсё адно не праходзіў.

— Рускі! — спужана крычалі жанчыны

Гэты крык гатовы быў перарасці ў суцэльны лямант, выліцца ракой слёз, але, зразумеўшы, што нязваны госць быццам і не збіраецца нікога крыўдзіць, жанчыны хутка змоўклі, толькі спалохана збіліся ў адным з куткоў, цесна прыціскаючыся адна да адной і няўцямна пазіраючы па баках, на ўсялякі выпадак як бы шукаючы паратунку.

Але і мужчыны не ведалі, як паводзіць сябе, у гэтай, такой непрадказальнай сітуацыі. Сваёй унушальнай фігурай незнаёмец па сутнасці скаваў іхнюю волю, таму ніхто не адважыўся нават наблізіцца да яго, а толькі ўсе заўважылі, як той паклаў руку на эфес шаблі.

Запанавала магільная цішыня.

Першым яе парушыў велікан.

Перад гэтым ягоны твар перамяніўся, стаў яшчэ больш суровым, пабольшала і рашучасці — няйначай задумаў нешта нядобрае. Ён упэўнена зрабіў некалькі крокаў у той бок, дзе знаходзіліся жанчыны. Адчуўшы небяспеку, яны да таго спалохаліся, што на некаторых найшло быццам нейкае здранцвенне і адзінае паспелі толькі з жахам заплюшчыць вочы і закрыць твары рукамі.

І тут незнаёмец штосьці прамовіў на сваёй мове. Што канкрэтна, ніхто здагадацца не мог, але не засталося незаўважаным, што пры гэтым ён паказваў спачатку на адну жанчыну, потым — на другую... Тыя, не чакаючы ад яго нічога добрага, пачалі адступаць назад, спрабуючы схавацца за спіны сяброўак, а наперадзе апынаціся новыя. Да іх велікан таксама не быў абыякавы. І па-ранейшаму штосьці гаварыў, гэтаксама паказваючы то на адну, то на другую. Няйначай спрабаваў высветліць, каторая з іх найбольш прыгожая.

Мужчыны першымі здагадаліся, чаго хоча ён, таму пачалі пацііху перамаўляцца між сабой. І, бадай, не памыліліся ў сваіх меркаваннях. Відаць, сапраўды незнаёмец шукаў сярод жанчын самую вабную і стройную, бо, калі ўбачыў першую красуню ў горадзе, адразу даў зразумець, каб падышла да яго.

Тая спалохалася, застыла нібыта паралізаваная, а потым, адкуль і рашучасць узялася, горда ўзняла галаву і падышла да яго. А ён, акінуўшы жанчыну позіркам — ужо нават не суровым, а нейкім непрыхавана-нахабным, пачаў разглядаць яе, быццам рыхтуючыся… распрануць.

Вочы велікана затрымаліся на аголенай шыі прыгажуні, слізганулі ніжэй, дзе пад апраткай праступалі яе тугія грудзі, потым апынуліся на ўзроўні каленяў — яны, канечне, не былі бачны з-за доўгай, ледзь не да самых пят, сукенкі, але для незнаёмца гэта з'яўлялася неістотным. Адчувалася, што ён захапляецца ёю. Нарэшце, ягоны позірк спыніўся на элегантных чаравічках.

— О! — незнаёмец задаволена ўзняў указальны палец правай рукі, а пасля загаварыў хутка, нібы баючыся, што яго перапыняць.

Ягоны намер быў больш, чым відавочны. Як для самой жанчыны, якую выбраў, так і для ўсіх астатніх.

— Не пярэч яму, — папрасілі яе некалькі мужчын.

— Згаджайся, — падалі свой голас жанчыны.

Прыгажуня няўцямна глядзела па баках, шукаючы хоць адзін спачувальны твар і не бачыла яго. Ні ў кога не знаходзіла падтрымкі, а некаторыя і ўвогуле адварочваліся ў бок, бо адчувалі сваю віну ад усведамлення, што нічым не могуць дапамагчы ў гэтай сітуацыі.

Нарэшце знайшоўся хтосьці, хто паспрабаваў жанчыну супакоіць:

— Нічога страшнага...

Яго падтрымалі іншыя:

— Не бойся, мы не асудзім цябе. Бачыш, якое страшыдла, калі будзе не так, як хоча, дык усіх нас пасячэ сваёй шабляй.

— А чаму абавязкова я? — прыгажуня пра ўсё здагадвалася і роспачна заплакала.

— Ды не хоча ён нікога іншага, апроч цябе!

Незнаёмец, відаць, зразумеўшы, што яму ніхто не стане пярэчыць, кінуўся да прыгажуні, схапіў яе за руку. З захапленнем, не хаваючы свайго замілавання, яшчэ нешта сказаў і, падтрымліваючы яе левай рукой за стан, нагнуўся, а правай зняў з нагі жанчыны чаравік.

Падняўся, пакруціў яго ў руках — маленькі, зусім мініяцюрны, з вострым носам. Чаравік яму, відаць, вельмі спадабаўся, бо шчасціністы твар велікана зноў расплыўся ва ўсмешцы. Але яна была не такая, як раней, а куды больш адкрытая, такая, што і бывае ў чалавека, які доўга да нечага імкнуўся і нарэшце дасягнуў жаданага.

Усе, хто знаходзіўся ў зале, неўразумела назіралі за гэтым, а незнаёмец, не сказаўшы больш ні слова, з высока ўзнятым у правай руцэ чаравікам, кінуўся да стала, на якім знаходзілася некалькі бутэлек з шампанскім.

Паставіў чаравік на стол, хутка адкаркаваў адну з бутэлек і пеністае віно хлынула ў яго, напаўняючы да краёў.

Пад здзіўленыя позіркі прысутных ён паднёс паўнюткі чаравік да вуснаў і залпам, на адным дыханні асушыў яго, а пасля гэтага пацалаваў чаравік у каблук. І з ім вярнуўся да ашаломленай прыгажуні, яшчэ больш элегатна пакланіўся і надзеў абутак ёй на нагу.

Усе з палёгкай уздыхнулі.

Пачуліся гучныя воплескі, што дапаўняліся словамі захаплення ад падобнага ўчынку.

Заспявалі — яшчэ больш радасна, натхнёна, чым да ягонага прыходу, скрыпкі.

У падтрымку ім падалі свой голас валторны.

А незнаёмец пад усеагульныя позіркі запрасіў гарадскую красуню на танец.

Гэта была прыгожая пара.

Нечакана, і на сваё здзіўленне, усе заўважылі, што велікан зусім не такі страшны з выгляду, як падалося ім спачатку, больш таго, нягледзячы на вялізны нос, па-свойму прывабны. Тымі суровымі рысамі твару, што выдаюць у мужчыне бравага ваяку.

Незнаёмец адразу ж спадабаўся ўсім.

Кожнай жанчыне хацелася, каб абавязкова запрасіў на танец менавіта яе.

Кожнаму мужчыне жадалася выпіць з ім.

І ён, здаецца, нікому не адмовіў.

Да самага ранку танцаваў, у перапынку асушваючы куфаль за куфлем шампанскага.

Віно не брала яго, а толькі яшчэ больш узбадзёрвала. І так кампанейскага, адкрытага, зрабіла на дзіва раскаваным, сваім сярод тых, хто, калі прытрымлівацца законаў вайны, з’яўляўся ягоным ворагам.

Перад жыхарамі Якабштата паўстаў ва ўсёй сваёй неўтаймаванасці характару ніхто іншы, а адзін з самых смелых афіцэраў расійскай арміі, генерал-маёр кавалерыі Якаў Кульнеў, пра мужнасць якога, адвагу і адначасова пра непрадказальнасць паводзін у складаных сітуацыях даўно хадзілі легенды, і далёка не ўсе здагадваліся, што яны, як і гэты выпадак, мацуюцца на сапраўдных фактах. У тым ліку і звязаных з руска-шведскай вайной 1808—1809 гадоў.

## Здані, якія вырваліся з завірухі

Асабліва вызначыўся Кульнеў тады, калі рускія войскі ажыццяўлялі пераход па лёдзе Батнічнага заліва на Аландскія астравы, каб затым паспяхова весці наступленне на Стакгольм. Найбольш важныя задачы ўскладаліся на корпус выдатнага палкаводца Пятра Баграціёна, авангардам якога і камандаваў Кульнеў.

У паход выступілі ў лютым 1809 года. І адразу ж адчулі на сабе норавы паўночнай зімы. Не паспелі пераадолець на маршы і некалькі кіламетраў, як шквальны снежны ўраган абрушыўся на войскі. Так віхурыла, што наперадзе нічога не было відаць.

Становішча ўскладнялася яшчэ і тым, што ледзь не на кожным кроку падсцерагалі вялізныя палонкі, пакрытыя снегам, пад якім была толькі тонкая палоска лёду. Па неасцярожнасці ў іх траплялі і коні, і людзі, правальваліся гарматы. Ды нішто ўжо не магло спыніць наступаючых. Асабліва кульнеўцаў. Іхні камандзір пастаянна паказваў асабісты прыклад, нязменна знаходзячыся наперадзе.

Калі ж спыняліся на чарговы начлег, ён найперш клапаціўся аб сваіх падначаленых. На заўвагі ж, што і самому трэба адпачыць, нязменна адказваў: «Не сплю для таго, каб мае салдаты маглі як след выспацца». Хоць які гэта быў адпачынак, калі начаваць даводзілася ў гурбах снегу. Ды ніхто, беручы прыклад з камандзіра, на лёс не скардзіўся. Ведалі: вайна — не прагулка. Як і верылі ў тое, што Кульнеў знойдзе выйсце з самай цяжкай сітуацыі. Так адбылося і гэтым разам.

Ягоныя коннікі, быццам здані, вырваліся са снежнай буры. Шведы, пабачыўшы, разгубіліся. А калі пачулася магутнае «Ура!», а следам паказаліся іншыя войскі, палічылі за лепшае адступіць, кідаючы артылерыю, боепрыпасы. За восем дзён Аландскія астравы былі поўнасцю заняты.

Баграціён, задаволены дзеяннямі Кульнева, выклікаў яго да сябе:

— Не загадваю, Якаў Пятровіч, а прашу, як салдат салдата. Любой цаной неабходна прабрацца на шведскі бераг. Неаднойчы шведы гасцявалі ў нас, трэба і нам да іх наведацца. Апроч цябе...

— Князь! — Кульнеў, не даўшы яму дагаварыць, выцягнуўся па стойцы смірна. — Кульнеўцы не прывыклі пасаваць перад цяжкасцямі. Пераадолеем і Балтыйскае мора.

— Іншага адказу я і не чакаў! — Баграціён уважліва паглядзеў на Кульнева. Ён любіў яго, як і любілі ўсе ў рускай арміі, пачынаючы ад салдата да генерала. І верылі: нават там, дзе ніхто не пройдзе, для кульнеўцаў перашкоды няма.

А Кульнеў, вярнуўшыся ад Баграціёна, тэрмінова сеў пісаць загад перад гэтым важным паходам. Калі ж тэкст быў гатовы, пастроіў сваіх воінаў і сам пачаў чытаць яго.

Сцішыліся байцы, ловячы кожнае слова свайго камандзіра, а ён, здавалася, не загадваў ім, а гаварыў проста, па-сяброўску, нароўных, і ягоны голас выклікаў у душы кожнага ўпэўненасць у паспяховым завяршэнні заўтрашняга паходу:

— Бог с нами, я перед вами, а князь Багратион за нами. В полночь собраться у мельницы. Поход до Шведских берегов венчает все труды наши. Сии волны — истинная награда, честь и слава бессмертия! Иметь при себе по две чарки водки на человека, по куску мяса и хлеба. Лошадям — по два гарнца овса. Море не страшно. Отдыхайте, мои товарищи!

Яшчэ распарадзіўся, каб кожнаму далі чыстую бялізну і анучы для абутку. І сам павёў усіх у лазню. Калі ж добра папарыліся, першы з крыкам: «У здаровым целе — здаровы дух!» выскачыў, у чым маці нарадзіла, на мароз і з разгону кінуўся ў гурбу:

— Марозец нервы мацуе, а калі свежы чалавек — дык і сілы падвояцца!

Пачаў расцірацца снегам, раз-пораз ныраючы ў яго з галавой.

Побач з камандзірам весяліліся, дурэлі, гарэзнічалі, як малыя дзеці, салдаты і малодшыя афіцэры. Гледзячы на іх, не верылася, што мароз пад трыццаць градусаў.

— А цяпер за мной! — крыкнуў Кульнеў, і ўсе разам з ім паспяшаліся апранацца, каб, як было дамоўлена, у поўнач сабрацца ля млына.

Часу вольнага было няшмат, але і тыя гадзіны, што засталіся да выхаду ў паход, Якаў Пятровіч правёў не адзін, хоць і мог знаходзіцца ў цёплай, утульнай палатцы, пастаўленай для яго, а сярод сваіх падначаленых.

Інакш не мог. Неаднойчы пераконваўся, што падобныя хвіліны, калі можна спакойна пагаварыць сам-насам з салдатамі ці малодшымі афіцэрамі, даюць

вельмі шмат для ўзаемаразумення, а асабліва яны важныя перад выкананнем адказных баявых задач. У нязмушанай атмасферы хутка пачынае панаваць сяброўская, шчырая размова, карысць ад якой куды большая, чым ад нікому непатрэбнай муштры.

Ніколі не дазваляў сабе і рукапрыкладства, а калі падобнае назіраў сярод іншых афіцэраў, абураўся, даводзячы нязменнасць сваёй пазіцыі: «У баі мы ўсе роўныя — і салдаты, і афіцэры. І каб я свайго таварыша па мордзе? Ды што вы, сорамна».

За падобную пазіцыю знайшліся ахвочыя нават называць яго «донкіхотам», але за такую мянушку не крыўдаваў. Для яго лепей было заставацца «донкіхотам», чым дазволіць сабе здзекавацца з падначаленых. А вось за правіннасці заўсёды з кожнага патрабаваў строга. Ды толькі якраз з-за гэтага высокага даверу, што склаўся ў яго з падначаленымі, парушэнняў назіралася не шмат, куды меней, чым у тых часцях, дзе начальства не хацела бачыць у салдаце чалавека, глядзела на яго, як на істоту, якая знаходзіцца на ніжніх прыступках сацыяльнай лесвіцы.

Непрыкметна прабегла гадзіна-другая, і Кульнеў спахапіўся:

— Загаварыў я вас, сокалы! Паспіце крыху.

— А вы, ваша высокаблагароддзе?

— А я ваш сон павартую, — Якаў Пятровіч усміхнуўся і накіраваўся да сваёй палаткі, ведаючы, што ў яе не зойдзе, а праўдзе час, які застаўся, на свежым паветры. Неаднойчы ўпэўніваўся, што яно, такое марозна-ядранае, хораша бадзёрыць. І спаць нікольկі не хочацца. Асабліва, калі ёсць аб чым падумаць і паразважаць. А гэты і быў такі момант, бо наперадзе чакаўся няпросты пераход праз мора, які да яго ніхто не ажыццяўляў.

## Даеш Фінляндыю!

Кульнеў так і не прылёг, а незадоўга да поўначы, як ні ў чым не бывала, адчуваючы сябе бадзёрым, са сваім ад'ютантам Іванам Нарышкіным паспяшаўся да млына, дзе, не сумняваўся, пастроіліся ўжо байцы.

— Гатовы, сокалы, да паходу?

— Гатовы, ваша высокаблагароддзе! — пачуліся галасы. — Толькі чакаем вашага загаду.

— Па конях! — гучна крыкнуў Кульнеў і паскакаў наперад.

Гэта таксама было для яго няпісаным законам: калі ягонае войска рухалася ў авангардзе — Якаў Пятровіч абавязкова знаходзіўся наперадзе, калі ж байцам адводзілася роля ар'ергарда — нязменна замыкаў строй. Заўсёды браў асноўную адказнасць на сябе і пастаянна быў там, дзе магла падсцерагаць большая небяспека.

Але цяпер небяспека была іншага плана, чым блізкая наяўнасць праціўніка, калі для паспяховага ажыццяўлення пастаўленай задачы трэба добра ведаць ягоныя намеры.

Шведы і падумаць не маглі, што кавалерыя Кульнева, пра смеласць якога яны столькі начуліся, адважыцца пераадолець Балтыйскае мора. Іхняя ўпэўненасць у немагчымасці гэтага нават не змянілася пасля таго, як даведаліся, што поспех спадарожнічаў яму пры пераходзе праз Батнічны заліў, бо гэтая перашкода, у параўнанні з морам, — нішто. Там, хоць і падсцерагалі прыцярушаныя снегам месцы з тонкім лёдам, але ў асноўным рухацца конніцы няцяжка. Балтыйскае ж мора паўсюдна ўсеяна таросамі, а гэта куды небяспечней.

Людзі і коні ступалі вобмацкам. Хутка рухацца перашкаджалі не адны торасы, а завіруха, якая распачалася праз колькі гадзін пасля таго, як рушылі ў паход, а таксама і тое, што ноч выдалася на дзіва цёмнай. Месяц і так ледзьве праглядваўся на небе, а з-за пастаянных свінцовых хмар, што бесперапынна рухаліся ўзадуперад, ягоны серп зусім губляўся, і скупыя промні амаль не даходзілі долу.

Раніцой жа, калі небасхіл пачаў толькі святлець, жыхары прыбярэжнага шведскага гарадка Грысельгама і мясцовы гарнізон спалохана глядзелі ў бок мора, адкуль з дзікімі крыкамі, размахваючы шаблямі і клінкамі, несліся кавалерысты. З-за адлегласці некаторыя не маглі разабраць, што гэта за нечаканая лавіна з'явілася на гарызонце, пачыналі ў жаху хрысціцца, а потым, калі разабраліся, што і да чаго, роспачна закрычалі:

— Рускія! Рускія!

Гарнізон не паспеў аказаць хоць якое-небудзь супраціўленне. Усё адбылося так нечакана і маланкава хутка, што шведам давялося без бою скласці зброю і здацца на міласць пераможцам.

Якаў Пятровіч паспяшаўся паслаць данясенне Баграціёну, у якім гаварылася: «Благодарение Богу, честь и слава российского воинства на берегах Швеции! Я с войском в Гриссельгаме... На море мне дорога открыта, и я остаюсь здесь до получения ваших повелений».

Да Стакгольма заставалася нейкіх сто вёрст. Аб узяцці Грысельгама там ужо ведалі і не сумняваліся, што наступным горадам, якім авалодаюць рускія, стане сталіца. Запанавала паніка, бо належны адпор даць не маглі, таму, калі пасля дварцовага перавароту ўладу захапіў герцаг Зюдэрманландскі, ён паспяшаўся папрасіць перамір'е, а 5 верасня 1809 года быў падпісаны Фрыдрыхсгамскі мір, паводле якога да Расіі адыходзіла Фінляндыя.

Несумненна, што ў падобным зыходзе вайны Расіі са Швецыяй была вялікая заслуга генерал-маёра Кульнева. Слава пра яго пасля гэтага разнеслася па ўсёй Расіі. Дайшла яна, безумоўна і да «мадэмуазель Г. Пул...й».

## Каханне ў ахвяру арміі

Кульнеў, як, бадай, і кожны гусар шмат фліртаваў, карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод жанчын, але заставаўся адзінокім чалавекам. І не толькі таму, што не хацеў абцяжарваць сябе сямейнымі клопатамі. Ён быў і не супраць завесці сям'ю, але «мадэмуазель Г. Пул...ая» (так і невядома, хто хаваецца за гэтым прозвішчам, бо хоць у сваіх лістах да яе Якаў Пятровіч і ўжываў самыя цёплыя пяшчотныя словы, але ніколі не назваў ні яе імені, ні поўнага прозвішча) належала да высокіх арыстакратычных колаў, сам жа Кульнеў не з'яўляўся чалавекам багатым, а тым больш не мог пахваліцца сваім радавітым паходжаннем. Аднак пасля таго, як стаў усеагульным любімцам, Г. Пул-вая змяніла сваё стаўленне да яго. Адносіны паміж імі зайшлі так далёка, што паўстала пытанне аб заручынах.

Усё магло б скончыцца вяселлем, калі б абое не праявілі здзіўляючую цвёрдасць характару, адстойваючы ўласныя прынцыпы і не жадаючы ад іх адмаўляцца ні пры якіх умовах, нават калі гэта ставіла пад пагрозу магчымасць жыць разам.

Нявеста, жадаючы, каб будучы муж пастаянна знаходзіўся пры ёй, запатрабавала ад Якава Пятровіча тэрмінова пайсці ў адстаўку, інакш адмаўлялася выйсці за яго замуж. Відаць, усё ж кепска ведала Кульнева, бо падобны крок ён не мог зрабіць ні ў якім выпадку. Нават у імя кахання. Спачатку спрабаваў пераканаць каханую, што без арміі, без кавалерыі не ўяўляе сабе жыцця. Калі ж перакананні нічога не далі, сам праявіў рашучасць, заявіўшы, што хай сама вырашае: ці ўсё ж выйдзе за яго замуж як за чалавека ваеннага, ці застанецца адна.

І ніхто з іх не пайшоў на ўступку. Так Кульнеў мусіў развітацца з той, збліжэння з якой чакаў не адзін год. У апошнім лісце да каханай ён яшчэ раз расставіў усе кропкі над «і». Не адмаўляў таго, як палка любіць яе, аднак і нагадваў, што армія для яго ўсё: «Повторяю вам еще, что ничто на свете, даже сама любовь, которую к вам питаю, не возможет никогда отвратить меня от сердечных ощущений беспредельной любви к отечеству … и что, поступив иначе, я заслуживал бы более ваше презрение, нежели любовь… Прощайте, любезная и жестокая очаровательница, будьте здоровы и вспоминайте иногда о верном вашем друге».

## Народжаны… ў дарозе

Толькі тры выпадкі з жыцця Кульнева. Усяго тры, але і іх дастаткова, каб гаварыць пра яго як пра яркую, на дзіва неардынарную асобу. Толькі, хоць гэтыя згадкі і гавораць шмат, але цалкам не вычэрваюць біяграфію таго, хто ў любой сітуацыі на першы план ставіў адданасць Айчыне і нават каханне, не задумваючыся, прыпадносіў у ахвяру грамадзянскаму абавязку. Таму паўторым услед за Дзянісам Давыдавым, які быў за Кульнева маладзейшым на 21 год, але, служачы пэўны час поруч з ім, лічыў Якава Пятровіча сваім лепшым сябрам:

О муза, расскажи, как Кульнев воевал,
Как он среди снегов в рубашке ночевал
— И в финском колпаке являлся среди боя.
Пускай услышит свет
Причуды Кульнева и гром его побед...

І, вядома ж, пачнём гэтую гаворку з таго моманту, як ён нарадзіўся. Менавіта як, а не толькі «калі». Праўда, зрабіць гэта не так проста, бо звесткі наконт з'яўлення на свет будучага знакамітага гусара, генерала-рыцара, канечне ж, ёсць, ды іх недастаткова, каб канчаткова вызначыцца з месцам ягонага нараджэння. Энцыклапедыі, у тым ліку і выдадзеныя на Беларусі, даводзяць, што гэта адбылося ў колішнім Казельскім павеце Калужскай губерні.

Нарадзіўся ж Кульнеў, калі верыць ім, 25 ліпеня 1763 года (па старым стылі). У літаратуры ж пра яго сцвярджаецца больш дакладна: з'явіўся на свет у ноч з 24 па 25 ліпеня 1763-га. І адбылося гэта зусім не ў Казельскім павеце, а на тэрыторыі Беларусі, у былой Віцебскай губерні. Так сведчыла і паданне, што жыло ў сям'і Кульневых, а ў дадзеным выпадку яго, думаецца, трэба прыняць без якіх-небудзь агаворак, бо яно заснавана на канкрэтных фактах.

Бацька Кульнева Пётр Васільевіч, які нарадзіўся ў 1727 годзе, належаў да небагатых дваран. Жыццё сваё звязаў з арміяй, пачаўшы службу ў 1746 годзе капралам. Прымаў удзел у Сямігадовай вайне. У час баявых дзеянняў у Польшчы ў 1769 годзе быў цяжка паранены і мусіў пайсці ў адстаўку. Пасля 1775 года служыў у горадзе Люцыне Віцебскай губерні (цяпер Лудзе, Латвія) гараднічым, дзе і памёр у 1795 годзе.

Маці Луіза Іванаўна, у дзявоцтве Грэбеніц, была немкай па паходжанні і каталічкай па веравызнанні. З ёю Пётр Васільевіч пазнаёміўся, відаць, за мяжой, дзе знаходзіўся падчас аднаго са сваіх баявых паходаў. Гэтаксама верагодна, што там нарадзіўся ў маладой сям'і і першынец, якога назвалі Паўлам. Ён, дарэчы, выхоўваўся ў каталіцкім духу, у чым, безумоўна, сказваўся ўплыў маці. Да сваёй смерці у 1808 годзе Павел Кульнеў быў плябанам у Люцыне.

Астатнія ж дзеці Кульневых (а іх усяго сем чалавек: шэсць сыноў і адна дачка), па сваім веравызнанні з'яўляліся праваслаўнымі. Звесткі захаваліся яшчэ пра двух: пра Івана, які нарадзіўся ў 1762 годзе і ў 1828 годзе атрымаў воінскае званне генерала ад інфантэрыі і пра Якава.

Калі Луіза Іванаўна была цяжарная ім, яна разам з мужам ехала на месца яго новай службы. Пётр Васільевіч з'яўляўся чалавекам дысцыплінаваным і спадзяваўся, што ўдасца дабрацца ва ўстаноўлены ў прадпісанні тэрмін. Аднак яго прыспешвала не толькі гэтае, а і тое, што жонцы надыходзіў час раджаць. У дарозе яна пачала адчуваць сябе ўсё горш, а калі дабраліся да Полацка, то мусілі затрымацца на два дні. Ужо думалі нават, што ў гэтым горадзе і дачакаюцца свайго трэцяга дзіцяці. Але Луізе Іванаўне палепшала, таму вырашылі працягваць шлях. Ды дабраліся толькі да паштовай станцыі Сівашына, бо ў яе ў дарозе пачаліся родавыя схваткі. Быў позні вечар, мясцовасць незнаёмая, таму з цяжкасцю знайшлі старую, якая і змагла прыняць роды.

Ёсць яшчэ адна гісторыя-паданне, але самі Кульневы да яе не маюць ніякага дачынення, бо з'явілася яна, дзякуючы шчодрай народнай фантазіі. А сярод простага люду (дый у арыстакратычных колах таксама) вельмі любілі Якава Пят-

ровіча. Калі верыць расказанаму, дык хоць і нарадзіўся ён усё ж у даразе, але не каля Сівашына, а паблізу ад Люцына, куды Кульневы дабіраліся з Полацка. Толькі ўз'ехалі на ўзгорак, як Луіза Іванаўна адчула, што больш чакаць не можа. Пад елкамі яна і нарадзіла свайго трэцяга сына, якога потым назвалі Якавам.

## Самім «святлейшым» заўважаны

На беларускай зямлі, на Віцебшчыне прайшло і ягонае маленства. Несумненна, што любоў да вайсковай службы ў яго, як і ў брата Івана, з'явілася яшчэ ў маленстве. І не толькі таму, што бацька быў ваенным чалавекам. Луіза Іванаўна любіла чытаць мастацкія творы, што ўзнаўлялі розныя гістарычныя падзеі, захаплялася і мемуарамі, а кумірам яе з'яўляўся сам Аляксандр Сувораў, з якім яна нават вяла перапіску. А паколькі Пётр Васільевіч з-за пастаянных паездак рэдка бываў дома, дык асноўнае выхаванне дзяцей, у першую чаргу Івана і Якава, якія і самі праяўлялі цікавасць да ваеннай справы, клалася на яе плечы. Бацька, як мог, падтрымліваў гэтыя намаганні па патрыятычным выхаванні сыноў, таксама будучы ўпэўненым, што яны павінны пайсці ягоным шляхам.

У 1770 годзе Пётр Васільевіч прывёз Івана і Якава ў Пецярбург для паступлення ў Сухапутны шляхецкі кадэцкі корпус, а паколькі матэрыяльнае становішча сям'і было далёка не лепшым (увесь дастатак складаўся з яго жалавання ды сякой-такой выручкі ад родавага маёнтка Болдырава, што знаходзіўся ў Калужскай губерні і меў толькі 25 прыгонных), дамогся, што сыноў прынялі на вучобу «за казённы кошт».

Навучанне ў корпусе працягвалася 15 гадоў. За гэты час кадэты атрымлівалі грунтоўныя веды па многіх прадметах, у тым ліку па матэматыцы, геаграфіі, гісторыі, па фартыфікацыі і тактыцы. Вывучалі і замежныя мовы. Немалая ўвага надавалася таму, каб будучыя афіцэры адпавядалі свайму высокаму прызначэнню ў грамадстве, а таму яны займаліся фехтаваннем, гімнастыкай, наведвалі заняткі па танцах.

Як вучыўся Якаў Пятровіч, можна даведацца са сведчання Давыдава: «Кульнеў ведаў здавальняюча артылерыйскую навуку і дасканала палявую фартыфікацыю, тэарэтычна і практычна. Ён прыстойна размаўляў на мовах французскай і нямецкай, хоць пісаў на абедзвюх часта з памылкамі, але пазнанні яго ў гісторыі, асабліва ў рускай і рымскай, былі сапраўды цудоўныя. Ваенны чалавек і яшчэ гусар (выдзелена Давыдавым. — *А. В.*), ён не горш за любога прафесара ведаў храналагічны парадак падзей і суадносіны паміж сабою адзіначасовых выпадкаў, выводзіў з іх уласныя высновы, напоўненыя здаровым сэнсам і праніклівасцю».

Гэта аднак не перашкодзіла Кульневу ў 1785 годзе выйсці са сцен корпуса з сярэбраным медалём «за стараннасць і поспехі ў вучобе». Калі што і расчароўвала яго падчас выпуску, дык тое, што, атрымаўшы званне паручніка, хацеў служыць у кавалерыі, а па размеркаванні трапіў у Чарнігаўскі пяхотны полк. Праўда, знаходзіўся там нядоўга. Дзякуючы пастаянным рапартам, адрасаваным вышэйшаму камандаванню, усё ж удалося перавесціся ў Пецярбургскі драгунскі полк.

Збылася першая ягоная мара, якая не пакідала яго на працягу ўсяго часу службы ў Чарнігаве. Цяпер даводзілася чакаць ажыццяўлення другой, але гэта ўжо ў куды меншай ступені залежала ад самога Кульнева, якому хацелася як мага хутчэй апынуцца на полі бою. Павінны былі ўзнікнуць адпаведныя абставіны, каб драгунскі полк пакінуў месца свайго пастаяннага размяшчэння.

Чакаць давялося да 1787 года, калі Турцыя прад'явіла Расіі ўльтыматум, патрабуючы задавальнення шэрагу сваіх прэтэнзій. Яны тычыліся вяртання Крыма, прызнання Грузіі дзяржавай, якая знаходзіцца пад пратэкцыяй султана. Нарэшце, ва ўльтыматуме знайшлося месца і такому абражальнаму для Расіі пункта, як права турэцкага боку на агляд рускіх суднаў, што праходзяць праз Басфорскі заліў. Зразумела, падобныя ўмовы ўрад Кацярыны II прыняць не мог. Тады Турцыя ў жніўні 1787 года аб'явіла Расіі вайну.

Пачалася перадыслакацыя некаторых часцей. У шэрагу тых, што трапілі ў Малдавію, аказаўся і Пецярбургскі драгунскі полк. Першага баявога хрышчэння Кульневу доўга чакаць не давялося. Адбылося яно ў час асады Бандэраў. Рускія кавалерысты, нягледзячы на тое, што абстаноўка склалася няпростая, дзейнічалі мужна, рашуча. Немалаважна і тое, што пры гэтым яны праяўлялі баявую смякалку, у неабходных выпадках, улічваючы сітуацыю, што склалася, смела праяўлялі асабістую ініцыятыву.

З маладых афіцэраў найбольш вызначыўся Кульнеў. І быў заўважаны фаварытам імператрыцы Пацёмкіным. «Святлейшы», пры ўсіх яго недахопах, трэба аддаць яму належнае, умеў разбірацца ў людзях, асабліва, калі перад ім знаходзіўся ваенны чалавек. Пачуўшы шмат добрага пра Кульнева, ён у час пастраення кавалерыстаў падышоў да маладога паручніка і паблажліва паляпаў яго па плячы. Для ўсіх стала зразумела, якая гэта высокая ацэнка, бо падобнае ўсёмагутны Пацёмкін дазваляў сабе толькі ў тых выпадках, калі той, хто трапіў у ягонае поле зроку, яму чымсьці асабліва спадабаўся.

Давялося Кульневу служыць і пад камандаваннем Суворава, калі ў складзе Пераяслаўскага коннаегерскага палка ўдзельнічаў у ваеннай кампаніі 1794 года. Праўда, гэтым разам ягоная місія не была падначалена высакароднай справе, бо войска Суворава падаўляла паўстанне 1794 года. Але салдат не мае права не выконваць загады, а Кульнеў найперш быў салдатам, кавалерыстам. І ўжо тады неаднойчы глядзеў смерці ў твар. За мужнасць жа пры штурме Прагі атрымаў званне ротмістра. Аднак, хоць і быў ваенным па прафесіі, разумеў, і ніколі не забываў, што сама па сабе вайна нясе смерць і гора. Значна пазней пісаў брату Івану: «... у самой сутнасці вайна самае паспяховае нішто іншае ёсць, як знішчэнне роду чалавечага і давядзенне да галечы жыхароў, на што без дрыжыкаў сэрца нельга глядзець». У іншым сваім лісце да яго сведчыў: «О! Вайна пагібельная для роду чалавечага».

## Тры стравы з адной

Асуджаў вайну і прагнуў... ваяваць. А таму і прагнуў, што праз вайну імкнуўся дабіцца справядлівасці ў ягоным,Кульнеўскім, разуменні. Дый гэта была для яго адзіная магчымасць найлепшым чынам самасцвердзіцца, дасягнуць таго, да чаго імкнуўся. А імкнуўся ён, як і кожны прафесійны ваенны, да новых перамог, да атрымання чарговых вайсковых званняў. Паскорыць жа такі працэс можна толькі тады, калі пастаянна знаходзіцца на пярэднім краі.

Наколькі гэта важна, асабліва зразумеў, калі пасля 1794 года мусіў служыць у розных гарнізонах, дзе напаткалі яго аднастайныя армейскія будні, а калі чым і займаўся, дык толькі пастаяннымі пастраеннямі, у лепшым выпадку арганізоўваліся баявыя вучэнні. Многія афіцэры знаходзілі задавальненне ў тым, каб прыніжаць падначаленых, муштраваць іх без дай прычыны. А гэта было яму не па душы. Асабліва балюча стала, калі падобнае ў рускай арміі пасля смерці Кацярыны IIназіралася ў войсках паўсюдна.

Павел I і тыя, хто акружаў яго, глядзелі на салдата, як на «механізм, артыкулам прадугледжаны». Любая, нават самая нязначная правіннасць каралася вельмі строга. Гэта тычылася і драгунскіх, гусарскіх часцей, у якіх дагэтуль, у параўнанні з іншымі, існавала па сутнасці вольніца. Згаданыя падраздзяленні з'яўляліся элітнымі і дзейнічалі яны, як правіла, на самых адказных участках, калі неабходна было ці хутка разграміць ворага, ці загінуць самім. Нездарма французскі генерал Ласаль гаварыў: «Гусар, які не забіты ў трыццаць гадоў, — не гусар, а дрэнь!»

З прыходам на трон Паўла I для гусараў пачаліся аднастайныя будні. Асабліва ім працівіліся натуры дзейсныя, гарачыя, а да падобных людзей і належаў ротмістр Кульнеў, які за кароткі час змяніў некалькі месцаў службы. Яго пераводзілі з палка ў полк. Чым кіраваліся пры гэтым, невядома, але давялося паслужыць

і ў Сумскім гусарскім палку, і ў гусарскім генерала Іванова, зноў вярнуцца ў Сумскі. Нарэшце, у 1806 годзе Кульнева накіравалі ў новасфарміраваны Гродзенскі гусарскі полк. І гэта пры тым, што не пераставаў пісаць рапарты аб пераводзе ў дзеючую армію, але яны заставаліся без адказу.

Калі спадзяванняў, што ягоная просьба будзе задаволена, не засталося, у адчаі нават вырашыў пайсці ў адстаўку. Хутчэй за ўсё гэта быў крык душы, да ажыццяўлення задуманага справа не дайшла, тым не менш думкамі, якія апанавалі, вырашыў падзяліцца з братам у лісце да яго.

Гэты ліст цікавы ва ўсіх адносінах. І па тым, што бачыцца, наколькі цяжкі для Кульнева падобны крок, а, рашыўшыся на яго, Якаў Пятровіч не забывае аб галоўным, чым напоўнена ягоная душа. І па тым, як ён напісаны. Відавочна, што ён не надта ўмеў належным чынам выказваць свае думкі, дый да гэтага, бадай, не імкнуўся, будучы ваенным чалавекам да каранёў валасоў.

Кульнеў пісаў: «Я ўзяў цвёрды намер цяперашняга верасня аддаліцца ад воінскага апалчэння і ўспрыняць на сябе выгляд грамадзяніна-воіна, гэта значыць, узяўшы адстаўку, па выгляду буду працалюбівы грамадзянін, але дух ваяўнічы ніколі з мяне не знікне. Мне сумна не бачыць пераменаў у маёй службе...»

Ішоў тады Кульневу 42-і год. Для таго часу, як быццам, не так і мала. Для гусара — тым больш. Асабліва, калі ўспомніць выказванне Ласаля. Сапраўды, калі пашчасціла выжыць, можна пайсці ў адстаўку, знайсці сабе справу па душы. Ды рэч ў тым, калі б нават гэтае жаданне з’явілася ўсур’ёз, ісці яму па сутнасці не было куды.

Як ужо адзначалася, сям’я Кульневых асаблівага дастатку не мела. Якаў Пятровіч пастаянна дапамагаў маці, рэгулярна пасылаючы ёй чвэрць грошай са свайго месячнага жалавання. Таму самому даводзілася з цяжкасцю зводзіць канцы з канцамі. Нават харчаваўся звычайна разам з падначаленымі, а гусарскі даламан сабе мусіў пашыць з салдацкага сукна.

Наколькі бедна жыў Кульнеў, яскрава відаць з выпадку, што адбыўся праз некаторы час пасля смерці Кацярыны II.

«Рэфармуючы» армію, Павел I дайшоў да таго, што выдаў загад, у якім уласнаручна распісаў колькі і якіх страў павінны ўжываць ваенныя ў залежнасці ад свайго звання. Маёр (а Кульнеў ужо стаў маёрам) у абавязковым парадку павінен быў мець за сталом тры стравы. І за выкананнем падобнага імператарскага загаду строга сачыла вышэйшае начальства. Каб упэўніцца, што ніхто не ідзе на парушэнні, неаднойчы з праверкамі ў часці завітваў і сам Павел I.

Неяк імператар апынуўся і ў палку, у якім служыў Кульнеў. Падышоўшы да Якава Пятровіча, які не спяшаўся «развітацца» з курыцай, запытаўся:

— Гэта добра, маёр, што на тваім стале ляжыць курыца, а якія яшчэ дзве стравы ты сёння еў?

Кульневу б схлусіць, ды сумленне не дазваляла, таму, стоячы па стойцы смірна, выпаліў на адным дыханні тое, што і было ў сапраўднасці:

— А ў мяне, ваша вялікасць, курыца і на першае, і на другое, і на трэцяе!

— Ты чаму не выконваеш мой загад? — павысіў голас Павел I.

— Вінаваты, ваша вялікасць! Аднак у мяне па сутнасці былі тры курыцы...

— Як тры? — не зразумеў імператар.

— Ды ўсё проста, — патлумачыў Кульнеў. — Спачатку я паклаў курыцу плазам, крыху адкусіў. А потым паставіў яе рабром... А цяпер ем тое, што засталося.

Павел I, відаць, быў у цудоўным настроі. Не ўзлаваўся ад пачутага, а засмяяўся:

— А як, маёр, пасля такіх трох страў у сядле трымаешся?

— Упэўнена, ваша вялікасць! Нам, гусарам, не прывыкаць!

Імператар застаўся задаволены адказам і, нічога не сказаўшы больш, пайшоў, а Якаў Пятровіч, не менш задаволены, што яму ніхто не перашкаджае, яшчэ паспрабаваў пажаваць найбольш мяккія курыныя косці. Да раскошы не прывык, таму і такі абед з’еў з асалодай.

## Супраць «карсіканскай пачвары»

У адстаўку так і не пайшоў, бо ў гэтым неўзабаве і неабходнасць адпала. На гарызонце зноў пачалі збірацца ваенныя хмары, а на Кульнева яны дзейнічалі гэтаксама асвяжальна, як на іншых азон, што напаўняе паветра пасля цёплага летняга дажджу...

Усё больш настойліва ажыццяўляў свае захопніцкія планы Напалеон, пакараючы краіну за краінай. Да 1806 года незаваяваныя ім заставаліся толькі Прусія і Расія. Супраць першай ён і накіраваў свае асноўныя сілы. Належным чынам супрацьстаяць яму Прусія не змагла і да канца 1806 года амаль перастала існаваць як самастойная дзяржава. Пасля гэтага на шляху «карсіканскай пачвары» аказалася Расія.

Вясновая кампанія 1807 года пачалася асобнымі баямі авангарда Пятра Баграціёна з корпусам аднага з найбольш відных спадвіжнікаў Напалеона Мішэля Нея, які адыходзіў пад націскам рускіх войск ад горада Гутштата. Атрымаўшы ў красавіку званне падпалкоўніка, Кульнеў, які яшчэ ў снежні 1806 года разам з Гродзенскім гусарскім палком прыбыў на тэатр ваенных дзеянняў, вызначыўся ў гэтым баях і быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра 4-й ступені.

Камандзірам аднаго з рускіх палкоў прызначылі і Івана Кульнева. А паколькі той ваяваў не разам з Якавам Пятровічам, апошні паспяшаўся падзяліцца думкамі, што ўзніклі ў сувязі з гэтым, у адным з лістоў. Віншуючы брата, нагадаў аб той вялікай адказнасці, якая кладзецца на яго плечы, і напомніў, каб з павагай ставіўся да сваіх падначаленых, ні ў чым не крыўдзіў іх: «Будзь справядлівы... Усе грошы, якія паступаюць у полк, не марудзячы, раздавай аднолькава і ўсё, што толькі салдату будзе належаць».

Напамінаў яму, каб дзейнічаў так, як пастаянна рабіў сам, заўсёды памятаючы, што ад таго, як паставішся да падначаленых, у многім залежыць баявы дух палка. А людзі, моцныя духам, і ў баях павядуць сябе ўпэўнена і рашуча. Гэта было тым больш важна, што праціўнік не шкадаваў сіл, каб узяць ініцыятыву ў свае рукі і адбіць населеныя пункты, занятыя рускімі.

Кровапралітныя баі разгарнуліся і на подступах да горада Гейльсберг.

Разумеючы, што давядзецца стрымліваць імклівы наступ праціўніка, рускія належным чынам наладзілі абарону, за кароткі час паспеўшы ўзвесці шэраг умацаванняў. Але гэта не спыніла французаў, і 29 мая 1807 года, самай раніцай, яны пайшлі ў атаку. Сустрэўшы жорсткае супраціўленне, мусілі адступіць, каб, сабраўшыся з сіламі, пачаць чарговае наступленне, якое таксама захлынулася.

Так працягвалася некалькі разоў. Бой доўжыўся ўжо не адну гадзіну, але праціўніку так і не ўдавалася авалодаць Гейльсбергам. Поспеху рускім у многім спрыяў Кульнеў са сваімі кавалерыстамі, які неаднойчы вадзіў у бой уланыя эскадроны. Французы ў рэшце рэшт мусілі канчаткова адступіць. Як сведчыў актыўны ўдзельнік гэтых баёў Давыдаў, «мы перамаглі не наступальна, а абараняльна».

У цэлым жа, на жаль, поспех рускім не спадарожнічаў. На гэта паўплывала тое, што камандуючы арміяй Беннінсен страціў ініцыятыву, своечасова не выбраўшы правільны накірунак маршу. Калі ж у ноч з 30 на 31 мая ён аддаў загад адыходзіць на правы бераг ракі Алле, французы паспелі акружыць Гродзенскі гусарскі полк.

Сітуацыя склалася не проста складаная, а катастрафічная. Заставалася толькі два выйсці: альбо поўны разгром, альбо палон. Ні першы, ні другі варыянт для падпалкоўніка Кульнева не падыходзіў. У крайнім выпадку ён гатовы быў лепш загінуць, чым перажыць сорам палону. Дый гінуць кульнеўцы не збіраліся. Гэта для іх быў толькі свайго роду запасны варыянт, калі нічога іншага не застанецца.

А пакуль Якаў Пятровіч сабраў вакол сябе сваіх гусар. Нічога не хаваў ад іх, расказаў усё, як ёсць. А напаследак для пэўнасці запытаўся:

— Прарвёмся?

— Прарвёмся!

Іншага Кульнеў і не збіраўся пачуць. З крыкам «Наперад!» ён на сваім верным кані, з шабляй наперавес, першым панёсся туды, дзе знаходзіўся праціўнік,

а следам за камандзірам магутнай лавінай, з крыкамі «Ура!» рушылі дзясяткі гусараў. Націск быў настолькі нечаканым і імклівым, што французы разгубіліся. А гэта толькі і трэба было кульнеўцам. Размахваючы шаблямі налева і направа, яны ўпэўнена грамілі праціўніка і, нягледзячы на яго колькасную перавагу ў некалькі разоў, усё ж здолелі прарваць акружэнне.

Ды гэта адбылося дарагой цаной. Многія гусары назаўсёды засталіся ляжаць на полі бою. Тыя ж, хто выйшаў з яго жывым, далучыўся да рускіх войскаў, якія працягвалі адступаць. Аб тым, якой нялёгкай цаной даўся Кульневу прарыў з акружэння, засведчыў пазней Давыдаў: «1807 года, 2-га чэрвеня азнаменавана было неймавернай смеласцю, неймавернымі намаганнямі войскаў нашых, і пры ўсім тым гэты дзень быў днём бядотным для нашай зброі».

Баявыя заслугі Якава Пятровіча былі належным чынам адзначаны: ён атрымаў ордэн Анны 2-й ступені. Але гэтыя баі сталі памятнымі для яго яшчэ і па іншай, у пэўнай ступені, больш важнай прычыне. За кароткі час Кульнеў змог прайсці суровую школу ваеннага мужання, засведчыўшы, якім высокім ваенным майстэрствам ён валодае. А што ягоныя поспехі ў баях з французамі сталі невыпадковымі, і пацвердзілі падзеі руска-шведскай вайны 1808—1809 гадоў.

## Вораг, якога любілі

Якаў Кульнеў назаўсёды застаўся ў памяці шведскага і фінскага народаў.

Сам па сабе выпадак унікальны, бо Кульнеў для тых жа шведаў ці фінаў усё ж з'яўляўся заваёўнікам, але быў, калі можна так сказаць, выскародным заваёўнікам. Таму да яго пакораныя народы і ставіліся адпаведным чынам.

Калі Кульнеў уваходзіў у старадаўні фінскі горад Аба, вітаць яго выйшлі ўсе жыхары, бо чулі, што нікога ў крыўду не дасць. Дый да палонных не толькі сам пачціва ставіцца, а і бязлітасна карае тых, хто дазваляе сабе з імі жорсткае абыходжанне.

Пра гэта ведалі і самі палонныя, а таксама тыя, хто трапляў у сітуацыю, з якой цяжка было выйсці жывым. Найчасцей разлічвалі на дапамогу свайго «калегі» шведскія гусары. Калі іх акружалі рускія казакі, яны з усёй сілы пачыналі крычаць па-французску:

— Koulnef, Koulnef, sauvez-nous la vie! (Кульнеў, Кульнеў, выратуй нам жыццё!)

Адважны генерал-маёр, калі знаходзіўся непадалёку, быццам толькі і чакаў гэтага адчайнага крыку. Кульнеў нечакана вылятаў на сваім кані са снежнай віхуры і з'яўляўся перад спалоханымі шведамі і збянтэжанымі ад такой нечаканасці казакамі:

— Адставіць! — ягоны голас не абяцаў нічога добрага.

Казакі ведалі, наколькі круты нораў Кульнева ў падобных сітуацыях, таму хуценька апускалі долу пікі, што былі накіраваны на праціўніка. А генерал-рыцар пачынаў сарамаціць казакаў:

— Вырашылі паказаць сваю смеласць? У баю паказвайце яе!

— Ды гэта ж — ворагі! — паспрабаваў апраўдацца камандзір казакаў.

— Я не бачу ворагаў! — вочы Кульнева ад абурэння і нянавісці, што яшчэ знаходзяцца тыя, хто гатовы забіваць палонных, наліліся агнём, ён з цяжкасцю стрымліваў сябе:— Ворагі ў баю, а перад вамі — палонныя! Толькі баязлівец асмеліцца іх забіваць.

Сумеліся казакі, не ведаюць, што і адказаць. А некаторыя з палонных, зразумеўшы, што для іх небяспека мінавала, кінуліся, каб абняць рускага генерала. Але Якаў Пятровіч спыніў іх:

— Не цяпер, сябры мае, не цяпер, — і да дзеншчыка свайго: — Нарышкін, як там у нас, выпіць знойдзецца?

— Знойдзецца, ваша высокаблагароддзе.

— То запрашай паноў палонных афіцэраў.

І ўжо да іх:

— Вып'ем, пагуляем, а тады і паабдымаемся, — а каб і без перакладчыка зразумелі, пра што гаворка ідзе, прыязна ўсміхаецца і шчоўкае сябе пальцамі па шыі.

Твары шведскіх афіцэраў расплываюцца ў гэткай жа прыемнай усмешцы.

Папулярнасць Кульнева ў Швецыі і Фінляндыі была настолькі вялікая, што неўзабаве пасля завяршэння вайны з Расіяй з'явіліся гравюры з яго партрэтамі. На адной з іх Якаў Пятровіч адлюстраваны з хлапчуком, які прымасціўся ў яго на каленях.

Прайшоў час, і гэты хлапчук стаў знакамітым шведска-фінскім паэтам Ёханам Людвігам Рунебергам, які ў творчасці сваёй звярнуўся і да ўражанняў, пачэрпнутых у маленстве, і прысвяціў прачулыя радкі таму, каго і сам помніў і чый воблік назаўсёды захаваўся ў памяці людзей, якія сустракаліся з ім:

Я здесь слыхал от матерей,
Как старый Кульнев их страшил,
Когда без спросу и затей
Он к люлькам детским подходил.
Но говорят они: «Добряк
Лишь целовал детей и так
Смеялся кротко им в привет,
Как вот вблизи его портрет».

У адным памыліўся Рунeнберг. Не старым тады быў Кульнеў, а саракапяцігадовым мужчынам, пра якіх звычайна кажуць, што яны знаходзяцца ў самым росквіце сваіх сіл.

Ён любіў жыццё і радаваўся жыццю.

Сам адважны, ён паважаў смелых.

І заўсёды, наколькі гэта было магчыма, стараўся заставацца чалавечным:

Ты б посмотрел его черты!
Между картин убогой хаты
Еще порой увидишь ты
Какой-то облик волосатый;
Ты подойдешь — проглянет рот,
Улыбка кроткая блеснет
И взор приветливый, открытый…
Вглядись — то Кульнев знаменитый!
На нас рука его несла
Беду и смерть и ужас боя,
Но честь его и нам мила,
Как честь родного нам героя…

Швецыю ён пакідаў героем.

Швецыю пакідаў ведаючы, што за бліскучы пераход праз замёрзлае Балтыйскае мора ўзнагароджаны пяццю тысячамі рублёў.

Вырашыў палову гэтай сумы паслаць маці. Астатнюю палову растраціць з сябрамі і падначаленымі.

Самы блізкі чалавек заўсёды быў для яго найпершым клопатам. Дый не мог забыцца пра сяброў і падначаленых, калі гэта перамога адна на ўсіх?! Сам жа якнебудзь абыдзецца. Не прывыкаць задавальняцца толькі самым неабходным.

## Шабля, усыпаная брыльянтамі

А ў гэты час ужо больш як тры гады працягвалася вайна Расіі з Турцыяй, у зацягванні якой, як ніхто іншы, быў зацікаўлены Напалеон. Аслабленне Расіі яму было неабходна для таго, каб самому паспяхова пачаць яе заваёву. Свае захопніцкія планы канкрэтызаваў, калі з канца 1810 года пачаў рыхтавацца да вайны.

Яшчэ ў красавіку 1809 года Кульнеў быў назначаны шэфам Беларускага гусарскага палка, што ўваходзіў у склад Малдаўскай арміі, галоўнакамандуючым якой з'яўляўся граф Каменскі. Але ў Бухарэст, дзе знаходзілася Галоўная

кватэра яе, Якаў Пятровіч прыбыў толькі праз год. Каменскі, які добра ведаў аб ягоным ваенным майстэрстве, адразу даручыў Якаву Пятровічу камандаванне авангардам Малдаўскай арміі, а ўжо ў маі 1810 года Кульнеў з ім пераправіўся праз Дунай.

Асноўнай задачай Малдаўскай арміі было авалодванне трыма найбольш умацаванымі турэцкімі крэпасцямі: Сілістрыяй, Шумлай і Рушчуком. Кульнеў праславіўся пры авалодванні Шумлай. Гэта мусіў заўважыць і Каменскі, хоць у яго не заўсёды існавала паразуменне з генералам-гусарам, які не баяўся гаварыць праўду ў вочы, калі заўважаў несправядлівасць. Але тут галоўнакамандуючы не мог не паведаміць аб поспехах самому імператару, а той распарадзіўся на працягу 12 гадоў выплачваць Кульневу па тысячы рублёў асігнацыямі. Акрамя таго Якаў Пятровіч атрымаў шаблю, усыпаную брыяльнтамі.

Шаблю Кульнеў, вядома ж, шанаваў, бо яна была дарагая для яго, як і кожная баявая рэліквія, што сведчыла аб ратных подзвігах. А грошы ў якасці пасагу аддаў сваёй пляменніцы, якая перад гэтым страціла маці. Ні капейкі не пакінуў і працягваў жыць так, як жыў і дагэтуль. І быў упэўнены, што інакш і немагчыма, аб чым і пісаў брату: «... сплю на сене і нашу падраны і прапалены шынель, а дзе абавязак службы патрабуе — там увесь у срэбры. Але што тычыцца воіна, дык беднасць яго вянчае, робіць непераможным...»

У студзені 1811 года Кульнева прызначылі шэфам Гродзенскага гусарскага палка, які ўваходзіў у склад 1-й арміі пад камандаваннем Міхаіла Барклая-дэ-Толі. Але непасрэдным начальнікам яго быў не гэты выдатны рускі палкаводзец, а камандзір 1-га пяхотнага корпуса Пётр Вітгенштэйн — чалавек марудны і нерашучы, асабліва калі гэта тычылася прыняцця якіх-небудзь важных рашэнняў.

Сітуацыя ж складвалася так, што корпус Вітгенштэйна стаў галоўнай перашкодай на шляху напалеонаўскіх войск да Пецярбурга. Напалеон разумеў, што гэта была немалая сіла, бо у корпус уваходзіла 25 тысяч чалавек пры 108 гарматах. Таму і накіраваў супраць Вітгенштэйна такіх вопытных французскіх палкаводцаў, як маршалы Жак Эцьен Макдональд і Нікола Шарль Удзіно, якія адпаведна мелі па 28 і 32 тысячы чалавек.

Падзеі, відаць, разгортваліся б не на карысць рускай арміі, калі б у корпусе Вітгенштэйна не служыла шмат салдат і афіцэраў, якія перад гэтым з'яўляліся ўдзельнікамі шведскай і турэцкай ваенных кампаній. Яны сваімі ўмелымі, зладжанымі дзеяннямі кампенсавалі тое, на што быў няздатны сам камандзір. А пакуль усё адно даводзілася адступаць. І ад гэтага балюча станавілася на сэрцы. У Кульнева гэты боль быў асабліва моцны, бо ён ішоў тымі мясцінамі, дзе прайшло ягонае маленства. Горка станавілася ад усведамлення таго, што пакуль не можа абараніць іх.

Ззаду заставаліся вёска за вёскай, жыхары якіх праводзілі гусараў маўклівымі, поўнымі роспачы вачыма. Яны паспелі ўжо звыкнуцца з адыходам палка за палком. Аднаго не ведалі, што гэтыя кавалерысты замыкаюць адступленне, з'яўляюцца ар'ергардам корпуса Вітгенштэйна. Пройдзе не шмат часу і на дарозе пакажуцца самі заваёўнікі, якія ідуць за ар'ергардам па пятах, выконваючы загад самога Напалеона любой сілай адрэзаць гэты корпус ад галоўных сіл рускай арміі.

Для Кульнева гэта сакрэтам не з'яўлялася. І нават калі б Вітгенштэйн перад адступленнем не ўвёў бы яго ў курс справы, Якаў Пятровіч усё адно ведаў, што і да чаго. Сказваўся ягоны вялікі баявы вопыт, уменне мысліць стратэгічна. А таму разумеў і тое, што само па сабе адступленне, хоць і не робіць гонару, аднак сітуацыю можна яшчэ змяніць на сваю карысць, калі, заманіўшы праціўніка як мага далей у глыбіню сваёй тэрыторыі, атакаваць яго з розных бакоў, каб ён апынуўся ў кальцы.

Але гэта ўжо залежала не ад аднаго Кульнева, а і ад вышэйшага рускага камандавання. Не ў апошнюю чаргу ад камандзіра корпуса, у якім знаходзіўся-Кульнеў, але Вітгенштэйн так і не браў ініцыятыву ў свае рукі. Таму даводзілася ў неабходных выпадках, улічваючы сітуацыю, па сутнасці дзейнічаць і за яго. Так адбылося і 10 чэрвеня 1812 года пад Вількамірам, калі Удзіно дагнаў ар'ергард.

## Першы палонены генерал Напалеона

Для Якава Пятровіча сумненняў не заставалася: адступаць далей — значыць, атрымаць выйгрыш толькі на некаторы час. Французы ўсё адно не адстануць, а адчуваючы сваю сілу, будуць дзейнічаць яшчэ больш упэўнена. Сутыкнуўшыся ж з жорсткім супраціўленнем, зразумеюць, што перад імі моцны праціўнік. З Кульневым пагадзіліся і камандзіры іншых рускіх палкоў, што ў гэты час апынуліся пад Вількамірам.

Бой працягваўся каля васьмі гадзін. І хоць з рускага боку ў ім, акрамя кульнеўцаў, удзельнічала яшчэ толькі два пяхотныя, тры кавалерыйскія палкі, якіх падтрымлівалі ўсяго некалькі гармат, а з французскага — амаль трэць галоўных сіл Удзіно, да якіх, па меры падыходу, далучаліся свежыя сілы, лёгкай перамогі праціўнік не атрымаў. Дый перамогі, як такой, бадай, не было ні з аднаго, ні з другога боку. Адбывалася жорсткая сеча, а рускія, нягледзячы на колькасную перавагу французаў, пачалі адступаць толькі тады, калі нанеслі ім вялікі ўрон.

Поспех жа ў гэтым баі у многім спрыяў таму, што найлежным чынам праявілі сябе гусары Кульнева. Дый падчас далейшага адступлення за Дзвіну, яны не адмаўляліся ад сутычак. А таму і дзейнічалі так рашуча, бо яшчэ перад пачаткам бою пад Вількамірам камандзір нагадаў ім, што трэба змагацца яшчэ больш жорстка, чым дагэтуль, бо гэтая зямля для яго асабліва дарагая.

Пастроіўшы кавалерыстаў, не загадваў ім, а размаўляў як з сябрамі, да якіх звычайна і звяртаюцца па падтрымку ў цяжкай сітуацыі:

— Не загадваю вам, сокалы мае, а прашу вас. Не апаганьце імя кульнеўцаў. Годна нясіце гэтае імя далей, як дагэтуль неслі. А яшчэ ведайце, што ў гэтых мясцінах я нарадзіўся. А хіба магу я аддаць сваю родную зямлю ворагу...

— Клянёмся, камандзір! Клянёмся!

І хоць наперадзе перад гусарамі былі таксама вопытныя ваякі, якія дагэтуль удзельнічалі ў многіх баях, конніцы Кульнева яны не маглі супрацьстаяць. Нават у самых крытычных сітуацыях, калі, здавалася, змагацца далей няма ніякага сэнсу, натхнёныя прыкладам свайго камандзіра, яны скіроўвалі сваіх разгарачаных коней у самую гушчу сечы, і французы спалохана кідалі зброю, падымалі рукі ўгору. Тых жа, хто спрабаваў уцячы, гусары даганялі, акружалі з усіх бакоў, і над іх галовамі заносіліся шаблі, на якіх у гэты дзень не паспявала высыхаць варожая кроў.

Аднак палонных кульнеўцы па-ранейшаму не забівалі, хоць з кожным боем ім станавілася ўсё цяжэй праяўляць гуманнасць. Не лягчэй было і самому Кульневу. У Швецыі ж ён знаходзіўся ў іншай сітуацыі. Як бы там ні было, а ўсё ж прыйшоў туды як заваёўнік. Тут жа сутыкнуўся з моцным ворагам, які ірваўся на яго родную зямлю са зброяй.

З цяжкасцю стрымліваў сябе і тады, калі ўбачыў перад сабой палоннага генерала Сен-Жэні. Магчыма, і не абурыўся б, калі б той паводзіў сябе ў гэтай сітуацыі спакойна, але Сен-Жэні, ведаючы сабе цану, бо з'яўляўся любімцам Напалеона, пачаў ледзь не пагражаць, заявіўшы, што ягоны палон некаторым будзе дорага каштаваць.

Кульнеў узарваўся:

— Генерал, не забываеце, хто вы цяпер?

Падышоў да Сен-Жэні, са злосцю сарваў з яго пояса шпагу:

— А далейшая гаворка з вамі будзе ў Маскве!

— Напалеон гэтага так не пакіне, — працягваў запалохваць Кульнева Сен-Жэні.

— У Напалеона будзе гэткі ж самі лёс! — абарваўшы яго, упэўнена адказаў Якаў Пятровіч.

Сен-Жэні стаў першым генералам Напалеона, які трапіў да рускіх у палон, і калі яго даставілі ў Маскву, дык многія спяшаліся пабачыць аднаго з вышэйшых чыноў напалеонаўскай арміі, бо шмат наслухаліся пра непераможнасць французаў, а тут, як высветлілася, нават важныя военачальнікі трапляюць у палон.

## Пі, але не балбачы

Сярод французаў, палоненых Кульнеўцамі ў тым баі, было нямала і ніжэйшых афіцэрскіх чыноў. Іх Кульнеў загадаў размясціць у манастыры, дзе знаходзілася яго штаб-кватэра, а пасля паклікаў да сябе ардынарца:

— Пачастуй маіх «гасцей» лепшымі вінамі.

— Нічога не разумею, ваша высокаблагароддзе, — здзівіўся Нарышкін. — Ворагаў ды віном частаваць? Трасцы ім у горла!

— Які ж ты, Жан, не здагадлівы, — засмяяўся Кульнеў, які ў хвіліны добрага настрою любіў называць свайго вернага ардынарца на французскі манер. — Спойвай іх як мага больш, нічога не шкадуй, а сам уважліва слухай, што гавораць, а потым мне ўсё даложыш.

Балявалі французы да самай раніцы, бо пітва ставала — у падвалах манастыра знаходзілася шмат бочак з лікёрамі, якія захоўваліся не адзін дзясятак гадоў, а Нарышкін, памятаючы загад Кульнева, стараўся быць вельмі шчодрым і гасцінным. Але, падліваючы пітво, вуха трымаў востра. Раніцой жа паспяшаўся да Якава Пятровіча:

— Ваша высокаблагароддзе, загад выкананы!

— Не цягні, Нарышкін!

— Маршал Удзіно абходным манерам з Полацка на Себеж рухаецца.

— Маладзец, Жан! А цяпер каня мне!

Сапраўды, Удзіно, пакінуўшы ў Полацку, які без бою заняў яшчэ 14 ліпеня, невялікі гарнізон, рушыў па Пецярбургскаму тракту, маючы намер абысці корпус Вітгенштэйна справа, а ў задачу Макдональда ставілася ажыццявіць гэта злева. Калі б задуманае ўдалося, рускія б часці, што знаходзіліся тут, былі б цалкам разгромлены.

Але Кульнеў, атрымаўшы звесткі, у праўдзівасці якіх нельга было сумнявацца, пра ўсё паведаміў Вітгенштэйну, а той і загадаў Якаву Пятровічу ўзначаліць пры руху корпуса авангард, у які акрамя Гродзенскага гусарскага палка ўвайшлі Казацкі полк, два егерскія і коннай артылерыі — усяго 3730 чалавек з 12 гарматамі. За імі ж ішлі галоўныя сілы.

Ужо на маршы, арганізаваўшы належным чынам разведку, Кульнеў 18 ліпеня даведаўся, што наперадзе, ля Клясціцаў знаходзіцца французская дывізія. Падышоўшы да яе на блізкую адлегласць, авангард не спыніўся, а з ходу ўвязаўся ў бой, што працягваўся з дзвюх гадзін дня да позняга вечара, і быў прадоўжаны назаўтра. Супраціўленне французаў нічога не дало. Зразумеўшы, што паражэнне немінучае, каб выратаваць хоць частку сваіх сіл, праціўнік пачаў адступаць, пакінуўшы пераможцам увесь абоз і 900 чалавек палоннымі. Кульнеўцы яшчэ доўгі час праследавалі французаў, але тым удалося адарвацца ад іх.

## Уцёкі — самае страшнае

Перамога пад Клясціцамі стала першай значнай перамогай у Айчыннай вайне 1812 года. Ап’янёны такім значным поспехам, Кульнеў, разлічваючы, што Вітгенштэйн акажа яму падмогу з тылу, раніцой 20 ліпеня прадоўжыў наступленне. Але, калі нагнаўшы рэшткі арміі Удзіно, уступіў у бой з іх ар’ергардам, зразумеў, што зрабіў непапраўную памылку. Спадзяваўся, што асноўныя сілы праціўніка адступілі на больш значную адлегласць. Аднак, разбіўшы ар’ергард французаў, убачыў, як з флангаў яго атакуе варожая пяхота, з фронту ж ударылі карцеччу. Акружэнне станавілася відавочным.

Каб выратаваць становішча, Кульнеў накіраваў пасыльнога з просьбай прыслаць яму на падмогу дывізію, але замест яе быў адпраўлены толькі адзін полк з артылерыяй. Дый ён прыбыў са спазненнем, калі Кульнеў, усё ж прарваўшы варожае кальцо, пачаў адыходзіць да Сівошына. Тыя, хто ўцалеў з яго авангарда, дабраліся да ракі Дрысы і пад агнём праціўніка сталі перапраўляцца праз яе.

Ратаваліся ўцёкамі, а гэта было для Кульнева самым страшным. Ён, бадай, упершыню ў сваім жыцці разгубіўся і ніяк не мог (бо не хацеў!) згадзіцца з падобнай рэальнасцю. Застыў на месцы і маўкліва назіраў за сваімі смелымі баявымі таварышамі, якія ў гэты момант былі варты толькі жалю.

— Хутчэй, ваша высокаблагароддзе! — прыспешваў Нарышкін.— Хутчэй!

— За каго ты мяне прымаеш?

— Ратавацца трэба, генерал! — напомніў яму ад'ютант, хоць і быў упэўнены, што і сам Якаў Пятровіч разумее неабходнасць гэтага, але не можа адважыцца на падобны крок.

— Уцякаць, Нарышкін? Кульнеў ніколі не ўцякаў з поля бою!

— Але ж, ваша высокаблагароддзе, іншага выйсця няма?

## Паміраць, дык салдатам

Кульнеў, ні слова не сказаўшы, злез з каня: гэтаксама моўчкі, апусціўшы галаву, паволі пакрочыў да берага. Раптам спыніўся, на нейкае імгненне ягоны твар стаў засяроджаным. Ён шукаў хоць якое-небудзь выйсце з гэтай сітуацыі, якое б дазволіла, калі не ўсім, дык яму аднаму, павесці сябе годна. І, відаць, нейкі варыянт знайшоў. Азірнуўся па баках, быццам штосьці шукаючы, а потым запытаўся ў Нарышкіна:

— Што і ніводнай гарматы не засталося?

— Усе пакінуты, — роспачна адказаў ад'ютант.

— Шкада, а то я б сам паслаў падарунак фран...

Ён не паспеў дагаварыць, як з боку праціўніка пранеслася ядро і ўдарыла Якава Пятровіча па нагах. Нарышкін кінуўся, каб дапамагчы яму, але Кульнеў толькі роспачна махнуў рукой:

— Сволачы, — вылаяўся моцна, па-салдацку. — Абедзве адарвала...— і да Нарышкіна: — Бяры мае ўзнагароды..

Пачаў зрываць са сваіх грудзей ордэн за ордэнам:

— Не хачу, каб ведалі французы, што забілі самога Кульнева. А цяпер хутчэй давай салдацкі шынель!

— Навошта, ваша высокаблагароддзе?

— Загадваю!

Нарышкін падаў шынель, не разумеючы, навошта ён спатрэбіўся яму.

— Дзякуй табе, — ціха прамовіў Кульнеў.

Адчувалася, што сілы пакідваюць яго:

— А цяпер загарні мяне ў гэты шынель. Хачу памерці, як салдат...

Праўда, ёсць і іншая версія смерці Кульнева. Па сцвярджэнні француза Марбо, які запэўніваў, што бачыў смерць рускага генерала-рыцара на ўласныя вочы, яго ўдарам шаблі ў горла забіў адзін з напалеонаўскіх стралкоў.

Магчыма, і так было ўсё. Гэта ж шведы, паважаючы Кульнева, адпаведна і ставіліся да яго, а кароль нават загадаў ні ў якім разе ў баі не забіваць яго. Але ж і сам Кульнеў з нянавісцю ставіўся да Напалеона. Яшчэ ў 1805 годзе ён прызнаваўся брату: «...не выходзіць у мяне з галавы злавіць Банапарта і прынесці яго галаву ў ахвяру найпершай прыгажуні; не назаві гэта хімераю, бо ўсё на свеце створана для цудоўнага полу». Дый ён жа, Кульнеў, сцвярджаў: «У баі мы ўсе роўныя — і салдаты, і афіцэры». Няхай і з іншай нагоды...

## З Сівошына пакрочыў у неўміручасць

У той жа дзень, калі Кульнева нестала, Напалеон паспяшаўся паслаць у Парыж дэпешу, у якой высока, няхай і нешматслоўна, ацаніў свайго праціўніка: «Адзін з найлепшых афіцэраў рускай лёгкай кавалерыі генерал Кульнеў забіты пад Дрысаю».

У Маскву ж вестка аб смерці Кульнева прыйшла вечарам. У Вялікім тэатры якраз ішла опера «Старадаўнія святкі», выступала знакамітая тады актрыса Лізанька Сандунова. Прысутныя заўважылі, што яна неяк не натуральна паводзіць сябе, быццам стрымліваецца, каб не заплакаць. Нечакана Сандунова перарвала арыю, што перад гэтым выконвала, рухам рукі загадала спыніцца аркестру, а сама праз слёзы, дрыжачым голасам заспявала:

Слава нашему генералу Кульневу,
Положившему живот свой за Отечество, —
Ему наша слава…

Пасля гэтых слоў усе ў зале ўсталі і, як адзін, заплакалі.

А на другі дзень пасля гібелі Кульнева, 21 ліпеня 1812 года, тут жа, ля вёскі Сівошына, яму аддаваліся апошнія воінскія ўшанаванні, а потым на прыдарожным камені з'явіўся надпіс:

На сем месте пал, увенчан победою, храбрый Кульнев,
как верный сын, за любезное ему Отечество сражаясь.
Славный его конец подобен и славной жизни.
Оттоман, Галл, Германец и Швед зрели его мужество и
неустрашимость на поле чести. Стой, прохожий, кто бы ты ни
был, Гражданин или Воин, но почти его память слезою.

Па загадзе Мікалая I у 1830 годзе месца смерці Кульнева таксама было адзначана помнікам, які захаваўся па сённяшні дзень:

Где Кульнев наш, рушитель сил,
Свирепый пламень брани.
Он пал, главу на щит склонил
И стиснул меч во длани.
Где жизнь судьба ему дала,
Там брань его сразила.
Где колыбель его была,
Там днесь его могила.

Тым самым аўтар гэтага верша, выбітага на помніку, Васілій Жукоўскі ў чатырох апошніх радках нагадаў сямейнае паданне аб нараджэнні Кульнева.

Праз год, у 1831 годзе, прах Якава Пятровіча з прыдарожнай магілы быў перанесены ў вёску Ільзенберг Рэжыцкага павета (цяпер тэрыторыя Латвіі), дзе некалі знаходзіўся маёнтак, які належаў яго брату Івану Кульнёву. А на магіле, у спецыяльным трыножніку, паклалі ядро, што стала прычынай ягонай гібелі. Пазней тут была пабудавана невялікая царква.

Ішоў час, а нашчадкі не забывалі пра слаўнага героя. Полк гродзенскіх гусар у 1909 годзе стаў называцца Клясціцкім гусарскім палком. Праз год імя Кульнева было прысвоена Полацкай настаўніцкай семінарыі. Яшчэ праз год станцыю Межвіды Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі пераменавалі ў Кульнева. Вёска Царкавічы Расонскага раёна сёння таксама называецца Кульнева. Імем адважнага генерала-рыцара носяць вуліцы ў Полацку і Лудзе (Латвія). У г. п. Друя яму пастаўлены помнік.

З таго моманту, калі загінуў адважны гусар, як вядома, прайшло амаль два стагоддзі і з'явілася нямала новых герояў, подзвігам якіх нельга не захапляцца. Аднак па-ранейшаму да Кульнева асаблівае стаўленне. Няхай ён шмат у чым і сапраўды быў, як казалі пра яго сябры, «донкіхотам», але адначасова з'яўляўся і свайго роду ўвасабленнем часу, калі, хоць і пралівалася на полі бою кроў, заставалася месца высакародству, а афіцэрскі гонар тыя, хто жыў і ваяваў сумленна, ніколі не заплямлівалі.

Не забываюцца радкі Давыдава:

Был век бурный, дивный век,
Громкий, величавый,
Был огромный человек
Расточитель славы.




**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ. ЖЫЦЦЁ Ў ЛІТАРАТУРЫ

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ: ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ.**
*Уклад. А. В. РАДЗІКЕВІЧ*
*Серыя «Асобы»*
*Мінск.: Адукацыя і выхаванне, 2015.*

У многім канцэпцыя серыі «Асобы», якая ўжо складаецца з дзвюх кніг, выкладзеная ў слове дырэктара выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» Мікалая Супрановіча пра Уладзіміра Ліпскага. Вось паслухайце: «Не люблю хітрых, непаслядоўных у сваіх прынцыпах і сур'ёзных учынках людзей. Не ведаеш, чаго ад іх чакаць. А з такімі, як Уладзімір Сцяпанавіч, лёгка ладзіць стасункі і прыемна працаваць. А чаго чакаць хочацца? Усмешак і, зразумела ж, новых цікавых твораў.

Кніга «Уладзімір Ліпскі» — другая ў серыі. Першая — «Віктар Парфёнаў. Пакланіся травінцы» (у перакладзе на рускую мову), напісаная Уладзімірам Сцяпанавічам. Гэтая серыя — таксама наш сумесны праект. І зразумела чаму. Асноўная частка літаратурных твораў Уладзіміра Ліпскага прысвечана канкрэтным людзям — сучаснікам і гістарычным асобам. А я ў свой час адкрыў і вёў у «Настаўніцкай газеце» рубрыку «Славутыя імёны Беларусі». У часопісе «Минская школа сегодня», што выходзіць у выдавецтве «Адукацыя і выхаванне», вось ужо паўгода друкуюцца матэрыялы пра цікавых і знакамітых людзей у рубрыцы «Партрэты». Так што, як кажуць у такіх выпадках, зерне трапіла на падрыхтаваную глебу.

Мне вельмі радасна, што першыя дзве кніжкі гэтай серыі сілкуюцца энергетыкай Уладзіміра Ліпскага. Першую ён напісаў сам. А гэтую — пра яго — цэлы гурт знакамітых пісьменнікаў і журналістаў, якія выказалі свае добрыя, прыгожыя словы пра нашага героя, юбіляра, цудоўнага чалавека і звычайнага майстра слова Уладзіміра Ліпскага.

Упэўнены, што гэтая кніга стане добрым падарункам для ўсіх прыхільнікаў творчасці пісьменніка і сапраўдным адкрыццём для тых, хто да яго творчасці толькі далучаецца».

Сказанае Мікалаем Супрановічам задае настрой на знаёмства з пісьменнікам, з яго жыццёвымі і творчымі здабыткамі. Сапраўды, і апавядальнікі пра Ліпскага — цікавыя і знакавыя асобы ў сучаснай беларускай культуры, тыя, хто і самі адносяцца да дзейных і руплівых стваральнікаў.

Іван Шамякін: «… радасна, што магу яшчэ прызнацца ў шчырай любові да выдатнага Чалавека і Пісьменніка. Сапраўды, я люблю цябе, мой

дружа, ганаруся Тваімі поспехамі. А яны адметныя, поспехі Твае, агульна прызнаныя, яны істотна папоўнілі скарбонку роднай культуры. Сумна, што часам тыя, хто кіруе гэтай культурай, не заўсёды захоўваюць тых, хто ззяе ў яе зоркай першай велічыні». Запісана 6 мая 2000 года.

Васіль Вітка: «Што такое для Ліпскага кнігі для дзяцей, што такое для яго «Вясёлка», якую ён рэдагуе? Не забаўка, не вясёлая бацькоўская і дзедаўская разрысоўка ў вольны ад работы, ад скруты час. Гэта і ёсць сама работа і самадданае служэнне не ўвогуле маленству, а рэальным сучасным дзецям у наш цяжкі і трагічны час, калі нарэшце павінны скончыцца рабскія крывадушша і цынізм нашай доўгацярплівай удзячнасці «за счастливое детство».

Казімір Камейша: «Думаю, зусім не выпадкова ў сваёй творчасці Уладзімір Ліпскі ўсё часцей і часцей звяртаецца да людзей цяжкага лёсу, бо чужы боль ён заўсёды прымае да сэрца, як свой уласны. Яго кніга пра няпросты, але гераічны лёс Зінаіды Тусналобавай-Марчанкі ў свой час была выдадзена ў многіх рэспубліках былога Саюза. Такі ж поспех мела і дакументальная аповесць пра ўчастковага міліцыянера Сцяпанавіча».

Кніга пра Уладзіміра Ліпскага складзена такім чынам, што раскрываецца ўвесь творчы шлях пісьменніка, аналізуюцца літаральна ўсе яго творы. Перад чытачамі праз знаёмства з рэцэнзіямі, артыкуламі, дыялогамі паўстае ўсё, зробленае Ліпскім у літаратуры. А набытак сапраўды ўнікальны. Звыш сямідзесяці кніг належаць пяру Уладзіміра Сцяпанавіча. Назавём хаця б некаторыя: «Райкомаўскія будні», «Дзень за днём», «Знайсці сябе», «Якое яно шчасце?», «Крутыя вёрсты», «Пралескі ў небе», «Урокі Купрэвіча», «Падкідыш», «Любі мяне пры ўсякай долі», «Усе мы — радня», «Мама. Малітва сына», «Прыдзвінскі цуд», «Высокія зоркі», «Невядомы», «Басанож на зорках», «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод», «Рыгоркавы прыгоды», «Бацька. Пісьмы сына», «Бацькі і дзеці», «Янкаў вянок: дзецям пра Янку Купалу», «Прыгоды Нуліка», «Свіцязянская русалка», «Вясёлка над Нёманам», «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь…». Пачаўшы з публіцыстычных нарысаў, апавяданняў для дзяцей, У. Ліпскі настойліва асвоіў жанр дакументальнай аповесці. І герояў для сваіх твораў выбіраў і выбірае яркіх, асаблівых, тых, хто не проста засведчыліся ў пэўнай галіне дзейнасці, а выявілі сябе Асобамі ў лёсе Айчыны. Такі і Ігнат Грынявіцкі. Такія Марыя Захарэвіч, Ігар Лучанок, Аляксей Скакун, Віктар Парфёнаў, Зінаіда Тусналобава-Марчанка.

З кнігі «Уладзімір Ліпскі: жыццё і творчасць» раскрываецца і яшчэ адна галіна творчасці пісьменніка: краязнаўчая публіцыстыка, краязнаўчая проза. За кнігу «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» літаратар адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь імя К. Каліноўскага. Выданне з’явілася ў выніку шматгадовых росшукаў пісьменніка пра свой уласны радавод, пра прозвішча Ліпскіх ва ўсім свеце. Гэтай работай Уладзімір Сцяпанавіч паказаў яскравы прыклад даследчыцкай, пошукавай працы. Сімпатычна выглядаюць памкненні У. Ліпскага стварыць для дзяцей краязнаўчы партрэт Беларусі (пра гэта сведчаць кнігі «Свіцязянская русалка», «Вясёлка над Нёманам», «Гомельская зямля — радзіма твая і мая»). Чым не задача для ўсіх пісьменнікаў? Такой літаратуры якраз нестае. Можна хіба што назваць усяго некалькіх аўтараў, якія сёння апякуюцца падобнай пастаноўкай пытання. Сярод іх — і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесь Марціновіч. Магчыма, гэты накірунак патрабуе болей шырокага абмеркавання літаратурнымі крытыкамі, а яшчэ метадыстамі выкладання беларускай літаратуры, ды і гісторыі таксама.

Біяграфічная літаратура ў апошнія гады набыла ў мінскіх выдавецтвах шырокі працяг. У «Мастацкай літа-

ратуры» выходзіць серыя «Жыццё знакамітых людзей Беларусі». Жыццяпісы Уладзіміра Караткевіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Уладзіміра Мулявіна, Мікалая Чаргінца, Аляксандра Мядзведзя, Міхаіла Фінберга, Міхаіла Савіцкага займелі свайго чытача, хутка разышліся з нашых кнігарняў.

Відавочна, добрая будучыня чакае і серыю выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» — «Асобы». Прыклад для таго, як яны — заўтрашнія жыццяпісы — будуць укладзены, сабраны, напісаны, паказвае біяграфія жыцця і творчасці Уладзіміра Ліпскага. Укладальнік кнігі — Анастасія Радзікевіч. Праца ёй прароблена на дзіва сур'ёзная, шматабсяжная. Трэба таксама мець асаблівы талент, каб зрабіць, укласці такую кнігу, паяднаць рознажанравыя матэрыялы. Адметна, што збор складзены і з публікацый ранейшых гадоў.

Пра каго ж хацелася б убачыць кнігі ў серыі «Асобы»? Найперш — пра акадэміка-нейрахірурга Арнольда Смеяновіча, яго вучняў — вядомых у Беларусі і за яе межамі нейрахірургаў дактароў медыцынскіх навук Юрыя Шанько і Рышарда Сідаровіча, кампазітара, народнага артыста СССР Ігара Лучанка, спартсменку Дар'ю Домрачаву, пісьменнікаў акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзіміра Гніламёдава, паэтэсу, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Раісу Баравікову, а таксама і пра многіх іншых нашых сучаснікаў.




*Анатолий ШАРКОВ,*
*Елена МОХ-ДОКУНОВА*

**ТЯЖКОЕ БРЕМЯ ПЛЕНА. Военнопленные и интернированные Второй мировой войны на территории Беларуси 1939—1951 гг.**

*Минск, Издательский Дом «Звязда», 2015.*

**Вадзім ГРЫЦКЕВІЧ**

# ВЯЗНІ ПАЛОНУ: БЕЗ ГРЫФА «САКРЭТНА»

Сярод выданняў, якія выйшлі ў нашай краіне ў сувязі з 70-годдзем Вялікай Перамогі, гэтая кніга, безумоўна, займае асаблівае месца. Больш за тое, можна пэўна сказаць, што за іншым часам такое выданне наўрад ці магло б пабачыць свет. Асабліва ў юбілейны год, калі шмат (і заслужана), гаворыцца аб усенароднай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, аб тым агромністым укладзе, які ўнёс савецкі народ у разгром нямецкага фашызму, а тут узнаўляецца тое негатыўнае, звесткі пра многае з чаго яшчэ нядаўна захоўваліся пад грыфам «сакрэтна». Ды, як сказаў народны паэт Беларусі Пімен Панчанка, «прыйшла пара сапраўднай праўды». Гэтым жаданнем — зрабіць усё магчымае, каб менела белых плям у гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а калі глядзець шырэй, то і ў цэлым Другой сусветнай вайны, і прасякнуты даследчыцкія памкненні Анатоля Шаркова і Алены Мох-Дакуновай. Абое гэтыя аўтары паспяхова працуюць у згаданым накірунку, паслядоўна, мэтанакіравана заглыбляючыся ў сутнасць праблемы.

Несумненна, найбольшыя дасягненні А. Шаркова. Ён — доктар гістарычных навук, ганаровы прафесар Акадэміі права і кіравання Міністэрства юстыцыі Расійскай Федэрацыі, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Палкоўнік міліцыі ў адстаўцы, Анатоль Васільевіч плённа вывучае гісторыю Першай і Другой сусветных войн, а таксама органаў унутраных спраў. Займаецца і праблемамі выканання пакаранняў. А. Шаркоў — аўтар звыш 200 публікацый, сярод іх і тыя, што з'явіліся ў Аўстрыі, Германіі, краінах блізкага замежжа. Напісаў і выдаў 13 манаграфій, асобныя з якіх таксама запатрабаваны і за межамі Беларусі. Адна з іх — «Военнопленные и интернированные на территории Беларуси: роль органов внутренних дел в их содержании и трудовом использовании (1944—1951гг.)». Выдадзеная ў 1997 годзе, гэтая манаграфія праз тры гады пабачыла свет у ФРГ у перакладзе на нямецкую мову.

Алена Мох-Дакунова, у адрозненне ад свайго старэйшага калегі, шмат у чым знаходзіцца яшчэ на пачатку навуковага шляху, але і яе даследчыцкія дасягненнні ўжо значныя. Лаўрэат Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў, мае навуковую ступень кандыдата гістарычных навук. А. Мох-Дакунова

загадвае лабараторыяй сацыякультурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Сярод яе шматлікіх публікацый вызначаюцца тыя, якія прысвечаны праблемам Вялікай Айчыннай вайны, у тым ліку тэматычна звязаныя з савецкімі і нямецкімі ваеннапалоннымі.

Сумесная праца А. Шаркова і А. Мох-Дакуновай — вынік шматгадовага даследавання праблемы, што вынесена ў назву кнігі, выпушчанай Выдавецкім домам «Звязда». Адначасова кніга гэтая з'яўляецца лагічным працягам манаграфіі А. Шаркова, што зацікавіла немцаў. Дый, зразумела, як і іншыя публікацыі А. Шаркова, прысвечаныя гэтай тэме, мела шырокі грамадскі рэзананс. Што і не дзіўна, бо ўпершыню на постсавецкай прасторы з'явіліся фундаментальныя даследаванні пра тое, пра што раней калі і гаварылася, дык не ў такой паўнаце, як гэта зрабіў А. Шаркоў.

У той жа час у яго ранейшых даследаваннях, на што звернута ўвага і ў прадмове «От авторов», «остались «за кадром» польские военнопленные — первые «узники плена» Второй мировой войны, оказавшиеся на белорусской территории в результате освободительного похода Красной Армии в 1939 г. в Западную Белоруссию и Западную Украину, а также советские военнопленные — узники немецких лагерей, густо покрывавших оккупированную Беларусь после нацистского нашествия в июне 1941 г.». Але былі адкрыты для карыстання архівы, якія яшчэ доўга, як і ў савецкі час, па-ранейшаму заставаліся засакрэчанымі. Гэта, безумоўна, даследчыкам стала толькі на руку. Прынамсі, дазволіла ім «по-иному взглянуть и на некоторые обличительные материалы в отношении нацистских преступников».

Першая глава кнігі так і называецца — «Польские военнопленные в БССР». Коратка, але аргументавана расказваецца пра трагедыю, што напаткала Польшчу пасля таго, як 1 верасня 1939 года ў 4 гадзіны 45 мінут па сярэднееўрапейскім часе фашысцкая Германія пачала ўзброеную агрэсію супраць гэтай краіны. Гэта сапраўды быў «бліцкрыг», які ўвянчаўся поспехам. Ужо 28 верасня 1939 года была падпісана капітуляцыя Варшавы. Праўда, вайсковая групіроўка «Палессе», якую ўзначальваў генерал Ф. Клеберг, дала свой апошні бой 5 кастрычніка, але на ход падзей гэта ўжо ніяк не магло паўплываць.

Падзеі гэтыя, як вядома, разгортваліся такім чынам, што 17 верасня 1939 года часці Беларускага і Украінскага франтоў занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Асноўныя сілы палякаў, па сутнасці, ніякага супраціўлення не аказвалі. Супрацьстаяць наступленню Чырвонай Арміі яны проста не маглі. Пры набліжэнні яе польскія часці і злучэнні, не ўступаючы ў бой, складвалі зброю.

Сур'ёзныя баі адбыліся толькі пад Кобрынам, Шацкам, Гродна, Вільнюсам, Беластокам і Самбарам. Ды зноў ад гэтага ўжо мала што залежала. Як сведчаць дакументы, да 2 кастрычніка ў палон трапілі 452 536 палякоў, сярод якіх 18 789 афіцэраў. Аднак у ліку палонных, нагадваюць А. Шаркоў і А. Мох-Дакунова, знаходзіліся і прадстаўнікі беларускай і ўкраінскай нацыянальнасцей, адпаведна 80 тысяч і 100 тысяч чалавек. Іх у Польскае войска прызвалі напярэдадні пачатку наступлення Германіі, калі праводзілася мабілізацыя.

Падобны аспект аўтары кнігі не проста не абыходзяць, а і засяроджваюць на ім увагу. Яны не маглі гэтага не зрабіць, бо становішча палонных беларусаў і ўкраінцаў было не тое, што драматычным, а трагічным. Атрымалася парадаксальная сітуацыя. Яны ж прызываліся ў войска для таго, каб даваць адпор гітлераўцам. Абставіны ж склаліся так, што мусілі ваяваць супраць Чырвонай Арміі, якая прыйшла абараняць інтарэсы тых жа беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы. Тыя з іх, хто трапіў у палон, па сутнасці, сталі заложнікамі той неспрыяльнай для іх сітуацыі, якая склалася. Яны, як і палонныя палякі, для савецкага кіраўніцтва таксама з'яўляліся ворагамі, а да ворагаў і стаўленне адпаведнае. Асабліва ва ўмовах

таталітарнай сістэмы. Як гэта адбывалася, якія здзекі ім давялося зведаць і гаворыцца ў кнізе.

Аднак куды падрабязней узнаўляецца сітуацыя з утрыманнем савецкіх ваеннапалонных у гітлераўскіх лагерах. Гэтаму, а таксама далейшаму лёсу тых, хто выжыў, прысвечана шэсць глаў кнігі. Ахоп матэрыялу на дзіва шырокі. Здаецца, міма позірку А. Шаркова і А. Мох-Дакуновай нішто не праходзіць міма. Палітыка нямецкіх улад у адносінах да ваеннапалонных; ахова, парадак і ўмовы знаходжання іх у лагерах; працоўнае выкарыстанне вязняў — пра ўсё гэта гаворыцца падрабязна, з прыцягненнем багатага фактычнага матэрыялу, узятага, як з архіваў, так і з асобных публікацый, у тым ліку і тых, што з'явіліся ў друку параўнальна нядаўна. Гэта дазваляе высвятляць праблему ва ўсіх яе аспектах, нічога не прапускаючы, нічога не пакідаючы па-за ўвагай, успрымаючы яго як другаснае, не так і істотнае.

З главы ж «Сопротивление узников лагерей» відаць, што, нягледзячы на бесчалавечныя ўмовы ўтрымання ў лагерах, імкненне гітлераўцаў жорстка падаўляць любую форму супраціўлення з боку палонных, тыя, хто апынуўся за калючым дротам, не здаваліся. Прыводзіцца некалькі прыкладаў таго, як фашыстам не ўдавалася зламаць знямоглых, знясіленых людзей. Не маючы ж магчымасці аказаць фізічнае супраціўленне, яны ішлі на духоўны супраціў. Асабліва моцны ён быў у шталагу № 352.

Натхняльнікам такога супраціўлення стаў пісьменнік С. Злобін, які, кантужаны, аказаўся ў палоне. С. Злобін узначаліў падпольную камуністычную групу, пісаў песні, пракламацыі, вершы. Дзякуючы яму 10 ліпеня 1942 года з'явілася і падпольная рукапісная газета «Пленная правда». Каб падрыхтаваць нумар і зрабіць тры асобнікі, спатрэбілася тры начныя дзяжурствы ў лазарэце, дзе можна было адчуваць сябе больш-менш бяспечна. Пасля гэтага газету перадавалі ў лазарэце з койкі на койку, у бараках — з нар на нары. Дэвізам яе былі вядомыя словы Гётэ: «Лишь тот достоин чести и свободы, кто каждый день идет за них на бой».

Добрая палова кнігі — гэта расказ пра тое, як утрымліваліся нямецкія ваеннапалонныя ў савецкіх лагерах, а пазней выкарыстоўваліся для аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі Беларусі. Звернута ўвага і на такі момант, як арганізацыя і правядзенне сярод палонных і інтэрніраваных асоб контрразведвальнай работы. Такой рабоце надавалася немалое значэнне. Гэта неабходна было, прынамсі, для таго, каб, лепш вывучыўшы кантынгент палонных, выявіць сярод іх ваенных злачынцаў.

Аператыўна-пошукавая работа, як паказваюць А. Шаркоў і А. Мох-Дакунова, вялася самімі супрацоўнікамі спецслужбаў. Аднак гэтым яны не абмяжоўваліся. Каб дабіцца большай выніковасці, прыцягвалі да яе і саміх палонных, а таксама інтэрніраваных асоб. Істотна тое, што ўсе яны супрацоўнічалі толькі на добраахвотнай аснове, ніякага дыктату не адчувалася.

Аб'ектыўнасць і толькі аб'ектыўнасць, праўда і толькі праўда, якой бы бязлітаснай яна ні была — толькі такім прынцыпам, падыходам кіруюцца аўтары кнігі. Гэта відаць і па тым, што яны не хаваюць таго, што і сярод асабовага складу лагераў аказваліся злачынцы. І не толькі тыя, хто супрацоўнічаў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, а потым замаскіраваўся, але дзякуючы добра пастаўленай агентурнай рабоце іх удалося выявіць. На жаль,назіраліся і выпадкі крадзяжу, прысваення дзяржаўнай уласнасці. У кожным выпадку да віноўных прымаліся самыя суровыя меры.

Прынцыповасцю прасякнуты і развагі, якія тычацца аналізу арганізацыі і правядзеяння судовых працэсаў над былымі ваеннаслужачымі нямецка-фашысцкай арміі і гітлераўскіх карных органаў. Як вядома, адказваць фашысцкім злачынцам было за што. За гады акупацыі Беларусі яны знішчылі каля паўтара мільёна прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей і больш як 800 тысяч ваеннапалонных. Многія з іх загінулі

ў лагерах смерці, колькасць якіх з філіяламі і аддзяленнямі перавышала 250. У адным Трасцянцы былі пазбаўлены жыцця больш як 200 тысяч чалавек. А знішчаныя вёскі, у тым ліку і з жыхарамі?!

Ніхто не забыты — нішто не забыта. І гэта правільна. Як і правільна і тое, што віноўныя ў злачынствах павінны панесці самае суровае пакаранне. Што і пачало рабіцца пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ды, не будзем забываць, што за ваенныя злачынствы тэрміну даўнасці няма. Але, на чым таксама засяроджваецца ўвага ў кнізе, па свежых слядах «в судебной практике широко применялась коллективная ответственность бывших германских военнослужащих за злодеяния, совершенные в годы войны на оккупированных территориях. Прохождение службы в структурах, как входящих, так и не входящих в перечень преступных групп и организаций, запятнавших себя бесчинствами в отношении мирных граждан и военнопленных либо по характеру подразумевавших таковое, рассматривалось в качестве единственного основания для привлечения к ответственности». У выніку лёсы «немалого числа бывших военнослужащих вермахта и его союзников сложились трагически». Цяпер тыя, хто быў беспадстаўна асуджаны за ваенныя злачынствы, рэабілітуюцца. Так Ваенны трыбунал 11 чэрвеня 1992 года апраўдаў оберштурмфюрара СС Вальтэра Йагана, які ў 1943 годзе быў асуджаны на 25 гадоў пазбаўлення волі ў выпраўленча-працоўным лагеры. Сапраўды ўжо: лепш позна, чым ніколі.

Гэта тычыцца і таго, каб нарэшце было ратыфікавана пагадненне паміж Беларуссю і Германіяй па доглядзе за ваеннымі пахаваннямі. У якасці доказу, наколькі гэта важна, аўтары кнігі прыводзяць выказванне дырэктара мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра Віктара Балакірава: «Эти захоронения — не для мертвых, а для живых. Главная идея — преодоление прошлого, взаимопонимание и примирение во имя будущего. Эти кладбища должны стать напоминанием живым о прошлом и заставлять задуматься о последствиях войны и насилия».

Удала скампанаваны ў кнізе ілюстрацыйны сшытак. Менавіта сшытак, бо рэпрадукцыі асобных здымкаў размешчаны так, што ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго. Тым самым, атрымліваецца як бы фоталетапіс, няхай і не надта разгорнуты, дзякуючы якому ўзнаўляюцца пэўныя моманты таго, што патрапляе пад вызначэнне — трагедыя вайны. Але на здымках не толькі палонныя, баракі, у якіх яны ўтрымліваліся, схемы размяшчэння лагераў. Ёсць ілюстрацыі і іншага кшталту: немцы, якія здаюцца ў палон, допыт палонных, а таксама пэўныя моманты судовых працэсаў над ваеннымі злачынцамі. Гэтыя матэрыялы добра дапаўняюць асноўны змест кнігі, дазваляюць яшчэ глыбей спасцігнуць сутнасць праблемы, якую ўзнімаюць яе аўтары.

Увогуле «Тяжкое бремя плена» — кніга не для лёгкага чытання. Хоць, калі разабрацца, яе і не чытаць трэба, а вывучаць, глыбока пранікаючы ў сутнасць таго, пра што гаворыцца, асэнсоўваючы яго, параўноўваючы са звесткамі, пачэрпнутымі дагэтуль. Каторы раз задумваючыся над тым, якое страшнае зло на зямлі — вайна, якія беды чалавеку дый усяму жывому на зямлі яна нясе. Апроч таго, даводзіцца са шкадаваннем канстатаваць, што ўрокі гісторыі, на жаль, шмат каго нічому не вучаць. Па-ранейшаму знаходзяцца напалеончыкі рознага рангу, якія імкнуцца з пазіцыі сілы вырашаць шмат якія праблемы. Ёсць сярод гэтых праблем, канешне, і такія, што з'яўляюцца набалелымі. Але гэта толькі здаецца, што зброя можа паставіць на іх крыж. Вайна ніколі нічога добрага не абяцае, а толькі нясе з сабой слёзы, гора, смерць. Пра гэта ні ў якім разе нельга забываць. Напамінак таму і кніга «Тяжкое бремя плена».

**Барыс НЕКРАШЭВІЧ**

# ПРА ШТО РАСКАЗВАЕШ, «КАЛЕКЦЫЯНЕР»?




**КАЛЕКЦЫЯНЕР.**
**Зборнік артыкулаў.**
*Укладальнікі*
*Дзмітрый ГУЛЕЦКІ,*
*Уладзімір ЗЯНЬКОВІЧ. —*
*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда».*
*2014.*

Хто такія калекцыянеры, чым яны займаюцца, безумоўна, ведаюць ці не ўсе. Але наўрад ці здагадваюцца яны пры гэтым пра паходжанне таго слова, што звязана з паняццем, пакладзеным у аснову — калекцыя. Ды ўсё проста. Пачатак яно бярэ, як тлумачыць «Беларуская энцыклапедыя», ад лацінскага слова collection, што перакладаецца на беларускую мову як збіранне, збор. Само ж калекцыяніраванне вядома яшчэ са старажытнасці. Прыватнае калекцыяніраванне — з антычнасці. Свайго ж росквіту дасягнула ў Старажытным Рыме і Заходняй Еўропе ў эпоху Адраджэння, а гэта, як вядома, XIV—XVI стагоддзі.

А ці ведаеце, каму найбольш даўнія калекцыі належалі ў Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай? Ягелонам, у тым ліку і знакаміты збор габеленаў, што быў у Жыгімонта II Аўгуста, якому каханне да Барбары Радзівіл ніколькі не перашкаджала і калекцыяніраваннем займацца. Канешне, гэты занятак карыстаўся папулярнасцю, праўда, больш рэдкай, і раней. У канфесійных установах Полацка, Турава, Віцебска і іншых культурна-асветных асяродках у XII—XVI стагоддзях збіралі рукапісныя кнігі, дакументы, абразы, царкоўнае ўбранне.

Пра гэта можна даведацца з артыкулаў «Калекцыяніраванне», змешчаных у той жа «Беларускай энцыклапедыі» і «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». У апошняй звесткі больш пашыраныя. Але абодва артыкулы напісаны Уладзімірам Цярохіным. Дарэчы, У. Цярохін і сам калекцыянер. Разам са сваім калегам па збіральніцтве Алесем Сярожкіным яны ў 1990 годзе пачалі выдаваць газету, якую так і назвалі — «Беларускі калекцыянер». Праўда, выйшла ўсяго некалькі нумароў. Але ў гісторыі нацыянальнага калекцыяніравання яны пакінулі прыкметны след.

Зборнік «Калекцыянер» — па сутнасці працяг гэтай добрай справы — папулярызацыя беларускага збіральніцтва і адначасова ўсяго таго, што звязана з калекцыяніраваннем. Як у часы даўнія, так і сёння. Як у самой Беларусі, так і за яе межамі. Вельмі добра, што важнасць такой справы зразумелі ў «Белпошце», якая стала партнёрам Выдавецкага дома «Звязда» ў ажыццяўленні гэтай задумы.

У «Калекцыянеры», на што хочацца адразу звярнуць увагу, выступаюць не толькі беларускія аўтары, а гэта толькі на карысць, бо тым самым пашыраецца тэматыка публікацый, нярэдка ў шырокі ўжытак уводзіцца матэрыял, які ў нас дагэтуль не асэнсоўваўся, а калі

і разглядаўся, то не ў такой паўнаце, як таго хацелася б. Гэта ўжо відаць з першага артыкула зборніка — «Первая карта ВКЛ 1595 г. и описание Литвы ее создателем» Тадэвуша Зяленскага. Маецца на ўвазе карта, створаная Герардам Меркатарам. У сапраўднасці Герард Крэмер — адзін з самых пладавітых картографаў XVI стагоддзя, гравёр і вучоны. Аднак ён больш вядомы пад лаціназаваным прозвішчам Меркатар.

Як тлумачыць Т. Зяленскі, «Кремер — по-фламандски, а Меркатор — по латыни означает одно — купец». Меркатар хацеў выпусціць свае карты ў выглядзе кнігі, зручнай для карыстання. Яна павінна была складацца з трох частак. Але Г. Меркатар выдаў толькі дзве часткі. Прычым не ў паслядоўнасці: спачатку з'явілася другая, потым трэцяя. Першую выдаў ужо сын Меркатара Румольд праз год пасля смерці бацькі. У ёй пад назвай «LITHVANIA» і была змешчана карта Вялікага Княства Літоўскага. Па сведчанні Т. Зяленскага — гэта самая падрабязная карта Княства XVI стагоддзя. У межах яго Меркатарам прадстаўлены 206 населеных пунктаў. Дзякуючы гэтай карце можна атрымаць уяўленне аб жыцці і звычаях ліцвінаў. Успрыманне іх падаецца вачыма еўрапейцаў, іхніх сучаснікаў. Сам жа тэкст змешчаны на зваротным баку карты. Яго Т. Зяленскі падае ў зборніку ў вольным перакладзе.

Увогуле, наколькі аўтары «Калекцыянера» праявілі вялікую цікавасць да картаграфіі, відаць ужо з назваў змешчаных артыкулаў: «У истоков картографического описания Московской Руси: карта Антония Вида и Ивана Ляцкого» Дзяніса А. Хоцімскага (ЗША), «Административное деление Великого Княжества Литовского на картах XVII в.» Альгірдаса Гліажайціса (Літва), «Картографические ярмарки в Европе» Дашы Пагор (Германія), «Великое Княжество Литовское на европейских картах и гравюрах XVII—XVIII вв.» Дмітрыя Гулецкага і Сяргея Лобача, «Планы гарадоў Беларусі з калекцыі Яна Георга Максімільяна фон Фюрстэнхофа» Алеся Белага…

Ды збіраць, як вядома, можна ўсё што заўгодна, а не толькі даўнія карты. Скажам, лічманы. Не ведаеце, што гэта такое? Шчыра прызнаюся і я не ведаў, пакуль не прачытаў артыкул У. Зяньковіча «Старонкі з гісторыі лічманаў». Аказваецца, гэта лічыльныя жэтоны. Назва паходзіць ад польскага слова liczmany. Лічманы знаходзіліся ў грашовым абароце еўрапейскіх краін з часоў класічнага сярэднявечча. Пра гісторыю з'яўлення іх аўтар згаданага артыкула таксама расказвае. Лічманы ўпершыню з'явіліся ў Італіі, Францыі і Англіі. Канешне, не адначасова. У Італіі, напрыклад, у XIII стагоддзі. У іхнім з'яўленні тое, што гэта звязана з бурным развіццём гандлю, а дзе гандаль, там продаж, купля, падлікі. Пра фунцыі выкарыстання лічманаў таксама гаворыцца. І, зразумела, пра лічманы ў Вялікі Княстве Літоўскім і Кароне Польскай, пра тое, як яны афармляліся. Несумненна, артыкул «Старонкі з гісторыі лічманаў» — адзін з самых пазнавальных у кнізе.

Як і «Банкноты восстания Тадеуша Костюшко» таго ж У. Зяньковіча. Аказваецца, у Рэчы Паспалітай да гэтага выступлення супраць расійскага царызму ў адрозненне ад іншых краін, такіх, як Швецыя, Расія, Галдандыя, папяровыя грошы не карысталіся вялікай папулярнасцю. З-за таго, што яны хутка абясцэньваліся. Але паўстанне — гэта надзвычайныя абставіны. Яно таксама патрабавала немалых грошай. Спачатку «по распоряжению Костюшко восставшие реквизируют предметы из драгоценных металлов из костёлов и монастырей для чеканки монеты на Варшавском монетном дворе. Были переплавлены даже фигуры апостолов из Мариацкого костёла — основного архитектурного памятника». Аднак гэтыя, як іншыя захады, калі і далі некаторыя станоўчыя вынікі, дык толькі на кароткі час. Выйсце Касцюшка ўбачыў у тым, каб пачаць выпуск уласных папяровых грошай. Тым больш, што ён паспеў на свае вочы пераканацца, што гэта прымальнае выйсце. Калі з'яўляўся ўдзельнікам вайны за незалежнасць у ЗША, у паўночнаамерыканскіх калоніях папяровыя грошы карысталіся

немалым попытам. Задумана — зроблена. Як уводзіліся паўстанцкія грошы ў абарачэнне, што яны сабой уяўлялі, які вынік гэта дало, — пра ўсё можна прачытаць у артыкуле.

Адна з адметнасцей «Калекцыянера» — тое, што ў гэтым зборніку добра адчуваецца повязь часоў. Прыўзнімаюцца шмат якія гістарычныя пласты, але разам з тым не абыдзены і дзень сённяшні. У гэтым сэнсе прыцягвае ўвагу артыкул Алены Мальчэўскай «Марки — история Беларуси в миниатюре». Ён цікавы ва ўсіх адносінах. Найперш гэта тычыцца звесткак пра тое, якія знакі паштовай аплаты выпускаліся ў нашай суверэннай дзяржаве і якія выпускаюцца цяпер. Аднак гэта разам з тым і знаёмства з двума знакамітымі філатэлістамі, а менавіта так, як вядома, і называюць калекцыянераў паштовых марак. Пра іх скажам крыху ніжэй.

Пакуль жа дзякуючы А. Мальчэўскай заглыбімся ў гісторыю. Спачатку не беларускую, а англійскую, дый, бадай, сусветную. Як паведамляе аўтар артыкула, першая марка ў свеце была выпушчана ў Вялікабрытаніі. Калі канкрэтна, то адбылося гэта 6 мая 1840 года: «[…] кусочек бумаги с миниатюрным изображением и перфорированными краями […] — не только упростил и ускорил переписку между людьми, но и стал предметом коллекционирования, явив миру новое увлечение — филателию». Такія калекцыі ўмоўна падзяляюцца на дзве групы. Храналагічная, калі збіраюцца маркі, выпушчаныя ў пэўнай краіне за пэўны перыяд. Другая група — тэматычная філатэлія. Гэта збор марак, прысвечаных нейкай адной тэме.

Прыводзяцца ў артыкуле і, здавалася б, зусім неверагодныя звесткі. Але гэта факты, а ад фактаў, як вядома, нікуды не дзенешся. Калі маркі яшчэ былі ў навінку, нейкі англічанін сабраў для абклейкі сваёй спальні ажно 16 тысяч гэтых паштовых знакаў. З'явіліся і такія філатэлісты, якія ўпрыгожвалі маркамі свае гальштукі, шляпы і нават аўтамабілі. Ды гэта яшчэ не ўсё. Зазірнуўшы ў зборнік «Калекцыянер», можна даведацца і пра не менш нечаканыя факты.

Калі ж гаварыць пра артыкул А. Мальчэўскай, дык ён таму і чытаецца з цікавасцю, што фактычны матэрыял падаецца ўмела, прадумана. Спачатку, як і мае быць, увага засяроджваецца на самым галоўным, каб далей, адштурхоўваючыся ад яго, падаць і іншыя карысныя звесткі. Для прыкладу пра тое, што ў Афрыцы выпушчаны маркі, прысвечаныя беларускай гімнастцы Вользе Корбут. У Мадагаскары можна напаткаць знакі паштовай аплаты з адлюстраваннем нашага айчыннага трактара. У Паўночнай Карэі — МАЗа. Далей чытаем: «И все эти марки есть у одного из самых известных филателистов Беларуси Льва Колосова, коллекция которого посвящена белорусике». Зразумела, што пасля гэтага хутчэй хочацца пазнаёміцца з Львом Леанідавічам.

Такая мажлівасць з'яўляецца дзякуючы размове аўтара артыкула з ім. Прыемна пачуць такое ягонае меркаванне: «Белорусские марки очень красивые. И среди них есть такие, которые занимают на международной арене одно из первых мест: серия марок с иконами, марка, посвященная слуцким поясам. Для людей за границей — эти марки — открытие нового государства, новой культуры».

Не менш цікавыя меркаванні і яшчэ аднаго вядомага калекцыянера Андрэя Грыбава. Ён раней узначальваў Беларускі саюз філатэлістаў. Гэтую пасаду невыпадкова даручылі яму, бо сам даўно займаецца зборам знакаў паштовай аплаты. Андрэй Барысавіч таксама перакананы ў тым, што «наша белорусская марка — одна из самых красивых и качественных (бумага, знаки защиты, микротексты, работа художников и дизайнеров) не только в СНГ, но и в Европе. Сейчас «Белпочта» нашла оптимальный баланс тиражей: марок выпускается ровно столько, сколько нужно, не баснословные миллионные тиражи, сопоставимые с тиражами СССР, как в первые годы независимости. Сегодня это такие тиражи, которые расходятся, и если вы собираете хронологию, то уже спустя год, а то и раньше найти в свободной продаже некоторый материал тяжеловато». Закрануў

А. Грыбаў і некаторыя праблемы сучаснай філатэліі (пра іх, дарэчы, гаварыў і Л. Коласаў). Прынамсі, сказаў пра тое, што гэты занятак сёння менш папулярны. Але ўсё адно нямала тых, хто не можа жыць без збору марак.

Каторую публікацыю ні возьмеш, гэта тое, што пашырае веды не толькі па калекцыяніраванні, а і па краязнаўстве. Калі ж глядзець шырэй, то і па радзімазнаўстве. Дзякуючы збіральніцтву, як і дзякуючы таму, што можа стаць прадметам калекцыяніравання, але ажыццявіць гэта цяжка, а то і немагчыма, бо некаторыя, скажам так, прадметы, падлягаючыя збору, маюцца ў зусім невялікай колькасці, таму і кошт іх «завоблачны», у нечым па-новаму адкрываеш для сябе і Беларусь. У такім сцвярджэнні ніякай нацяжкі, таму што за прыватнымі калекцыямі (як і за тым, што можа стаць часткай іх) паўстае, няхай часам і невялікі, штрышок з гісторыі. Той гісторыі, якую мы пакуль ведаем яшчэ не дастаткова, але мусім ведаць, каб адчуваць сябе паўнапраўнымі свядомымі грамадзянамі суверэннай і незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Ёсць і яшчэ адна адметнасць гэтай кнігі, прытым вельмі важная. Гэта наяўнасць у ёй багатага ілюстрацыйнага матэрыялу. Да ўсяго з густам падабранага, дый выкананага на высокім паліграфічным узроўні. Хоць бярыся і выдавай іх асобным наборам паштовак. Як заўгодна называй яго, але гэта таксама будуць старонкі з гісторыі. Праз узоры графікі, праз асобныя адбіткі даўніх карт, праз выявы грошай, манет, паштовых марак…

Пакуль што «Калекцыянер» пазначаны як зборнік. Прытым, калі канкрэтызаваць гэта, дык у пэўнай ступені і навукова-папулярны. Але перад усім ён разлічаны на чытача масавага. Таму артыкулы з ярка выражанай навуковай скіраванасцю, хоць і надаюць яму, калі можна сказаць, вагу, часам усё ж чытаюцца цяжкавата. Шматлікія тэрміны, зноскі абцяжарваюць успрыманне матэрыялу. Думаецца, у далейшым трэба шукаць наконт гэтага нейкае выйсце. Канешне, пры ўмове, што цягам часу зборнікператворыцца ў альманах.

Ад навуковых публікацый, безумоўна, цалкам адмаўляцца не трэба. Толькі, магчыма, у наступных выпусках іх змяшчаць менш. Ці некаторыя друкаваць у адаптаваным выглядзе, спрацыўшы асобныя моманты. Дарэчы, усе публікацыі — як рускамоўныя, так і беларусакамоўныя, у «Калекцыянеры» змешчаны і ў перакладзе на англійскую мову. Але ў скарочаным выглядзе. Ды англамоўнаму чытачу, несумненна, і такіх звестак будзе дастаткова. Галоўнае ў тым, каб яго зацікавіць самім прадметам гаворкі.

Зацікавіць чытача можна і тым, на што звяртае ўвагу ў прадмове «Новая ўвага да гісторыі і сучаснасці калекцыйнай справы ў Беларусі» Алесь Карлюкевіч: «Сярод адмысловых тэм будучых выпускаў альманаха мог бы быць і расповед пра філатэлістычныя інтарэсы беларускіх пісьменнікаў (размова пра Алега Лойку, Адама Мальдзіса, Вячаслава Рагойшу і інш.). Беларускія календары праз усё сваё жыццё збіраў Янка Саламевіч. Яго артыкул у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», прысвечаны календарам, можна па праву назваць мініманаграфіяй па гэтай тэме». А. Карлюкевіч удакладняе: «Але і гэтыя, і іншыя тэмы будуць раскрыты, калі будзе праяўляцца шырокая зацікаўленасць калекцыйнай беларусікай, калі на дапамогу сённяшнім руплíўцам па стварэнні альманаха «Калекцыянер» прыйдуць іншыя памочнікі — і самі калекцыянеры, і гісторыкі, і, спадзяюся, журналісты і пісьменнікі».

Ды гэта — у будучым. Галоўнае, што пачатак добрай, важнай і такой неабходнай справе пакладзены. Дый не проста пачатак, а такі пачатак, які абяцае працяг. Такой магчымасцю нельга не пакарыстацца. Нягледзячы на тое, што выданне падобных ілюстрацыйных кніг, да ўсяго на афсетнай паперы патрабуе немалых фінансавых выдаткаў. Толькі, бадай, зноў пойдзе насустрач «Белпошта». А можа, знойдуцца і дабрадзеі. Як вядома, і сярод калекцыянераў ёсць людзі нябедныя. То няхай адначасова і пра свае ўласныя цікавыя калекцыі раскажуць. Ці іншыя паведаюць пра іх.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# УЛАСНАЯ АРБІТА




*Міхась СТРАЛЬЦОЎ*

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**
**Серыя «Беларускі кнігазбор»**

*Мн.: Беларуская навука, 2015*

Ноччу, бязлюднай і цёмнай,
Іду па зямлі.
Вышэзны і лёгкі,
Пакалыхваюся ад тугі.
Галава прыгнута пад небам.
Я плачу.
Зоркі — слёзы мае.
Спяць гарады і вёскі,
Я над імі іду.
Высокі, пахілы і лёгкі,
Пакалыхваюся ад тугі.

Здаецца, гэтыя пранікнёныя і вытанчаныя лірычныя радкі з верша «Замест уступу» да аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь» найлепшым чынам характарызуюць характар таленту і асаблівасці натуры Міхася Стральцова. Чалавека вельмі сціплага, добразычлівага, светлага, які тонка перажываў недасканаласць свету. Пісьменніка, можна сказаць, апалітычнага, які стаяў на варце толькі адвечнай жыццёвай праўды і служыў высокім эстэтычным ідэалам. Таму ён і сапраўды заўсёды «над намі», нябачна пільнуючы з зорнай вышыні наша сумленне, вернасць, вартасць…

З поўнай упэўненасцю сёння мы можам сцвярджаць пра еўрапейскі маштаб творчай постаці Міхася Стральцова. Нязменна арыгінальнымі і новымі для свайго часу былі яго проза, паэзія, крытыка, публіцыстыка. «Стральцоў стаўся першаадкрывальнікам жанру постмадэрнісцкага апавядання, стварыўшы аповед аповедаў, навелу навел з непераўзыдзеным сюжэтам — «Смаленне вепрука». Яму належыць прыярытэт у распрацоўцы тэхнікі пераходу ад мікрападзей да макрападзей. У прыватнасці, у аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь» гэта вельмі добра відаць. І ў тым жа «Смаленні вепрука». Апроч таго, ён з'яўляецца першаадкрывальнікам загадкі Максіма Багдановіча», — мудра падкрэслівае Пятро Васючэнка. За яснасць, паэтычную дакладнасць і выверанасць кожнага радка Анатоль Сідарэвіч некалі параўнаў вершы Міхася Стральцова з «празрыстым восеньскім паветрам»…

На жаль, пра Стральцова сёння пішуць адносна рэдка, няшмат выйшла і яго кніг пасля смерці. Можа таму, што творчасць Міхася Лявонцье-

віча не была дастаткова «распіярана» і ўпісана ў хрэстаматыі яшчэ пры яго жыцці? Паказальным з'яўляецца ўжо і той факт, што Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы яму прысудзілі пасмяротна…

Таму выхад прадумана складзенай кнігі выбраных твораў пісьменніка — сапраўдны падарунак для чытача. Выданне ўтрымлівае класічную прозу і паэзію, эсэ Міхася Стральцова. Каштоўнае яно і тым, што ўпершыню сабрана тут эпісталярная спадчына Міхася Лявонцьевіча.

Адразу бачна, што да складання кнігі спрычыніліся людзі, неабыякавыя да творчасці і жыццёвага шляху пісьменніка. Прадмова Анатоля Сідарэвіча — незвычайная ці, лепш сказаць, нетрадыцыйная для такога роду выданняў. Гэта не пафасныя словы пра велічыню таленту, пра неабходнасць прызнання і ўшанавання. У прадмове вельмі шмат асабістага, балючага, выпакутаванага. Чуецца душэўны водгук на творы Міхася Стральцова, чуецца боль за яго нялёгкі лёс… Аднак аўтар прадмовы не сходзіць і на чыста лірычную споведзь. Дасканала акрэслены вызначальныя рысы творчай спадчыны Стральцова, яго наватарскія дасягненні. Гуманізм прозы — вось тое галоўнае, што стала візітнай карткай «абранніка сонечнага Феба». «Наша дзяцінства прайшло пад знакам «гераізму». Нашу свядомасць фарміравалі з дапамогай «мастацтва» — раманаў кшталту «І адзін у полі воін» ды фільмаў а la «Подзвіг разведчыка», у якіх, кажучы словамі Пімена Панчанкі, «баба Агата адной качаргой угробіла тысячу немцаў» <…>. На шчасце, у сталасць мы ўступалі з творамі іншага кшталту, з літаратураю гуманістычнай, уважліваю да трагедый і драмаў «кроплі хваль», — піша Анатоль Сідарэвіч, маючы на ўвазе апавяданне Стральцова «На чацвёртым годзе вайны» і шэраг іншых выдатных твораў. Свабодныя вершы, «камерны інтымны дыялог чалавека з Богам» (малітва дзеда Міхалкі) — тое, на што наважыўся ў 60-я бадай што адзін Міхась Стральцоў у аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь». Менавіта ён увёў таксама ў нашу свядомасць уяўленне аб пакаленні «прамежкавых людзей» апавяданнем «Сена на асфальце»… Шчырасць, вялікая патрабавальнасць да сябе і іншых, безумоўна, вынікае з сапраўднай натуры пісьменніка. Праблема важкасці слова прамоўленага і слова напісанага, праблема адэкватнасці думкі і пачуцця — вось што заўсёды хвалявала Міхася Лявонцьевіча. Пэўна, ад гэтага хвалявання і асаблівая манера гаварыць, заўважаная Анатолем Сідарэвічам пры сустрэчы са Стральцовым у доме творчасці Каралішчавічы: «Хударлявы, светлагаловы з трохі хвалістымі валасамі, шляхетна белатвары М. Стральцоў меў нягучны голас. Не прамоўца. Мог нешта казаць, казаць лагічна, паслядоўна, адале збіцца з тэмпу, нібыта збянтэжыцца і ўжо гаварыць больш самому сабе, каб змоўкнуць». Такім жа інтымным для яго быў і працэс пісання, «імгненні пакутлівага шчасця»…

Не хавае Анатоль Сідарэвіч і праблем чалавека, «абцяжаранага талентам». «Памочнікі», гатовыя заўсёды пачаставаць за рэдактуру і літаратурную параду, адсутнасць сапраўднага душэўнага сябра — тое, што давяло Міхася Лявонцьевіча да бяды. «Жахлівая сітуацыя: ёсць кампанія — і няма сяброў, ёсць размовы, выпіўкі — і няма бяседаў. Не было каму пастаяць каля душы», — чытаем у балючых радках прадмовы... Невыноснае шкадаванне ахоплівае і пры згадцы пра невылечную хваробу Міхася Стральцова, што забрала яго не ў час, калі пазбавіўся ўжо залежнасці, калі былі сілы для новых твораў, для новых радасцей жыцця… «Міхась Стральцоў застаўся ў маёй памяці жывым», — заканчвае свой аповед Анатоль Сідарэвіч.

Верыцца, што жывым застанецца ён у свядомасці нават тых, хто не сустракаўся з ім пры жыцці. Бо «жывыя», памежна пачуццёвыя ўсе яго творы. Ды і як інакш можа быць, калі ўжо ў першым зборніку паэта «Ядлоўцавы куст», вершы з якога змешчаны ў «Выбраных творах», паэт прызнаецца: «…слухаю так, быццам апошні дзень жыву на зямлі». Таму, пэўна, чуе і бачыць тое, што схавана ад многіх. Каларытная вобразнасць яго твораў бянтэжыць, перахоплівае дыханне:

Неба хмаркамі прарасло, як травой.
У прагаліне маладзік, расяны і тонкі,
Адзінокую зорку пасе.
*(«Лета. Ноч»)*

Здзіўляе і мадэрновасць, сучаснасць стральцоўскага паэтычнага радка: графічнасць, выкарыстанне гукапісу і шырокага асацыятыўнага раду:

Ты,
бура,
бура,
бура,
бура!
Ляці, крышы, бязладдзем вей!
І па-над пошасцю панурай
Крычы — і толькі семя сей!
*(«Наследаванне рамантычнае»)*

Вершы з атрыбуцыяй паэтычных кніг, апавяданні і аповесці, эсэ, артыкулы, пераклады — яркая дэманстрацыя плённага творчага набытку шматграннага таленту Міхася Стральцова ў кнізе «Выбраных твораў». Безумоўна, вялікую цікавасць для чытача будуць уяўляць і яго лісты. Тое, як піша ён да жонкі, яшчэ раз падкрэслівае незвычайную інтэлігентнасць натуры, пяшчотнасць, спагаду. Міхась Лявонцьевіч намагаецца пазбегнуць непаразумення, ва ўзвышаных выразах прызнаецца, як патрэбна яму ўвага і пяшчота каханай жанчыны. Выбачаецца за такі стыль паводзінаў, бачання свету, пісьма: «Ты опять извини меня за «литературщину», но иначе, поверь, я не могу. Так я привык думать: возможно, мне это мешает в жизни или мешает другим, но ведь в жизни много чего мешает, пока не поймёшь, зачем оно и как его можно употребить. Я опять о важности и необходимости понимания друг друга». Поўныя спадзяванняў на вяртанне да літаратурнай працы, творчых планаў лісты да Рыгора Барадуліна, Леаніда Дранько-Майсюка, Анатоля Сідарэвіча і Алеся Пісьмянкова. А сваёй любай дачушцы Алесі Міхась Стральцоў піша вершы і казкі, падахвочвае яе прыдумваць працяг, развівае цікавасць да беларускай мовы.

Прачытаць кнігу «Выбраныя творы», як кажуць, ад дошкі да дошкі — гэта нібы сустрэцца з самім Стральцовым. Лятуценнымі прыгожымі вачыма глядзіць на нас Міхась Лявонцьевіч са шматлікіх фотаздымкаў, раскрываецца як чалавек ва ўспамінах Анатоля Сідарэвіча, дзеліцца карцінамі «душэўнага зроку» ў вершах, апавяданнях, аповесцях, а патаемнымі думкамі і перажываннямі — у асабістых лістах. Толькі так можна сапраўды прачуць своеасаблівы тон, характар творчасці, паверыць шчыраму слову, як таго жадаў Стральцоў:

Матыў лірычны, адмысловы
У важкай думе і журбе —
Ён неабходны, каб на слове,
Паэце, верылі табе.




*Надзея ДРЫЛА*

**СУСТРЭЧЫ БЕЗ АБЦАСАЎ**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Якая яна, тая жанчына, якой захапляюцца, пра якую мараць, якая кожны дзень можа здзіўляць? Як адпачывае, чым жыве тая, каго часта (можа з-за зайздрасці?) называюць «жалезная лэдзі»? За бездакорны знешні выгляд, вытрымку, упэўненасць у сабе і, безу-

моўна, высокія кар'ерныя дасягненні. Пэўна, многіх цікавяць апошнім часам падобныя пытанні, калі столькі бліскучых жанчын дэманструюць свае аналітычныя, арганізатарскія здольнасці, таленты і адоранасць. Дваццаць стагоддзяў аддзяляюць нас сёння ад часоў старажытных дзяржаў, калі прыгожая жанчына каштавала некалькі галоў скаціны і бытаваў афарызм Арыстоцеля аб тым, што жанчына — гэта «знявечаны прыродай мужчына». Аднак параўнальна няшмат часу прайшло з той пары, калі жанчыны яшчэ не мелі магчымасці актыўна ўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці і абірацца на кіруючыя пасады. Пэўна, па гэтай прычыне многія дамы, узяўшы на ўзбраенне выхапленыя з кантэксту думкі Сімоны дэ Бовуар, Наомі Вулф, Кейтлін Маран, Валеры Соланас, імкнуцца да пяршынства, не грэбуючы ніякімі метадамі і забываючыся на жаноцкасць, спагаду, сапраўдныя пачуцці. У чым жа тады сакрэт тых унікальных прадстаўніц прыўкраснай паловы чалавецтва, што, нягледзячы на кіруючую пасаду і шырокае прызнанне, застаюцца апантанымі, з жарынкай у вачах любымі жанчынамі, ласкавымі жонкамі, мудрымі матулямі? Пытанне яшчэ больш складанае, чым папярэднія. І адшукаць адказ на яго, карысны для сябе і чытачоў, наважваецца журналістка Надзея Дрыла, кніга інтэрв'ю якой стане, безумоўна, яшчэ адным важным крокам у раскрыцці таямніц жаночай псіхалогіі.

Як паказвае статыстыка, жанчыны ў Беларусі ўсё больш актыўна ўключаюцца ў грамадскае жыццё: наша краіна ўваходзіць у лік 27 краін свету, якія дасягнулі мэтавага паказчыку па ўдзеле жанчын у працэсе прыняцця рашэнняў, і знаходзіцца на першым месцы ў СНД па індэксе развіцця з улікам гендэрнага фактару. З беларускамі-кіраўнікамі, творцамі, імёны якіх часта гучаць на радыё і ў праграмах тэлеперадач, размаўляла Надзея Дрыла, каб раскрыць іх сакрэты дасканаласці і нястомнага самаразвіцця. «Сустрэчы без абцасаў» — кніга цікавых, разняволеных гутарак з Надзеяй Ермаковай, Ірынай Даўгала, Наталляй Наважылавай, Святланай Зэрэ, Надзеяй Каткавец, Настассяй Унучак і іншымі паспяховымі жанчынамі, якая «вырасла» з аднайменнага аўтарскага творчага праекта на старонках газеты «Звязда». Валянціна Палікаіна ў прадмове да выдання наступным чынам выказваецца пра яго гераінь: «Гэтыя жанчыны — Планеты. У кожнай з іх свая траекторыя руху, свая арбіта, свая гісторыя Шчасця. І мы можам яе прасачыць. І ад кожнай — захоплівае дух!» Прад імі лёгка разгубіцца, не знайсці патрэбных слоў… Але журналістцы ўдаецца падабраць ключык да кожнага сэрца, спытаць тое хвалюючае і галоўнае, пра што не пацікавяцца ў сухіх афіцыйных інтэрв'ю.

Чытачы з нечаканасцю для сябе даведаюцца, што былая старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, зараз — старшыня назіральнага савета банка БелВэб Надзея Ермакова ў дзяцінстве марыла стаць… геолагам, а намеснік кіраўніка па справах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Надзея Каткавец захапляецца вырабам дыванкоў. Зрэшты, не будзем раскрываць усе сакрэты субяседніц Надзеі Дрылы. Галоўная каштоўнасць кнігі ў тым, што яна з'яўляецца зборнікам парад на ўсе выпадкі жыцця. Часта задаяцеся пытаннем, як дасягнуць сваёй мэты? «Найбольшых поспехаў дасягае той, хто выбірае прамую дарогу», — адказвае дырэктар ААТ «Світанак» Іна Маліноўская. А дырэктару Нацыянальнай школы прыгажосці Алене Троіцкай дапамагае тое, што кожнага чалавека на жыццёвым шляху яна ўспрымае як настаўніка. «Першы крок — змяніць месца працы і пачаць займацца тым, што прыносіць задавальненне», — выпрацоўвае алгарытм здзяйснення мары кіраўнік партала LADY.TUT.BY Святлана Зэрэ. Вызначальная рыса, якая аб'ядноўвае таленавітых жанчын — вера ў тое, што «ўсе бар'еры ў нас у галаве» (Настасся Унучак) і што толькі пашырэнне ўласнай свядомасці можа прыцягнуць у жыццё жаданыя рэаліі.

Некаторыя гераіні кнігі «Сустрэчы без абцасаў» маюць ужо дарослых дзя-

цей, якімі ганарацца. Як жа ім удалося выхаваць надзейных памочнікаў і аднадумцаў, калі трэба было будаваць кар’еру, усталёўваць кантакты, сцвярджаць уласнае «Я»? Тут адказы жанчын крыху адрозніваюцца. Надзея Ермакова, напрыклад, шкадуе, што шмат часу не магла праводзіць з дзецьмі, аднак адзначае, што гэта спрацавала на развіццё самастойнасці і адказнасці. Іна Маліноўская ж запэўнівае, што «сям’я не пакутавала ад таго, што я кіраўнік». А вось рэдактар часопіса Pingouin Ірына Кабаскал свядома дорыць свабоду сваёй дачцэ: «Яна дрэнна вучыцца ў школе, але затое піша артыкулы на расійскіх блогах, малюе карціны, фатаграфуе. Лера — творчая асоба. Дзіця трэба выхоўваць у любові. І даваць права выбару».

Калі разглядаеш каляровыя фотаздымкі, якія ўпрыгожваюць кнігу, разумееш, як важна спалучаць прыгажосць фізічную і духоўную. Як заставацца прывабнай на доўгія гады, быць для каханага чалавека «цікавым раманам з працягам» расказвае тэлевядучая, уладальніца ўласнага фітнэс-цэнтра Наталля Наважылава. Яе інтэрв’ю можна цалкам расцягнуць на цытаты! «Лянівыя людзі старэюць раней», «Спаўняецца адна мара, трэба тут жа «ўключаць другую!» і шмат якія іншыя выслоўі мудрай жанчыны прымушаюць перагледзець уласны лад жыцця. Чаго вартая толькі формула абаяльнасці ад Наталлі Наважылавай: «Стройная звонку, поўная знутры»! Сама Наталля пры напружаным графіку працы мае шмат захапленняў: займаецца жывапісам, фатаграфуе, піша вершы...

Дарэчы, вялікае значэнне самаразвіцця праз заняткі для душы падкрэсліваюць і іншыя гераіні. «Што тычыцца хобі, то псіхолагі рэкамендуюць, калі табе не прывілі яго з дзяцінства, насаджваць яго штучна. І я з імі згодна», — кажа галоўны ўрач дзяржаўнай установы «Бальніца паліятычнага догляду «Хоспіс» Вольга Мычко. Павучыцца празе жыцця, аптымізму і жаданню дарыць людзям надзею і радасць дакладна можна і ў Ганны Гарчаковай, заснавальніцы першага на постсавецкай прасторы дзіцяга хоспісу… Творчай фантазіяй, цікавасцю да айчыннай гісторыі здзіўляе Валянціна Вайцяшонак, дырэктар акцыянернага таварыства «Заслаўе-тур», якая, згубіўшы мужа і сына, працягвае верыць у дабрыню, дорыць людзям фальклорныя святы ў беларускай кавярні «Шынок». «Чалавек, які прайшоў праз вялікае гора, пачынае цаніць жыццё. Не адкладвае важныя словы, запаветныя мары, усмешкі, сустрэчы з цікавымі і дарагімі людзьмі на заўтра…», — тлумачыць Валянціна.

«Жыццё жанчыны — гэта шырокі кантынент, уздоўж якога ляжыць цень ад мяча. Адзін канец гэтага мяча — умоўнасці, традыцыі і парадак, дзе «ўсё ідзе сваім ладам». Але ёсць і другі канец і, калі вам хопіць неразважлівасці перайсці мяжу і абраць жыццё, якое паддаецца ўмоўнасцям, усё змяшаецца. Усё пойдзе непрадказальна», — пісаў Анарэ дэ Бальзак. Відавочна, што субяседніцы Надзеі Дрылы не пабаяліся непрадказальнасці пры выбары жыццёвага шляху, кожны дзень разбураюць стэрэатыпы, не задавальняюцца роляй выключна хатняй гаспадыні. Але застаюцца пры гэтым чалавечнымі, прывабнымі, пяшчотнымі, выпрацоўваюць уласную формулу гармоніі… Кнігу «Сустрэча без абцасаў» карысна будзе прачытаць не толькі «мілым дамам», але і мужчынам, лічыць аўтар прадмовы Валянціна Паліканіна. Таму што гісторыі жыцця, сабраныя ў кнізе — прыклады мужнасці, самаахвярнасці, веры ў сябе. Урокі жыцця — не раздзельныя па полавай прыналежнасці.

# КАСТРЫЧНІК

У **кастрычніцкім** нумары за **1965 год** «Полымя» коратка паведаміла, што ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» тыражом 6 700 экзэмпляраў выйшла кніга Янкі Брыля «Жменя сонечных промняў». У тым жа годзе, магчыма, адразу пасля выхаду кнігі, Янка Брыль скупа запісаў у сваім нататніку: «Выйшлі мініяцюры. Выйшла маскоўская кніга. Мілы дзікун N. казаў аднойчы, што вельмі любіць свае кнігі. Люблю, вядома, і я свае, але ж і не сыты я гэтым, чагосьці ўсё не хапае… І гэта — добра».

Ці быў пісьменнік у гэты момант перакананы, што «Жменя сонечных промняў» атрымае шырокі рэзананс? Што спадзяваўся — так (як любы іншы аўтар, трымаючы ў руках свежы экзэмпляр сваёй кнігі). А вось ці быў перакананы? Не факт. Хоць уласныя думкі-разважанні над жыццём ды кароткія гісторыі пра сустрэчы з рознымі людзьмі Брыль запісваў яшчэ ў гады вайны, а пазней стаў рабіць гэта рэгулярна, усё ж доўгі час пакідаў іх для сябе, як нешта незакончанае, як тое, што можна будзе выкарыстаць у апавяданні, аповесці альбо нарысе. Але, як прызнаваўся ён у прадмове да «Жмені сонечных промняў», многае, чакаючы сваёй чаргі, так і заставалася незапатрабаваным, а галоўнае, «прасілася быць самастойным мастацкім творам».

Зрэшты, а чаму б і не прасіцца? Кароткая форма была не новай ні ў беларускай, ні ў сусветнай літаратуры. Іншая справа, што мініяцюра ўспрымалася крытыкай як нешта ўсё ж другаснае ў параўнанні нават з тым жа апавяданнем, ужо не кажучы пра больш буйныя формы. Невыпадкова, напэўна, Уладзімір Калеснік у кнізе «Янка Брыль. Нарыс жыцця і творчасці», выдадзенай у 1990 годзе, згадаў: маўляў, «пасля першых публікацый дасціпнікі спрабавалі жартаваць, што мініяцюры не адпавядаюць мажной камплекцыі аўтара». Тым не менш, «Жменя сонечных промняў», сапраўды, атрымала шырокі рэзананс і прымусіла аўтара задумацца аб далейшай публікацыі сваіх карацелек. У 1966 годзе ён запісвае ў нататніку: «Вартасць маіх мініяцюр вельмі ў многім залежыць ад іх незаданасці, сціпласці і прастаты. Я мала думаў пра тое, што сам калісьці дам іх на суд чытачу, рашэнне гэтае прыйшло пасля. Я буду дапаўняць, дасканаліць гэтую кнігу. І мне трэба баяцца, што можна і напсаваць, запісваючы для гэтай кнігі, з *думкай пра сябе*». І побач: «Калі дапоўню і падчышчу ад слабога і лішняга свае мініяцюры, можа, найлепш назваць усё гэта «Лірычнымі нататкамі» — без усялякіх «рамонкаў» ды «промняў»?

Сапраўды, наступную сваю кнігу, якую ў асноўным склалі таксама мініяцюры, аўтар назваў больш проста і дакладна, але не менш ёмка: «Вітраж». Кніга выйшла ў 1972 годзе, а неўзабаве з’явілася і яе рускае выданне, якое значна пашырыла вядомасць брылёўскіх мініяцюр за межамі Беларусі. 25 сакавіка 1975 года Канстанцін Сіманаў пісаў свайму беларускаму калегу: «Дзякую Вам за Вашы «Вітражы». Узяў іх з сабою на адпачынак сюды, у Кіславодск, і прачытаў за тры ціхія вечары з пачуццём глыбокай да Вас сімпатыі і адценнем не чужога і Вам пачуцця тугі... Ваша кніжка дарагая

мне сваёю дабрынёю, спалучанай з тою непрымірымасцю, без якой і дабрыню дабрынёй назваць няма ахвоты, без непрымірымасці яна хутчэй раўнадушнасць, чым дабрыня…»

Пасля зборнікі мініяцюр Янкі Брыля выйшлі ў Польшчы і Балгарыі, дзе таксама былі прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай. І хоць у сваёй далейшай творчасці пісьменнік яшчэ не раз звяртаўся да буйных літаратурных жанраў (напрыклад, у 1975 годзе з'явіліся ў друку яго аповесць «Ніжнія Байдуны», а ў 1978-м — аповесць «Золак, убачаны здалёк», адзначаная Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Коласа), кароткая форма паступова станавілася для яго асноўнай пры зносінах з чытачом праз мастацкае слова. Прычым, Брыль не адносіўся да катэгорыі тых пісьменнікаў, для якіх першая кніжная публікацыя твора адразу становіцца і кананічнай, недатыкальнай у плане далейшай перапрацоўкі. Так, рыхтуючы мініяцюры для свайго пяцітомнага Збору твораў, які выходзіў у 1979—1981 гадах, ён не пакінуў іх у храналагічным парадку — так, як яны размяшчаліся ў папярэдніх выданнях, а параскідаў па новастворaных раздзелах, пры гэтым, напрыклад, некаторым «безымянным» запісам даў назвы, верагодна, тым самым падкрэсліваючы іх большую самастойнасць і завершанасць.

Але ў свой Збор твораў Брыль змог уключыць далёка не ўсё з напісанага і, на яго думку, вартага друку. Размова, зноў-такі, ідзе пра мініяцюры. Гэта стала зразумела, калі ў 1994 годзе выйшла кніга «Вячэрняе», у якой былі ўпершыню апублікаваны і некаторыя запісы з тых самых нататнікаў, з якіх пасля складалася «Жменя сонечных промняў». Як тлумачыў пісьменнік у невялічкай прадмове, раней ён не друкаваў іх «з меркаванняў, ад аўтара незалежных». Нельга сказаць, што там было нешта сенсацыйнае, тое, што прымушала пaглядзець на брылёўскую творчасць іншымі вачыма. Ды і з'яўленне іх, у гістарычным кантэксце, здавалася крыху запозненым: пад канец 80-х яно прагучала б паіншаму. І пра тое, як, дзякуючы пільнасці аднаго «адказнага таварыша» ў апошні момант быў перакладзены з беларускай на рускую мову подпіс пад інкруставаным партрэтам Сталіна, паколькі «Вялікаму… **ад** беларускага народа» па-руску ўспрымалася палітычна двухсэнсоўна. І пра тое, як Янку Брыля пасля вайны хацелі прызначыць галоўным рэдактарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, але ў апошні момант перадумалі, паколькі ён быў беспартыйны… Але гэта была тая самая брылёўская проза, якая заўсёды прыцягвала сваёй шчырасцю, лірычнасцю, філасофскім бачаннем свету, цікавымі назіраннямі і трапнымі характарыстыкамі.

Чытаючы-перачытваючы мініяцюры Янкі Брыля, думаеш, што ўсё-ткі добра, што калісьці ён не прыслухаўся да жартаўнікоў ды скептыкаў і палічыў патрэбным і далей друкаваць свае кароткія запісы як самастойныя творы. Выкарыстаныя ў аповесцях альбо апавяданнях, адаптаваныя пад іншы жанравы фармат, яны, безумоўна, упрыгожылі б іх, але адначасова і страцілі б нешта вельмі важнае, што адрознівае жыццёвую праўду ад мастацкай праўдападобнасці.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

